## У НУМАРЫ:



Ганак сядзібы
Магдалены Радзівіл.

Унікальная печ у палацы
Жамыслаўля.
Цяпер яна ўжо цалкам разбіта
кладашукальнікамі.

www.radziwill.by



Час жорста абыходзіцца з рэчамі, як сказаў адзін з аўтараў «Тэмы» гэтага нумара. Нават калі тыя рэчы — будынкі, што ўзводзіліся на вякі. Нават нягледзячы на тое, якую каштоўнасць прадстаўляюць яны самі або асобы, што ў іх жылі...

Здымак з партала www.radziwill.by дэманструе адзін з самых звычайных прыкладаў абыякавасці да мінуўшчыны: ганак сядзібы Магдалены Радзівіл — такім, які ён ёсць сёння. «Можа, калісьці знойдуцца сродкі, каб узнавіць у былой велічы хаця б некаторыя з тых выдатных палацаў, храмаў і замкаў, але ж і цяпер варта ставіцца да іх па-гаспадарску — беражліва і ахайна, зберагаючы для нашчадкаў», — піша аўтар партала Андрэй Куваеў.

Увогуле ж, «Тэма» гэтага нумара — чорнае капальніцтва. Гаворым пра тое, што калі «з-за нейкіх падгнілых і паедзеных мышамі “сінадальных ведамасцей за 1907 год”, якім грош цана, разбураецца частка сцяны старажытнай капліцы, то гэта не проста глупства — гэта варварства».



*Айцец ЯЎСТАФІЙ*
*(ХАЛІМАНКОЎ)*

# III*

*I* ў блюзе тры акорды ніколі не скончацца, і ў п'есе стрэльба абавязкова стрэліць, і шчасця хопіць толькі на рэшту. Я сарамліва хаваю вочы, таму што з усяго мы спрабуем зрабіць трагедыю, хоць перакладаецца гэта напышлівае слова як «песнь казлоў». Тым не менш, нешта мяне нясе і нясе, мая песня пачалася задоўга да гэтых радкоў, я проста бягу за ёй і крычу: «Чакай, азірніся, дазволь мне яшчэ і яшчэ раз пачуць твае першыя акорды, Little girl blue[1]... Дазволь мне пабыць з табою шчэ толькі хвілінку!..»

Колькі разоў я прыходжу ў гэту невядомую кавярню (бо яе ўжо няма), саджуся за столік каля таго самага акна, замаўляю сабе кавы, дастаю стары часопіс *Мая маладосць*, гартаю пажаўцелыя старонкі і тану... Патанаю, таю…

Таю ва ўспамінах.
Так, уяві сабе
Я дагэтуль
Маю ўспаміны…

Сядзець так я магу гадзіну, дзве — больш не вытрымліваю і, урэшце, заплюшчваю гэты пакутлівы фотаальбом. Ведаеш, я ўсё ж такі баюся, што калі-небудзь не змагу справіцца з сабой і заплыву занадта далёка — туды, дзе цяпер, напэўна, дрэйфуеш ты, мая старая Маладосць. Чакаю цябе на спатканне, і ты адклікаешся восенню мне.

І вось… прыходзіць чарговая восень… і ажываюць прывіды ў прыродзе, ажываюць прывіды ў маёй душы. Навошта я пішу гэта праз коску, навошта я зноў хачу зрабіць сябе лепшым, чым было калісь, у росквіце свежай «Масандры» свежанаскрыленага апельсіна? Ах, як цудоўна распадаліся гэтыя фарбы на пырскі, пырскі на сны, сны... Ох. Зноўку охі і ахі!.. Навошта я зноў цябе выдумваю ў снах, якія нагадваюць выцвілыя плёнкі Феліні? Навошта яны табе, дружа? Бо што можа быць больш ілюзорным, чым дзень учарашні, чым уся гэта сэканд-хэндавая — з нечых

***Я змешваю каву з віном,***
***як змешваюць добрыя манеры***
***з болем і страхам; разбіраю нейкія***
***абрыўкі сноў, слоў, сусекі нечага жыцця;***
***завісла халодная душа***
***над абыякавым целам: о, гэтае жыццё —***
***непадзеленае каханне!..***

* *Працяг. Пачатак у № 6, 7 за 2013 г.*

[1] «Маленькая сумная дзяўчынка» (англ.) — песня Джэніс Джоплін.

***Ну, а потым прыйшоў гэты «нехта» і прынёс нечае «гэта»: «А ведаеш, твая Беатрычэ памерла. З-за чаго? Як звычайна — захлынулася жыццём»***

кніг, нечай музыкі, застылая ў лунках незвароту, у вар'яцінках — Маладосць; уся гэта гульня ў бісер вытанчаных манер, завялай галантнасці, якой звычайна апраўдваюць сваё прывіднае жыццё на бясконцай выспе слёз? Скажы мне, дружа, дзе гарызонт, дзе перспектыва, дзе зямля, на якую можна ступіць, якую можна купіць, лунуць туды, проста знікнуць?.. Ты бачыш, як усё маё жыццё раптам завісла — не ведаю нават, ад чаго, паміж чым, навошта?.. Завісла — і ўся мая любоў замылілася між радкоў, паміж колаў паштовых карэт: гэй, паштальён, шырэй крок!.. Але хто мяне зараз пачуе; мяне, гоуст-райтэра, хаўлін вулфа[1], які ўсё вые і вые свае блюзавые мроі па самых тайных куточках чужой памяці? І ніяк не можа сканаць...

Госпадзі, як жа рвала-ірвала гэта чужое жыццё маю душу — на строі, на струны, на мроі, на руны, на жары… І як хацелася, шмат чаго хацелася, але ж твае старыя сябры за ноч запісалі кружэлку і махнулі аўтастопам у вырай. І засталося шчасце на рэшту: старая балбатня, стары жукаваты «б'юік», гатовы сарвацца з мыса ў Сімеізе[2] — застылы, навечна папярхнуты сваёй наіўнасцю, прынамсі, ужо шэрай. Памятаеш, мы бралі аголеныя колеры вясны і восені — толькі гэтыя колеры, калі змяшаць іх, могуць быць такімі прыгожымі, якім прыгожым можа быць тое, што толькі пачынаецца, і тое, што назаўжды сыходзіць.

І вось новая хваля, новы трэк: здымі з мяне пыл, выберы прыдатную рамачку, завяжы памяць банцікам. Але крыўдна, што гэта была сапраўды гульня, у якую ты занадта паверыў. НЕ адпусціў, а так і памёр з ёй побач. Не яна ў табе, а ты ў ёй застаўся толькі забытым штрыхом. Але… я чую тваю хаду, голас твой адчуваю —

Восень, ты ўжо тут,
Дзяўчынка семнаццаці год,
Такая дарослая Беатрычэ,
Яна кудысьці спяшаецца,
Плыве на паветры сівым,
Плывуць па паветры аблокі
Яе сівых валасоў —
Яна кудысьці спяшаецца,
She's leaving home[3].
Гэты свет немагчыма дагнаць,
Як нельга спыніць
Тэатр скатаванай восені.
Толькі гітара ў падземцы метро

такая ж растузаная, такая ж адзінокая

зразумець можа мой
сум застарэлы,
чорны і гэткі
глыбокі стогн.

Ты пляснеш мне па спіне па-сяброўску
І так нядбайна: «Што ж, захлынуўся жыццём»
І адправіш з першым зімовым месяцам
like a Rolling Stone[4]...

like a Rolling Stone... Мы заблукалі ў тумане.
Пачуй мяне, Госпадзі!..
Колькі хрыпець, колькі курчыцца ў болі нямым,
Колькі строіць юродзівага з сябе,
Колькі быць яшчэ блазнам,
Малпай на матацыкле,

[1] Гоуст-райтэр (ад англ.) — пісьменнік-прывід. Хаўлін вулф (ад англ.) — воўк, які вые.
[2] Крымскі пасёлак.
[3] «Яна пакідае дом» (англ.) — песня «The Beatles».
[4] «Як Перакаці-Поле» (англ.) — песня Боба Дзілана.

Зоркай цырка
з размазаным ротам.
Дзе гуаш, а дзе кроў — змяшалася ўсё
ў маёй душы, Госпадзі…

Мы заблукалі ў тумане, любімая,
Адзіная ты мая,
Душа...

Толькі смерць бярэ на прыцэл нас,
І подых яе разразае мой шлях
Метраномам,
Званом,
Дастае знутры маё сэрца,
Вышмаруе зялёнай настойкай і...
Зноў у шлях!

Зноўку хочацца,
Ах, як хочацца, толькі ледзь-ледзь
Зазірнуць
За гэтыя дзверы...
Дзе ты адбываеш
Свой срок ужо дваццаць год,
Мая ссівелая Маладосць.

Ты нічога мне
Не кажы.
Прамаўчы.
І забудзь
Імя маё,
Little girl blue.

Я змешваю каву з віном, як змешваюць добрыя манеры з болем і страхам; разбіраю нейкія абрыўкі сноў, слоў, сусекі нечага жыцця; завісла халодная душа над абыякавым целам: о, гэтае жыццё — непадзеленае каханне!.. Колькі разоў мы з табой сядзелі так ля дарогі, цягнулі да неба гітару з пацыфікам — дзе ён цяпер, наш паркалёвы космас, што расквітае, як Іўдзейская пустыня зімой? Не кажы мне больш пра Томаса Дылана, старэнькі, проста make me a mask[1], здымі з мяне ўсё лішняе, стань за спінай, а непатрэбную палатку сплаў па рацэ — мы ўжо вяртаемся. Колькі ж можна жыць у хлусні — мы хавалі ўвесь час гэту хлусню, нібы дулі ў кішэнях, працягвалі адзін аднаму споведзь на донцы чайных лыжачак і заводзілі бясконцыя размовы ў стылі позняга Калтрэйна[2]. Дык адрэж мне кавалак старога пледа, атулі мяне ім, быццам мемарыяльнай дошкай. Я бачу: дзверы за дзвярамі абыходзіш ты, нібы Бонавентура з пустым падносам сцены мёртвага горада, і ўсе стоікі свету нібы шахматныя фігуркі здзекуюцца над табой, таму што канца гэтай гульні няма.

***Я бачу: дзверы за дзвярыма абыходзіш ты, нібы Бонавентура з пустым падносам сцены мёртвага горада, і ўсе стоікі свету нібы шахматныя фігуркі здзекуюцца над табой, таму што канца гэтай гульні няма***

Ну, а потым прыйшоў гэты «нехта» і прынёс нечае «гэта»: «А ведаеш, твая Беатрычэ памерла. З-за чаго? Як звычайна — захлынулася жыццём. Прыемна і лёгка, на 3/15». Сэрца маё спынілася — трэба было сесці, але шасі не адкрываліся. Я зразумеў, што ты ўжо там — за дзвярамі, куды мы разам так імкнуліся... Я хацеў шмат чаго шчэ сказаць табе, але цяпер ўжо ўсё бессэнсоўна; праз гады я спрабую прабіцца скрозь тоўшчу немагчымасці — і мае лялечныя малітвы ператвараюцца ў нейкі найскладанейшы канструктар без інструкцыі: я сяджу над усім гэтым і... нічога не магу. Нават плакаць, нават проста паміргаць, як лялька Барбі.

«Прабач мяне, мая страчаная Маладосць», — растаюць словы, растаюць у тумане, дзе мы заблукалі... Развітальныя словы — чые яны? І што было тады з намі? І ці было што-небудзь? Хоць што-небудзь...

[1] «О, зрабі мне маску!» (англ.) — верш Томаса Дзілана.
[2] Джон Калтрэйн — джазавы выканаўца і кампазітар.



**ПАЧУЕШ—ЗАХОЧАЦЦА СЛУХАЦЬ ЯШЧЭ І ЯШЧЭ**. Магутны, глыбокі, надзвычай прыгожы, цёплы бас-барытон Уладзіміра Александровіча ўражвае і звычайную публіку, і прафесійных музыкантаў: нездарма гэты спявак мае ўжо каля паўтара дзясятка ўзнагарод, заваяваных на міжнародных конкурсах вакалістаў. Саліст музычнага тэатра «Зазеркалье» (Санкт-Пецярбург) і саліст-стажор Teatro comunale (Фларэнцыя), родам ён з Маладзечна. Тут скончыў знаны каледж імя Агінскага. А паступіў туды без належнай музычнай падрыхтоўкі, ды яшчэ ва ўзросце 19 гадоў: зрабілі выключэнне для выключнага талента! Сваіх адукаваных аднагодкаў даганяў, не саромеючыся вывучаць музычную «азбуку» разам з дзецьмі-пачаткоўцамі. Каледж скончыў з адзнакай, працягнуў навучанне ў Ніжагародскай кансерваторыі... Кар'ера Александровіча, якому ўвесну споўнілася 36, паспяхова развіваецца ў Расіі і Еўропе. Але душа імкнецца ў Маладзечна — да родных, сяброў, настаўнікаў, сярод якіх і першы педагог па вакале Пётр Туронак, і дырэктар музычнага каледжа, кіраўнік сімфанічнага аркестра гэтай установы, старшыня Мінскага абласнога аддзялення БСМД Рыгор Сарока. Спявак, голасу якога падуладна і оперная, і камерная вакальная музыка, і папулярны раманс, і вялікая класіка эстраднага жанру, апошнім часам плённа супрацоўнічае з маэстра. Сёлета зноў наведаў родны горад і пад акампанемент музыкантаў-землякоў выступіў у гала-канцэрце Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2013». Раней разам з аркестрам каледжа стварыў святочную праграму-прысвячэнне жанчынам «Ты мая мелодыя». А яшчэ



Уладзімір Александровіч і Рыгор Сарока здзейснілі шыкоўны праект-прэзентацыю «Пакуль я помню, я жыву!», які сабраў добрую сотню ўдзельнікаў і разгортваўся на сцэне Маладзечанскага гарадскога Палаца культуры без малога чатыры гадзіны. Гучалі вядомыя не аднаму пакаленню «шлягеры на ўсе часы»: песні з рэпертуару Мусліма Магамаева, Георга Отса, Юрыя Гуляева, Фрэнка Сінатры, а таксама арыгінальныя творы, напісаныя сучаснымі аўтарамі для Александровіча. У канцэрце, які суправаджаўся шчырым беларускім словам вядучай — дырэктара Палаца культуры Святланы Сарокі, ярка выступілі аркестр і яго скрыпачвіртуоз Аляксандр Баравік, а таксама запрошаныя спеваком расійскія госці: піяніст Алег Вайнштэйн, артысты шоу-балета Bize Lizu з Санкт-Пецярбурга, выканаўцы міжнароднага класа па спартыўных бальных танцах з Ніжняга Ноўгарада, кампазітар Сяргей Цярханаў з Мардовіі. Непаўторны музычны вечар, які падараваў сваім землякам Уладзімір Александровіч, застаўся не толькі ва ўспамінах. На аснове відэазапісу імпрэзы створаны альбом з двух DVD-дыскаў. Ён выдадзены Media Group (Санкт-Пецярбург) і «Арт-Союзам» (Ніжні Ноўгарад). Варта паглядзець, а галоўнае — паслухаць!

---



### *МАСОНСКАЯ КАЛЕКЦЫЯ*

Да ***18 верасня*** ў выставачнай зале Палацавага ансамбля ў Нясвіжы экспануецца ***«Масонская калекцыя са збору Вацлава Федаровіча»***. Убачыць масонскія знакі рускіх і польскіх лож, а таксама арыгінальныя прадметы, якія прымалі сапраўдны ўдзел у сапраўдных масонскіх рытуалах, — гэта не проста цікава, гэта ўзбагачае веды, развівае мысленне і... фантазію?



*Мара НАРЧУК*

# *Што заўгодна, абы не аскоміну!*

Самы час здаваць падручнікі. Прыводзім іх да ладу, падклейваем, падлічваем. Мне вось заўсёды сумна было расставацца з імі.

— Дзеці, а яны вам наогул падабаліся?

У апошнія майскія дзянькі, калі выстаўлены ўсе адзнакі, а сшыткі закінуты падалей, навучэнцы ахвотна крычаць: «Так!» Але калі спытаеш іх: «Чаму?» — задумваюцца. Кажуць, ад некаторых твораў хацелася плакаць, таму і спадабалася. А для іншых, калі ў цэлым кніга задавальняла, гэта мінус, бо вельмі сумна было пасля. Адны любяць вершы і хочуць, каб іх было больш, другія галасуюць за цікавыя апавяданні. Але ў чым вучні салідарныя, дык гэта ў жаданні бачыць у кнігах яскравыя і прыгожыя малюнкі.

Самім дзецям цяжкавата растлумачыць, што ім падабаецца ў падручніку беларускай літаратуры, а што не. Але калі ўважліва прыгледзецца да тых твораў, якія яны асабліва палюбілі і запомнілі, то зразумець гэта можна. Факт: пра такіх жа хлопчыкаў і дзяўчатак — аднагодкаў, падлеткаў — чытаць заўсёды цікава. Змясціць у падручніку апавяданне пра 13-гадовую дзяўчынку Насцечку, вучаніцу 5-га класа, ці пра сяброў Лёню і Грышку — гэта амаль стопрацэнтнае пападанне, толькі б аўтар не забыў пра дынамічны сюжэт і востры канфлікт. Персанажы могуць жыць у зусім іншай краіне, займацца дзіўнымі для беларусаў справамі, але яны, як і нашы дзеці, мараць пра штосьці, пераймаюць і перажываюць, а гэта робіць іх падобнымі да нашых беларускіх дзяцей і выклікае ў іх суперажыванне. Дзіцячыя вочкі запальваюцца, калі яны параўноўваюць сябе і герояў, бачаць сябе ў героях, думаюць спачатку па-максімалісцку і выказваюцца прынцыпова, але ж падчас гэтых параўнанняў робяць высновы і фарміруюць свае ідэалы. Я такі ж (такая ж), як Тонік, як Іра? Ці змог бы я паступіць як Пора-Леановіч? Добры я чалавек ці дрэнны?

На жаль, тэксты, напісаныя па іншай схеме, куды менш займаюць вучняў. Але не можам жа мы нагрувасціць падручнікі тэкстамі аднаго жанру і стылю, мы мусім паказаць дзецям, што беларуская (як і сусветная) літаратура багатая на тэмы, формы, жанры і іншае. Толькі вось абсалютна лагічна, што вучням не даспадобы бесканфліктныя, беспраблемныя творы, дык яны не толькі дзецям не па густу, але і дарослым. Няхай у кожным творы будзе хоць крыху нагод для палемікі, бо цікава ж на ўроку паспрачацца, павучыцца адстойваць сваю думку, а не сыпаць стандартнымі фразамі, якія нельга не сказаць. А тэмы для палемікі павінны быць самыя злабадзённыя, бо калі са школы дзеці выйдуць з абмежаваным светапоглядам, неталерантныя і адначасова нецярпімыя да іншых, то чаго вартая наша адукацыя?

Вучні вельмі любяць урокі літаратуры, на якіх можна пагаварыць пра незвычайнае: Бога, багоў ці багінь, д'ябла ці чорта, русалак, стварэнне свету, біблейскія легенды. От дзе раскрываецца фантазія! І як цудоўна, што ў

нашых падручніках ёсць тэмы, прысвечаныя міфам і паданням. Праз іх мы, як праз параўнанне Багдановіча і Шэкспіра, мусім выхоўваць гонар за беларусаў. Даражэнькія, наш Пярун не горшы за Зеўса, і пантэон у нас такі ж разнастайны і багаты, як старажытнагрэчаскі, хоць пра нашых і не здымалі мультсерыялаў на студыі Дыснэя.

Але здараецца, што аўтараў падручніка падводзіць пачуццё меры. Вось, напрыклад, прырода — пра яе і вершы, і апавяданні, і ва ўрыўках з буйных твораў, і ў зацемках яе забагата. Наяўнасць многіх абзацаў ці старонак з апісаннем прыроды радуе заўсёды толькі тым, што іх можна са спакойнай душой прагартаць і тым самым наблізіць фінал. Яна павінна быць, але навошта так шмат? Чаму так прамалінейна і бясхітрасна? Таму хай рэдка, але каб сапраўды шчыра і забаўна, як у Барадуліна ці Паўлюка Труса, каб выклікала ўсмешку, здзіўленне, сум, замілаванне. Ды што заўгодна, абы не аскоміну!

З гадамі мы прыйшлі да таго, што тэму прыроды трэба ўключаць у падручнікі не толькі з прычыны замілавання ёй, але і праз небяспеку яе знішчыць. Відаць, першае з другім моцна павязана. Экалагічная тэма ледзь не самая папулярная цяпер, але ж ці многа тэкстаў у школьных падручніках, здольных узрушыць дзяцей?

Хочацца, каб да падручнікаў дабралася сучасная літаратура, але, здараецца, глянеш на гэтых сучаснікаў — а яны і не сучасныя зусім. Бо мала жыць у адным часе з дзецьмі. Ды хочацца наогул сучаснасці ва ўсім. Творы ўжо трэба абнаўляць — выкідаць тое, што «не вельмі» ці наогул «ніяк». Ёсць жа чым! Варта рабіць нешта, каб не выносілі са школы стэрэатыпнае: «Белліт — гэта нудоцце». Па апратцы сустракаюць, а што яшчэ казаць, калі на вокладцы падручнікаў і па мове, і па літаратуры з году ў год — бярозкі, буслы, боханы хлеба?..

Аўтарам думаць бы ў першую чаргу пра дзяцей і не забываць дапамагаць настаўнікам, змяшчаючы ў падручнік выдатныя, захапляльныя творы і незвычаныя заданні да іх. Каб гэты падручнік не проста цёгалі адзін на дваіх (навошта кожнаму, цяжка!), а чыталі, каб знайсці можна было ў ім штось карыснае для сябе. Каб насіць было няцяжка, бо — роднае, дарагое і страшэнна цікавае.

***Гэтым выступленнем настаўніцы Бараўлянскай сярэдняй школы «Маладосць» абвяшчае тэму наступнага нумара. Дасылайце свае меркаванні пра школьныя падручнікі беларускай літаратуры на vdsd@tut.by.***

# *Ад рукі*

Віктар Карамазаў

Па лузе ходзяць коні — стрыножаныя, ціхія. Гэй, мастак, аблюбаваў пагорчык, дастаў блакнот, алоўак. Хацеў замалёўваць, але падумаў: стрыножаныя коні — нічога новага.

І раптам здрыганулася зямля, стагнаў, кабыла заіржала, нібы ў горан затрубіла, і з табуна ў кошчаку капытоў выскачылі два маладыя, без путаў, чырвоны з белым скакуны, хвасты — уверх трубамі, грывы — дугі, адно другое драпаюць, капаюць, зубы ў зубы белыя, як цукар, цалуюцца, шалёныя, гарачыя, на дыбкі ўскокваюцца адзін перад адным, ногі ў абдымках, галовы адна з адной шчапляюцца, кружаць, скакун са скакуном, у натуральнай, як сама прырода, любові. Нацешыліся і панесліся на лузе далей.

Якая была шкода, што не паспеў замалёўваць. Але якая радасць, што ўбачыў у прыродзе вольны танец.

Мастак глядзеў на коней.

Ён чуў у іх сваю былую маладую кроў.

Хіба не гэтак сам імчаў на сваім лузе?..

[подпіс]. 5.03.2013.

З кнігі „Брама" пра мастака Гаўрылу Вашчанку.



# Асцярожна! Кепскі фінал

*Часам хочацца запрасіць на «Кухню» не аматара-пачаткоўца, не спецыяліста ў галіне гатавання свежазлоўленных маладых паліндромаў, а сапраўднага майстра на ўсе рукі. Які дакладна ведае ўлюбёныя рэцэпты Уладзіміра Караткевіча, назаве з дзясятак страў, што каштаваў спадар Мялешка, ды злёгку накорміць вас вячэрай з нічога, якую рабілі паны Кубліцкі ды Заблоцкі.*

*У 6-ю студыю прамога эфіру канала «Культура» заходзіць пісьменнік, казачнік, літаратуразнаўца Пятро ВАСЮЧЭНКА.*

*Каб прадставіць яго, дастаткова працытаваць адзін верш з кнігі творцы «Піраміда Лінея»:*

Дзеля чаго існую я?
Па гараскопе я — Свіння,
І Вадаліў, і Кіпарыс.
Такі мой зорны відарыс.
І калі я жыву пад небам,
Дык, значыць, некаму патрэбен.
Жывуць усе, жыву і я,
Са мною — ўся мая сям'я.

Гэты бестыярый — прызнанне ў любові да кожнай дробнай казуркі, непаседлівай птушкі ці няўклюднай жывёліны. Спадар Пятро яшчэ ў дзяцінстве вагаўся паміж біялогіяй і літаратурай. У выніку справа на карысць апошняй.

— Я і футболам таксама захапляўся. Але шмат акуляраў гублялася падчас спартыўных баталій. Мяне многае вабіла. Былі і пошукі Полацкага лабірынта. Але асноўнай заставалася практыка чытання. З гэтым заняткам спаборнічалі хіба што мае прыгоды з сачком і слоічкамі па балотах. Пасля іх я прыцягваў дамоў якіх-небудзь казурак, назіраў, як корпаюцца, плёскаюцца, махаюць вусікамі і, на вялікі жаль, ядуць адно аднаго. Гэтая драма жыцця мяне вельмі ўразіла. Зрэшты, тое самае адбывалася і ў літаратурных творах, якія я чытаў. Толькі там усё гэта датычылася людзей. Я доўга разважаў, чыя драма мяне цікавіць больш, — і выбраў вывучэнне чалавечай. Але сантымент да братоў нашых меншых застаўся. Дарэчы, дачка падзяляе маю цікавасць да ўсяго жывога. Падарыла сама сабе на дзень нараджэння котку Багданку.

**— Для каго ў першую чаргу пісалі «Піраміду Лінея»?**

— Для ўсіх. Яна памерам з шакаладку і чытаецца так лёгка, як есца шакаладка. Кніга пра ўсё жывое.

Дзеля чаго існуе вожык?
Ты не бяры яго ў ложак,
Ён не дае нікому спаць,
Бо не галіўся гадоў пяць.

Верш зразумеюць і дарослыя, і дзеці, але кожны па-свойму. Я ніколі не думаў, што напішу кнігу вершаў. А гэта — паэтычная гульня, якую сабе дазволіў. І не прэтэндую быць паэтам-філосафам. Дарэчы, працяг кнігі пішацца. Да яго далучыліся мае студэнты. Часам прапануюць свае радкі пра жывёл. Калі выдам другі бестыярый, назаву памагатых.

**— Вы любіце гуляць не толькі з літаратурай. У навуковай сферы таксама часам дазваляеце жарты. Маю на ўвазе даследаванне студэнцкіх памылак, агаворак: «Выдаткі рэпрадуктыўнага засваення студэнтамі ведаў па беларускай літаратуры».**

— Студэнты — творчы народ. І іх памылкі маюць творчы характар. Прыкладам, задаю пытанне, чаму ў паэме Купалы «Магіла льва» народ, пахаваўшы Машэку, насыпаў яму вялікі курган? «Каб больш ніколі не падняўся», — адказвае студэнт. Выкладчыку не заўсёды такое прыйдзе ў галаву. Але зазвычай памылкі з'яўляюцца з-за таго, што хтосьці штосьці не дачуў альбо не дагледзеў. Так узнік Бранскі мір (замест Брэсцкі мір), бо ў канспекце было напісана «Бр. мір.» Яшчэ адна прычына — мадэрнізацыя, калі глядзяць вачыма сучаснага чалавека на мінулае. Вось я сістэматызаваў і класіфікаваў гэтыя памылкі. Прычым студэнты не даюць мне спыніць даследчыцкую дзейнасць у гэтым рэчышчы. Вельмі любяць перайначваць назвы твораў Караткевіча: «Паляванне дзікага караля Стаха».

**— Вы ў дзяцінстве больш любілі гісторыі з хэпі эндам?**

— Безумоўна. А вось сам пісаў і песімістычныя аповеды. Але з кепскімі фіналамі трэба быць асцярожным. Яны выбухова небяспечныя. Мне казалі, адзін хлопчык, прачытаўшы маю «Гісторыю Кацярыны і Кэт» сказаў, што «дзядзю-аўтара» трэба пабіць. Пасля гэтага стараюся не пісаць тэксты з дрэннай кан-

цоўкай. Можа быць, лёс цывілізацыі залежыць ад таго, які мы напішам фінал: шчаслівы ці не. Ад гэтага і ў жыцці нешта мяняецца. Кнігі маюць вялікую прагнастычную сілу.

**— Вы прафесійны чытач. Ці маеце адмысловы абрад чытання, звязаны з гэтым звычкі?**

— Я люблю кнігі ў традыцыйным выглядзе — папяровыя. На жаль, моладзь сёння згубіла практыку ўдумлівага чытання. Камп'ютар зрабіў юнакоў і дзяўчат больш пісьменнікамі, чым чытачамі.

Калі зазірнуць у мой кабінет, можна пабачыць шмат тамоў: зборы твораў Дзікенса, Талстога, Ібсена. Адзін госць пад уражаннем сказаў: «Пятро, ты вечарамі, відаць, сядзіш і ўстаўляеш закладкі ў кнігі, каб пусціць пыл у вочы». Я ўявіў сябе за такім заняткам і засмяяўся — мне лягчэй прачытаць кнігу.

У практыцы чытання ёсць яшчэ роздум, чытацкія дзённікі. Напрыклад, Янка Брыль заўжды занатоўваў нешта новае, думкі, разважанні ў час знаёмства з кнігай. Дарэчы, ён нават чытаў тых, хто не чытаў Брыля.

**— А як выглядае ваш кабінет, так бы мовіць, пісьменніцкая кухня?**

— Мне імпануе вобраз матэрыялізаванай кнігі. А вось кухня літаратара — не толькі месца, дзе можна занатаваць ці прачытаць штосьці. Я многа вандрую, асабліва па Беларусі. Гэта яшчэ са студэнцтва. І пераканаўся, што многія думкі, праекты нараджаюцца ў час перамяшчэння. У цягніку з Мінска ў Полацк ад грукату колаў і галоднага бурчання ў жываце нарадзілася ідэя прыгод паноў Кубліцкага ды Заблоцкага. Некаторыя творы з'яўляюцца ад салаўінага спеву, некаторыя — ад квакання жаб у балоце. Мне добра працуецца і ў гасцях, і ў аўтобусе. Здараецца, можна пачуць цікавае слова, нейкую гісторыю. Янка Брыль, напрыклад, спецыяльна выбіраўся на Камароўку, каб пачуць сакавітую мову, збіраў там праклёны, адмысловыя выразы.

**— Існуюць найбольш спрыяльныя ўмовы для пісьма?**

— Думаю, што сапраўдныя творы павінны пісаць гусіным пяром на пергаменце. На жаль, маё пяро мае функцыі аўтаручкі. Я люблю прыгожыя пісьмовыя прылады. Пёры ад Parker, напрыклад. Можа, калі-небудзь з'явіцца аўтар, які насамрэч адновіць пісанне пяром.

**— Праўда, што ў вашым кабінеце акрамя ручак Parker жывуць парсючкі?**

— Мне некалі падарылі парсючкоў, і калекцыя стала расці. Зрэшты, гэта ўлюбёная жывёла беларусаў мае ў сабе момант трагізму і драматызму, што заўважыў Міхась Стральцоў. Бо парсючка пестуюць з адной мэтай. У мяне іх некалькі дзясяткаў. Бываюць выпадковыя экспанаты. Неяк падарылі вялікую капілку. Але яна стаіць пустой. Мне больш даспадобы нефункцыянальныя маленькія парсючкі.

**— Заўважна, што вы шмат увагі надаяце гастранамічным вобразам…**

— Гэта адметная рыса нашай літаратуры. Усё пачалося яшчэ з твораў «Тарас на Парнасе», «Энеіда навыварат». Ёсць аматары апісваць гастраномію — Якуб Колас, Уладзімір Караткевіч. А вось героі Янкі Купалы і Максіма Багдановіча заняты духоўным пошукам і ядуць мала.

Філіпа Тамаза Марынэці напісаў кулінарную кнігу футурыстаў. Калі б у нас з'явілася штосьці падобнае, было б вельмі папулярным. Напрыклад, кухня Уладзіміра Караткевіча. Дакладна, спадабалася б. Я паважаю простую ежу, без вымышлякаў, як гэта было ў паноў Кубліцкага ды Заблоцкага: бульбу, капусту, вяндлінку. Але аддаю належнае і клёцкам з душой — старадаўняя рытуальная ежа. Можна і без душы, але з душой — смачнейшыя.

*Я прашу кожнага госця прыгатаваць бурымэ ў прамым эфіры. Пятру Васільевічу акурат трапіліся напаўгастранамічныя рыфмы. І вось што атрымалася.*

— Мне падаецца, гэта верш для аграрыяў. Такая дачная драма.

Не чырванеюць памідоры,
Не зелянее агурок.
Краты — падземныя сапёры
Параскапалі іх знарок.





Вольга ШЭЛЯГОВІЧ

# Радасная падстава

***У** той час, калі мой безыменны палец яшчэ не ўпрыгожвала «няпростая аздоба», да глыбіні душы ўзрушыла мяне адна размова. Запыталася ў жанчыны, якая рэгіструе шлюбы: «Ці варта адзначаць вяселле з ўсёй пышнасцю?» — і нечакана выклікала ў суразмоўцы слёзы. Вяселля яны з мужам вырашылі не рабіць, а ён загінуў у маладым узросце, і жанчына дагэтуль шкадуе, што ў жыцці яе другой паловы так і не было сапраўднага свята. У той момант я вырашыла, што маё вяселле і заспявае, і станцуе — і неўзабаве саспела для шлюбу.*

Саспела акурат у жнівеньскую пару, як жыта, што хіліцца долу пад цяжарам летняй гарачыні, чакае свайго хлебароба і перамен.

Быць ці не быць вяселлю? Усё больш маладых людзей аддаюць перавагу наступнаму сцэнарыю: сціплая рэгістрацыя ў прысутнасці сведак і самых родных, а потым — падарожжа за мяжу ці што яшчэ. Чытаю на адным форуме: «У прынцыпе, я не супраць вяселля, але калі падумаю, што трэба бачыць гэтыя п'яныя морды… Невыносна!» Вось такое абгрунтаванне. «Марна патрачаныя грошы», — разважаюць пра вяселле і так. Характарызуюць яго словамі «лішні галаўны боль».

Але ёсць і адваротны бок у медаля. Некаторыя так прагнуць ажаніцца з шыкам, што лезуць у неверагодныя даўгі. Я ведаю дзяўчыну, якая нагуляла дзіця, нарадзіла, ды маладога татачку тым самым да сябе не прывязала. Свет не без добрых людзей: знайшоўся новы кавалер, які ўзяў яе з дзіцём. Адбухалі вяселле, якога вёска, адкуль абое родам, дагэтуль не бачыла. Бацькі дзяўчыны жылі небагата, пазычылі грошай на застолле ў банку. Неўзабаве ў маладой пары нараджаецца сумеснае дзіця, а бацькі плацяць «вясельны» крэдыт. Потым нараджаецца яшчэ адно — бацькі па-ранейшаму носяць грошыкі ў банк. Высвятляецца, што, магчыма, апошні хлопчык не ад мужа, робіцца аналіз на ДНК — бацькі аддаюць даўгі дзяржаве. Дзень сённяшні: пара разышлася, дзеці ад трох мужчын пры маці, тая толкам нідзе ніколі не працавала. Гора-жонка ў пошуках новага залётніка, у падманутага былога мужа новая сям'я. А бацькі — што б вы думалі — усё яшчэ выплочваюць крэдыт!

Сярэдзіна, кажуць, «залатая», бо гэта найлепшы выбар у любой сітуацыі. А хто кідаецца ў крайнасці, той найчасцей апынаецца ля растоўчанага карыта. Не варта адмаўляцца ад вяселля толькі таму, што гэта цяжка і дорага. Свята кампенсуе мінусы падрыхтоўкі, калі адчуеце ўнікальнасць моманту, чароўнасць ЕДНАСЦІ. Невытлумачальнае адчуванне. Насенне, што падае ў глебу, становіцца з ёю адным цэлым і прарастае дзіўнай кветкай. Так і ў людзей, блізкіх да дрыжыкаў: спачатку еднасць душы і цела, а потым — «кветкі жыцця». Дзякуючы гэтаму жыццё на зямлі ніколі не скончыцца.

Ёсць у гэтай дзеі і сакральны змест, вее ім з глыбіні стагоддзяў. Не правесці вясельны абрад у нашых продкаў азначала пазбавіцца магчымасці запраграміраваць будучую сям'ю на шчаслівае жыццё. Традыцыя некалі паганяла традыцыю. Сядзелі маладыя на кажуху футрам наверх («каб былі багаты, як кажух касматы»), у чаравіках, набытых абавязкова ў пятніцу, і ўборах, купленых у сераду. І шапацела ў абутку рабінавая лістота, і адна лыжка ляжала на стале — ёю жаніх з нявестай павінны былі есці яечню. І ніхто не абураўся на п'яныя твары сваякоў. Можна верыць у забабоны, можна не верыць, але як лодку назавеш, так яна і паплыве. Сумеснае жыццё двух людзей павінна пачынацца са свята — каб святам быў кожны дзень, што яны правядуць побач. І да таго ж успомніце, ці так ужо часта за адным сталом збіраюцца ўсе вашы сваякі? Найчасцей для таго ёсць дзве падставы, адна з іх, на жаль, жалобная.

*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ*

# Ад «Савецкага пашпарта»...



Літаб'яднаннем «Крыніцы» кіраваў Юрась Васільевіч, хударлявы, з пшанічнымі казацкімі вусамі, аўтар папулярнага ў мясцовых колах верша «Бульбонія». Тады яго радкі гучалі амаль як дысідэнцтва. Наваполацк ганарыўся, што ў ім жывуць людзі амаль васьмідзесяці нацыянальнасцяў, тут выходзіла адзіная ў БССР мясцовая газета на рускай мове, і пра беларусаў, тым больш, пра мову згадваць лічылася дрэнным тонам.

Напачатку літаб'яднанне пры газеце «Химик» мала чым адрознівалася ад полацкага «Наддзвіння», куды я прыйшоў разам з сябрамі ў свае васямнаццаць гадоў, — пара школьнікаў, пара пенсіянераў, некалькі яўных графаманаў, мясцовыя «карыфеі», што мелі ўжо свае рэдкія публікацыі ў мясцовым друку.

Я пасля таго, як «Химик» надрукаваў маю першую подборку вершаў, доўга не паяўляўся на «Крыніцах», бо вёў, працуючы ў газеце, разам са старэйшым сябрам, адказным сакратаром полацкай газеты «Сцяг камунізму», работу ў «Наддзвінні». Наваполацкімі літаратарамі я быў даволі прыхільна сустрэты. Пісаў ужо толькі па-беларуску, і такім чынам, прыхільнікаў беларускага слова ў «Крыніцах» паболела.

У той вечар на «Крыніцы» прыйшлі новыя людзі.

Адзін — высокі, хударлявы, са светлымі даўгаватымі валасамі — назваўся выкладчыкам нямецкай мовы Наваполацкага політэхнічнага інстытута. Назавём яго тут Лёня Запалоцкі, бо родам хлапец аказаўся з полацкага Запалоцця. На добрай беларускай мове ён расказаў пра сябе: што скончыў з медалём школу ў Полацку, вучыўся ў Мінску ў інстытуце замежных моў, захапляецца перакладамі.

— Маякоўскі. «Слова пра савецкі пашпарт», — аб'явіў хлопец.

Двое маладзёнаў захіхікала. Гэта былі Мацюс і Анёлак — яны заўсёды любілі пахуліганіць, пасмяяцца, асабліва з тых, хто піша на мове. Хто тады мог уявіць, што Анёлак стане адным з першых беларускіх бардаў.

Маякоўскі прагучаў па-беларуску даволі ўдала.

— А яшчэ што-небудзь з іншых моў ёсць? — папытаў з месца Гаспадар тайгі.

— Ёсць, — спакойна адказаў хлопец і пачаў чытаць пераклады на беларускую з Гейне, Шылера, Гётэ…

Усе былі прыемна ўражаны.

— А можна я яшчэ аднаго перакладчыка прывяду? — акрылены поспехам запытаў маладзён. — Ён нават з фінскай перакладае.

— Здаецца, я ведаю такога, — азваўся Гаспадар тайгі. — Але ён, па-мойму, не на беларускую перакладае.

— Ужо на беларускую, — засмяяўся хлопец.

Потым вершы чытаў Мацюс:

«Я люблю смотреть, как умирают лошади», — галасіў ён.

Анёлак радасна запляскаў.

— Сергей, ты ж пісаў: «Грянула двустволка, и волк закрыл усталые глаза». І далей — што ні ў кога ад спагады не скацілася сляза. Значыць, ваўка ты шкадуеш, Мацюс жа радаваўся б, — засведчыў Юрась.

— Мае права! — парыраваў Анёлак. — Галоўнае, каб ярка было напісана.

Мне хлопцы падабаліся, нягледзячы на ўвесь іхні эпатаж. Яны ведалі літаратуру, прычым, добрыя яе ўзоры, і стараліся пісаць ярка і па-свойму.

Не падабалася толькі іронія ў адносінах да тых, хто піша па-беларуску. Але гэта, як той казаў, быў яшчэ не вечар.

***«Былі крыніцы сінія...». Сентыментальная хроніка. Поўная версія — з наступнага нумара.***



Дзяніс ДУДЗІНСКІ
dudik.blog.tut.by

# Эратычна-турыстычна-лінгвістычнае

Стасункі паміж грамадствам і беларускай мовай павінны быць як у трапяткіх каханкаў — ён і яна, дзе ён — гэта беларуская мова і культура ўвогуле, а яна — грамадства, прычым, цнатлівае, якое пакуль яшчэ яго не спазнала. То бок пранікненне беларускай мовы ў грамадства павінна быць пяшчотным, павольным, удумлівым, з лёгкімі стогнамі, без якіхсьці там рэзкіх нацыяналістычных рухаў і нязручнасцей. Прыгожыя беларускія словы трэба прамаўляць ласкавым голасам з прыдыханнем, на самае вушка грамадству, а не крычаць у твар, пырскаючы слінай у істэрыцы так, што суседзі за сценкай (Расія, Літва, Латвія, Украіна) абураюцца, маўляў, дзе ж вашы нацыянальныя сумленне і свядомасць. А пасля кожнага такога акту неабходна яшчэ нейкі час пабыць побач, пагаварыць, пакурыць, выпіць добрага віна (а не хрэнавухі, крамбамбулі, стольграднай ці бульбаша, быццам гэта і ёсць наш нацыянальны здабытак), паслухаць музыку. А то атрымліваецца — упырскнуў сваю нацыянальную ідэю ўсяе беларусізацыі, прычым недзе на сенавале, абдаў пахам таннага алкаголю, хмыкнуў нешта няўцямнае на развітанне і пайшоў, пакінуўшы яе, пазбаўленую цноты, ляжаць на белай прасціне з чырвонай паласой ў роспачы — а навошта гэта мне было патрэбна, балюча і непрыемна?

* * *

Прыехаў да мяне мой даўнейшы сябар з Расіі і, як заўсёды, пачаў кідаць пытанні наконт беларускай мовы: як гэта, як тое будзе па-беларуску. Адно з яго пытанняў было: «А как по-белорусски будет “Меня зовут Владимир?”» Я прапанаваў яму некалькі варыянтаў: «Мяне клічуць…», «Маё імя…». Ад «мяне клічуць…» ён адмовіўся адразу, таму што адчуў у гэтай фразе нешта хатнежывёльнае, быццам ад рускага «кличка» (але ж рацыя ў гэтым ёсць). І ўвесь час ён хадзіў і з задавальненнем, як сапраўдны турыст, нават у краме ці ў метро, раздаваў налева ды направа сваё «Маё імя — Уладзімір». І вось аднойчы, калі мы пасля такіх турыстычна-лінгвістычных пахаджэнняў сядзелі і алкагольна адпачывалі ў аднаго з нашых сяброў і час пераваліў за другую гадзіну ночы, байкі скончыліся ды вочы заплюшчваліся, мы ўключылі тэлевізар, каб знайсці музыку. Музыку мы знайшлі — гэта быў беларускі гімн. І тут мой расійскі сябар заскавытаў. Нешта наконт таго, што мы роднай мовы не ведаем, што нават самае простае слова не можам яму перакласці і гэтак далей. Аказалася, што ён пачуў радкі гімна, дзе спявалася: «Слаўся зямлі нашай светлае імя», дзе ў слове «імя» націск падае на першы склад!

Потым мы яму цэлую гадзіну даказвалі, што гэта ў гімне памылка, а не ў нашых галовах…

Было сорамна… Было такое адчуванне, што нас засталі голымі. Больш мой расійскі сябар ніякіх пытанняў наконт мовы мне не задаваў.

Мабыць, я пішу і размаўляю на мове з памылкамі, але ж іншая справа — нацыянальны гімн!!!

Вольга АГАПОНАВА

# ЗОРКІ ПАЗБАЎЛЯЮЦЬ АД ПАКУТ



***Вольга Агапонава нарадзілася 2 лістапада 1990 года ў Гродне. Выпускніца філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, член гарадскога клуба паэтаў і бардаў «Надзея». Дзяцінства правяла ў вёсцы, і гэта стала штуршком да літаратурнай творчасці.***

## ЛЁС І ЛЕСВІЦА

Ён пакінуў свой лёс на лесвіцы
адзінай… мне… маўкліва
крок — і руцэ… імкліва
чырвона-белыя пялёсткі
пакінуў мне адзінай,
ахвяраваўшы
толькі сваё
Імя
яго мне
засталося
на прыступках, на якіх
пялёсткі тыя, што калісьці…
у руцэ гарэлі... ад вясны я прынясу
цяпер… яму прытулак з адзінокім
прытулкам… асенняга… месяца
Каб знайсці… яго лёс… на лесвіцы.

* * *

Зоркі пазбаўляюць ад пакут,
Ззяючы жамчужнасцю касмічнай,
З болем нараджаюць ў хмарах цуд,
Плачуць у бязмежжы фасфарычным.

Падаюць на чалавечы лёс,
Моўчкі суадносяць ўзлёт і страты,
Каб адбітак паўсядзённых слёз
Зліўся з іншаземнасцю крылатай.

І таямнічы зорны той шлях
Кожную хвілю чароўным здаецца —
Гэта сівы галактычны манах
Зорныя лекі пасыпаў на сэрца.

## ТВАЙМУ КАХАННЮ ПРЫСВЯЧАЮ…

*Кожную ночку на зорку дзівіцца*
*Буду ў далёкім краю…*

М. Багдановіч

Тваймy каханнню прысвячаю
Наш прошлы час,
Калі ў заледзянелым краю
Мы адрадзілі белы вальс.

Свайго-чужога не мянялі,
Не вырашалі лёс,
Бо на мяжы з нябеснай хваляй
Анёл кахання не ўваскрос.

Тваймy каханню прысвячаю
Сучасны свет,
Цябе свяцілам наракаю,
Як наракае верш паэт.

Я да аблокаў узнімуся
На зорны пыл,
Ды Млечным шляхам разгарнуся,
Дзе твой пачнецца небасхіл.

Тваймy каханню прысвячаю
Ляцець да зор,
Дзе будучыня вышывае
З нябесных цел зямны узор.

Твой час з маім не адракае
Шляхоў нідзе.
Але ўсё ж у далёкім краю
Глядзець я буду на цябе!

## ПОЗІРК

Промні нараджаюцца
толькі ад сонца.
Прымаюць хрышчэнне
у купелі аблокаў
і… ззяюць навокал.
У блакітнай прасторы
кранаюць пярсцёнкам касмічным
Звышрамантычны абшар.
Як добрасумленны святар —
зярністыя промні
зара прычашчае.
А гладкая ноч іх збірае ў сузор'і…
І ў белым канверце,
магутным над смерцю,
яна адсылае ў крыніцу душы.
Вось так з галактычнага пылу,
з нябесных адценняў
і лёгкіх імгненняў
З'яўляецца позірк…



Антон БЕЛАХВОСТАЎ

# БУРШТЫН

*Апавяданне*

Наведаць якое-небудзь далёкае месца мне закарцела з тыдні два таму. Ногі, якія адвыклі ад шпаркай хады, асабліва праглі далёкага шляху. Спачатку хацеў пайсці ў Палангу, якая ў трыццаці кіламетрах ад Клайпеды, але потым перадумаў, бо годам раней спрабаваў зрабіць гэта. Але, прайшоўшы каля дзесяці кіламетраў, вярнуўся назад. Дзядуля параіў схадзіць у Юодкрантэ, што знаходзіцца на Куршскай касе, у васямнаццаці кіламетрах ад Клайпеды. Я з прадчуваннем чакаў гэтага падарожжа, маленькага выпрабавання для сябе.

Бабуля спачатку адгаворвала, называючы гэта глупствам, бяздумным подзвігам, але адступаць было позна. Гарадскія шэрыя краявіды абрыдлі, хаця горад і быў дастаткова размаляваны вітрынамі крам. У прынцыпе, у горадзе мелася дастаткова месцаў, якіх я яшчэ не бачыў, але ўсе яны здаваліся мне аднолькавымі. Не тое, што шлях да Юодкрантэ, які пралягаў па касе. Збіраўся пайсці пляжам, які знаходзіцца з боку Балтыйскага мора. Кожны выгін берага, хваля, дзюна, хвоя былі ўнікальнымі, не падобнымі адно да адно. Як і дзеці з адной сям'і не вельмі падобныя між сабою, калі толькі яны не блізняты. Вось так і пляжныя краявіды, дзеці прыроды, аднолькавымі выглядаць дакладна не могуць.

Для такога паходу трэба было прачнуцца раней, чым звычайна. Некалькі разоў праз сваю ляноту не здолеў гэтага зрабіць. Калі ж аднойчы ўстаў своечасова, імжэў дождж, і я вырашыў адкласці падарожжа на заўтра. На наступны дзень падняўся а дзясятай гадзіне і пачаў хутка збірацца. Узяў з сабой крыху ежы і вады, акуляры, кепку, тэлефон ды грошы. Развітаўшыся, выйшаў з дому і накіраваўся да аўтобуснага прыпынку. Той дзень, у адрозненні ад папярэдніх, выдаўся гарачым і сонечным. На блакітным небе толькі сям-там віднеліся нерухомыя аблокі. Прыйшоўшы на прыпынак, я зразумеў, што спазніўся на той рэйс, на якім думаў выправіцца ў дарогу, і засмуціўся. Але праз хвіліну аўтобус прыйшоў, і я ўзгадаў, што ў мяне спяшаецца гадзіннік (гэта зроблена спецыяльна, таму што заўсёды спазняюся).



***Антон Белахвостаў нарадзіўся 2 снежня 1995 года ў Мінску. Скончыў ліцэй БДУ. Творчасцю займаецца з трынаццаці гадоў. Цікавіцца індаеўрапейскімі мовамі, у вольны час любіць імправізаваць на гітары.***

Па звычцы накіраваўся на задняе сядзенне, абмічаючы некалькі людзей «у гадах». Летам у аўтобусах народу мала, бо шмат хто карыстаецца асабістым транспартам, ды і вялікую папулярнасць набылі ровары. Апошнім часам шмат хто з'язджае ў адпачынкі альбо на заробкі ў Заходнюю Еўропу. Таму і ехаў я ў паўпустым аўтобусе з сумнымі бабулькамі, ды перасядаў з месца на месца, бо пасля чарговага павароту аўтобуса, сонца свяціла з іншага боку.

Люблю аўтобусы. Не з-за мяккай тканіны сядзенняў і не з-за хуткасці ці пунктуальнасці. Я люблю аўтобус за яго маршрут, сімвал замкнёнасці. Гэтае кола, па якім ён рухаецца, з'яўляецца сімвалам бясконцасці. Круглае сонца, зямля. Планеты таксама рухаюцца па коле. Па ім жа ідзе ўсё наша жыццё: мы прыходзім і сыходзім. Па коле ці, хутчэй, спіралі развіваецца сама Гісторыя… Кіроўца за жыццё праязджае значна больш сімвалічных колаў, чым астатнія. Таму з'яўляецца своеасаблівым жрацом, перавозячы нас з аднаго месца на іншае.

Вось зачыняюцца пярэднія дзверы, вадзіцель націскае на газ. Выгляд за шыбай пачынае плысці, і вось ужо дом мільгае за домам, машына за машынай, мяняюцца натоўпы людзей, твары якіх не паспяваю разглядзець. Толькі на прыпынках аўтобус адпачывае, а матор ледзьве гудзе. Прыпынак за прыпынкам, і я ўсё бліжэй да мэты. Вось мінаем велізарны супермаркет — Акропаліс, названы ў гонар старажытнага грэчаскага горада. Мінуўшы яго, я выходжу і адчуваю яшчэ большую спёку. Няспешна крочу па гарачым асфальце, які блішчыць на сонцы. Я іду павольна, хоць трэба спяшацца. Мінаючы шматпавярховік, пабачыў цікавы краявід: прыватныя дамы праваруч і пустыя зялёныя дзялянкі з левага боку. За ўсю дзесяціхвілінную дарогу да пераправы міма прайшло некалькі чалавек ды праехала пара веласіпедыстаў. Наблізіўшыся да пераправы, зразумеў: на паром я сапраўды спазніўся.

Уся аўтастаянка перад пераправай была запоўнена, і я ледзьве праціснуўся праз яе. Ля касы некалькі чалавек куплялі квіткі. Наступны паром будзе толькі праз паўгадзіны. Набыўшы білецік, я прайшоў праз турнікет і ўбачыў другі паром, які падплываў да прычалу. «Значыць, — падумаў я, — ёсць яшчэ і другі». Паром меў шляхетны выгляд: корпус ярка-сіні, а капітанская будка — белая, сама ж палуба — зялёная. Уверсе, пад слабым ветрам, лунаў літоўскі сцяг. Паром быў цалкам запоўнены машынамі, якія пачалі марудна выязджаць з яго.

Калі паглядзець на карту Свету, то побач з Літвой можна ўбачыць вузкую паўвыспу — гэта і ёсць Куршская каса, якая цягнецца ад Клайпеды да Калінінградскай вобласці. Знешне яна нагадвае турэцкі крывы меч, які сваім вострым лязом адсякаў галовы няверным, хаця куршы, што насялялі касу, былі дастаткова мірнымі. Яны збіралі па берагах паўночнае золата — бурштын — і рабілі з яго ўпрыгожванні. Цяпер гэтым займаюцца ўжо нашчадкі іншых балцкіх плямёнаў. Але, магчыма, і сёння ў кімсьці яшчэ цячэ куршская кроў.

І вось праз нейкі час наш паром адчаліў, рэзка павярнуўшы налева. Ён павольна рассякаў хвалі. Над вадой рыўкамі лёталі чайкі, цікуючы рыбу на яе паверхні. Заўважыўшы паром, птушкі ляцелі да яго і кружлялі ў чаканні хлеба. Людзі ў гэты раз не вельмі імкнуліся іх карміць (або ў іх не было хлеба), і, трохі палётаўшы побач, чайкі зноў узвіваліся ўгару і рэзка падалі ўніз. Дасягнуўшы вады, часцей за ўсё без здабычы, яны зноў узвіваліся і кіравалі ў іншае месца, каб зрабіць усё гэта наноў. Паром плыў хвілін дзесяць, таму што берагі падзяляла паўкіламетра залива. Калі ён набліжаўся да прычалу, людзі з захапленнем глядзелі на бераг, на тое, як адлегласць паміж ім і паромам усё памяншаецца… Мае ногі ступілі на шурпаты асфальт,

і адразу я ўбачыў на шчыце карту літоўскай часткі касы. Яна насамрэч падобна да крывога мяча…

Потым заўважыў дарогу, якую праглынаў хваёвы лес, напоўнены чыстым паветрам. Тут я прыкмеціў вельмі шмат мурашнікаў: маленькіх і вялікіх, дыяметрам да метра, агароджаных, іх можна ўбачыць наўпрост каля дарогі. Праз рэдкія сосны сачылася сонца, якое гуляла ў хованкі з дрэвамі: святло шчодра лілося наўкола. Каб трапіць на пляж, мне патрэбна было перайсці касу ўпоперак, дзесьці каля кіламетра. Той участак касы, які перасякаў, з'яўляецца самым шырокім ва ўсёй яе літоўскай частцы.

Неўзабаве лес скончыўся і пачаўся круты ўздым. Падняўшыся ўгару, я ўбачыў прыгажосць некранутай прыроды: невысокія пагоркі, пакрытыя зялёнымі дыванамі, усыпаныя няяркімі, але заўважнымі кветкамі, над імі кружылі пчолы і пырхалі матылькі. Кветкі былі розных колераў: бледна-жоўтага, бледна-блакітнага, крэмавага. Па баках раслі хмызы і хмызікі, аб'яднаныя ланцугамі з шорсткай травы. Усё трымалася на пяску, учапіўшыся ў яго каранямі. Дзе-нідзе стаялі невысокія чэзлыя дрэўцы ў самых розных паставах: адны нахілены на дзясяткі градусаў, другія сагнуты, трэція сплецены са сваімі братамі, а некаторыя ўзвышаліся стройна і мужна…

Я азірнуўся. Перада мною «ляжала» ўся Клайпеда, якую трымаў у сваёй пашчы заліў. Ён лянотнымі хвалямі-ікламі не мог яе паглынуць, а толькі аблізваў. Я спалохана падумаў, што пры павышэнні вады на некалькі метраў такі прыгожы горад можа быць затоплены. Шматпавярховікі еўрапейскага тыпу, гатэлі, старыя нямецкія дамы хавалі за сабою непрыгожыя хрушчоўкі, якія ўсё ж пераважалі. Горад быў вялікім, але з вышыні ён здаваўся маленькім мурашнікам. Праз заліў чарговы раз плыў паром, а побач з ім рэзалі паветра яго спадарожніцы-чайкі. Па горадзе спяшаліся людзі, цякла Данга з яхтамі, а па дарогах ехалі машыны. У небе лёталі чайкі, а ў космасе імчала наша планета. А дзесьці ўнізе, на ўзроўні маіх ног, поўзалі мурашы, перадаючы адно аднаму эстафету жыцця.

Чым ніжэй я спускаўся, тым болей дрэў сустракаў. Пачыналася другая паласа лесу. Невядома адкуль з'яўляліся людзі; адных абганяў, іншыя абганялі мяне на роварах. Я прысеў і зняў абутак. Цяпер быў у непасрэдным кантакце з прыродай, ва ўсялякім разе праз асфальт. Ступакамі я адчуваў усё тое цяпло, што ён уваб-раў у сябе за ранак. А таксама вострыя каменьчыкі, колкую ігліцу, што апала з высокіх зграбных соснаў. Неўзабаве дрэвы пачалі радзець і я ўбачыў шашу, якая падзяляла другую паласу лесу. Перайшоўшы дарогу, патрапіў на сцежку, цалкам засыпаную сасновай ігліцай і адламанымі галінамі. Тут пачынаўся невялікі пад'ём, а затым рэзкі спуск, потым некалькі крутых купін. Да слыху данёсся слабы шум мора. Я ўпэўніўся, што іду ў правільным кірунку. Тамтэйшыя сосны нагадалі мне родныя, беларускія, але нашыя ўсё ж вышэйшыя і страйнейшыя. Шум хваль узмацняўся, і зноў дрэвы пачалі радзець і адкрываць вачам кавалкі чыстага, блакітнага неба.

Нарэшце я выйшаў з лесу, перасёк роварную сцежку і забраўся па лесвіцы на вялікую дзюну, каб убачыць мора. Яно знікала за гарызонтам. Хвалі нараджаліся за дзясяткі метраў ад берага і павялічваліся па меры набліжэння да яго. Яны ўздымаліся і падалі, ператвараючыся ў пену, што расцякалася на мокрым пяску і імгненна ўсмоктвалася ў яго. Так паўтаралася зноў і зноў. Я спусціўся з лесвіцы і накіраваўся да мора, бо вырашыў ісці берагам. Пясок пёк ступні. Зайшоўшы ў ваду, зразумеў, што яна — адзінае, што не прагрэлася сонцам у сярэдзіне лета. І гэта было добра. Я пайшоў наперад.

Шлях быў няблізкім. Перада мной ляжала дзевяноста кіламетраў Куршскай касы, сорак пяць — яе літоўскай часткі і васямнаццаць — да Юодкрантэ. Кіламетры пяску, мора і дзюн. У моры купаліся ў асноўным дзеці, але дарослыя таксама заходзілі ў ваду. Я перастаў звяртаць увагу на людзей і проста шоў.

З часам людзей станавілася ўсё менш, а потым зноў большала. Нарэшце мая дарога па ўзбярэжжы апусцела. Нечакана пад нагамі з'явіліся водарасці, выкінутыя на бераг хвалямі пасля шторму і змяшаныя з розным смеццем, ракушкамі і каменьчыкамі. У дзесяці метрах ад сябе я ўбачыў сталую кабету. Яна нешта збірала. «Ракушкі?» — падумаў я. Але потым здагадаўся: «Бурштын! Як я мог забыць!»

Паветра поўнілася спёкай. Хвалі лянотна накочваліся на бераг, але некаторыя, асабліва актыўныя, беглі шпарчэй, і іх пена дасягала засохлых водарасцей. Там, дзе хваля прайшла, бліскалі каменьчыкі, між імі маленькімі залатымі зярняткамі зіхацеў бурштын. Некаторыя крупінкі былі празрыстымі, быццам шкло, іншыя — жоўтымі, як ліпавы мёд, ці памаранцава-карычневымі. Памеры таксама розніліся: ад рысавага зярнятка да гарошыны. Я нахіліўся і пачаў збіраць.

Бурштын хаваўся за водарасцямі і розным друзам. Знайсці яго было няцяжка. Я дастаў з сумкі футарал для акуляраў і пачаў складваць зернейкі ў яго. Часам туды трапляліі каменьчыкі, пясок і кавалачкі засохлых водарасцей. Я перасоўваўся з аднаго месца на іншае. За гадзіну прайшоў каля дваццаці метраў. Нягледзячы на стому ў спіне, я збіраў бурштын, забыўшыся на ўсё іншае. Што з ім потым зраблю — не ведаў. Бурштын мне проста падабаўся. Ды і застанецца памяць пра вандроўку.

Бурштын быў дробны. Неўзабаве я заўважыў у некалькіх метрах ад сябе дзве постаці. Дзяўчыну гадоў дваццаці і школьніцу малодшых класаў, напэўна, яе сястру. Старэйшая была ў купальніку з пакрывалам на спіне. Яна марудна збірала дарунак мора. Малодшая цалкам хуталася ў пакрывала і абыякава швэндалася па беразе.

«Што там пасля мяне засталося? — падумаў. — Я ж збіраў дбайна». З цікавасці накіраваўся да іх, каб спытаць. Не ведаючы, з чаго пачаць, я прамовіў:

— Тут яшчэ ёсць бурштын?

Дзяўчынка здзіўлена паглядзела на мяне і перапытала:

— Ką?

Гэтага варта было чакаць. Не ўсе літоўцы, асабліва маладыя, ведаюць мову суседзяў. Таму я проста прамовіў:

— У гэтым месцы я ўвесь бурштын сабраў. Тут, напэўна, толькі дробнюткі застаўся.

— Драбнюткі… — не вельмі разумеючы, што я гаварыў, згадзілася дзяўчына.

Я пастаяў колькі секунд і рушыў збіраць. З кожным метрам бурштыну станавілася ўсё меней. Я нарэшце паклаў футарал у сумку і пакрочыў далей.

Праз некалькі гадзін хады пачалі часцей з'яўляцца людзі. Калі народу стала трапляцца шмат, я збочыў да дзюн і падняўся па лесвіцы. Там сеў на лаву і перакусіў. На ўказальніку было пазначана «Klaipedą 15 km». Другая шыльда паказвала ў бок Юодкрантэ. Я пайшоў гэтай дарогай. Зноў, як і ў пачатку, быў пад'ём і спуск, які цягнуўся каля кіламетра. Падыходзячы да першых катэджаў, я заўважыў ля дарогі рэшткі сцен дзвюх драўляных хат. Сцены былі моцна нахілены і ледзь трымаліся. Я пашыбаваў далей і праз колькі хвілін апынуўся на аўтобусным прыпынку, які знаходзіўся ў некалькіх метрах ад берага заліва, вельмі шырокага ў гэтым месцы. Па раскладзе аўтобус павінен прыбыць праз сорак хвілін. Мне закарцела прайсціся па галоўнай вуліцы, паглядзець гарадок. Але нечакана да

мяне падступіўся бомж з рудымі вусамі і спытаў нешта па-літоўску. Я перапытаў, і ён паўтарыў па-руску:

— Добра загарэў! — прамовіў ён, паказваючы на мае чырвоныя плечы. Успомніўшы, што я ўжо некалькі гадзін без майкі, апрануў яе.

— Ішоў пешкі дваццаць кіламетраў ад Клайпеды.

— Ад Клайпеды? Гэта ж так далёка.

— Хацелася прагуляцца. Цяпер еду назад.

— Так, час ехаць у Клайпеду, наш родны горад… Вінцас, — працягнуў ён мне сваю брудную руку.

— Антон, — адказаў я і працягнуў сваю. — Ці ведаеце вы, тут акрамя аўтобуса штосьці яшчэ ходзіць да Клайпеды?

— Нічога. Я нікуды адсюль не езджу.

— Што ж, давядзецца чакаць аўтобус.

— О, мой сябар едзе! — Вінцас паказаў на хлопчыка гадоў адзінаццаці, які пад'язджаў да нас на ровары.

Малы нешта спытаў у мужчыны. Валацуга паспешліва адказаў хлопчыку і паказаў на рыбака, які вудзіў у заліве. Потым павярнуўся да мяне і патлумачыў:

— Мне трэба аднесці вось таму рыбаку піва.

І ён пайшоў да берага заліва.

Я пагуляў сорак хвілін па горадзе, а потым вярнуўся на прыпынак. Аўтобус з'явіўся праз хвіліну, і я ледзьве паспеў абуцца. Ехалі хвілін пятнаццаць да пераправы, па вузкай шасейнай дарозе, вакол якой стаяў лес хударлявых соснаў. Калі транспарт спыніўся, я накіраваўся да прычала. Людзей было настолькі шмат, што, калі яны пачалі заходзіць на паром, то частка з іх не ўмясцілася. На сярэдзіне заліва паром спыніўся, і пасажыры некалькі хвілін чакалі, пакуль пройдзе вялізны лайнер. Усё ж паром дабраўся да процілеглага берага. І праз гадзіну я быў дома.

Тыдзень амаль не спаў, бо на плячах з'явіліся пухіры — дакладна такія ж, як бурштын, які я збіраў. Толькі пухіры зніклі, а бурштын як ляжаў у скрыначцы, так і ляжыць да гэтага часу.



Аляксандр ДАЛІМАЕЎ

# ЛЕПШАЙ ДОЛІ САБЕ НЕ ЖАДАЮ



***Аляксандр Далімаеў нарадзіўся 1 жніўня 1951 года ў вёсцы Пустынкі Сенненскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Працуе ў навукова-даследчым інстытуце ў галіне воднай экалогіі. Вершы друкаваліся ў часопісе «Маладосць» і штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».***

## ІДЗІЦЕ НА КАНЦЭРТЫ

Ад стомы з нуднай працы, бясконцай, без уліку,
Калі забыўся шчасця і радасці матыў,
Ідзіце на канцэрты да чуйных струнаў скрыпак,
Каб адзіноты холад у сэрцах не застыў.

Пакіньце ў гардэробе тлум неладу з начальствам
І крыўду, што не шчасціць, пакіньце незнарок.
Сыходзьце ў свет сімфоній, рамансаў, маршаў, вальсаў,
Сцішаючы на лёдзе паркетным першы крок.

Як птушка, страпянецца душа пры першых гуках,
І затрымаць бяглячку не здолееш нічым.
Не бойцеся забыцца ў салодкіх светлых муках,
Ляцець у захапленні да зорных далячынь.

Вам прыгадае памяць, якім быў таямнічым
Ваш першы крок па свеце ў далёкія гады.
І ўспомніцца дзяцінства ў мігценні зорак-знічак,
Пяшчотны дотык хваляў гарэзлівай вады.

Рой цёплых успамінаў на скрыпку адгукнецца,
Палоняць мроі шчасця пад пройгрышы трубы.
І зноў у светлым замку жыццё душы пачнецца,
Якім бы нелагодным учора лёс ні быў.

## ЛЕПШАЙ ДОЛІ САБЕ НЕ ЖАДАЮ

Шчасціць мне, што ты здольна любіць
Так, каб кожным імгненнем, што побач,
Даражыць, каб удзячнаю быць
Лёсу гэткаму — ранкам ці ў поўнач
Адчуваць, што мы побач, мы побач.

Усміхацца, глядзець шчыра ў вочы
І хіліцца, бы ветрыкам клоніць,

Лёгкім станам усцешным жаночым
Мне ў абдымкі пяшчотных далоняў,
Каб бліжэй да маіх твае вочы.

З той пары, як сустрэўся з табою,
Лепшай долі сабе не жадаю.
Што калісьці прыходзіла ў мроях,
У бяссонніцы, ў момант адчаю —
Адкрываю ў табе, адкрываю…

## ДАРОЖНЫ РАМАНС

Забуду пра цябе або люблю ўсур'ёз?
Напэўна, адказаць не здолею адразу.
Даўно такіх сустрэч не пасылаў мне лёс,
І да цябе ніхто балюча так не ўразіў.

Мне колы грукацяць: што выпала —
трывай.
Твар у аконным шкле, як на кінаафішы.
Няхай ты ўсё далей — я буду баляваць,
Каб палкі успамін хоць як вінам
прыцішыць.

## МЫ ВЫХОДЗІМ НА ПРАСПЕКТЫ

Мы выходзім на праспекты
Вастрасловіць, жартаваць,
У неонавым паветры
Адзіноту пахаваць.

Ўпотай марым пра сустрэчу
З незнаёмкай, і, павер, —
Ліхаманка слоў сардэчных
У адважнай галаве!

Сёння зноў не выйшла справа —
Іншым лёс наканаваў.
І яе дарэмна кавай
Я за стойкай частаваў.

Не знайшлося той зачэпкі —
Разышліся караблі.
Разляцеліся, як шчэпкі,
Што не здатны да любві.

Толькі каб хапіла спрыту
Не даваць нагам адбой!
Каб надзея стала збытнай
Заўтра побач быць з табой!

## ЛЕТА

Запоўніла лета прастор існавання —
Квітнее і пахне ў брыльянтах расы.
Нястрымна ўздымаецца сіла жаданняў
Ад ранішніх спеваў на ўсе галасы.

Нібыта з нябёсаў лагодна-спякотных
У сэрца ліецца прамень залаты.
Не знойдзеш і следу ты думак
маркотных —
Забылася сцюжа зімовай слаты.

І прагай жыццёваю поўняцца грудзі,
Як лашчыць паветра струмень валасы.
Ад холаду ў сэрцы збаўляюцца людзі
Ў абдымках спагадлівай летняй красы.

## НАШ ШЛЯХ

На асколку свабоднай зямлі
Ад распаду вялікай дзяржавы
Гарызонты снягі замялі,
Ды пужацца — апошняя справа.

Мы яшчэ за сябе пастаім,
Ёсць у душах ранейшая сіла.
Хай не ходзіць туды пілігрым —
Храмы ёсць і святыя магілы.

І свой шлях пройдзем мы да канца,
Так, як продкі за праўдай хадзілі.
Гэта міф для падлетка-хлапца,
Што ўсе дбаюць аб хлебе адзіным.

Мы ідзём, і дарога нясе
Асвятленні і новыя сілы.
Нашу веру шукаем усе,
Што, як песня, душы будзе мілай.

Ірына ШОРАЦ

# НОЧ. ДЗЕНЬ. НОЧ

*Апавяданне*



***Ірына Шорац нарадзілася 29 жніўня 1980 года ў Паставах. Скончыла БДУКіМ. Любімы паэт — Максім Багдановіч. Аўтарцы падабаецца пісаць апавяданні дзеля запальвання зорачак надзеі і аптымізму ў сэрцах беларусаў.***

«Дзень і ноч» — так называўся атэль у адным еўрапейскім горадзе, у які яна прыехала позна ўвечары. І таму ёй неабходны атэль на ноч, дзень і яшчэ адну ноч. Неонавая шыльда міргала, паказваючы толькі слова «Ноч», але бачылася, што ёсць яшчэ і слова «дзень». «Назва падыходзячая», — падумала яна і зайшла ў фае. Малады мужчына апярэдзіў яе, не прытрымліваючы за сабою дзверы, якія ледзь не выпіхнулі яе зноў на вуліцу.

— Хам! — выгукнула яна, спадзяючыся, што ён не зразумее.

— Выбачайце, вы мне? — мужчына азірнуўся і заўважыў свой промах.

— Вы мяне ледзь не забілі дзвярамі, — прамовіла дзяўчына незадаволена.

— Прабачце, я моцна спяшаюся, — і мужчына падышоў да адміністратара. Яна таксама падбегла, і так атрымалася, што яны сказалі разам па англійску:

— Мне патрэбен нумар на аднаго.

Маладыя людзі пераглянуліся, а потым засяродзіліся на словах адміністратара. Гэта быў невысокі мужчына сярэдніх гадоў з вясёлай усмешкай, якая хавалася за яго шыкоўнымі вусамі, крыху пажаўцелымі ад тытуню. «Ён курыць люльку», — падумала яна і ў гэты момант адчула пах вішнёвага тытуню.

— Выбачайце, але ёсць толькі адзін нумар, — прамовіў адміністратар, уважліва разглядаючы бяздоннымі чорнымі вачыма гасцей.

— Я першы зайшоў у гатэль. Мне вельмі патрэбен нумар, — мужчына з мальбой зазірнуў у вочы дзіўнаму адміністратару.

— Я была першай! — абырулася дзяўчына. — Каб не ваша нахабства, то былі б за мной!

— Прабачце, але мне вельмі патрэбен нумар. Я абышоў увесь раён, нічога не знайшоў, — з просьбай звярнуўся да яе мужчына.

— А мне што рабіць? На вуліцы заставацца?

І яны гатовы былі пачаць сварку, але адміністратар націснуў званок на стойцы, ад чаго госці замоўклі.

— Нумар ёсць, але ён вясельны. Вядома, калі вас задаволіць яго кошт, то — калі ласка, — у зморшчынках пад вачамі адміністратара забегалі хітрынкі.

— Колькі? — спыталі госці разам. Мужчына паглядзеў на яе, як быццам вызначыў памер яе кашалька.

Калі адміністратар назваў кошт, то наведвальнікі адчулі шокавае здзіўленне.

Але адміністратар прапанаваў зрабіць вялікую зніжку, калі яны здымуць нумар на дваіх.

— А там толькі адзін ложак? — запыталіся падарожнікі разам.

— Так, таму я і прапаную вам зніжку.

— Што будзем рабіць? — спытаў ён у яе. — Вы адкуль?

— З Мінска, а вы?

— З Масквы. Амаль што землякі! — узрадаваўся мужчына.

— Не амаль што, а зусім не землякі! Я з Беларусі, а вы з Расіі, гэта дзве розныя краіны! — абурылася жанчына.

— А як жа наконт братэрскіх адносін?

— Я так разумею, што вы згодны. У вас нават агульная тэма знайшлася, — зрабіў выснову адміністратар.

— Так, — пагадзіўся мужчына і палез у кішэню, — спадзяюся, што гэтая нацыяналістка мяне не заб'е.

— Я вам дакажу, што Беларусь зусім не сястра Расіі, — гучна прамовіла яна і дастала свой кашалёк.

— Добра, я люблю паразмаўляць, — сказаў масквіч і ўзяў ключ з рук адміністратара. — Пойдзем у наш вясельны нумар, — засмяяўся ён па дарозе да ліфта.

— Добрай вам ночы, паважаныя, — усміхнуўся адміністратар і дастаў схаваную за стойкай люльку, зацягнуўся і выпусціў кольцы дыму, атрымаўшы адавочнае задавальненне.

Калі масквіч і мінчанка ўвайшлі ў нумар, то схапіліся за бакі ад смеху. Вялізны ложак быў упрыгожаны штучнымі кветкамі, падушкамі ў форме сэрцаў і лебедзямі з ручнікоў.

— Можна, я першая ў душ, — адсмяяўшыся, запытала яна.

— Добра, — пагадзіўся ён і ўключыў тэлевізар.

Яна зайшла пад струмені вады і толькі цяпер адчула палёгку. Дзіўна, але ёй не страшна з новым знаёмым. Зусім. Нават дзіўна. Можа, гэта звязана з тым, што яна адна вандруе па Еўропе. Так атрымалася, што ёй бясплатна па рабоце зрабілі візу на год. І яна амаль што кожныя выходныя вандруе па Еўропе. Прыязджае на дзень, пагуляе па горадзе і назад, на радзіму, у родны Мінск, бо пасля выходных наступае рабочы тыдзень. Ёй падабаліся яе маленькія вандроўкі. Новыя краіны, гарады, людзі. І мова замежная лепш засвойваецца, калі няма на каго спадзявацца, а толькі на сябе. Успамінаеш усё, нават чаго і не ведала. А колькі эмоцый і захапленняў ад помнікаў архітэктуры кожнага горада! Ёй выпала цудоўная магчымасць, якой дзяўчына вырашыла скарыстацца. Яе мара пабачыць свет — здзяйсняецца. І ёй шанцуе нават з новым знаёмым. Дарэчы, вельмі сімпатычным.

Калі яна выйшла з ванны, масквіч сканаваў тэлевізар.

— Я знайшоў тут гарбату, хочаш? — спытаў ён.

— Дзякуй, я з радасцю вып'ю.

— Тут ёсць шампанскае, я не ведаю ці п'еш ты? — жартаўліва прамовіў ён, перашоўшы на «ты». Мінчанка гэтага не заўважыла.

— Шампанскае? А яно ўключана ў аплату нумара? — пацікавілася дзяўчына.

— Не хвалюйся. Гэта вясельны нумар, у яго ўсё ўключана! Ну што, вып'ем за саюз Расіі і Беларусі? — адчувалася, што масквіч ужо адзначыў гэты саюз.

— Добра, але за сяброўскі саюз, — удакладніла яна.

— Як скажаш.
Масквіч разліў шампанскае па бакалах.
— Што глядзіш? — спытала яна пра тэлевізар.
— Сюжэт пра Катрын Дэнёў.
— Добрая актрыса.
— Я таксама лічу.
— Цікава, а што б ты хацеў зрабіць у сваім жыцці, калі б табе сказалі, што хутка надыдзе канец свету? — неспадзявана спытала мінчанка.
— Ты пра 21.12.2012?! — здзівіўся масквіч.
— Не. Проста дзеля размовы, — усміхнулася яна.
— Тады, тады… — разважаў масквіч, не адрываючы позірк ад тэлевізара, — я паехаў бы да Катрын Дэнёў і правёў бы з ёй апошні дзень жыцця.
— Яна ж старая ўжо для цябе, — засмяялася мінчанка.
— Я б клапаціўся пра старэнькую Кацярын, — смяяўся ён. Было весела і лёгка. Магчыма, дзякуючы смачнаму шампанскаму.
— А ты? Што зрабіла б ты? — спытаў ён.
— Я… напэўна… не… — яна на поўным сур'ёзе не ведала што адказаць. — Я не думала пра гэта. Мо паехала б туды, дзе яшчэ не была, каб пабачыць штонебудзь прыгожае і незвычайнае.
— Ты і цяпер гэта робіш? — спытаў ён, уважліва разглядаючы новую знаёмую.
— Магчыма. Я атрымала візу, вось і карыстаюся момантам. Люблю вандраваць.
— І мне падабаецца. Хочаш, заўтра разам пагуляем па горадзе. У мяне выхадны. Я прыляцеў раней, чым трэба, пераблытаў дні. Са мною такое здараецца, — усміхаўся масквіч. — А ў нядзелю мне дадуць ужо камандзіровачны нумар у тым гатэлі, у які сёння не пусцілі, — шчыра распавядаў новы знаёмы.
— Цябе не пусцілі? — здзівілася мінчанка і засмяялася, успомніўшы іх сустрэчу.
— Ты чаго? — удакладніў ён.
— Проста смешна. І гэты адміністратар, — яна не вытрымала і павалілася ад смеху на ложак. Ён таксама рагатнуў, зразумеўшы прычыну яе весялосці.
Яны ляжалі на ложку, прытуліўшыся галавой адно да аднаго і смяяліся. Потым узнікла паўза, якая, здавалася, павісла ў люстры на століі. Масквіч парушыў сцішанасць.
— Можна, я цябе пацалую? — нечакана спытаў ён.
Мінчанка пяшчотна ўсміхнулася, але прамовіла:
— Ты хацеў паразмаўляць, вось і давай лепш гаманіць…

Масквіч адправіўся ў душ, а яна вылажыла «мяжу» Расіі і Беларусі з падушак у выглядзе сэрцаў і заняла сваю тэрыторыю, накрыўшыся ружовай коўдрай.
— Можа, яшчэ візавы кантроль зробіш? — паздзекаваўся ён, калі заўважыў «мяжу» на шлюбным ложку.
— А пра што ты звычайна любіш пагаварыць? — спытала яна, не рэагуючы на яго кпін.
— Пра ўсё, што заўгодна… Раскажы мне, чаму ты не лічыш Расію сястрой Беларусі?
— Так склалася гісторыя…
Яны доўга гаварылі пра ўсё на свеце, пакуль не адчулі стомленнасць. Спачатку яны заснулі кожны на сваёй тэрыторыі, якую вызначыла мінчанка. Але ноччу «мяжа» часта парушалася Расіяй. Масквіч пяшчотна абдымаў, уткнуўшыся галавой у спіну мінчанкі. Дзяўчына не супраціўлялася. Такі цёплы захоп ёй падабаўся, толькі складана было заснуць ад новых думак у галаве і пачуццяў у целе.

Раніцай іх з радаснай усмешкай сустрэў адміністратар і прапанаваў каву ў кафэ гатэля. Там акрамя іх нікога не было, але масквіч і мінчанка гэтага не заўважалі, яны жартавалі, разглядвалі карту горада і пазначалі месцы, якія трэба абавязкова наведаць. Масквіч і мінчанка выпілі кавы з малаком са свежымі піражкамі з абрыкосавым начыннем і пайшлі гуляць па горадзе. Выходзячы з атэля, мінчанка заўважыла, што днём на шыльдзе свяцілася слова «дзень». Дзіўны атэль. Нібыта чароўны.

Масквіч і мінчанка атрымлівалі асалоду ад прагулкі па горадзе. Яны наведалі палац, пагулялі па парку. Абмяркоўвалі ўбачанае, захапляліся, з чымсьці не пагаджаліся. Часам спрачаліся. Фатаграфавалі адно аднаго на свой фотаапарат. Яна зрабіла шмат кадраў з масквічом, пакуль ён спускаўся па лесвіцы да яе. Калі падышоў блізка, яна нечакана для іх дваіх пацалавала яго і ўсміхнулася. Ён успрыняў гэта як сяброўскае перамір'е дзвюх краін.

Потым сядзелі ў кафэ, пілі віно, казалі тосты за горад і экскурсію, святочна вячэралі, рыхтаваліся да апошняй сумеснай ночы ў шлюбным нумары дзіўнага атэля пад звычайнай і загадкавай назвай «Ноч. Дзень». Па дарозе ў атэль масквіч набыў шампанскае і цукеркі. Мінчанка купіла сувеніры для калег. Адміністратар шчыра ўсміхнуўся пры сустрэчы з дзіўнай парай з вясельнага нумара.

Масквіч уключыў музычны канал, прыглушыў святло. Мінчанка прыпудрыла носік. Яна ўвайшла ў пакой. На століку стаялі бакалы з шампанскім, у якіх адлюстроўваліся аромасвечкі. Масквіч сядзеў у крэсле і чакаў дзяўчынку. Яна падышла да яго, села яму на каленкі і нахілілася да яго твару. Некалькі секунд яны проста глядзелі адзно на аднога, потым пачалі цалавацца… Не было ніякіх нацыянальных прытэнзій, ніякіх межаў. Былі толькі сапраўдныя пачуцці двух сэрцаў, якія біліся ў адзін такт.

— Я хачу правесці цябе да цягніка, — сказаў масквіч, трымаючы мінчанку ў моцных і ў той жа час пяшчотных абдымках.

— Не трэба, — прамовіла яна. — Я не люблю развітанні.

Ён пакрыўджана ўздыхнуў. Яна гэта адчула.

— Хочаш, я напішу табе смс, калі сяду ў цягнік?

— Угу…

Гадзіннік пабудзіў іх рана. Але яны не маглі падняцца з ложка, не мелі сілы адарвацца ад той утульнасці, якая іх паядняла ў гэтым нумары незвычайнага атэля.

Хутка цягнік. Яна нават кавы не папіла. Ён таксама сабраўся.

— Давай прысядзем на дарожку, як кажуць, — прапанаваў масквіч. Мінчанка села на ложак. Ён паклаў галаву ёй на калені. Яны маўчалі. Быццам запаміналі адно аднаго. Яна зірнула на гадзіннік.

— Я спазняюся!

Далей усё адбывалася надзвычай хутка. Яны выбеглі з нумара. Адміністратар на развітанне памахаў ёй рукою. Толькі потым, ужо ў цягніку, яна зразумела, што ў атэлі меліся вольныя нумары. Пра гэта сведчылі ключы, якія віселі з нумаркамі за спінай адміністратара-зводніка адзінокіх сэрцаў.

Цягнік яшчэ стаяў. Яны паспелі. Аддыхаліся. Абняліся. Гэта ўсё адбывалася нібыта ў адно імгненне, а здавалася, што як у кіно ў запаволеных здымках. Яны пацалаваліся на развітанне.

— Дзякуй табе за ўсё, — прамовіў масквіч і выпусціў мінчанку са сваіх абдымкаў.

Яна ўвайшла ў вагон. Яна не перажывала з-за таго, што не абмяняліся нумарамі тэлефонаў. Сэрца ёй падказвала: яны яшчэ абавязкова сустрэнуцца.

Ірына ХАДАРЭНКА

# УСЁ БУДЗЕ ДОБРА

*Апавяданне*



***Ірына Хадарэнка (Шумская) нарадзілася 19 чэрвеня 1976 года ў Мінску. Выдала тры кнігі паэзіі і прозы, дзве навуковыя манаграфіі. Займаецца даследчай працай, мастацкімі перакладамі і арт-праектаваннем. З задавальненнем вандруе па свеце, любіць прыроду і шукае свабоду. Ганарар за публікацыю ахвяруе Беларускаму дзіцячаму хоспісу.***

…А зараз — прагноз надвор’я. У бліжэйшыя суткі будзе воблачна з праясненнямі, мокры снег, галалёдзіца. Тэмпература днём ад трох да шасці з мінусам, ноччу да адзінаццаці градусаў ніжэй за нуль. На Новы год нябесная канцылярыя абяцае нам адмыслова святочнае навор’е — днём два-шэсць градусаў марозу, ноччу да мінус васьмі, часам снег. Наш тэлеканал віншуе вас з надыходзячым святам і зычыць здароўя, шчасця і дабрабыту!

Надзея зменшыла гук у тэлевізары і пачала гатаваць кашу. Адвячорак яшчэ не стаяў на парозе, але на вуліцы ўжо было цёмна, за акном павольна пралятаті сняжынкі, здалёк чуліся галасы падгулялай моладзі і гукі петард. Жанчына працягнула руку за соллю, і ў каструльку з кіпнем раптоўна ўпала слязінка. «Ну вось, так міжволі і вада падсоліцца», — падумала Надзея і выцерла вочы.

Прамінула больш за месяц з таго моманту, як яна забрала малога Мікіту з хоспіса.

— Дома яму будзе лепей, — сказаў доктар. — Мы зрабілі ўсё, што было магчыма. Але, паводле аналізаў, хвароба працягвае прагрэсіраваць. Цяпер застаецца спадзявацца толькі на цуд.

— А колькі… яшчэ… — задыхаючыся ад болю, ціха выціснула з сябе жанчына.

— Гэта невядома дакладна, — апускаючы вочы перапыніў яе доктар. Столькі разоў ён агучваў гэты стандартны набор фраз, але звычка да іх так і не ўсталявалася. — Магчыма, месяц, а магчыма — тры ці чатыры. Усё залежыць ад індывідуальных асаблівасцей арганізма.

— Я магу забраць сына цяпер? — усхліпнула Надзея.

— Так. Але давядзецца пачакаць хвілін дваццаць, пакуль я аформлю дакументы. Дзяжурная медсястра прынясе іх вам у палату.

Надзея моўчкі выйшла з кабінета. Доўгі белы калідор са слабым святлом у канцы здаўся ёй вагонам цягніка, які застыў на парозе бездані. Кожны крок наперад рэхам адбіваўся ў сэрцы.

«Няўжо сапраўды нічога больш нельга зрабіць? Зусім-зусім нічога? Толькі змірыцца і пакорліва чакаць непазбежнага?..»

Уваходзячы ў палату да сына, яна пабачыла манашку, якая ў тэмпе allegro перасоўвалася ад аднаго дзіцячага ложка да другога. Падскочыўшы да соннага Мікіты, боская служка дакранулася да ягонай галавы і рэчытатывам прамовіла: «Бог любіць цябе. Усё будзе добра». Маці падышла і села на ўскрайку ложка, утаропіўшыся ў нябачную кропку на супрацьлеглай сцяне. «Наведайце наш храм, — манашка зычліва працягнула жанчыне маленькую папяровую картку. — І будзьце благаслаўлёныя!» Надзея механічна паклала картку ў кішэню і ўзняла вочы на сына. Бледны і схуднелы, ён сціпла ўсміхаўся матулі:

— А праўда, што мне ўжо можна пайсці дадому?

— Праўда. Давай-ка пачнем апранацца.

* * *

Сумныя згадкі спыніў званок у дзверы. Надзея перакрыла падачу газы — каша амаль гатовая. А хто ж там раптам да нас завітаў? У маленькім ілюмінатары, уціснутым у драўляны масіў дзвярэй, мільгануў твар суседкі Веры.

— Добры вечар, — зашчабятала яна. — Надзечка, зазірніце да мяне, калі ласка. Я хацела вам нешта перадаць.

Без асаблівай ахвоты Надзея ўсё ж пераступіла парог суседскай кватэры. Цягам апошняга месяца тут было шмат візіцёраў, бо гаспадыня збіралася эмігрыраваць і выставіла жытло на продаж.

— Ведаеце, — працягвала шчэбет Вера, — у вас хутка будзе новая суседка. Скажу шчыра, не надта яна мне спадабалася. Нейкая фіфа. Але што зробіш — ейны кавалер (выгляд, у яго, між іншым, як у бандзюгана) прапанаваў нават трохі болей грошай, чым я меркавала атрымаць. Дарэчы, я ўжо амаль сабралася і паслязаўтра ранкам з'язджаю. Хочацца сустрэць Новы год на новым кантыненце. Да таго ж, у студзені ў мяне юбілей. Планую адзначыць яго прыгожа, на беразе акіяна. Бо тут пасля сарака гадоў жыццё ў жанчын заканчваецца. Пачынаецца марнатраўнае існаванне і адзіны змрок наперадзе… Ай, ладна, што гэта я… Сёння ж Каляды, трэба сабе настрой узнімаць, нягледзячы ні на што. Я вось, Надзея, хачу вам падарунак зрабіць. Так бы мовіць, у знак суседскай прыязнасці.

Вера выцягнула з шафы доўгую дэкальтаваную сукенку барвовага колеру, аздобленую люрэксам, і працягнула суседцы:

— Мяркую, яна ідэальна падыдзе па памеры. Колер вам відавочна пасуе. Гэта з буціка, італьянская мадэль. Была ўжыта мной толькі аднойчы для наведвання фуршэту, фактычна, новая рэч…

— Ой, навошта? — засаромелася Надзея. — Мабыць, не трэба. Куды мне яе апранаць?

— Што значыць куды? Вы ж яшчэ маладая прывабная жанчына. І ў рэстаран можна пайсці, і на спатканне з якім-небудзь прыстойным кавалерам. Хоць дзе іх тут прыстойных знойдзеш? Засталіся рэліктавыя адзінкі… Мне вось пашанцавала: адшукала ў сеціве багатага немца, што жыве ў Канадзе. Пачну жыццё наноў. Бацька мой не дажыў да гэтага моманту, але, мабыць, яно да лепшага. Бо так і прадбачу ягоны абураны лямант: «Я з фрыцамі ваяваў, а ты з адным з іх радзіме здраджваеш?!» А што мне тая гаротная радзіма? Як казалі рымляне, дзе добра, там і радзіма… Вось і вам раю, Надзечка, падумаць пра асабістае жыццё ў блізкім ці далёкім замежжы, бо тутака няма чаго лавіць. Таму трымайце і ніякіх адмоў, — і яна рашуча ўсунула сукенку ў рукі Надзеі.

Жанчына разгублена назірала за гэтым актам шчодрасці Веры, з якой яны амаль не кантактавалі раней. Выгляд спустошанай кватэры са спакаванымі чамаданамі пасярэдзіне пакоя дадаваў адчуванне нейкай прыгнечанасці.

— Ой, Надзечка, у мяне ж да вас будзе просьба, — твар суседкі расплыўся ў лагоднай усмешцы. — Вы — мая апошняя надзея, больш няма да каго звярнуцца з гэтай далікатнай справай. Хвіліначку, — Вера пабегла на кухню і ўмомант вярнулася, трымаючы ў руцэ клетку з хвалістым папугайчыкам. — Вось... Гэта Крокус. Цудоўная птушка! Столькі гадоў мы сябравалі! Вельмі шкада, але я не магу забраць папугайчыка з сабой. Можа, вы б пагадзіліся ўзяць для малога? І птушцы нагляд, і хлопчыку — радасць.

— Але… я… Мікіта, — Надзея ад нечаканасці з цяжкасцю падбірала словы.

— Вы не хвалюйцеся, — супакойвала яе суседка. — Крокус вельмі разумны, клопатаў з ім аніякіх. Корм на першапачатковы перыяд я пакіну, а ўвогуле каштуе ён нядорага. Нават не сумнявайцеся! Гэты папугайчык заўсёды прыносіў мне ўдачу. А цяпер будзе прыносіць вам. Ён сапраўдны талісман шчасця! І, між іншым, размаўляе на трох мовах! Так што будзе вашаму Мікіце добрая кампанія.

Апошні аргумент цалкам заглушыў рэшткі дыпламатычнай супярэчлівасці ў душы Надзеі, і яна працягнула руку за клеткай. Папугайчык усхвалявана замітусіўся і прагаманіў:

— Крокус харошы!

— Вось бачыце, — задаволена сказала Вера. — Ён такі, з ім не засумуеш.

— Дзякуй вам, — Надзея крыху насцярожана глядзела на птушку.

— Ой, няма за што. Гэта вам дзякуй. Я ўпэўнена, што Крокусу будзе ў вашай сям’і добра. І ўвогуле, усё будзе добра. Бо як жа іначай? — рэзюмавала Вера, праводзячы суседку да дзвярэй.

Крокус… Гэта ж трэба такая неспадзяванка!.. Калісьці былы муж, а тады яшчэ жаніх, падарыў ёй экзатычную кветку ў гаршчочку. Толькі той крокус быў блакітны, а гэты — жоўценькі, як сонейка. Кветка, на жаль, з цягам часу звяла. А муж, калі даведаўся пра сынаў дыягназ, стаў моцна насядаць на гарэлку. Грошай увесь час не хапала, пачаліся бясконцыя сваркі. Пасля непазбежнага разводу ён з’ехаў працаваць на Усход. Зрэдку пісаў лісты, цікавіўся, як справы ў малога, потым і гэтыя знакі ўвагі скончыліся. Мікіта часта пытаўся, дзе бацька. Прыходзілася тлумачыць, што ён не проста так знік, а патрапіў у чароўную Краіну Мрояў, дзе ўсе жывуць шчасліва і ніколі не хварэюць.

* * *

Еў Мікіта зусім без апетыту, прыўзняўшыся ў ложку свайго пакоя, заваленага стосамі кніжак і скрыначак са старым тэатральным рэквізітам.

— Няўжо каша такая нясмачная? — непакоілася Надзея.

— Ды не, мама, мне ўжо не хочацца.

— А чаго тады хочацца? І што б ты хацеў атрымаць у падарунак?

— Мне б, мама, марцыпанаў. А яшчэ — патрапіць у Краіну Мрояў, — упэўнена вымавіў малы. — Я бачыў яе ў сваіх снах. Там цёпла і прыгожа. Няма болю і смутку. Там усе ўсміхаюцца і нікуды не спяшаюцца…

— А ведаеш, наша суседка з’язджае, — Надзея паспрабавала перавесці гутарку ў іншы кірунак.

— Куды? У Краіну Мрояў?

— Відаць, што так.

— Ого! Вось дык добра! А калі ўжо я туды паеду, мама? Дзеці ж таксама там жывуць…

— Не ведаю. На ўсё свой час.

— А што бацька мне падорыць на Новы год? Ён у сне абяцаў даслаць з Краіны Мрояў нейкі сюрпрыз.

— Будзе табе сюрпрыз. Але спачатку з’ясі ўсю кашу, — настойліва сказала Надзея і пайшла за клеткай з папугайчыкам.

Пасля з’яўлення ў пакоі птушкі малы ад здзіўлення выпусціў з рукі лыжку:

— Дык вось ён які, вартавы Краіны Мрояў!

— Гэта папугайчык, сынок. Яго завуць Крокус.

— Крокус? Вось дык фокус! Ён забярэ мяне ў Краіну Мрояў! — малы ўсхвалявана ўскочыў з ложка.

— Рана яшчэ табе туды збірацца, — роспачна прамовіла маці. — Можаш пакуль падысці пазнаёміцца з птушкай. Крокус умее размаўляць. Вось і распытай яго, адкуль ён прыляцеў. А потым — трэба класціся спаць, бо заўтра ў нас важная справа — будзьма ўпрыгожваць елку.

* * *

Раніцай, накарміўшы сына сняданкам, Надзея выправілася на кірмаш. Трымаючы ў руцэ пакет са смеццем, яна выйшла на вуліцу і заўважыла перад домам старую дворнічыху, якая дзяўбла рыдлёўкай лёд на тратуары. З крыкам: «Прывітанне, Казіміраўна!» да старой шпарка набліжаўся супрацоўнік ЖЭСа. Дворнічыха, спыніўшы свой занятак, незадаволена буркнула ў ягоны бок:

— І чаго ты прыбег сюды, гаспадар-начальнік?

— Казіміраўна, ратуй, — запыхана вымавіў мужчына. — Трэба, каб ты заўтра на працу выйшла, бо няма каму.

— Ох, зацкавала мяне ўжо гэтая трасца! — абурылася старая, адкідваючы правым ботам кавалак лёду. — З якой нагоды мне зноў шанцуе, як тапельцу?

— А з такой, што напарніца твая, Любоў, у рэанімацыі. Кажуць, інсульт. Севасцьянавіч у чарговы раз у запоі. А тут замаразкі абяцаюць.

— Ох, Божачкі! Што ж гэта робіцца?.. І калі я ўжо нарэшце адпачну? Мабыць, на тым свеце…

— Казіміраўна, я табе прэмію падвышу. І каб купіла сабе адразу далькажык, чуеш?

— А на халеру ён мне? Усё жыццё без яго абыходзілася… Дык што там Любка? У цяжкім стане?

— Піць трэба меней Любцы тваёй. Падрабязнасцей не ведаю. Але яна ў шпіталі хуткай дапамогі і ў бліжэйшы час, відавочна, на працу не выйдзе. Спадзяюся, усё будзе добра.

— Анягож! Будзе добра… Але, відаць, не для ўсіх.

— Ай, што ты вярзеш, Казіміраўна. Карацей, мы з табой дамовіліся. А я падрыпаю далей, бо ў суседнім квартале зноў трубу прарвала, каб яе ліха! — і «гаспадар-начальнік» хуткім крокам пашыбаваў уздоўж сметніцы, абганяючы Надзею.

* * *

На кірмашы напярэдадні свята было шматлюдна. Увагу Надзеі прыцягнула велізарная чарга ў прадуктовым аддзеле, у якой таўкліся пераважна кабеты пенсійнага ўзросту.

— Што даюць? — запытаўся нізкаваты мужычок з торбай, прыладкоўваючыся ў канцы чаргі.

— Мяса. Зніжка дваццаць працэнтаў, — з каменным тварам адказала кабеціна ў пухавіку. — Будзеце за мной.

— Э-э… Дык мо гэнае мяса ўжо з душком? Ці якое радыёактыўнае? — паспрабаваў выказаць сумнеў мужычок.

— Нармальнае! За такі кошт трэба браць! — вынесла канчатковы вердыкт кабеціна, папраўляючы хустку вакол шыі.

Змарнаваўшы некалькі гадзін сярод кірмашовага тлуму, Надзея ўрэшце набыла неабходныя прадукты і ласункі, а таксама маленькую ёлку. На аўтобусным прыпынку яе позірк знянацку застыў на яскравай афішы, дзе красаваў надпіс: «Краіна Мрояў. Казачны мюзікл для дзяцей, падлеткаў і іх бацькоў. Толькі адно прадстаўленне ў Лядовым палацы! Чакаем вас!»

* * *

Недзе на ўскрайку Зямлі, далёка-далёка адсюль, існуе дзівосны край. Прырода там заўсёды розная, яна мяняецца як узоры ў калейдаскопе, і кожны наступны дзень не падобны да папярэдняга. Штосьці незвычайнае адбываецца і з часам: ён можа бегчы наперад, спыняцца і застываць, акуратна адгортвацца назад, нібы пажоўклая старонка антыкварнай кнігі. Паветра, напоўненае водарам кветак радасці, пяшчотна абдымае наваколле. Над прасякнутым залацістым святлом абшары небакраю мігцяць зоры. Жыхары гэтай краіны — людзі, жывёлы, птушкі — размаўляюць між сабой на адзінай, зразумелай для ўсіх, мове. Усё цудоўна ў гэтай краіне, але, каб патрапіць у яе, трэба выканаць адну абавязковую ўмову — ніколі не вяртацца туды, адкуль прыйшлі…

— Мікіта, ты чаму не ў ложку? — строга запыталася Надзея.

— Я шукаў прыгожую гірлянду. І распавядаў Крокусу пра Краіну Мрояў. Я думаў, ён мне раскажа сам, але ён цэлы дзень маўчыць.

— Папугаі размаўляюць, калі маюць адпаведны настрой.

— А мне здаецца, што яму блага ў няволі. Давай выпусцім яго палётаць!

— Нельга. Потым назад у клетку не загоніш.

— Дык навошта яму тая клетка? Хай бы сабе лётаў, дзе захоча.

— Ты яшчэ малы, не разумееш. Калі б кожны рабіў толькі тое, што захоча, свет бы перакуліўся, — строга зазначыла маці.

— Ды наш свет і без таго перакулены. А вось у Краіне Мрояў кожны жыве, як захоча.

— Эх, ты, фантазёр. Давай лепей цацкі сюды, павесім іх на ёлку.

Калі святочная канструкцыя з усімі неабходнымі атрыбутамі паўстала сярод пакоя, а ў якасці фінальнай рыскі былі запалены ліхтарыкі на гірляндзе, з птушынай клеткі пачуўся нейкі мітуслівы шоргат і нечаканы выкрык Крокуса:

— Viva la libertad!

Здрыгануўшыся, Надзея ажно прысела на зэдлік, а малы Мікітка ўзрадавана пачаў скакаць вакол ёлкі:

— Ура-а! Ён размаўляе!.. А пра што ён кажа, мама?
— Пра тое, пра што ўсе мы марым, але ніколі не маем, — уздыхнула жанчына. — Пра свабоду.

* * *

Уначы Надзеі не спалося. Трывожныя думкі лезлі ў галаву, і яна круцілася з боку на бок. «Круці-вярці, а трэба памярці», — узгадала яна прымаўку сваёй бабулі, якая заставалася няўрымслівай і бадзёрай на працягу ўсяго жыцця і пайшла з яго ва ўзросце амаль дзевяноста гадоў. Перад вачыма чамусьці паўставалі абліччы калег з працы з іх заўсёднымі заклікамі на навагоднюю імпрэзу, якую Надзея некалькі гадоў запар ігнаравала, спасылаючыся на сямейныя абставіны. «Ага, ну так, у яе ж сын моцна хварэе,» — шапталіся паміж сабой калегі, выказваючы ёй час ад часу спачуванні і адначасова адчуваючы патаемную радасць, што такое гора абмінула іх…
— А ты ведаеш, які дзіўны сон я сёння бачыў? — пачула зранку яна ад Мікіты.
— Што ж табе прыснілася, цікава?
— Нібыта я навучыўся лётаць. І мы разам з Крокусам узняліся ў нябёсы і накіраваліся ў Краіну Мрояў, сілкуючыся сонечнымі промнямі.
— Добра, — прамовіла Надзея. — Лётаеш, значыць, расцеш.
— Калі стану дарослым, буду лётчыкам, — зрабіў выснову малы. — Пачну лунаць у прасторы і глядзець на зямлю з вышыні.
— Вось і выдатна. А цяпер трэба праветрыць у пакоі, бо ты зусім нейкі бледны, — сказала Надзея, адчыніўшы фортку, і пайшла на кухню мыць посуд.

* * *

Недзе праз паўгадзіны, адарваўшы позірк ад рэкламнай газеты, знойдзенай у паштовай скрыні напярэдадні, жанчына пачула неразборлівае мармытанне, што даносілася з пакоя сына і адразу пабегла спраўдзіць, ці ўсё ў парадку з малым. Мікіта стаяў ля акна, прыціснуўшы нос да шкла.
— Ты што там робіш?! Гэтак можна прастуду падчапіць, — занепакоена наблізілася да яго маці.
— Крокус… Ён паляцеў удалечыню. А мяне з сабой не ўзяў, — усхвалявана гаварыў хлопчык.
Толькі цяпер Надзея заўважыла, што клетка расчынена і птушкі ў ёй няма. Агледзеўшы ўвесь пакой, яна дакорліва зірнула на сына:
— Што ж ты нарабіў, Мікіта… Ён жа змерзне на вуліцы. Крокусу трэба цяпло, а там ён можа загінуць.
— Мамачка, даруй, — заплакаў малы. — Я проста хацеў, каб ён палятаў крыху. А Крокус… так хутка… фыр-р-р — і ўляцеў праз фортку. Няўжо ён не знойдзе шлях да Краіны Мрояў?
— Супакойся. Можа, усё не так і страшна…
— Не, гэта я вінаваты, — твар малога засцілі слёзы. — Раптам ён сапраўды загіне, што тады?
— Паслухай, заўтра я пайду і расклею аб'явы на слупах. Магчыма, хтосьці яго бачыў. Ці ён выпадкова заляцеў у чужую фортку. Такое бывае.

— Не, ён не знойдзецца, — узважана прамовіў Мікіта. — Крокус дакладна паляцеў у Краіну Мрояў.

— Далёка туды ляцець, — супакойвала сына Надзея. — Так што хутчэй за ўсё ён палунае ў нябёсах крыху і вернецца сюды. Тым больш, калі абяцаў узяць цябе з сабой. Фортку я да канца прычыняць не буду. Не сумуй. Усё будзе добра. Напярэдадні Новага года здараюцца розныя цуды…

* * *

Адгучала вечаровая мелодыя калыханкі. Надзея сабралася гатаваць пірог і зазірнула з кубкам цёплага пітва да Мікіты.

— Я трошкі пасплю, мама, — шморгаючы носам, прамовіў заплаканы хлопчык. — А перад Новым годам ты мяне пабудзіш, праўда?

— Згода, — кіўнула Надзея. — І будзьма разам загадваць жаданні апоўначы.

За сцяной чуўся грукат і рогат. Мяркуючы па ўсім, новая суседка вырашыла сустракаць свята з вялікай кампаніяй. «А Вера, напэўна, ужо недзе ля акіяна, — падумалася Надзеі, якая завіхалася на кухні. — Можа, апрануць тую барвовую сукенку? Чаму б не? Хоць нейкая разнастайнасць».

Кожны раз напрыканцы снежня адбываўся адзін і той жа перформанс: мандарыны, аліўе, шампанскае, папулярныя камедыі, выступленні эстрадных «зорак», прамова кіраўніка дзяржавы, тэлефанаванне знаёмым і родным, гоман на вуліцы, салюты — на працягу дваццаці гадоў у краіне амаль нічога не змянялася, а святкаванне Новага года нагадвала ўскрыццё старой кансервы…

Пірог спакваля даспяваў у духоўцы. Надзея адпрасавала сукенку, пераапранулася і, паклаўшы на сподак марцыпаны, пайшла будзіць сына. У пакоі было халаднавата. Упрыгожаная зялёная ёлка паблісквала агеньчыкамі ў паўзмроку. Іх адлюстраванне марудна блукала па стале. Мікіта ляжаў нерухома, накрыты коўдрай, са стоенай усмешкай на знямелых вуснах. Наблізіўшыся да ложка, Надзея імгненна ўсё зразумела. Сподак ляснуўся аб падлогу, і марцыпаны разляцеліся вакол у хаатычным парадку…

На вуліцы ўсталявалася бязмежная цемра. Снег растаў. Панавала адліга. Сіноптыкі зноў памыліліся.



*Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ*

# РЭХА МАГУТНАГА ПАЧУЦЦЯ

* * *

***З прысвячэннем —***
***Billy Holiday***

Растае, быццам снег,
Пад нагамі няўмольны час.
А я ўцёк, а я збег —
Туды, дзе спяваюць джаз.
Плача белы раяль,
І надрыўна хрыпіць саксафон.
Растае пастараль —
Гэта проста нязначны фон.
Нацягні капялюш,
Хай сцякае па спіне ноч.
Ад нязгубленых душ,
Нястрачаных мар
Не збоч.
А на сцэне, рукамі развёўшы,
Як занавес, цень,
Спавядаецца ў мікрафон
Гаротная Lady Day.
Яна ўмее спяваць так,
Нібыта пяе пра нас,
А за ёю, кульгаючы,
Крочыць паціху джаз.
Апярэджвае на паўкрокі,
Задумваецца, а пасля
Адгукаецца споведзі —
Рэхам магутнага пачуцця.
Споведзь скончыцца.
Сонцы пад столлю
Разарвуцца зыркім святлом,
І ўзляціць да іх разняволена
пляскат рук над кожным сталом.
Ды не вылечыць невылечнае:
Ах, як многа на свеце болю.
І каханне, і слава — не вечныя.
Толькі джаз не здрадзіць.
Ніколі.



***Маргарыта Латышкевіч нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. Жыве ў Мінску. Магістр філалогіі, працуе ў вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры філалагічным факультэце БДУ. Друкавалася ў часопісах «Бярозка» і «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва». Аўтар паэтычнай кнігі «Пульс навальніц».***

**ШЫ**

На дамах павіслі ледзяшы —
Шы!
І шырока на зямлі ляжыць
Белы-белы,
Быццам мара,
Снег.
Я б ад гэткага жыцця —
Збег.
Намалюю на паперы свет.
У ім
Аніколі не было б
Зім.
Паратунак дзе для душы?
«Шы?»
Сонца пальцам сколвае
Ледзяшы.
Я скаваны холадам многіх
Зім.
У мяне тут, любыя, на зямлі —
Лімб.
Ледзяшы расплачуцца,
Паплывуць вадой —
Ой!
Дый на што растрачвацца,
Калі не на свет
Свой?

* * *

Старыя аўтобусы, едучы, цяжка
парыпваюць —
Узрыдваюць,
Охаюць,
Ахаюць
І
Ўздыхаюць —
Дый надалей мужна
Паўзуць-узбіраюцца,
З сіл выбіваюцца.
Грыміцца, грукочацца
Гэтак натужна
І хочацца
Кожнага разу
Сказаць:
«Паддай газу!
Аўтобусе, пане,
Не кідай пханне.
Хай цяжка — ды зможацца.
Ўсё сцерпіцца, зложыцца».
Аўтобусы слухаюць —
І пнуцца, і трухаюць
Да мэты, да мары чыстай…
Во ідэалісты.

**КАШЭЧЫ ВЫРАЙ**

А ці ёсць у катоў — вырай?
І катам трэба ў нешта верыць.
Хай не будзе бялюткіх крылаў,
Хай не ўдасца і вечнасць змераць.
Рай кашэчы —
З каробак кардонных,
З цёплых коўдраў
І поўных сметніц,
З поўных місаў
Смятаны чароўнай
І з заўсёды адчыненых весніц.
Бачыш? Там з-пад хмарнага футра
Жоўтай поўні паблісквае край?
Калі верыць будысцкім сутрам,
Гэта — цёплы кашэчы рай.

* * *

Камета —
То зорка
Толькі з кашэчым хвастом,
Які перакрэслівае
І захады, і ўсходы
Горкім
Касмічным памкненнем
Да звышгалактычнай свабоды.

Камета —
То зорка,
Якая ўзяла — дый паляцела.
Космас злюцелы,
Космас прыдзірлівы
Чорнымі дзірамі
Яе да сябе цягне,
У зорную багну.

Камета —
То зорка, якая бяжыць
Жыць.

**САМЫ ЦІХІ ВЕРШ**

Ходзіць коцік па капусце,
Сны людскія носіць ў хусце.
Гэтаксама па-кашэчы
Ціха крочыць цёмны вечар,
А за ім аж да світанку
Ноч мармыча калыханку.
Месяц воблака калыша,
І навокал ціша, ціша…

Колер сцішаны мышыны
Ўкрыў будынкі і машыны,
Дрэвы ўкрыў, сады, газоны —
Спіць пад коўдрай горад сонны.
Толькі шэрыя, бы сненні,
Між дамоў блукаюць цені:
То каты (і кожны — з хустай)
Спелых сноў разносяць лусты.

* * *

Кот за акно не глядзіць — нуда!
Льецца і льецца сабе вада.
Неба шарэе, нібыта хвост:
Хмара разлеглася ў поўны рост.
Некалькі дзён апантана лье,
Дзынкае, стукае ўсё па шкле.

Рацыю маеш ты, коце. І ўсё ж
Я не магу не глядзець на дождж.

* * *

Дождж праліўся. Ў вышыні — крылы шэрай хмары.
Дождж праліўся на палі, на лугі, імшары.
Крочыць можна за дажджом па дарозе гразкай,
Крочыць можна целы дзень — па дарозе ў казку.

Колькі, колькі сцежак ёсць, прыхаваных ў травах:
Разышлася сцежак вязь ўлева ды направа,
Разышлася, апляла сецівам рыбацкім,
А вандроўны чалавек ублытаўся знянацку.

Дождж праліўся, прашаптаў ціхае вітанне
Лесу, хмарам і рацэ, хмурнаму світанню.
Дождж праліўся шапаткой, спеўнаю вадою,
Бег па камню і траве, і пабег — прыбоем.

Крокі пішуць на пяску папуры з гісторый;
Зноў сцірае, быццам час, рысы словаў мора.
Цягне сонца за сабой прадзіва марское,
Каб пасля яго вярнуць з дажджавой вадою.

Дождж — пральецца.



Адам ГЛОБУС

# ДЗВЕ ШКОЛЫ

*Розныя вясёлыя і сумныя словы пра часы школьніцтва*



***Адам Глобус нарадзіўся 29 верасня 1958 года ў Дзяржынску. Працаваў мастаком-рэстаўратарам, мастаком-афарміцелем, рэдактарам аддзела сацыяльных праблем у часопісе «Крыніца». Аўтар шматлікіх паэтычных і празаічных кніг.***

***«Кравец кроіт кровлю.***
***Шыбенік уставляет шыбы».***
Ганна Іванаўна Соладава,
мая першая настаўніца.

## ШКОЛА НУМАР СЕМДЗЕСЯТ ТРЫ

### ПЕРШЫ КЛАС

**Водар газы**

На караткаватай вуліцы Чарнышэўскага, што ў нашым Мінску, у часы майго школьнага дзяцінства самым моцным водарам быў саладкаваты пах газы. Маленькая ружовасценная крамка з газаю стаяла побач з даўжэзнымі баракамі. У тых бараках і ў драўляных двухпавярховіках ежа гатавалася на кірагазах. Водар газы расцякаўся па ўсёй тады яшчэ брукаванай вуліцы імя Чарнышэўскага. Асабліва смачна і моцна пахла газаю ўвосень, калі ападала лісце. У першы клас я пайшоў праз водар газы.

**Сшыткі і пачынанні**

У школе я любіў пачынаць пісаць у новым сшытку. Маёй акуратнасці і вытрымкі хапала недзе на палову аркушаў. Дапісваць, ці, як мы казалі, «дабіваць», сшытак я не любіў, але заўсёды даходзіў да апошняй старонкі. Мае стараннасць і ўпартасць падабаліся настаўнікам. Таму я без вялікіх перашкод прайшоў з першага па восьмы клас сярэдняй школы.

**«Квач» і «хованкі»**

Лічылка, якую мы выкарыстоўвалі ў нашым першым «а», калі збіраліся гуляць у «квача» ці «хованкі»:

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць…
Цар хацеў мяне павесіць,
А царыца не дала і павесіла цара.
Цар вісеў, вісеў, вісеў
І на сонца заляцеў!

На каго трапляла слова «заляцеў», той і быў «квачом», ад якога ўсе ўцякалі, або «жмуркай», ад якога ўсе хаваліся.

**Яўменаў і харч**

Па семдзесят трэцяй школе хадзілі розныя паданні. Адно з іх любіў пераказваць Юра Яўменаў з першага «вэ». Ён распавядаў пра чалавека, які есць шкло і жалеза. Юра Яўменаў верыў у тое, што жыў на свеце такі чалавек, які мог спакойна есці шклянкі з гайкамі ды балтамі. Калі той чалавек загінуў на вайне, яго ўскрылі і ў страўніку знайшлі шмат шкляных аскепкаў з рознымі напалову страўленымі гайкамі. Труп павезлі ў тыл, каб зрабіць грунтоўныя даследванні. Па дарозе ў машыну з трупам патрапіла бомба. Юра быў перакананы, што можна, калі патрэніравацца, навучыцца есці жалеза і шкло. Перайсці на такое харчаванне сам Яўменаў не рызыкнуў, але паданне пра жалезаеда пераказваў шмат разоў і шмат каму.

**Шкаляр і шкаляры**

У час майго школьніцтва дзяцей яшчэ называлі і «шкалярамі». Зазвычай казалі «школьнікі», але праскоквалі і «шкаляр» са «шкалярамі». Цяпер слова «шкаляр» не чуваць.

**Лялькоўскі і Трапашка**

У нашым першым «а» было два выдатнікі — Лялькоўскі і Трапашка. Цемнавокі невысокі хлопчык Алег Лялькоўскі і светлавалосая даўганогая дзяўчынка Наташа Трапашка. Выдатніцтва ў першых трох класах не выклікала ў нас ні зайздрасці, ні грэблівасці. У старэйшых класах да выдатнікаў вучні ставіліся насцярожана і варожа, а ў першых іх нават любілі. За ўсіх не скажу, а за Трапашку і Лялькоўскага даю слова. Было за што іх любіць… Трапашка ўвесь клас запрасіла дамоў на свой дзень народзінаў. Гэта быў першы шматлюдны дзень народзінаў маіх раўналеткаў, які я адзначаў не дома і не ў суседзяў. У кватэры Трапашкаў мы правесяліліся да цемры. Давялося мне вяртацца дамоў праз чорныя двары. Так і запомнілася: светлыя вокны кватэры Трапашкаў, а праз двор — светлыя вокны кватэры Лялькоўскіх. Яны жылі вокны ў вокны. Яны сябравалі і былі адзінымі выдатнікамі ў нашым першым «а».

**Двары і воклічы**

Цёплымі вечарамі нашы мамы высоўваліся з вокнаў, і на ўвесь двор гучалі воклічы. «Сііі-ма, еээ-сці!» «Юуу-ра, кууу-шаць!» «Вооо-ва, дааа-мооў!» Даводзілася спыняць гульню ў «гарады» ці «класы» і цягнуцца дадому. Некаторыя з нас спрабавалі выпрасіць яшчэ пару хвілінак, каб гульню не проста спыніць, а скончыць. Часам, мамы нам дазвалялі пагуляць «пяць хвілін, не больш». Мінскія вечаровыя двары былі напоўнены гэткімі «кушаць», «дамоў», «есці» і «пяць хвілін, не больш». Цяпер воклічы пахаваліся ў сотавыя тэлефоны, гарадскія двары напоўніліся гыркатаннямі маторaў і пагублялі гучныя матчыны галасы.

**Юра і калона**

З Яўменавым я гуляў у двары. Даволі вялікі ў нас быў двор. З двух бакоў стаялі гаражы для легкавікоў, з трэцяга быў плот і швачная фабрыка. Пасярэдзіне двара ўзвышаўся цэлы двухпавярховы дом на два пад’езды. Мы з Юрам жылі ў трохпад’ездным блочным пяціпавярховіку. Жылі на пятым, па суседстве. Ён у кватэры шэсцьдзясят, я — у пяцьдзясят дзявятай. Тады нам было па шэсць, і бацькі дазва-

лялі гуляць толькі ў двары, балазе прасторным. Выходзіць за межы двара асаблівай нагоды не было, пакуль Юра не сказаў, што за швачнай фабрыкай знайшоў кавалак ад старажытнарымскай калоны. Калона мяне моцна зацікавіла. Мы выправіліся на пошукі рымскіх скарбаў. Прабасцяліся за фабрыкай цэлую гадзіну, за што бацькі на нас моцна насварыліся. Калону мы, канешне, не знайшлі. Кавалкі керамічнай трубы, якая нечым нагадвала калону, мы пакінулі пад фабрычным плотам.

Тое даўняе парушэнне акрэсленай бацькамі дваровай мяжы я зазвычай згадваю, калі выбіраюся ў падарожжа. Ведаю — ніякіх скарбаў не знайду і вялікіх грошай не зараблю, а ўсё адно еду і шукаю, як і тады шукаў у мінскім двары старажытную рымскую калону.

**Мілько і малюнак**

Я хварэў, ляжаў у ложку, нават еў у ложку. Маці дазваляла толькі ў прыбіральню хадзіць. За некалькі дзён ляжаць мне надакучыла страшэнна, таму я моцна ўзрадаваўся, што да нас завітаў Віця Мілько. Дома нікога не было. Віця вучыўся ў тэхнікуме сувязістаў, але вельмі любіў маляваць. Ён узяў акварэльныя фарбы і намаляваў чырвоны замак з вежамі, з рыцарамі на вежах, са сцягамі над брамаю, з байніцамі ў мурах. Малюнак мы павесілі на сцяну над ложкам, у якім я хварэў на цяжкую ангіну. Віктар сышоў. У марах я перасяліўся ў чырвоны замак. Заснуў, а калі прачнуўся, дык быў амаль здаровы. Маці памерала тэмпературу і сказала, што можна ўстаць дый апрануцца. Малюнак мяне вылекаваў, і наступнай раніцай я зноў пайшоў у школу, у свой першы «а».

**Ала і Каміля**

Была адліга. Зіма яшчэ не скончылася, але ў паветры лунаў водар вясны. Мы з хлопцамі хадзілі па крыгах, што плавалі па невялічкім азярцы. Я праваліўся. Азярцо было неглыбокае, ды й я ішоў непадалёк ад берага. Праваліўся па самыя пахі. Вылез і пайшоў у бліжэйшы знаёмы дом. Там жыла наша сваячка Каміля Мілько. Яна загнала мяне грэцца на печ. Адзежа сушылася на вяроўках, а я сядзеў на гарачай печы. Сядзеў і слухаў размову Камілі з дачкою. Тая дачка Ала была раўналеткай маёй маці. Гаварыла яна страшныя рэчы. Казала, што ўсё ёй баліць, што муж — Цабэрак — п’е, што дзеці не слухаюцца, што жыць яна больш не хоча… Ала пытала ў Камілі, ці будзе ёй лягчэй, а тая казала, што лягчэй не будзе, а будзе толькі цяжэй і цяжэй, але трэба жыць, трэба цярпець і жыць. Я слухаў Алу і Камілю і сам не помню, як заснуў. Прачнуўся ўвечары, апрануў усё сухое і пабег дамоў, дзе ніхто мяне і не папракаў тым, што я ў моцную адлігу хадзіў па лёдзе.

**Копцеў і «камчатка»**

У маім першым «а» Копцеў быў самы вялікі з хлопчыкаў. Ён меў арліны нос, круглыя, не раўнучы як у савы, вочы і крываватыя ногі. Вялікагаловага Копцева настаўніца пасадзіла на «камчатку» — апошнюю парту. Праславіўся Копцеў тым, што «накапціў». У адзін з першых школьных дзён Копцеў пасаромеўся спытаць дазволу на выхад у прыбіральню і наклаў у порткі. Нарабіў і сядзеў. Настаўніца не адразу зразумела, што абдзелаўся менавіта Копцеў, яна некалькі разоў перапытвала, каму з нас кепска? Маўчанне. Смурод расплыўся па класе. Нарэшце наша Ганна Іванаўна Соладава вылічыла засранца і цёплым голасам прапанавала яму пайсці дамоў. Копцеў сышоў. Клас праветрылі. Інцыдэнт нібыта і вычарпаўся, але засталося слова «накапціць» у сэнсе абасрацца і насмярдзець. «Ты накапці, і Ганначка цябе

дадому адпусціць!» Думаеш, іншыя «не капцілі»? «Капцілі»! Аднойчы «накапціў» яйкагаловы Махнач; было так, што «накапціў» і мядзведзікаваты Буры; іх таксама вызвалялі ад наступных урокаў.

### Школьная казённасць

У час майго вучнёўства ніхто дзяцей у школу не вадзіў. Хадзілі самі. Нас прыводзілі бацькі першага верасня ў першы клас, а далей усё рабілася без бацькоў. Мы самі прыходзілі і самі сыходзілі са змрочных школьных будынкаў. Старэйшыя раз на месяц завітвалі на бацькоўскія сходы, але гэта мала на што ўплывала. Недзе ў кіно і недзе ў тэлевізары былі светлыя і чыстыя школы з прасторнымі класамі, якія залівала сонечнае святло. Мае аднакласнікі сядзелі пад кволымі лямпачкамі, пад чужым, варожым і ў нечым нават турэмным святлом. У маіх школах усё было казённае і брутальнае.

## ДРУГІ КЛАС

### Максім і камень

Цягнуўся я ў школу. Павольна-павольна. Часу хапала. Сядзець на ўроках не хацелася, таму я ледзь ішоў. За мной поўз Максім Махнач. Паперадзе ў школьную браму забег Епіфанаў. Ён падняў з зямлі камень і зрабіў выгляд, што шпурляе каменем у мяне. Давялося прысесці. Епіфанаў — хуліганістае стварэнне, мог і шпурлянуць каменем у чалавека. Ён і шпурлянуў, я зноўку прысеў. Камень трапіў у лоб Махначу. Той заскавытаў і павалокся дамоў. Напрыканцы першага ўрока ў клас зайшоў Алесь Махнач — тата Максіма. Ён пачаў вінаваціць мяне ў тым, што я не абараніў таварыша. Дзядзька Алесь быў абаронцам Брэсцкай крэпасці і лічыў, што ўсе ўсіх мусяць бараніць. Праўда, тая крэпасць нікога не абараніла, дый сам Алесь Махнач трапіў у палон у першыя дні вайны. На мяне тады ўсе моцна насварыліся, мацней, чым на Епіфанава. Так моцна, што карцела самому разбіць каменем галаву Максіму. Карцець карцела, але разбіць не разбіў.

### Бабачкін і «вожык»

У дзяцінстве я не любіў хадзіць у цырульню. Водар «Шыпру» раздражняў, асабліва ў час доўгага сядзення ў чарзе. Каб не школьныя патрабаванні, я б хадзіў зарослы. Але савецкая школа мела жорсткія рэгламентаванні. Даводзілася сядзець у цырульні, чакаць і нюхаць «Шыпр». Перад пастрыганнем цырульнік запытальна пералічваў тры словы: «бокс», «паўбокс» і «канадка». Зазвычай я выбіраў «канадку», бо тады на галаве заставаліся хоць нейкія валасы. Большасць маіх аднакласнікаў таксама хадзіла з «канадкаю», але быў у нас Сяргей Бабачкін, які насіў «вожык». Той «вожык» мне зусім і не падабаўся, але аднойчы мая ўстойлівая нелюбоў да цырульні выявілася ў тым, што я запатрабаваў сабе «вожык». Цырульнік паклікаў тату і пачаў тлумачыць, што ён не зможа зрабіць «вожык», бо ў мяне занадта мяккія для «вожыка» валасы, а ў дадатак яны яшчэ і крыху падвіваюцца. Бацька сказаў цырульніку рабіць «канадку», падобную да «вожыка». Цырульнік зрабіў мне простую «канадку» і сказаў, што яна будзе крыху падобная да «вожыка», калі валасы зачэсваць не набок, а наверх. Дзякуючы другакласніку Бабачкіну і ягонаму нашатoранаму «вожыку», я пачаў зачэсваць свае валасы наверх, як дарослы.

**Водары**

У школы адметны, ні з чым не параўнальны складаны пах. Школа пахне прэснымі вадзяністымі дыетычнымі абедамі, крэйдавым пылам, дзіцячай слінай, старой паперай, таннай саладжавай прытарнай парфумай, спортінвентаром, пілавіннем і яшчэ чорт ведае чым. Можа твая першая школа пахла інакш, а мая пахла менавіта так.

**Епіфанаў і дзеўкі**

Епіфанаў жыў без бацькі. Маці ягоная папівала і пагульвала. У нашым другім «а» Епіфанаў займаў месца галоўнага бандыта. Пасля ўрокаў ён збіраў за школаю пару-тройку дурнаватых хлопцаў і расказваў ім пра розны гвалт над дзеўкамі. Распавядаў, нібыта ён злавіў першакласніцу, зацягнуў за кусты, распрануў яе цалкам і біў дубовым кійком па дупе ды па похве. З похвы цяклі жоўтыя сікуны. Менавіта расповеды пра сікуны моцна ўражвалі слухачоў. Епіфанаў абяцаў узяць хлопцаў на чарговую экзэкуцыю, але за прагляд трэба заплаціць. Той, хто прынясе больш грошай, той і паглядзіць на дзявочыя дупы. Дурні прыносілі Епіфанаву капейкі, ён забіраў іх і смяяўся: «Што, паверыў? Дурань, ты паверыў? Дурань!» Аднакласнікі біцца з Епіфанавым пабойваліся, яго лупілі старэйшыя. Білі за падманы.

**ТРЭЦІ КЛАС**

**Пракоф’еў і праўда**

Сям’я майго аднакласніка Мішы Пракоф’ева жыла на першым паверсе пасляваеннага двухпавярховіка. У кватэры Пракоф’евых было цёмна, сыра і змрочна. Бурачковы абрус, што ляжаў на круглым стале пад аранжавым абажурам, надаваў змрочнай кватэры яшчэ большай гнятлівасці. Седзячы за круглым сталом і п’ючы гарбату з печывам у Пракоф’евых, я ўзрадаваўся, што жыву на пятым паверсе ў светлай кватэры. У школе мяне абавязалі дапамагаць двоечніку Пракоф’еву, за дапамогу часам частавалі салодкай гарбатай з «шахматным» печывам. Еў я залатых «коней» і «афіцэраў», запіваў густой бурштынавай гарбатаю і казаў маці Мішы Пракоф’ева, які ён у яе харошы малявальшчык, што было чыстай праўдаю.

**Лёд і вада**

Адзін чалавек нараджаецца доўбняй, а другі — акрабатам. Я нарадзіўся акрабатам, дакладна. Пра сваё пакліканне да акрабатыкі я даведаўся на занятках па фігурным катанні. Да нас у школу завіталі спартоўцы-купцы, прымусілі першакласнікаў папрысядаць ды паскакаць, выбралі дзясятак вучняў і запрасілі ў парк Чалюскінцаў, у секцыю па катанні на лёдзе. З нашай школы да таго парка я адзін дайшоў. Мы з верасня займаліся бегам, акрабатыкай і харэаграфіяй. Катацца на лёдзе планавалася са снежня. Бегаў я спраўна. Тады і прывучыўся бегаць у парку. Харэаграфію я не любіў за яе антымужчынскасць і меньерыстычную графічнасць. Акрабатыка — самае маё, жывапіснае і мужчынскае. Я скакаў, куляўся праз галаву, хадзіў «колам» і дзівіўся на тых, хто стаяў «калом» і баяўся кульнуцца на бетоннай і нават на дашчанай падлозе. Праз кулянне я і выкаціўся з секцыі фігурыстаў у секцыю плыўцоў. Да нас, вучняў-трэцякласнікаў, прыйшлі новыя спартоўцы-купцы, папрасілі зрабіць пару спартовых практыкаванняў, а калі ўбачылі маё кулянне на падлозе ды іншыя акрабатычныя здольнасці, запрасілі ў Палац воднага спорту. І я паплыў, паплыў,

паплыў… Брасам, кролем, на спіне і батэрфляем. У палацы таксама былі заняткі па акрабатыцы са скаканнем на батуце і скаканнем з вышак у глыбокую ваду. Трэба было не катацца на лёдзе і не плаваць у прахалоднай вадзе, трэба было пайсці мне ў секцыю да акрабатаў, але замест гэтага я крыху пазней пайшоў на вольную барацьбу, а потым і зусім кінуў спорт.

**Юра і Крыгуйгун**

Тады я хадзіў у другі клас разам з Юрам Яўменавым. Па дарозе ў школу мы і задумалі ўцячы з дому. Нам надакучыў сумны ідыятычны навакольны свет. Нас клікала да сябе пабачаная на шырокім кінаэкране залатая прэрыя, дзе пасвяцца магутныя бізоны і на хутканогіх конях скачуць бронзавацелыя індзейцы. Мы вырашылі ехаць у Амерыку. Перайсці праз мяжу СССР і ЗША мы планавалі з мыса Крыгуйгун праз Берынгаву пратоку, а там і на мыс прынца Уэльскага. Юра ў тыя часы любіў добра паесці. Ён лёгка мог праглынуць пяць вялікіх прэсных, звараных без солі бульбін. Таму мы пачалі збіраць і сушыць чорны хлеб. Палатняны мяшэчак з сухарамі хаваўся ў старым чырвоным заплечніку, а той ляжаў пад ваннай, у аднапакаёўцы Яўменавых. Тата Юры — Аляксей — знайшоў заплечнік, дастаў з яго мяшэчак з сухарамі і самаробную карту з маршрутам падарожжа праз мыс Крыгуйгун. Юра адразу ж адмовіўся ад уцёкаў і пачаў есці сухары.

У падарожжа я выправіўся адзін, без карты, без палатнянага мяшэчка і хлеба, без заплечніка. Мае ўцёкі скончыліся на мінскім чыгуначным вакзале. З моста я доўга-доўга глядзеў на розныя цягнікі. Я нават сабраўся набываць квіток да станцыі Койданава, але перадумаў і вярнуўся дамоў.

**Уцёкі**

У дзяцінстве я шматкроць сыходзіў з дому. Як толькі маці пачынала сварыцца, я шусь за дзверы і не вяртаўся да самай ночы. Потым сядзеў у пад’ездзе, чакаў, калі яна прыйдзе і пакліча дамоў. Клікала. Былі і больш працяглыя ўцёкі, калі я падрыхтаваўся да іх. Назбіраў чорных сухароў і сушанай рыбы — бычкоў, прывезеных суседзямі Яўменавымі з Азоўскага мора. Наадкладаў капеек, што эканоміў на школьных сняданках. У невялічкім заплечніку нават кавалак мыла быў. Выйшаў я з дому ў вялікі свет, а рукавіцы забыў. Вырашыў не вяртацца, дайшоў ад вуліцы Кузьмы Чорнага зноў жа да чыгуначнага вакзала. Рукі я трымаў у кішэнях, але яны замерзлі страшэнна. Вярнуўся. Маці засунула мае чырвоныя, як агонь, рукі пад халодную ваду, а тая падалася кіпенем. З таго часу рукі ў мяне хутка абветрываюцца нават на невялікім марозе. А яшчэ з таго далёкага часу я веру ў выратавальную моц уцёкаў. Бывае, што жыццё здаецца малацікавым, цяжкім і такім, як у гераінь апавядання Андрэя Платонава «Такыр», калі дзяўчынка сказала: «Мама, давай памром, бо ўсё, што навокал, мы ўжо бачылі…» У хвіліны адчаю мяне ратуе падарожжа. Таму я лячу, еду, вандрую ў далёкі свет, ці хоць бы іду ўздоўж нашай рэчкі Свіслачы, ці проста іду паглядзець на школу, у якой некалі вучыўся…

**Кісель і дровы**

Каб анекдот зайграў, трэба адпаведныя абставіны і таленавіты апавядальнік. Здараецца, што самая выдатная показка, патрапіўшы на язык нязграбы, губляе ўвесь смех. А ёсць і адваротныя прыклады, калі чалавек пабачыць у показцы сябе і пачынае расказваць яе ўсім сваім знаёмым, як самую найлепшую і самую найсмешную. Такі энтузіязм дадае анекдоту зыркія фарбы, а ты запамінаеш свайго знаёмага з гэт-

кай показкаю ў роце. Першы раз я напаткаў адпаведнасць анекдота і апавядальніка ў родным мястэчку Койданава. Мой сваяк Толік Кісель расказаў показку пра дровы, якую прынёс са школы. Мы з Толікам шматкроць дапамагалі дарослым складаць дровы каля сцен пограба і хлява, дапамагалі насіць тыя ж дровы ў хату, каб тапіць у печы, а потым і ў пастаўленай на яе месца швыдцы. Анекдот пра дровы гучаў так… Пасярод ночы нехта пачынае грукаць у шыбу. Гаспадар хаты падыходзіць да акна. «Вам дровы трэба?» — пытаюцца са двара. «Не! У нас ёсць. Нам не трэба», — адказвае гаспадар. Раніцаю ўсе бачаць, што дроў няма… Толік Кісель расказваў анекдот рознымі галасамі. Ён расказваў мне, і мы смяяліся, уяўляючы, як злодзеі крадуць нашы складзеныя каля пограба дровы. Потым я расказваў Толіку той жа ж анекдот, падстаўляючы пракураны голас Толікавага бацькі — Казіка Кісяля — у ролю гаспадара, і мы зноў смяяліся. Праз показку пра скрадзеныя дровы, расказаную Толікам Кісялём, я зайшоў у свет нашых беларускіх жартаў.

**Каткоў і першаснег**

Мастак заўжды чакае першаснег. Ад яго змрочнае гарадское наваколле робіцца святлейшым, у майстэрні менее цемры, а з’яўляецца больш прасторы і радасці. Зазвычай першы снег доўга не ляжыць, і паўдня не мінае, як ён растае. Здараецца, снег затрымліваецца. Лёгкі марозік не дае яму растаць некалькі дзён. У парку першаснег перамешваецца з залатой лістотай каштанаў. Дзівоснае злучэнне залатога і белага нагадвае пра маё далёкае мастакоўскае дзяцінства… У майстэрню да жывапісца Каткова я прыйшоў у тую марозную нядзелю самы першы. Сяргей Каткоў даў мне грошы і папрасіў схадзіць у хлебную краму па бублікі і батон-пляцёнку. Ён збіраўся паставіць для вучняў новы нацюрморт. У краме моцна пахла свежым хлебам, бублікі мне дасталіся яшчэ цёплымі. Я вяртаўся ў палац школьнікаў па засыпанай снегам дарозе з апетытнымі бублікамі ў руках. Мне было важна, што стары настаўнік мне — малому школьніку — даверыў грошы і даў дарослае даручэнне. Белы кубак з белым парцалянавым імбрыкам, бублікі і батон-пляцёнку на сіняй драпіроўцы я тады напісаў акварэллю.

## ШКОЛА НУМАР ДЗЕВЯЦЬ

### ТРЭЦІ КЛАС

**Мама і Сяргей Пятровіч**

Днямі зайшоў да мамы. Занёс ёй крыху прадуктаў: хлеб, тварог, смятану, рыс і грэчку. Мы папілі гарбаты. Я сказаў, што Сяргею Каткову споўнілася сто гадоў. Маці крыху здзівілася. Такія лічбы, як сто чалавечых гадоў, заўжды здзіўляюць. Здаецца, што ўчора… А тут — цэлых сто гадоў. «Ты памятаеш, як Сяргей Пятровіч да нас прыходзіў?» Я прызнаўся, што не помню. «Была нядзеля. Мы позна ўсталі. Сядзелі за сталом і снедалі, калі нехта пазваніў у дзверы. Я пайшла адчыняць. У дзвярах стаяў невысокі дзядок. Ён спытаў: ці тут жыве Валодзя Адамчык? Ты пазнаў яго па голасе і прыбег з кухні… Мама, гэта ж Сяргей Пятровіч, з мастацкай студыі! Мы запрасілі Сяргея Пятровіча за стол. Ён паскардзіўся, што ты цэлы месяц не ходзіш у студыю і, напэўна, кінуў маляванне, а гэта кепска, бо ты — мастак ад прыроды. У цябе своеасаблівае бачанне і шмат ідэй. Табе трэба маляваць. І я і тата паспрабавалі пераканаць Сяргея Пятровіча ў іншым, што ты лепшы матэматык у класе і табе

варта займацца матэматыкай, а не маляваннем. Калі нам здалося, што мы пераканалі Сяргея Пятровіча, ён спытаў, ці прыходзілі да нас дамоў матэматыкі? Не. А мастак прыйшоў... Ты вярнуўся ў студыю».

**Трэцяя змена**

Задумваюся… Што ў школе на мяне паўплывала больш за ўсё? І адказваю… Трэцяя змена. У нармальных школах адна змена. У кепскіх школах іх дзве, першая і другая. У маёй паганай дзявятай школе, куды мяне перавялі бацькі, бо мы атрымалі новую кватэру ў новым раёне, іх было ажно тры. Заняткі трэцяй змены пачыналіся ў шаснаццаць пятнаццаць. У класе нас было так шмат, што сядзелі па трое за адной партай. Каб змясціцца, мы — трэцякласнікі — займаліся за партамі для дзесяцікласнікаў. Пісаць за такой высокай партаю было нязручна. Мы, вядома, спрабавалі пісаць, але пісаніна атрымлівалася кепска. Не толькі пісанне кепска ішло, кепска ішло ўсё чыста, бо мы выпадалі з нармальнага чалавечага жыцця. Мы вучыліся, калі ўсе гулялі, мы гулялі ў пустых дварах і на пустых вуліцах, бо ўсе ж былі ў школе і на працы. Мы вярталіся са свайго трэцяга «дэ», калі дома ўсе даўно павячэралі. Тады я прывык быць адзін, прызвычаіўся да адзіноты і палюбіў самоту. На трэцюю змену я хадзіў не доўга, дзве апошнія чвэрці ў трэцім класе; але той час быў самы яркі і самы важны з усяго майго васьмігадовага школьнага жыцця.

**Стэльмах і дуля**

У трэцім класе са мною вучылася дзяўчынка з прозвішчам Стэльмах. Вучылася добра, на «чатыры» і «пяць». Яна была моцнай «харашысткай», як і я, дарэчы. Знешнасці ў той Стэльмах мелася мала, уся яна была спакойна-пастэльная, празрыста-шэрая, маўклівая. Праз год яна сышла ў іншую школу, і пра такую дзяўчынку можна было лёгка забыцца, каб не дуля. З-за Стэльмах я паказаў настаўніцы хвігу. Склаў пальцы ў дулю і выцягнуў руку ў бок блакітнавокага настаўніцкага тварыка. За абразлівы жэст я атрымаў запіс у дзённік. Той «кол» за паводзіны быў у мяне першы, адпаведна і незабыўны. Настаўніца сказала, што калі мы ўсе павырастаем, дык разумныя хлопчыкі возьмуць у жонкі разумных дзяўчат, Бязушка возьме Капытаенку, Адамчык — Стэльмах. Браць у жонкі «харашыстку» Стэльмах я не пажадаў нават гіпатэтычна. Таму і склаў з трох пальцаў «дулю з макам» і прапанаваў настаўніцы маю дулю панюхаць.

**Шум і цішыня**

Ніякая іншая цішыня мяне так не прыгнятала, як ціша школьная. Самая найгусцейшая цішыня стаіць у бясконцым школьным змрочным калідоры пасярод урока. Цябе выганяюць з класа, і ты трапляеш у глухату, у сцішанае небыццё, у бесчалавечны нямы свет. Адзінота і цішыня. Бляск памытай падлогі. Ісці па вільготным бляску нікуды не хочацца. Ты стаіш і чакаеш аглушальнага званка. З яго і пачынаецца школьны шум, з рыпеннем і грукатам дзвярэй, тупатам, дзявочым піскам і хлапечым рогатам, пляскатаннем вады ў рукамыйніку… Заканчваецца школьны шум таксама званком.

**Дырэктарка і «кол»**

На ўрок малявання я прынёс велікаваты ліст паперы. Хадзіў жа ў студыю. Вялікіх фарматаў не баяўся. Настаўніца напалохалася. Ці зрабіла выгляд, што напалохалася. Сказала, што я не падрыхтаваўся да ўрока малявання, і прагнала мяне

за дзверы. Яшчэ яна выгнала Меншакова. Ён забыў дома каляровыя алоўкі. Мы выйшлі на двор. Падцягнулі сметніцу да аднаго з вокнаў у нашым класе. Пачалі ў яго зазіраць і рабіць страшныя морды. Аднакласнікі нашы смяяліся, мы таксама рагаталі, ажно пакуль жаночы жалезны жорсткі голас не загадаў злезці са сметніцы. Голас належаў дырэктарцы. Дырэктарку я раней ніколі зблізу не бачыў. Яна, як і ўсе школьныя дырэктары, была небажыхаром, праводзіла час у нейкіх недасяжных кабінетах. Тут яна сышла з неба і сутыкнулася з двума вучнямі, якія строілі морды, перашкаджалі заняткам і парушалі спакой. Меншакоў дырэктарку ведаў, ён адразу спалохаўся. Настаўніца, што нас выгнала, таксама збялела. Нават праз шыбу было відаць, як пабялеў яе зазвычай румяны тварык. Я не спалохаўся, бо моцна здзівіўся. Дырэктарка зусім побач са мной, да яе можна нават дакрануцца, яна распытвае пра здарэнне ў класе. Яна пытаецца, за што нас выгналі? Чаму мы лічым сваё выгнанне несправядлівым? Ці будзем мы сябе добра паводзіць? Дырэктарка нас вярнула ў клас. Настаўніца Святлана запісала мяне ў персанальныя ворагі. Да канца вучэбнага года заставаўся адзін месяц, але яна паспела яшчэ пяць разоў паставіць у мой дзённік «кол» за паводзіны.

**Чытанне падручнікаў**

Пасля казак і казачных гісторый я пачаў з захапленнем чытаць школьныя падручнікі па гісторыі. Прачытаў усё ад часоў пячорных людзей, шыракаротых неандэртальцаў і кудлатых аўстралапітэкаў да часоў напалеонаўскіх войнаў уключна. У трэцім я ведаў гісторыю за восем класаў. Больш ніколі гісторыя, у тым выглядзе, як яна падаецца аўтарамі падручнікаў у пераважнай сваёй большасці аматарамі перманентнай вайны, мяне не захапляла, што не магу сказаць пра казкі і чарадзейны свет.

**Маці і вясна**

Вясною, калі з-пад пачарнелага порсткага снегу пачынаюць выплываць і бруіцца ручаіны, мне карцела хадзіць па лужынах. За мокрыя ногі маці магла і перацягнуць пасам па спіне, але я ўсё адно, ідучы са школы, мераў глыбіню ў лужынах і калюгах.

**Аляксееў і вогнішча**

Лёша жыў на другім паверсе, адразу над гастраномам, а я жыў на восьмым. Мы былі раўналеткамі, але хадзілі ў розныя школы. Лёша Аляксееў бегаў некуды за Кальварыйскія могілкі, а я соваўся ў самую бліжэйшую ад нашага дзевяціпавярховіка. Мы вучыліся ў розныя змены, адпаведна і бачыліся адно на выходныя. Лёша любіў раскласці вогнішча са старых гастраномных скрынак і чытаць, седзячы бокам да полымя. “Люблю страшнае чытаць! Гогаля люблю. Пра Вія, пра партрэт чорта!” — казаў Аляксееў. Каля Лёшавага вогнішча і я палюбіў жахлівыя гісторыі пра белых прывідаў і жывых мерцвякоў, пра чорнага чорта і панначку ў лятучай труне.

**Трубачкі і шарыкі**

Займець акуратную металічную ці пластмасавую трубачку дыяметрам міліметраў сем і даўжынёю сантыметраў дваццаць было мараю ўсіх маіх раўналеткаў у малодшых класах. Праз такую трубачку можна было пляваць гарохам, тапалёвымі шарыкамі, пакуль з іх пух не палез, ну і жаванай паперай. Прыносіць такую, як і ўсялякую іншую, зброю ў школу забаранялася. Хавалі, неслі і пляваліся на пера-

пынках. Асаблівым шыкам лічылася плюнуць праз трубачку на ўроку. Рызыка была вялікай. Заўважаць — абшукаюць і трубачку адбяруць. Але ж хто з нас, хлопцаў, не хацеў стаць смелым і не паспрабаваў рызыкнуць, плюнуўшы насліняным папяровым шарыкам у свайго праклятага ворага? Плявалі. Атрымлівалі «калы» за паводзіны. Гублялі зброю. Рабіліся героямі ў сваіх малодшых класах. У сярэдніх класах, пачынаючы недзе з пятага, мы ўжо не плявалі адзін у аднаго жаванай паперай. У нас была іншая зброя, лепшая — рагаткі і нажы.

## ЧАЦВЁРТЫ КЛАС

### Вольга і пышкі

Першы раз да цёткі Рэні, у Сочы, паглядзець на мора я паехаў з Вольгаю. Ёй таксама хацелася глянуць на Чорнае мора, яна сябравала з Рэняю, ёй зрабілі прапанову ўзяць мяне, і яна пасаромелася адмовіцца. Ад таго першага падарожжа да вялікага мора ў мяне засталося шмат уражанняў і адно з іх звязана з пышкамі. Іх пяклі побач з пляжам, бітма набітым голымі людзьмі. Пераважнай большасці голых пляжнікаў хацелася пад пякучым сонцам з'есці абсыпаную цукровай пудраю залацістую гарачую пышку. Да пышачнай вышнуроўвалася вялізная чарга. Некалькі разоў і мне давялося пастаяць у той гаманлівай і па-паўднёваму сварлівай чарзе, каб прыдбаць салодкія пышкі для сябе і Вольгі. Мы елі пышкі і глядзелі на мора, поўнае сонечнасці. Ці была тады Вольга шчаслівай? Пэўна, была. Да падарожжа ў Сочы, як і пасля таго падарожжа, я бачыў сяброўку сваёй цёткі — Вольгу — толькі пару-тройку разоў, але вельмі балюча перанёс вестку пра тое, што яна ў наступнае лета патанула ў невялікай беларускай рэчцы.

### Ненатуральны адбор

Ёсць у школе нешта ад фермы, ад пітомніка, ад хлява. У школе несупынна ідзе адбор, селекцыя, сарціроўка. Дзеці ў школе прыпадабняюцца жывёлам на падворку для быдла. Адзнакі, характарыстыкі, пераводы з класа ў клас. У класе «а» лепшыя, чым у класе «бэ», а ў «бэ» лепшыя за «вэ». Калі я пераходзіў з семдзесят трэцяй у дзявятую, дык патрапіў з трэцяга «а» ў трэці «дэ». Патрапіў і адчуў розніцу. Каб выжыць, мне давялося набыць ліхтарык літоўскай вытворчасці на тры батарэйкі, максімальна вялікі сцізорык і салдацкі пас. Гэта была набходная зброя для выжывання ў новай школе. Нож і рэмень я выкарыстоўваў у бойках. Цяжкім ліхтарыкам пагражаў, але біць ім нікога не біў. Пры пераходзе ў чацвёрты, наш трэці «дэ», дзе займалася больш за пяцьдзясят вучняў, што хадзілі на трэцюю змену, расфарміравалі. Я трапіў у клас «вэ», добра што не ў «гэ». Нянавісць да школьных селекцыянераў, да адсеваў, да заўжды несправядлівых адзнак, да няроўнага стаўлення да людзей ува мне сфарміравалася менавіта тады, за партай, у школе, у маім праклятым нашымі завучамі і дырэктарамі «вэ» класе.

### Маці і пекла

Ніколі не разумеў і не зразумею людзей, для якіх рай мае форму гіпермаркета. Яшчэ ў дзяцінстве я не любіў вялізныя шматпавярховыя ўніверсальныя крамы, накшталт ЦУМа ды ГУМа. Нават іх абрэвітурныя назвы лічыў брыдкімі. Наведванне з маці падобных крам у апошнія дні летніх канікулаў былі для мяне паходамі ў шматлюднае, шумлівае і смярдзючае пекла.

**Голуб і Панас**

У школу ўвесь час прыходзілі выступаць ветэраны вайны. Яны з энтузіязмам распавядалі пра жудасці Другой сусветнай. Сагнаныя ў сталоўку школьнікі нудзіліся. За шчасце лічылася — калі пасля выступлення паказвалі бясплатны кінчык ці шматсерыйны мульт, тады мы хоць ведалі, нашто выслухалі старэчы маразм прапаганды. Сярод шэрагу ветэранскіх выступленняў добра вылучыўся прыход рэжысёра Льва Голуба, які прывёз у нашу выклятую Богам школу сваю кінастужку «Дзяўчынка шукае бацьку». Выступленне рэжысёра заняло хвіліны дзве. Ён падзякаваў нам, што прыйшлі паглядзець ягонае кіно пра дзяўчынку, якая ў час вайны згубіла і знайшла свайго бацьку. Чорна-белы фільм пра дзяўчынку Леначку і яе бацьку Панаса мне не спадабаўся, бо ў часы свайго школьніцтва я любіў каляровае гераічнае мужчынскае кіно пра індзейцаў, што змагаюцца за сваю зямлю.

**Алексанровіч і альбомы**

Толя Александровіч набываў кнігі па мастацтве і завозіў іх з Мінска ў наша роднае Койданава. Там яны стаялі ў зашклёным серванце, у вялікай зале дома Анатолевых бацькоў. Раз на тыдзень, у нядзельную раніцу Анатоль гартаў тыя альбомы і натхняўся. Калі ў яго быў добры настрой, ён мог дазволіць і мне пагартаць свае каштоўныя кнігі з карцінамі Бацічэлі.

**Левітан і ўцёкі**

У маіх школьных падручніках было некалькі каляровых краявідаў Ісака Левітана. Былі там «Залатая восень» і «Вясна. Вялікая вада». Калі сядзець у задушлівым класе рабілася невыносна, я сыходзіў у краявіды і гуляў там уздоўж цёмнай рэчкі, каля залаталістых бяроз, ці сядаў у човен і плыў сабе ў далёкі свет паміж дрэў, што стаялі ў вясновай вадзе вялікай паводкі.

**Толік і капейкі**

Бацькі ў кожную нядзелю давалі Толіку дзесяць рублёў. З дзясяткай ён ехаў з Койданава ў Мінск, дзе займаўся ў мастацкай вучэльні. Калі Александровіч меў штотыднёвыя дзесяць рублёў і штомесячную васямнаццацірублёвую стыпендыю, дык мне давалі пятнаццаць капеек на дзень. Даводзілася падзарабляць. Я збіраў і здаваў бутэлькі, хадзіў па крамах за пакупкамі, каб пакінуць сабе дробную рэшту. Грошы ў мяне — школьніка — былі заўсёды. У Толіка яны часцяком у чацвер ці пятніцу скончаліся. Ён пазычаў у мяне рубель ці пяцьдзясят-семдзясят капеек, абяцаў у панядзелак вярнуць. У панядзелак пазыка пераносілася на наступны тыдзень. Толік большасць з пазык не вярнуў. Мне іх не шкада. Зазвычай, у мяне вялікія праблемы з людзьмі, якія не вяртаюць грошы, а тут ну зусім не шкада тых пазычаных Толіку капеек і рублёў.

**Запалкі і «плыўцы»**

Школьнікам забараняецца насіць у кішэнях запалкі. Але як жа ты без запалкі прыпаліш цыгарэтку, калі захочацца пакурыць? Запальнічка ў маім дзяцінстве лічылася недасяжнай раскошаю. Усе прыкурвалі ад запалкі. Вядома, і ў маім дзяцінстве школьнікам забаранялася паліць тытунь, і шмат хто з нашых аднакласнікаў не курыў. Але ж запалкі патрэбны не толькі для курца; для тых, хто любіў вогнішчы з дашчатых крамных скрынак і паддонаў, яны таксама рэч неабходная. Ну і можна пускаць запалку па ручаіне. Надыходзіць сонечнасць, на зіму наплывае вясна, снег пачынае

падтайваць, і з-пад сумётаў выбягаюць ручаінкі і ручаіны. Самыя хуткія з іх бягуць па асфальце дарогі, побач з броўкаю. Па такой ручаіне і пускаюцца запалкі. Можна пусціць запалку проста так і прасачыць яе шлях да самай вадасцёкавай адтуліны, куды яна і дасць нырца. А можна, седзячы ў класе і гледзячы на красавіцкі краявід праз яшчэ брудную пасля зімы шыбу, заспрачацца, «чыя запалка праплыве ад скрыжавання да адтуліны хутчэй?» Тады ты не кінеш простую спаленую запалку ў ваду. Ты падрыхтуеш свайго «плыўца», ты адшчыкнеш сцізорыкам серную галоўку, зробіш «плыўца» лёгкім. Ты пусціш яго ў ванроўку разам з другімі драўлянымі «плыўцамі» і будзеш ісці па броўцы, і будзеш перажываць, калі «плывец» раптам зачэпіцца за якую трэску ці паперчыну. Будзеш радавацца, калі твой «плывец» вызваліцца з палону. І, нарэшце, ты выйграеш заплыў, і ўсе ўдзельнікі спаборніцтваў скінуцца па пятаку, ты атрымаеш дваццарык. А можа, і прайграеш пятак, такое таксама здаралася. Прайграўшыя зазвычай беглі на скрыжаванне і ладзілі другі заплыў. Таму, хто выйграў, можна было і спыніцца. Я спыняўся своечасова, бо не азартны.

**Капытаенка і мянушка**

Ганна Капытаенка добра вучылася. Яна была акуратнай і дагледжанай дзяўчынкай з жывымі бліскучымі чорнымі вочкамі. Апраналася Ганна ў чырвонае. Любіла вогненныя колеры. А яшчэ ў яе была мянушка… «Капыта!» — крычалі да Ганны. «Я не «капыта», а Капытаенка!» — «Ты — капыта, капыта, капыта…» Ганна не моцна злавалася на абразу, і таму мянушка гучала нячаста.

## ПЯТЫ КЛАС

**Француз і падарунак**

У лагер «Зялёнае», дзе я бавіў час летніх школьных вакацый, завіталі дэлегацыі замежнікаў. За маю бытнасць, буду праўдзівы, яны завіталі толькі аднойчы. Тыдзень наш лагер рыхтаваўся і наводзіў марафет. Мялося, мылася, чысцілася, шкрэблася, драялася ўсё навокал і ўсё наскрозь. Здавалася, яшчэ адзін дзень прыборак з чысткамі — і ўсё ў «Зялёным» стане суцэльна празрыстым і нават папраціраецца да дзірак. Для нас, лагерных дзяцей, найгалоўнейшым у сустрэчы з замежнікамі было атрыманне падарункаў. Хадзіла чутка, што вялікія госці будуць раздаваць паўзабароненую ў БССР жавальную гумку. Мне жуйкі не дасталося. Усмешлівы француз з сівымі скронямі і брунатнай лысінаю падараваў мне круглы белы значок з блакітнымі надпісамі. Ніхто з маіх лагерных знаёмых па-французску не разумеў. Больш за месяц я быў цалкам перакананы, што на маім вялікім значку напісана нешта важнае. Можа, пра неба і космас, у адпаведнасці з колерамі? Можа, пра мора-акіян і караблі? На ўсіх значках у СССР пісалі толькі пафасныя словы. На маім жа бляшаным кругляшыку была рэклама марозіва. «Купляйце смачнае марозіва СНЯЖЫНКА!» — казаў, як пазней высветлілася, мой танны значок. Калі я пачуў пераклад надпісу, я нават намерыўся значок выкінуць. Замест акіяна, неба і космаса я атрымаў марозіва. Была нагода засмуціцца. Праз нейкі час я змірыўся з перамогай побыта над пафасам, значок застаўся ляжаць у стале, разам са школьнымі сшыткамі, ручкамі і алоўкамі.

**Кісялёў і чырвоныя сікуны**

У дзіцячым лагеры мяне здзівіў Валера Кісялёў... Гэта па-бацьку ён рускі і Кісялёў, а маці ў Валеры — Галіна Львоўна з Казлянскіх. Была і такая назва ў беларуска-яўрэйскага мястэчка — Казлянск. Бацька Галіны Львоўны быў Казлянскі з

таго Казлянска. Так што і Валера быў крыху местачкоўцам і трохі Казлянскім, а не толькі рускім і Кісялёвым. Гэты Валера сказаў, што ў яго чырвоныя сікуны. Хто ж паверыць у такі цуд? Ва ўсіх сікуны белыя і жоўтыя, а ў яго чырвоныя. Ён сказаў, што піў шмат какавы, і ад той какавы сікуны пачырванелі. Я какавы не піў, бо не любіў малочныя плеўкі, і не мог правесці эксперымент на сабе. Давялося глядзець на струмень, які вылятаў з пісюна ў Валеры Кісялёва. І што? Сікуны былі цёмна-жоўтыя, а не чырвоныя. На гэта Валера сказаў, што ў мастакі ён не збіраецца і можа спакойна блытаць цёмна-жоўты са светла-чырвоным.

**Людміла Іванаўна і Кальварыйскія клады**

У пятым мяне выбралі старастам. Класнай была «англічанка» — Людміла Іванаўна. Яна толькі адзін год у нашай школе і папрацавала. Паганая школа, у ёй ніхто не хацеў ні працаваць, ні вучыцца, ні знаходзіцца. Людміле я адразу спадабаўся, яна і ўгаварыла мяне пабыць старастам. Я мусіў сачыць за дзяжурствам у класе, каб дошка была чыстая, каб крэйда ў жалабку ляжала, каб грошы на розныя мерапрыемствы ўсе здавалі, каб… Мне гэта зусім не падабалася, але год я старастам адпрацаваў. З-за Людмілы Іванаўны, вядома. Яна мне падабалася. Яна чытала нам «Партрэт Дарыяна Грэя», сваю любімую кнігу. Як на мой густ, дык «Партрэт» Гогаля страшнейшы за «Партрэт…» Уайлда. Толькі я не мог папрасіць Людмілу на ўроках англійскай чытаць Гогаля. Чытае Ўальда? Выдатна! Страхаў і містыкі ў маім пятым і так хапала. Як староста, я мусіў адказваць і за парадак на магілах невядомых салдат, што ляжалі непадалёк ад дзявятай школы, на Кальварыйскіх кладах. У шостым за класную стала «фізіца», старастам выбралі Галю Кірыенка, замест Людмілы да нас прыйшла іншая малапрывабная цётка, і па англійскай у мяне густа пайшлі «траякі».

**Баба Ядзя і халат**

У пятым класе нам загадалі прынесці працоўныя халаты, каб на занятках у сталярнай і слясарскай майстэрнях не пэцкаць і не псаваць школьную форму. Мой шаўкавіста-сіні халат быў не куплёны, а пашыты бабай Ядзяй, яна ў нас мела адметны на ўсё Койданава талент швачкі. Яна шыла і перашывала ўсё чыста, нават магла перашыць паліто на сваёй спраўнай машынцы «Зінгер». Сіні халат быў пашыты навырост. Таму і прахадзіў я ў ім на заняткі па працы ажно тры гады.

**Бязушка і канаты**

У школу прывезлі два новыя канаты для спартыўнай залы. Белыя канаты дадавалі нашаму фізкультурнаму жыццю святочнасці. Кожны школьнік мусіў залезці па канаце пад столь. Уздымацца па канаце не такая і складаная навука, асабліва для тых, хто добра лазіць па дрэвах. Карацей, у нашым пятым «вэ» ўсе хлопцы і дзяўчаты лёгка ўзлазілі па светлых канатах і спускаліся на стары чорны мат. Пасля ўрокаў Валік Бязушка прапанаваў мне пайсці ў спартзалу, залезці на канат і пасядзець там пад самай столлю. Бязушку цягнула пагойдацца на вышыні. Мы прасядзелі ды прагушкаліся на тых канатах можа з гадзіну. Мы б яшчэ гушкаліся, але ў залу прыйшла школьная зборная па валейболе і нас сагналі на зямлю.

**Серафіма і дзверы**

Рускую мову і літаратуру ў нашым пятым «вэ» выкладала Серафіма Антонаўна — зусім маленечкая жанчынка з сівымі кудзеркамі. Серафіма мела росту, як большасць нашых пяцікласніц. Яна была слабая, таму перыядычна над ёй жорстка жартавалі.

Пасля званка на ўрок русмовы нехта з нашых паўкрымінальных бэйбусаў падыходзіў да класных дзвярэй і зачыняў іх перад самым носам Серафімы Антонаўны. Яна спрабавала адчыніць дзверы і не магла, бо нашы бэйбусы былі дужэйшыя за мініяцюрную настаўніцу. Серафіма тузала дзверы, лаялася, крычала і нават плакала, а потым бегла па завуча. Тая нам пагражала, чым яшчэ больш злавала бэйбусаў. Серафіма ледзь пратрывала з намі адзін год. Яна сышла не толькі з нашага класа, яна сышла з нашай паганай ва ўсіх вымярэннях школы.

**Малявіч і радыё**

У Ігара Малявіча памерла бабуля. Мы прыйшлі да яго дамоў пасля школы. Ігар мяне запрасіў. Мы зайшлі ў пуставатую кватэру. Малявічы жылі бедна. Так бедна жыла большасць маіх аднакласнікаў. Мая сям’я не была выключэннем з суцэльнай савецкай беднасці, але тэлевізар у нас меўся, а ў кватэры Малявічаў не было нават тэлевізара. Я спытаў Ігара пра тэлік і пачуў, што ў кватэры няма ні тэлевізара, ні радыё, ні прайгравальніка для пласцінак, бо пасля смерці бабулі маці Малявіча абвясціла год жалобы. Каб не ўзнікала спакуса паслухаць музыку і паглядзець камедыю, з кватэры вынеслі прайгравальнік, радыё і тэлевізар. Некалькі разоў Ігар Малявіч заходзіў пасля школы да мяне, ён прасіў дазволу паслухаць радыёкропку, уключаў прыёмнік і слухаў песні.

**Малявіч і Аскірка**

Узімку пасля заняткаў хлопцы з нашага пятага «вэ» дзяліліся на дзве каманды. Адна займала абарону пад школаю, на гары, другая каманда тую гару штурмавала. Наступным вечарам каманды мяняліся месцамі. З вясёлай гульні ў снежкі вечаровая забаўка паступова перарастала ў бойку. Тая бойка была няроўнай, бо хлопцы яшчэ і перабягалі з адной каманды ў другую. Пачатак апошняй сутычкі выглядаў зусім драматычна. Пераважная большасць маіх аднакласнікаў стаяла на гары, пад гарою было толькі тры байцы: Малявіч, Аскірка і я. У такім складзе ісці на штурм не мела сэнсу; больш за тое, ворагі маглі пабегчы на нас з гары і проста затаптаць. Тады я падышоў да маладога дрэўца і вырваў з зямлі кол, да якога танюткая таполя была прывязаная. Пагледзеўшы на мяне, каламі ўзброіліся Аскірка і Малявіч. З каламі ў руках мы адышлі да невысокага сятчастага плота, якім быў агароджаны дзіцячы садок. «Калі пабягуць на нас, паспеем пералезці праз плот. Калі палезуць праз сетку, будзем адбівацца каламі!» — так я сказаў, прытуліўшыся спінаю да жалезнай агароджы. Нашы ворагі не пабеглі з гары. Яны разабралі складзеныя ў гурбу партфелі і пайшлі па дамах. Мы наноў папрывязвалі таполі да загнаных у зямлю калоў.

**Дружба**

У маёй школе важна было мець сяброў, дружбаноў, сваіх хлопцаў. Без дружбы ты залічваўся ў непаўнавартасныя, нікчэмныя, бесперспектыўныя. Адзінота не паважалася. Паперадзе ўсялякай просьбы казалася: «Будзь другам». Так гучаў і сігнал «SOS» — будзь другам. Быць другам было важна. Дружба была ці не самай вялікай каштоўнасцю. Таму школьны наш сарказм, наша найвялікшая знявага, наш здзек укладаўся ў такія словы: «Будзь другам, насры кругам!»

**Альшэўскі і кнігі**

Альшэўскі вучыўся пасрэдна. Ён меў вытанчана-хваравітую знешнасць лонданскага падлетка і насіў белыя кашулі з вялікімі каўнярамі. Альшэўскі любіў чытаць, і бацькі выпісалі дваццацітомную «Бібліятэчку прыгод», дзе сабраліся Конан-Дойл

з Чэстэртанам, По са Стывенсанам, Лем з Азімавым, Грын з Кларкам ды Дзюма з Сімянонам. Бацькі забаранялі Альшэўскаму выносіць кнігі з кватэры, таму ён і запрасіў мяне дамоў — паглядзець на літаратурныя скарбы. У кватэры аднакласніка здзівілі мяне зусім не кнігі. Здзівілі ложкі. Бацька, маці і сын з сям'і Альшэўскіх спалі на аднолькавых вузкіх ложках, што стаялі ў розных кутках невялічкай двухпакаёўкі. Маці з сынам спалі ў большым з пакояў, бацька — у маленечкім кабінеціку. «Бацькі спяць паасобку?» — вырвалася з мяне нетактоўнае пытанне. «Так!» — слёзы выступілі на вачах Альшэўскага. Давялося рабіць выгляд, што я не заўважыў ягоную слабкасць.

**Аскірка і гульня «ў пустую галаву»**

Асабліва папулярнай гульня «ў пустую галаву» была ў пятым класе. Гуляць у яе прасцей простага… Сціскаеш кулак, крыху высоўваеш з яго сярэдні палец, раскрываеш рот так, нібыта збіраешся сказаць «о», і пачынаеш стукаць суглобам сярэдняга пальца па галаве вакол цемя. Гук атрымліваецца такі, нібыта ў галаве зусім пуста, быццам там няма і ніколі не было ніякіх мазгоў. З каго вылятаў самы гучны і самы пустабомны гук, той і выйграваў. Дзіўна, што ў нашай гульні не заўсёды перамагалі дурні, здаралася, што перамога прызнавалася і за разумнымі харашыстамі, кшталту Бязушкі і Хвастовіча. Але ж майстрам біць сябе кулаком па галаве быў, безумоўна, Ігар Аскірка. Яго было немагчыма перамагчы, з-за яго мы і перасталі гуляць «у пустую галаву»; не цікава змагацца, калі наперад ведаеш пераможцу.

**Капейкі**

У маім школьніцтве ўвесь час пазвоньвалі капейкі. Іх давалі бацькі на сняданак, іх збіралі, у іх гулялі… Як толькі сыходзіў снег, адразу ж выплаўляліся алавяныя цюхі і распачыналася гульня «ў капейкі». Кідаць цюху, пераварочваць ёю капейкі, адліваць цюху з расплаўленага волава ў зубным парашку лічылася вялікім майстэрствам сярод маіх аднакласнікаў. Я плавіў цюхі з Сіманоўскім і Аскіркам, плавіў з Малявічам. З імі і ў капейкі гуляў. Адной з самых вялікіх непрыемнасцяў у малодшых класах было пачуць словы старэйшых: «Ты паскачы, паскачы, і я паслухаю, зазвіняць у цябе капейкі ці не зазвіняць…» Ты паспееў ўжо сказаць, што капеек у цябе няма. Тут праверка. Трэба прымаць рашэнне… Ці аддаваць капейкі? Ці ўцякаць? Ці біцца? У большасці выпадкаў я чамусьці кідаўся біцца. Змагаўся за свае капейкі, за сваю драбязу. Можа, і дарэмна, бо прайграваў старэйшым і дужэйшым. Бойку прайграваў, але капейкі не даваў. Маё заставалася маім.

**Кукарэка і вешалка**

Вешалкі стаялі па класах. Нашы палітоны, курткі і шапкі віселі ў самым далёкім ад настаўніцкага стала і самым цёмным кутку. Пасля снегападу ці дажджу адзежа прэла, ад яе сыходзіў пах цвілі. У такія моманты моцна хацелася ўцячы са школы на двор, да свежага і вольнага паветра. А яшчэ карцела памацаць грудзі Люды Кукарэка. У Люды выраслі грудзі. У іншых дзяўчат з нашага пятага «вэ» грудзі толькі прыпухлі, яны толькі збіраліся расці, а ў Кукарэка павырасталі. Дзяўчаты ёй зайздросцілі, а хлопцы цягнулі Люду за вешалку і мацалі грудзі. Людка верашчала на ўвесь паверх. Чым бы гэтыя мацанні маглі скончыцца? Якімі крыкамі? Якім гвалтам? Хто яго ведае. А скончыліся яны прыходам да нас у пяты баявітага васьмікласніка. Ён прыйшоў, сказаў, што наша Кукарэка цяпер гуляе толькі з ім; адпаведна і яе вялікія цыцкі будзе мацаць цяпер толькі ён адзін. Ніхто і не запярэчыў. Мы маглі б і

запярэчыць, бо нас было шмат, а ён — адзін. Мы не сталі пярэчыць, бо цыцкі пачалі расці і ў Светы Сухадолавай, і ў Тані Капытаенка, і ў Тані Рудкевіч... Цыцак цяпер хапала за нашай духмянай вешалкаю.

**Мычанне і Серафіма**

Наш клас добра мычаў. Мы кепска ведалі рускую мову, мы не любілі выкладчыцу рускай — Серафіму Антонаўну, і на яе ўроках у нас атрымлівалася найвыдатнейшае мычанне. Пачыналі мычаць вучні на задніх партах. Павольна мычанне ахоплівала клас. Мычалі ўсе, акрамя тых, хто быў найбліжэй да нервовай і крыклівай настаўніцы. Яна абуралася, бегала паміж парт, пагражала. Мы сядзелі з ідыёцкімі тварамі і мычалі. Мы маглі такім мычаннем вытурыць з класа і прымусіць заплакаць нашу «русалку» Серафіму. Мусіць, яна нас ненавідзела за тое гнятлівае, тугое і тупое мычанне. За што мы не любілі Серафіму Антонаўну? За яе слабасць, напэўна.

## ШОСТЫ КЛАС

**Мацяш і барацьба**

Маларослых у школе любяць. Калі ты ў класе самы малы, цябе будуць любіць. Вядома, ты павінен мець добрае сэрца, а не паводзіць сябе, як зласлівы і зайздросны карузлік. Сашка Мацяш быў добры і спакойны. Ён стаяў апошні, калі мы на фізкультуры выстройваліся па росце. Мацяша любілі. Яго любілі не толькі ў нашым класе і нашай школе. Яго нават трэнер па вольнай барацьбе любіў. На Мацяша ён нейкія спартовыя надзеі ўскладаў. Мы запісаліся на вольную, бо месцаў у баксёраў не знайшлося. Мы прыйшлі запозна. Баксёрская секцыя была перапоўненая, а на барацьбу яшчэ бралі. Запісалі нашых усіх: Мацяша, Бязушку, Аскірку і мяне. Усіх, хто вырашыў навучыцца біцца прафесійна, трэнер узяў. Ён адразу папярэдзіў, каб мы не курылі. За курыва будзе лупіць і выганяць. Бязушка і Аскірка не сталі чакаць, пакуль іх заловяць за тытунём і паб'юць, яны сышлі з секцыі пасля некалькіх заняткаў, а мы з Мацяшам засталіся. У нас не было грошай на барцоўскае трыко і скураныя барцоўкі, мы трэніраваліся ў звычайных трусах і айчынных кедах. Пасля трэніровак мы пакурвалі. Грошай і на цыгарэты не было, мы падбіралі недапалкі на аўтобусных прыпынках і накурваліся да дурнаты. Аднаго разу Мацяш накурыўся, і перад трэніроўкаю трэнер Сашку адлупіў і прагнаў. Потым трэнер прасіў, каб я схадзіў да Мацяшаў дамоў, каб пагаварыў з ягонымі бацькамі, каб угаварыў Сашку вярнуцца на барцоўскі кілім. Я схадзіў, пагаварыў, перадаў словы трэнера. Мацяш быў добры, але сваё публічнае збіццё не даравў. Яшчэ паўгода я пахадзіў на вольную, а потым кінуў, бо сумна ездзіць аднаму праз увесь горад.

**Ігар і скокі**

Мы ўцяклі са школы і зайшлі да Ігара Аскіркі. Папілі салодкага чаю з батонам. Выйшлі на гаўбец. «Магу скочыць з гаўбца на зямлю», — хвастануў Ігар. Аскіркі жылі на другім паверсе. «Магу і я скочыць на клумбу!» — я не сумняваўся ў сваіх гімнастычных здольнасцях. «Скокні!» — ашчэрыўся Аскірка. Я пералез праз металічныя прэнты з парэнчамі, узмахнуў рукамі і паляцеў на свежаўскапаную вясновую клумбу. Устаючы з чорнай і тлустай зямлі, я пачуў пякучасць на левай руцэ. Ад далоні да локця цягнулася глыбокая драпіна, з якой лілася кроў. Узмахваючы рукамі, я чапануў востры крук. На такіх круках зазвы-

чай стаялі начовачкі з зямлёю ды кветкамі. У Аскірак былі толькі голыя крукі, аб адзін я і разваліў руку. Рану мы залілі гарэлкай і заматалі бінтам. Зажыло хутка, але шнар застаўся на ўсё жыццё.

**Чысляк і батон**

У Жэніка Чысляка на твары былі адны шчокі. Чорныя вочкі, чырвоныя вусны, кірпаты носік таксама меліся, але смуглявыя, гладкія, бліскучыя шчокі засцілі ўсё астатняе. Можна нават сказаць, Чысляк — гэта шчокі, і не памыліцца. Уся пастава сытага Чысляка складалася з набору вялікіх і малых шчокаў. Плечы ў яго былі, як шчокі, жывот — шчака з ямінкаю, пра дупу таксама ясней яснага. Сваю шчакастую дупу Жэнік кожны перапынак перасаджваў з парты на падаконне. Пакуль усе бегалі і лёталі, Чысляк еў, седзячы на белым падаконні. Жэнік еў кожны перапынак. Чысляка падначвалі, называлі ненажэрам і падушкай. Біць Жэніка ніхто не біў. Але нават на бяскрыўдныя падначкі ён пакрыўдзіўся і паскардзіўся маці. Тая прысунулася ў школу. Бацька ў Чысляка быў падпалкоўнікам, меў украінскія карані і ўкраінскую жонку — эталонную афіцэршу, а ў паводзінах — звер-бабу. Чыслячыха аблаяла ўвесь наш клас, усю нашу школу, Мінск і Беларусь. Яна ганьбіла ўсё навокал і пагражала ўсім згаданым. Яна ўсхадзілася так, нібы мы ўсім класам білі нагамі шчакатага Жэніка. Цікавы быў спектакль. Тым разам Чыслячыха вызваліла свайго ненаеду ад фізкультуры, ад беларускай мовы ён быў, як сын вайскоўца, вызвалены раней. Пасля таго скандалу Жэнік для большасці з аднакласнікаў перастаў існаваць. Каму захочацца мець справу са звер-бабаю. Жэнік сядзеў на падаконні і жэр прынесены з дому батон з маслам і каўбасою, а жыццё нашага шостага «вэ» цякло паўз яго. Яно дацякло да летніх канікулаў, напярэдадні якіх у клас зноў заляцела мамуля Чысляка. Гэтым разам яна збіралася парваць настаўніц беларускай мовы і літаратуры, якія не паставілі яе сыночку «пяцёрку». Чыслячыха крычала пра нацыяналізм, а нашы дзве беларусіцы спакойна сказалі, што чалавек, які не ведае беларускай мовы, не можа ведаць беларускую літаратуру на выдатна. Пасля летніх канікулаў Жэніка Чысляка перавялі ў іншую школу, дзе ён, я ўпэўнены, працягваў на перапынках есці прынесены з дому батон.

**Хількевіч і нянавісць**

Нехта цябе любіць, а нехта раўнадушны да цябе, хтосьці можа цябе і не любіць — натуральна. Хількевіча ўсе ненавідзелі. Ён кепска вучыўся, так кепска, што настаўнікі выказваліся ў яго бок бруднымі словамі. Ён краў у аднакласнікаў, яго білі. Ён рабаваў меншых школьнікаў, страсаў капейкі, выдадзеныя бацькамі на буфет. Школа была салідарнай у сваёй нянавісці да Хількевіча. Пасля шостага Хількевіч перайшоў з нашай дзявятай у сто трынаццатую.

**Самасці**

У нашым шостым «вэ» ў кожнага была нейкая самасць. Кукарэка мела самыя вялікія цыцкі і самыя доўгія клыкі ў роце. Дрожын быў самы высокі і праз тое выглядаў вельмі худым. Самым худым быў Хількевіч, і ён быў у дадатак самы злы, бо рабаваў каля сталоўкі меншакласнікаў. Самым малым у класе быў Мацяш, але курыў ён больш за ўсіх. За самага баявітага лічыўся ў нас Навуменка, бо неаднойчы выбіваў у школьных бойках зубы сваім супраціўнікам. Больш баявіты за Навуменку быў Рудко, у яго нават фінка мелася абаюдавострая, але Рудко вярнуўся ў школу пасля калоніі і мы яго не лічылі за свайго, хоць і хадзіў ён цэлы год у наш клас. Рудкевіч лепш за ўсіх гуляла ў валейбол. Чысляк насіў самыя вялікія памеры

школьнай формы, бо меў найвялікшую вагу. Сіманоўскі выдатна бегаў на доўгія дыстанцыі. Хвастовіч мог любога аднакласніка перамагчы ў шахматах. Бязушка меў самыя светлыя валасы і найблакітнейшыя вочы. У Лазоўскага мама лічылася несусветнай прыгажуняй. Сініца была круглай выдатніцай, лепш за яе вучыцца было проста немагчыма. У Капытаенкі на галаве бялелі самыя вялікія банты. Сухадольская вызначалася брыдкасцямі: і найтаўсцейшая яна, і вуграватая, і акуляры на паўтвара. Налецкая мела найбольш кавалераў з нашага класа. Ждановіч была самая ціхая. Навакоўская самая гарлапаністая і голас мела нейкі сіпаты. Рэйзман мог зляпіць з каляровага пластыліну Карла Маркса. Я мог намаляваць акварэллю яблыкі і грушы…

**Кірыенка і непрыемнасці**

Галя Кірыенка прыцягвала да сябе непрыемнасці. Ганарыстая была. Роўная, як лінейка. Тырчала. У спартзале баскетбольны мяч абавязкова патрапляў у твар Галі. На катку яе нос разбівала шайба. У цёмным школьным калідоры нехта (Ты пайдзі-знайдзі хто!) падпальваў яе белы бант на тоўстай цёмна-русай касе. Каб Галя была прыгожай ці непрыгожай, яе б і пашкадавалі. Галя Кірыенка была самай звычайнай бясколернай правільнай дзяўчынай, якую ніхто ніколі не шкадаваў. З яе нават ніхто і не насміхаўся. На разбіты шайбаю нос і на абгарэлы бант усе нашы аднакласнікі пазіралі з тупой абыякавасцю. Непрыемнасці Галі Кірыенка ўспрымаліся як норма.

**Гур'ян і эль**

У мяне мала даверу да кулінарных кніжак, а ўсё з-за рэцэпта, вычытанага ў гістарычнай аповесці Вольгі Гур'ян «Сведкі». Там англійскі кароль любіць эль з яблыкамі. Мелася ў кнізе і тлумачэнне, што тагачасны англійскі эль падобны да сучаснага піва. Я набыў у краме піва, накрышыў у піва яблыка і паспрабаваў. Страва мне зусім не спадабалася. Нашто кароль ужываў гадасць? Канешне, той кароль ваяваў супраць святой Жанны д'Арк. Кароль у кнізе «Сведкі» быў цалкам адмоўным персанажам. Толькі дрэнь піць нашто? Адказаць я не змог. Таму вырашыў, што у кнігах з вялікай доляй верагоднасці можна сустрэць недакладна напісаны і цалкам недасканалы кулінарны рэцэпт. Такую выснову я зрабіў, калі вучыўся ў шостым класе, і з гэткім меркаваннем жыву сорак гадоў.

**Дрожын і рукамыйнік**

Здарылася тое катаванне на вялікім перапынку. Калі я вярнуўся з буфета ў клас, нашы хлопцы неслі на руках Сяргея Дрожына. Панасюга, Мацяш, Шкода, Межыгурскі, Хвастоў, Навуменка цягнулі Дрожына да настаўніцкага стала. Наш шосты «вэ» займаў кабінет фізікі з партрэтам вусатага Эрнэста Рэзерфорда. Акрамя вусатага партрэта, у кабінеце меўся яшчэ і рукамыйнік. Можна было піць ваду проста ў класе і не бегаць на калідор. Да гэтага рукамыйніка і прыцягнулі даўгалыгага Дрожына. Хлопцы пусцілі з крана ваду і пасадзілі Дрожына дупаю ў мокры рукамыйнік. Пазней я даведаўся, што экзекуцыя зладзілася з-за сачыненняў. Дрожын вучыўся кепска, але ўсе дамашнія работы выконваў, усе задачы рашаў і ўсе сачыненні пісаў добра. Больш за тое, усё рашалася і пісалася ім на «добра» і на «выдатна», бо ў Дрожына быў старэйшы на тры гады брат. Той брат вучыўся на адны пяцёркі і пакінуў свайму малодшаму сшыткі з выкананымі заданнямі. Нашы хлопцы дазналіся пра сшыткі і запатрабавалі, каб Сяргей прынёс сачыненні для спісвання. Ён не прынёс. Яго правалаклі праз клас і пасадзілі ў халодную ваду.

**Фінкі і нажы**

Фінка з наборнай ручкаю з аргшкла, ці, як тады казалі, «з плексіглаза» маімі аднакласнікамі залічвалася ў самыя вялікія каштоўнасці. Пажадана было мець фінку «з вусікамі», каб рука не саскоквала на лязо падчас удара. Добра, калі на лязе ёсць равок. Высока цаніліся фінкі абаюдавострыя. Простая самаробная фінка лічалася лепшай за ўсе крамныя нажы. З такой зброяй, як самаробны нож ці самаробная фінка, ты быў далучаны да таемнага свету вольных людзей. Куплёныя ў гаспадарчых крамах сцізорыкі і нажы таксама былі і каштоўнымі, і патрэбнымі, і моднымі, але супраць самаробнай фінкі выглядалі блякла.

**Цымбалаў і двубой**

З-за чаго я завёўся біцца з Цымбалавым? З-за папіхання. На вялікім перапынку я піў ваду з-пад крана. У школе ўсе пілі ваду з-пад кранаў, а таму і практыкаваўся дурны жарт: папіхнуць пітака так, каб ён стукнуўся зубамі аб жалеза. Пасля такога жарціка можна і без зубоў застацца. Таму і ўскінуўся я на Цымбалава, які спрабаваў папіхнуць мяне на кран. Біцца ў класе і школьным калідоры мы не сталі. Мы выбеглі на вуліцу і пабіліся ў скверыку, каля дзіцячага садка. Мы былі роўныя па моцы, мо нават Цымбалаў быў крыху дужэйшы, але ў мяне хапіла спрыту пратрымацца ў бойцы ўвесь вялікі перапынак. Так як наш двубой скончыўся нічым, па дарозе ў клас мы дамовіліся працягнуць бойку ў наступны дзень падчас вялікага перпапынку. Другі дзень мяне расчараваў, бо мой пінжак разарваўся на спіне, трэснуў па шве. Давялося ісці ў атэлье і рамантаваць апранаху, каб, крый Бог, маці не пабачыла, у што ператварылася мая школьная фома. Пінжак зашылі. Ідучы з атэлье, я вырашыў бойку спыніць і наступным днём яе спыніў. Калі мы з Цымбалавым выйшлі ў сквер і на вачах у нашага шостага «вэ» сабраліся працягнуць шматдзённы двубой, я дастаў нож. Я раскрыў вялікі складанец, бліснуў навостраным лязом і сказаў: «Сунешся — парэжу!» Цымбалаў не сунуўся. Нешта прамармытаў пра маё вар’яцтва і сціх. Мы разышліся ў розныя бакі. Нож я схаваў у кішэню моцна падранага і добра зашытага пінжака.

**Прагулы**

У школе я прагуляў столькі ўрокаў, колькі змог прагуляць. Каб прагульваў больш, мяне, пэўна ж, выключылі б са школы ці пакінулі ў якім з класаў на другі год з-за кепскіх паводзін. Калі я лічыў, што ў чвэрці не дагуляў сваё, казаў маці пра тэмпературу, кашаль, прастуду і сядзеў дома дні тры. Зазвычай я прагульваў школу з кімсьці. З Хвастовічам мы хадзілі гуляць у шахматы. У Хвастовіча быў свой маленечкі пакойчык з акном на скрыжаванне праспекта Пушкіна і вуліцы Альшэўскага. Мець школьніку ўласны пакойчык лічылася ў тыя часы вялікай раскошай. З Бязушкам мы хадзілі ў кіно. Усе сядзелі на фізіках ды хіміях, а мы сядзелі ў кінатэатрах на першым радзе. Глядзець шырокафарматныя фільмы паўлежачы мы лічылі шыкам. З Піткевічам я хадзіў страляць галубоў з рагаткі. Голуба не ўпалявалі, а аконную шыбу прабілі жалезным шарыкам. Былі праблемы не толькі са школаю, былі праблемы і з міліцыяй. Шыбу давялося аплочваць. З Аскіркам мы гулялі ў карты або ў цюху. Гулялі на грошы. З Хвастовым я маляваў «хустачкі» — на белай тканіне шарыкавай ручкаю вымалёўваў бандыцкія татуіроўкі. Такая «хустачка» прыкладалася да цела, і праз яе нават няздара мог набіваць зэкаўскае тату. З Сіманоўскім мы смажылі яечню. Прыходзілі да яго дамоў, падсмажвалі два яйкі на масле і з’ядалі з хлебам. У школе я заўжды быў нейкі паўгалодны і злы, а толькі выходзіў са школьных дзвярэй, як радасць быцця імгненна напаўняла ўсяго мяне.

**Бязушка і парнікі**

Пасля шостага летняя практыка павінна была праходзіць у парніках. Я знарок спазніўся ў першы дзень практыкі, як бы і выпадкова. Так і Валік Бязушка спазніўся, таксама нібыта выпадкова. Мы дамовіліся прыпазніцца. Клас з'едзе, мы дабяромся самі да тых парнікоў, а пакуль будзем дабірацца, першы дзень практыкі і прагуляем. Парнікі стаялі паміж вёскамі Кунцаўшчына ды Бараноўшчына. Валік жыў у Бараноўшчыне і выдатна ведаў парнікі. Мы тыя парнікі абышлі разы тры і ніводнага школьніка практыканта не знайшлі. Мы яшчэ і за Кунцаўшчыну схадзілі, у іншыя парнікі, але і там нашых аднакласнікаў не было. Мы прабасцяліся цэлы дзень і нікога не знайшлі, бо практыку ў парніках адмянілі. Нашых практыкантаў пагналі прыбіраць стадыён. За прагул на нас, канешне, насварыліся, але не моцна, бо на працоўную практыку не з'яўлялася палова класа, і ва ўсіх былі быццам бы важкія прычыны.

**Стэфанюкі і лупы**

Лупу мне даў Барыс Стэфанюк. Ён працаваў на заводзе, адкуль і прыносіў вялікія «цюхі» павелічальнага шкла. Такімі «цюхамі» можна было выпальваць на дрэве розныя арнаменты. Злоўленым сонечным прамянём, прапушчаным праз лупу, папера прапальвалася імгненна. Лупы Барыс даў мне і Толіку Кісялю. Толік прывёў мяне да Стэфанюкоў, бо сем'і Кісялёў і Стэфанюкоў сябравалі. У Стэфанюкоў раптоўна памёр бацька. Недарэчна неяк памёр. Пайшоў купацца на Камсамольскае возера, наступіў у вадзе на бутэлечнае шкло і моцна парэзаў ступак. Пачалося заражэнне крыві, і старэйшы Стэфанюк памёр. Барысу давялося пасля школы ісці працаваць на завод, каб падтрымаць сям'ю, каб малодшы Сашка змог спакойна давучыцца ў школе. Толік Кісель тады хадзіў у сёмы, а Сашка — у дзясяты. Толік казаў, што Сашка выпівае. Калі старэйшых дома няма, ён прыводзіць дамоў аднакласнікаў і аднакласніц, яны выпіваюць і гуляюць «у бутэлечку». Сядаюць кругам, круцяць на падлозе пустую бутэльку. Тыя, на каго пакажа рыльца і донца, цалуюцца моцна, па-даросламу, па-сапраўднаму. Тады я даходжваў у шосты, і мяне гуляць «у бутэлечку» не запрашалі. Мне напярэдадні летніх канікулаў далі лупу, я і радаваўся.

**Іра і «Сапай сашлі сагу саляць»**

Было лета. Канікулы. У нашым двары, на вуліцы Прытыцкага, з'явілася шасцікласніца Іра. Яна прыехала на некалькі тыдняў да бабулі. Іра хуценька перазнаёмілася з нашымі дваровымі дзяўчатамі і хлопцамі. Ад Іры мы і пачулі пра таемную мову. Іра хутка сакатала на мала каму зразумелай мове. Яна нават паспрабавала навучыць ёй і нашых хлопцаў з дзяўчатамі. Хлопцы вучыць мову адмовіліся, бо палічылі яе бабскай. Дзеўкі яе вучылі. Навука выглядала наступным чынам: усе словы ў сказе разбіваліся на склады, да кожнага склада дадавалася «са», а потым хутка вымаўляўся такі перароблены сказ. Напрыклад, сказ «Пайшлі гуляць на Кальварыю…» выглядаў на таемнай мове так: «Сапай сашлі сагу саляць сана Сакаль сава сары саю». Нашы дваровыя дзяўчаты пачалі гаварыць на таемнай мове, але Іра з'ехала, і на яе навуку ўсе хутка пазабываліся. Забылася амаль усё, акрамя прапановы «Сапай сашлі сагу саляць».

## СЁМЫ КЛАС

### Слоўцы

Прыметнік «законны» ў нашай школе замяняў такія словы, як «добры» і «выдатны». Законнае кіно. Законная кніга. Законны нож… Змест цяперашняга амерыканскага ОК у нас было слоўца — «збіт», скарочанае ад «зашыбісь».

### Маці і Самсон

Адно з самых вялікіх уражанняў у дзяцінстве я атрымаў у Пецергофе, куды мяне завезла маці. Парк са шматлікімі фантанамі мяне — школьніка — зачараваў, але найбольш узрушыў вызалачаны асілак — Самсон, які раздзіраў пашчу свейскаму залатагрываму льву. Разяўленая пашча вывяргала неверагодна высокі белы вадзяны слуп. На памяць пра Пецергоф я купіў паштоўку з Самсонам. Тую паштоўку я насіў у школьным дзённіку, як закладку. У змрочныя восеньскія і зімовыя дні я глядзеў на залатога героя, льва і слуп летняй вады. Яны мяне суцяшалі.

### Саранча і страх

У дзяцінстве быў модны страх з нашэсцем саранчы. Мы пераказвалі адзін аднаму гісторыі пра хмары саранчы, якая з'ядае ўсё чыста на сваім шляху. Мы былі перакананыя, што конікі могуць хутка з'есці не толькі траву і лістоту, а і ката з сабакам, і нават цэлага чалавека. Саранчы ў вялікай колькасці мне пабачыць не давялося. У вялікай колькасці з усяго падобнага да жамяры я сустракаў толькі вялікую калонію жукоў-насарогаў, што завяліся ў гурбах кастрыцы на льнозаводзе, і калонію божых каровак пад старой ліпаю. Абедзве калоніі жукоў я бачыў у Койданаве. Відовішчы з тысячамі аднолькавых рухавых жукоў выглядалі страшнавата.

### Бадлер і разуменне

Першы верш я напісаў у сёмым класе. Маляваў з натуры зааконны краявід з Кальварыйскімі могілкамі. Шэрае вераснёвае неба, высокія пажоўклыя таполі, нізкія ды ўрослыя ў зямлю крыжы, цагляны плот, пазасыпаная лістотай зямля. Гледзячы на краявід, я і адчуў жаданне напісаць верш пра магілы. Напісаў. Нават паказаў яго бацькам. Напісаная акварэллю Кальварыя ім спадабалася значна больш. Верш я парваў і выкінуў. Шкадую. Акварэль таксама не захавалася, затрэслася ў часе, але яе не шкада… Днямі, перачытваючы Бадлера, затрымаўся на радку: «Магіла — ёй адной наканавана зразумець паэта!» Дакладна.

### Таня і нагавіцы-клёш

Першыя дарослыя нагавіцы я пашыў у Койданаве. Замовіць сакавіта-васільковыя нагавіцы-клёш у тамтэйшага майстра Яраслава мяне падбілі старэйшыя сваякі — Толік Александровіч з Віктарам Мілько. Яны сабе замаўлялі модныя клёшы, ну і я пайшоў за імі прычэпам. Нешта-нейкае атрымалася падзарабіць на будоўлі ды на продажы ягад, ледзь не ўсё зробленае і сышло на знатныя нагавіцы. Толькі ў тых нагавіцах я пагуляў адзін раз. Каб не мама, я б іх зусім ніколі і не надзеў. Мама вырашыла арганізаваць у сваёй бібліятэцы святкаванне майго дня народзінаў. Яе выбралі старшынёю бацькоўскага камітэта, яна прыдумала запрасіць увесь наш клас на экскурсію з расповедам пра бібліятэчную працу ў першай частцы і святкаваннем сынавага трынаццацігоддзя ў другой. На гэтае адказнае мерапрыемства я і склаў васільковую абнову. Экскурсія прайшла выдатна. У мамы быў вялі вопыт праводзіць розныя тэматычныя вечарыны. Другая частка з тартамі, ліманадам ды танцамі атры-

малася яшчэ лепшай. Яніна Адамаўна — выхавацелька будаўнічага інтэрната, дзе на першым паверсе і працавала бібліятэка — прынесла прайгравальнік з кружэлкамі. Мы натанцаваліся шэйкаў ды твістаў да знямогі. Наступнай раніцай усе дзякавалі за добрую вечарыну. Нават класная мне падзячыла. Толькі Таня Рудкевіч папрасіла, каб я больш не хадзіў у местачковых васільковых расклёшаных портках. Таня так і сказала: «Блакітныя кляшы больш не насі!»

**Весялосць**

Праявы весялосці ў маіх аднакласнікаў пазначаліся двума слоўцамі. Лыбіцца — усміхацца, ухмыляцца, пасміхацца. Ржаць — смяяцца, рагатаць, пацяшацца.

**Барыс і Стывенсан**

У майго аднакласніка Боры Сіманоўскага ў кватэры ўзвышалася чатырохпалічная этажэрка, а на ёй стаяла кніга з «Выспай скарбаў» Стывенсана. Барыс тую жоўта-чорную кнігу не чытаў. Некалькі разоў я цікавіўся, ці прачытаў Бора пра скарбы на выспе. Адказ быў адмоўны. У той кнізе была яшчэ «Чорная страла». Пра стралу я нават не пытаўся. Да чалавека, які не чытае, я хутка страчваю цікаўнасць.

**КПД і бабы**

У школах, дзе я вучыўся, большасць настаўнікаў была тоўстымі бабамі. Тупыя, бяздарныя, раз'етыя на бульбе з салам, гэтыя бабы спрабавалі навучыць нас розным мовам і розным навукам. Атрымлівалася ў іх кепска. Мужчын настаўнікаў у маіх школах амаль і не было. Ну хадзіў па школьных калідорах такі сабе КПД — Купрыян Паўлавіч Дурань. Ну насіў КПД пад пахаю рулон з геаграфічнай картай. Ну любіў КПД мяне. Я любіў карты, адрозніваў Латвію ад Літвы і Лабрадор ад Басфора. Я мог паказаць радовішчы карысных выкапняў і распавесці пра жыццё вялікай Амазонкі ў далёкай Бразіліі. КПД мяне хваліў. Ставіў добрыя адзнакі. Я не здзекваўся з яго. Хлопцы здзекваліся, а я не здзекваўся. Мне было нават шкада КПД, а нашых чараватых і таўстаногіх вучылак я ніколі не любіў і не шкадаваў. КПД быў добрым настаўнікам, у тым сэнсе, што нікога не біў і ніколі не здзекваўся з вучняў. Іншыя і білі, і выганялі з класа, і бацькам скардзіліся, а КПД паводзіў сябе ціхамірна. Ён развешваў на дошцы шматколерныя карты і ціхенька распавядаў, нібыта сам сабе, пра розныя кантыненты і краіны. КПД моцна здзіўляўся і па-дзіцячы радаваўся, калі нейкі вучань ведаў сталіцу ЗША і мог паказаць на карце «боцік» Італіі. КПД не моцна растроіўся, калі вучні з майго сёмага «вэ» перапэцкалі крэйдаю настаўніцкае крэсла і настаўніцкі стол. Ён проста папрасіў дзяўчат пазмываць і выцерці крэйду. Любы іншы настаўнік з-за перапэцканасці крэсла і стала ў крэйду пачаў бы лямант, а Купрыян мужна пераносіў цяжкасці жыцця школьнага настаўніка ў мікрараёне.

**Вальчак і рама**

На маім доме паставілі металічную простакутную раму, а ў яе быў устаўлены акуратны ромб. Такія ж рамы папаставілі і на тры суседнія дамы. Ромбы і рамы былі аздобленыя лямпачкамі, якія запальваліся ў перадсвяточныя і святочныя вечары. Калі ты ехаў ад вінзавода ўздоўж Кальварыйскіх могілак да вёскі Цівалі, дык мог любавацца геаметрычным арнаментам на дахах нашых дзевяціпавярховікаў. Мог і не любавацца, мог залезці на дах, павыкручваць лямпачкі і пакідаць іх на галовы пакупнікоў, што заходзілі і выходзілі з хлебнай крамы ды гастранома самаабслугоўвання. Пакупнікі не паленаваліся і выклікалі міліцыянтаў. Калі ў іх шпурляеш

папяровай бомбачкай, поўнай вады, яны міліцыянтаў не выклікаюць. Сам правяраў. Ведаю. Тут лямпачкі вялікія. Выбухі атрымліваліся гучныя, ды шкло разляталася паўсюль. Міліцыянты прыходзілі нават да мяне ў кватэру. Я тлумачыў, што вырас, што рыхтуюся звальвацъ са школы ў вучэльню, што дарослы. Міліцыянты зрабілі выгляд, нібыта вераць. Яны нікому не вераць, нават сабе. У іх работа — не верыць, сумнявацца і шукаць. Знайшлі яны Вальчака: ён тады толькі ў трэці клас хадзіў, а кідаць лямпачкі людзям на галовы спрыту і смеласці хапіла. Сям'ю Вальчакоў змусілі лямпачкі адкупіць і ў раму паўкручваць. Толькі рама тая была зроблена кепска, дождж і снег безнадзейна сапсавалі яе за адну зіму.

**Макулатура і металалом**

Штовясну мы — школьнікі — збіралі макулатуру і металалом. Старыя кнігі, газеты, часопісы складаліся ў распраналку каля спартзалы. Макулатуры мы нацягвалі цэлы пакой, пад самую столь. Іржавае жалеза кідалася проста на асфальт за школаю, пад высокімі вокнамі той жа спартзалы. Не ведаю, як дзе ў іншых школах, а мы насілі метал і паперу з азартнай радасцю.

**Дырэктар і прозвішча**

У сёмым гісторыю СССР у нас выкладаў дырэктар школы. Высозны, сухарлявы, у шэрым строі. Ён быў такі спакойны, такі ўпэўнены, такі велічны, што ягоная прысутнасць у нашай занядбанай і гранічна беднай школцы, у нашым раздаўбайскім «вэ» класе выглядала нонсэнсам. Дырэктар-мужчына прабыў у нашай школцы зусім не доўга, якіх пару гадоў, і сышоў на павышэнне, у райкам. Значыць, не толькі я бачыў ягоную неадпаведнасць школьнаму асяродку ў мінскай мікразе. Ён не адпавядаў нашаму раёну, нашай школе, але цалкам адпавядаў пасадзе дырэктара. Ён настолькі быў адпаведны гэтай пасадзе, што ўсе называлі яго «Дырэктар» і ніяк інакш. Дырэктар загадаў… Дырэктар сказаў… Дырэктара сягоння не будзе, бо яго выклікалі ў гаркам… Дырэктар абураўся… Ніколі не бачыў, каб наш дырэктар абураўся, але чуць пра такое чуў. Дырэктар… Дырэктар… Дырэктар… Я нават забыўся ягонае імя і прозвішча. Дырэктар — і ўсё на гэтым.

**Ала і Мір**

У сёмым мне падабалася Ала Навакоўская. Гуляла Ала са старэйшымі хлопцамі, але і да мяне ставілася з прыязнасцю. Ала запрасіла прыехаць летам у Мір, дзе яна будзе жыць у бабы з дзедам. Шмат разоў я ўяўляў тое падарожжа, уяўлялася яно добра, бо да сваіх дзеда Валодзі з бабай Броняй ехаў праз Койданава і той жа Мір на Карэлічы, Навагрудак і Наваельню. Уяўляць я ўяўляў, а заехаць так і не заехаў, пасаромеўся. Акрамя запрашэння ў Мір, ніякіх інтымных стасункаў у мяне з Алаю і не было. На традыцыйных сустрэчах аднакласнікаў Ала напівалася, бузяніла і бушавала. Хлопцы выпраўлялі яе дамоў. Выпраўлялі без мяне, бо я не хацеў мець зносіны з крыклівай раз'юшанай бабай, мне ўсё яшчэ падабалася Ала Навакоўская з сёмага «вэ», якая запрашала ў свой ціхі Мір.

**Савічы і гадзюкі**

Былі ў нашым Койданаве браты Савічы, міліцыянтавы дзеці. Як і ўсе койданаўскія хлопцы, хадзілі Савічы летам у грыбы. Ведалі яны і добрыя мясціны ў ляску з назовам Рыжаўка. Каб іншы грыбнік не падыходзіў да іхняй запаветнай грыбніцы, Савічы прыдумалі вешаць на дрэвах гадзюк. Залезлі міліцыянтавы хлопцы ў балота,

паназабівалі гадзюк і панаразвешвалі на нізкіх галінах. Хадзіць сярод павешаных, хай сабе і мёртвых, гадзюк і страшна, і гідка, і млосна. Савічы ад чужых пярэпалахаў яшчэ і радасць атрымлівалі. Чужы страх іх весяліў, забаўляў і бадзёрыў.

## ВОСЬМЫ КЛАС

### Света і савецкі чалавек

Для мяне савецкі чалавек жыў у Сочы. Ён туды прыязджаў з розных куткоў неабдымнага СССР, прыходзіў на чарнаморскі пляж, распранаўся да трусоў, клаўся на дашчаны ляжак і апаляўся. Плаваў, апаляўся і лізаў марозіва «Пламбір». Савецкага чалавека ў Сочы было шмат. На пляжах трэба займаць месца з самай раніцы. Як толькі развіднела, бяжы на мора, бо пазней месца вольнага не знойдзеш. Бег і я. Бег, распранаўся, клаўся на ляжак і заміраў паміж двума савецкімі людзьмі. Аднаго разу леваруч ад мяне легла Света. Быў я васьмікласнікам, Света скончыла шосты. Яе бацькі прывезлі дачку на Чорнае мора з Пензы. Света мне спадабалася. Я нават спытаў, што яна будзе рабіць увечары. Света расказала, што яны здымаюць пакой у доме каля чыгуначнага вакзала і кожны вечар пасля вячэры гуляюць ад вакзала да марпорта. Пасля вячэры я пайшоў на вуліцу, што вядзе з марпорта да чыгуначнага вакзала, і гадзіну прачакаў Свету. Я заўважыў яе здалёк, пайшоў насустрач. Яна ішла з бацькамі і малодшым братам. На Свеце была белая сукенка з сінімі паскамі абляможкі. Мы павіталіся. І ўсё… Зусім усё. Больш я ніколі той Светы не бачыў. Я спрабаваў знайсці яе на пляжы, я чакаў каля вакзала і шукаў побач з марпортам. Нідзе і ніколі. Навокал была процьма савецкіх людзей, што прыехалі ў Сочы адпачываць. Тады я наглядзеўся на савецкага чалавека, наўглядаўся напоўніцу.

### Малюнкі ў падручніках

Падручнікі я любіў больш за настаўнікаў. Кепскія школы, кепскія вучні, кепскія настаўнікі… Падручнікі ў мяне былі добрыя. Так я лічыў у школе, бо падручнік можна было чытаць і перачытваць, бо ён рэальна дапамагаў адказваць на ўроках. Падручнік дапамагаў вырывацца з навакольнага тупагаловага ідыёцтва, а настаўнікі мае школьныя не дапамагалі. Былі іншыя школы, іншыя настаўнікі. Ведаю, бачыў, слухаў. Маімі настаўнікамі ў школе былі кнігі і падручнікі. І як жа я не любіў тых, хто падручнікі псаваў. У большасці маіх аднакласнікаў падручнікі былі пакрэмзаныя, брудныя і з размалёванымі партрэтамі вялікіх людзей. Рогі раслі ў Мендзялеева, у Купалы і Коласа было два вока на дваіх, Багушэвіч меў сінюю бараду, і ўсё такое падобнае квітнела на старонках… А я па-дзявочы ганарыўся чысцінёю сваіх школьных кніжак.

### Навуменка і «плюхі»

Гульня «ў плюху» выглядала наступным чынам… Збіраліся пяць-шэсць чалавек і лічыліся. Той, хто быў у лічылцы апошні, паварочваўся да астатніх спінаю і выстаўляў з-пад пашкі далонь. Нехта з хлопцаў біў — даваў плюху — па выстаўленай далоні. Трэба было адгадаць аўтара плюхі. Калі адгадвалася аўтарства, тады той, хто біў, паварочваўся да гульцоў спінаю і выстаўляў сваю далонь пад плюхі. Калі гульня надакучвала, усе падміргвалі Сяргею Навуменку, найвялікшаму аматару моцных плюх у нашым восьмым «вэ», і ён дзвюма складзенымі у «замок» рукамі біў па выстаўленай далоні так, каб паваліць чалавека. Звычайна хлопец падаў, тады ўсе смяяліся і крычалі, што гульня скончылася.

**Фельчарка і тэмпература**

Калі ў школе рабілася моташна, а сыходзіць з урокаў было небяспечна з-за розных кантрольных і дыктовак, я накіроўваўся ў медпункт. Там панаваў белы колер і стаяў эфірны водар. Толькі ад ледзянога водару ўсе хваробы мусілі спалохацца, згарнуцца і прапасці. Малапрыемнае месца — медпункт, бо туды нас перыядычна заганялі атрымаць балючы ўкол пад лапатку. Каб не млосны настрой, не ішоў бы я ў халодны медпункт. Сітуацыю выратоўвала фельчарка, яна распытвала і аглядала цябе, абмацвала далікатнымі рукамі, давала градуснік і незалежна ад тэмпературы адпускала дамоў. У нас было шмат варыянтаў павышаць тэмпературу, але я не павышаў. Якая была, такая была. Млосны твар казаў сам за сябе. Я выходзіў на школьны ганак, рабіў глыток вольнага паветра, і млосць знікала.

**Крывенка і нябожчык**

Саша Крывенка прыходзіў памаляваць у студыю Палаца піянераў. Ён займаўся яшчэ і ў мастацкай школе, але яму было замала малявання тры разы на тыдні. У палацы я з ім і пазнаёміўся. Мы рыхталіся паступаць у мастацкую вучэльню і, як усе тагачасныя мастакі, захапляліся пластычнай анатоміяй. Каб павялічыць свае веды пра аголенае цела чалавека, мы накіраваліся ў анатамічку. Прасторная анатамічка з вялікімі, пад самую столь, квадратнымі вокнамі мясцілася на апошнім паверсе трохпавярховага дома, што стаяў ва ўніверсітэцкім двары на Ленінградскай. У анатамічцы мы нагледзеліся на заспіртаваныя часткі чалавечых цел, нанюхаліся фармаліну і наслухаліся дурнаватых жарцікаў будучых дактароў. Самае вялікае ўражанне пакінуў бязногі і бязрукі чалавек. Ён, увесь цёмна-зялёны, нібыты вылеплены з пластыліну, ляжаў на вялікім стале. Вакол яго стаялі студэнты ў накрухмаленых белых халатах. «Бачыце, валасы ў яго рудыя. Бландзін. Зараз я пакажу вам яго нутро. Вось пячонка. Вось нырка…» — казаў студэнтам выкладчык. Мы паразглядалі ўсе вантробы зялёнага нябожчыка, памалявалі слоікі з галовамі дзяцей і вярнуліся ў палац. З Сашам Крывенкам я больш нікуды ніколі і не хадзіў. Ён вырашыў не паступаць у вучэльню, а паступіць адразу ў інстытут. Шляхі нашы разышліся; а ў інстытут ён, дарэчы, паступіў.

**Змаганні з «тройкай»**

Праз усю школу я вёў перманентнае змаганне з «тройкай», «траяком», «трайбаном». Як я ні стараўся, як ні напінаўся, як ні намагаўся, а ён абавязкова вылазіў напрыканцы чвэрці, чортаў «траяк». Ці то па рускай мове, ці па мове англійскай, а мог і па хіміі з'явіцца паскудны «траячок». На канікулах я вучыў і вывучваў прадмет, па якім атрымаў «трайбана». Наступная чвэрць ішла лёгка, ішла без «трульнічкаў», а пад канец зноў вылазіла пасрэдная адзнака. Год я скончаў без троек, але гэта мне каштавала неверагодных намаганняў. Нават «адзінку» за паводзіны я перажываў лягчэй, чым «тройку» па якім з прадметаў. Так, я вучыўся старанна…

**Русалка і запіска**

Настаўніц рускай мовы і літаратуры ў нас называлі «русалкамі». З пятага па восьмы клас у нас выкладалі чатыры розныя «русалкі». Новы год — новая «русалка». Усе, як адна, былі цалкам бяздарнымі. Зрэшты, за гады маёй вучобы мне не трапілася ні адной прыстойнай «русалкі». Не пашанцавала. Літаратуру я любіў заўжды, а настаўніц русмовы і русліту не любіў і не паважаў. У нашым восьмым «русалка» была малапрыгожая, і ў дадатак мужа ў яе не было. Навіна пра адсутнасць мужа ў «русалкі»

мяне чамусьці ўсхвалявала. Жанчыне пад сорак, а яна жыве без мужа. Русалка — і без вадзяніка! Цікава. Навіной я вырашыў падзяліцца з усім сваім восьмым «вэ» і напісаў запіску, і пусціў запіску вандраваць па партах. «Русалка» тую запіску перахапіла, прачытала, пачырванела, як укінутая ў кіпень рачыха; і не бачыў я больш ніводнай пяцёркі ні па русмове, ні за русліт. Нават на выпускным іспыце, калі я выдатна адказаў на ўсе пытанні ў білеце і на ўсе дадатковыя пытанні, «русалка» сказала, што ставіць мне «чатыры», а не «пяць», і я сам ведаю чаму. Г*а*дзіна! Няздара і г*а*дзіна. Правільна я зрабіў, што пусціў гуляць па партах запіску: «Русалка — старая дзева!»

**Званкі**

У розных школах я чуў шмат рознагалосых званкоў, але ўсе яны мелі мярзотны гук. Калі чую пра пачуццё радасці, атрыманае ад такога званка, не веру. Пачуццё палёгкі можна атрымаць, а радасці — ніколі. Скрыгат турэмнай брамы за спінаю вызваленага чалавека таксама можа выклікаць пачуццё пэўнай палёгкі, але сутнасць таго скрыгатання застанецца адмоўнай. Так і голас школьнага званка заўсёды заганяе ў мінус, нагадвае пра палон, гняце. У далёкім дзяцінстве металічнае дрыгатанне школьнага званка раз і назаўжды залілося мне ў вуха. Ад яго немагчыма пазбавіцца. Калі я чую школьны званок у сне, прахопліваюся і доўга не магу заснуць.

**Пакаранні**

Пагроза словам… «Чым гэта мы займаемся? Чытаем?» Пачуеш — і закрываеш разгорнутую пад партай кнігу. «Не слухаем? Малюем?» Аркуш з малюнкам даводзілася прыбіраць з парты ў ранец. «Не размаўляць! Не шаптацца!» Заціхаеш на паўслове. Вербальная пагроза — заўвага — самае лёгкае пакаранне за кепскія паводзіны ў маіх школах.

«Двойка» за паводзіны, пастаўленая ў дзённік чырвонымі чарнiламі, — пакаранне больш цяжкае. Яе можна было атрымаць за непадпарадкаванне вербальным заўвагам. Настаўніца кажа сціхнуць, а ты працягваеш размову ды яшчэ гучна смяешся. За гучны смех «двойка» — гусак з чырвонай шыяю — табе гарантавана. За пляванне гарохам праз трубачку таксама можна было атрымаць «чырвонага гусака». За тое, што нехта ўсцыкаўся на ўроках, «двойка» не ставілася, бо падобныя паводзіны не залічваліся ў зламысныя. Дзеля «двойкі» трэба было праявіць волю і прадэманстраваць непадпарадкаванне. Бязвольныя вучні скараліся пад першай заўвагаю.

Калі «двойка» не дзейнічала, настаўнік рабіў запіс у дзённік, у якім апісваў здарэнне. Штотыдзень дзённік павінны былі правяраць бацькі. Такі запіс для іх і рабіўся. «Ваш сын сістэматычна парушае дысцыпліну, размаўляе на ўроках, перашкаджае навучальнаму працэсу». Пад такім запісам павінна была з'явіцца рэзалюцыя бацькоў. «Запіс прачытаў», дата і роспіс. Калі рэзалюцыя не з'яўлялася, у дзённік запісвалі выклік бацькоў. «Паводзіны вашага сына робяцца невыпраўляльнымі. Просім прыйсці ў школу!» Каб атрымаць такі запіс, трэба было моцна дастаць вучылку. Ну, дулю ёй паказаць ці мацюкамі абкласці.

Настаўніцкая помста мае розныя аблічча, але збольшага яна зводзіцца да элементарнага заніжэння адзнакі. Ты нешта нейкае зрабіў, на што настаўнік не можа адрэагаваць адразу. Ён затойвае крыўду, а потым ставіць табе адзнаку на бал ці на два ніжэй. Так у мяне было з «русалкай» у восьмым класе. Яна мяне даставала. Натуральна. Ці то я ў лермантаўскім Пячорыне бачу зашмат станоўчасці, ці ўрывак з Гогаля не дастаткова ўпэўнена дэкламую, ці сачыненне маё зусім кароткае… Дастала па страшнай сіле. Дарэчы, англійскую мову я таксама ў школе не любіў, але нашы «англічанкі» былі менш помслівыя і даставучыя.

Калі ў семдзесят трэцяй школе я не бачыў, каб хто з настаўнікаў лупіў вучня, дык у дзявятай настаўнікі на маіх вачах шмат разоў білі маіх аднакласнікаў. Настаўнік спеваў біў і выкідваў з класа Барыса Сіманоўскага, бо той не спяваў. Настаўнік прапанаваў Барысу проста адкрываць рот, калі ўсе іншыя спяваюць. Сіманоўскі пасмяяўся. Настаўнік прапанаваў яму вымятацца. Барыс адмовіўся. Настаўнік выцягнуў Барыса з-за парты, працягнуў праз клас і выштурхаў за дзверы. Большасць майго антысеміцкага класа раўла: «Жыды б'юцца! Жыды б'юцца! Жыды б'юцца!» І наш настаўнік спеваў, і наш Бора Сіманоўскі сапраўды мелі яўрэйскую кроў. Таму клас наш узбударажыўся не столькі з таго, што настаўнік лупіць і выкідае вучня, а з таго, што адзін яўрэй так жорстка абыходзіцца з другім яўрэем.

Калі выкіданне Сіманоўскага абышлося без кровапускання, дык пакаранне Хількевіча было крывавым.

Амаль усе хлопцы ў нашай дзявятай школе мелі ліхтарыкі. Модна і практычна. Школьны аўтобус прывозіў вучняў з вёсак Кунцаўшчына і Бараноўшчына. Да таго аўтобуса шмат каму даводзілася ісці па кепска асветленых сцежках. Так і завяліся ў нашых школьных партфелях ліхтарыкі. Спачатку ў вучняў з вёсак, а потым і ў гарадскіх. Хількевіч дастаў з партфеля ліхтарык, запаліў і накіраваў прамень на шырокі зад крываногай настаўніцы рускай мовы — Ганны Іванаўны, якая пісала крэйдай на дошцы тэмы сачыненняў. «Русалка» азірнулася на смех, пабачыла светлы круг на спадніцы пад сваім пукатым жыватом, падбегла да Хількевіча, выхапіла ліхтарык і трэснула ім па лбе вучня. Кроў заліла твар Хількевіча, якога наша «русалка» схапіла за каршэль і павалакла ў медпункт, дзе яму наклалі швы.

Хількевіч быў не адзінай ахвярай нашай цяжкай на руку Ганны Іванаўны. Аднаго хлопца, што курыў у школьнай прыбіральні, «русалка» засунула галавою ва ўнітаз і спусціла на яго ваду.

Мы лічылі, што такая жорсткасць у «русалкі» з-за яе карэла-фінскай крыві. Яна была звер-бабай, але яе ніхто асабліва не баяўся, яе не любілі і з яе насміхаліся. Выкладаючы рускую мову, цяжкарукая настаўніца часам блытала мужчынскі і жаночы род. «Ольга пошёл на озеро!» — магла сказаць наша баявітая Ганна.

## АДНАКЛАСНІКІ

### Гунько і «Бураціна»

Таню Гунько ў нашым восьмым «вэ» недалюблівалі. Быццам і нагоды не было, каб на яе крыўдавацъ ці сварыцца, а ўсё адно ніхто Гуню не любіў. Твар у яе быў рабаціністы, валасы рудаватыя, сама худая, што трэска, а ў круглых блакітных вочках пустата. Сцюдзёную пустату і не любілі. Гунька трымалася адасоблена. Вучылася з «дваяка» на «траяк». Пакуль на той «траяк» нешта напіша, дык перапэцкаецца ў чарніла. І рукі запэцкае, і твар свой рабы. Як яе, такую перапэцканую, узялі працаваць у краму дзіцячай адзежы «Бураціна»? Не здагадваюся. Узялі. Адразу пасля школы Гуня стала за прылавак, пастаяла там з месяц і абакрала краму. Яе злавілі, яе судзілі, яе закрылі ў турме на тры гады. Больш я нашай Тані Гунько і не бачыў.

### Налецкая і Правалінскі

Успаміны малявалі, а ўяўленне дамалёўвала яе як высокую і стрункую, а ў рэальнасці я пабачыў малую і сытую жанчыну. Яна распаўнела так, што твар зрабіўся зусім круглы, нібы поўня, а вочы ператварыліся ў дзве вузенькія гарызантальныя

шчылінкі. Калі яна смяялася, вочкі знікалі ў ільсністых шчоках. І гэтую смяшлівую пампушку я некалі запрашаў на спатканне? Неверагодна! Яна сядзела побач са мною за рэстаранным сталом і несупынна пахіхіквала. Яна выпіла бутэльку шампанскага і з'ела дзве катлеты па-кіеўску. Яна піла, ела і смяялася. Мне было кепска. Да ўсіх кепскасцяў, звязаных з распаўнелай Налецкай, дадаваўся голас Правалінскага, які ляцеў на мяне з рэстараннай сцэны. Здавалася, такое трэба забыць. Варта, варта. Ды яно не забываецца.

**Лялькоўскі і сыходы**

Папіў кавы з былым аднакласнікам Алегам Лялькоўскім. Раз на год, раз на два гады мы выпадкова сустракаемся на праспекце і выпіваем па кубачку кавы ці гарбаты. Раней пілі каньяк, цяпер — каву. Алег сказаў, што больш няма на свеце двух маіх аднакласнікаў з дзявятай школы. Сяргей Навуменка патануў. Кастусь Астахаў добра выпіў з суседам, і сэрца спынілася. Цяпер Люда Будкевіч — удава. Яна таксама вучылася ў маім «в» класе. Яшчэ Лялькоўскі расказаў, што Сяргею моцна падабалася Налецкая, ён за ёю хадзіў. Аднойчы каля пад'езда Налецкай Навуменку парэзалі бандыты. А я і не ведаў пра такі драматычны эпізод у жыцці сваіх аднакласнікаў. Цяпер ведаю, але паспачуваць Сяргею ўжо не змагу.

**Іра і праклёны**

Кранеш якую тэму, і пачынаюцца нечаканасці... У мяне так заўжды. Пачаў пісаць занатоўкі пра школы, і адзін за другім паўстаюць на маіх дарогах аднакласнікі. Стаю сабе на праспекце Незалежнасці, тут падыходзіць нейкая старая і кажа: «Адамчык, ты бачыш у небе бляск?» Пачынаю ўзірацца… Не ў неба, у старую ўзіраюся і бачу пачварны варыянт маёй аднакласніцы Іркі Альгертовіч. «Адамчык, ты бачыш самалёт?» — «Які самалёт, Іра? Які самалёт? Нафіг мне гэты самалёт?» — «Блішчыць! Побач месяц, ледзь заўважны… Ты паглядзі!» «Паглядзі-паглядзі, бляха-муха…» Паглядзеў… У яе ў роце, за густа намазанымі ружовымі вуснамі ад зубоў засталося толькі некалькі гнілых пракураных пянькоў. «Я тут, бывае, сяджу на алейцы. Ты памятаеш, тут сядзелі хіпі, мае сябры — Князь, Нагіш, Шыма?» — «Помню. А ты зараз дзе? У нас на раёне? Бачыш каго з класа?» — «На раёне. Бачу. Каго ўбачу, усе цябе праклінаюць, за панапісванае пра нас. Крыўдзяцца, бо ты пішаш няпраўду…» — «І ты крыўдзішся?» — «Я? Не…» — «Скажы тым, хто крыўдзіцца, што прыеду на раён, сустрэну і адмудохаю. Так і скажы. Няма чаго крыўдзіцца на праўду…» — «Ты напісаў, што нашага Колю Панасюгу павесілі каля чыгункі, а яго павесілі ў лесе. Забілі і павесілі ў лесе…» — «Ты там была? Мне сказалі, што яго павесілі недзе паміж Радыятарным і Масюкоўшчынай, на нейкім завадскім плоце. Можа, і каля лесапаласы? Дакладней не скажу. І Сярожа Навуменка не скажа, бо ўтануў. Мне Лялькоўскі сказаў, што Навуменка ўтапіўся…» — «Твой Лялькоўскі звар'яцеў. Ходзіць па раёне, як вар'ят. Трасе нейкімі раменьчыкамі для сабак… Навуменку шкада». Іра казала праўду. Апошні раз я бачыў Лялькоўскага п'яным і з гэткімі ж сабачымі раменьчыкамі ў руках. Іра зноў пачала паказваць на неба. На правай руцэ на трох пальцах у яе чарнелі плямы ад тытунёвай смалы. Мне зрабілася млосна, і я развітаўся з Альгертовіч. Развітваючыся з Ірай, я падумаў: «Ніхто з маіх аднакласнікаў і аднакласніц не стаў порназоркай, а шкада».

*Мікола ШАБОВІЧ*

# СПОВЕДЗЬ САЛОДКІХ ВУСНАЎ

*Вершы розных гадоў*



***Мікола Шабовіч нарадзіўся 4 студзеня 1959 года ў вёсцы Бадзені Мядзельскага раёна. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Выкладае родную мову ў БДПУ імя Максіма Танка. Паэт, перакладчык. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў і кнігі гумару «Хор болей не спявае», уганараванай рэспубліканскай літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон». На яго вершы напісана больш як 170 песень.***

**ЧАС ПАЭЗІІ**

Пабляклы вечар за ракой
Ружова-бэзавай,
Рукой махнуўшы залатой,
Вяртае цішу і спакой
І час паэзіі.

І Муза лепшаю з дзяўчын
Пасланкай Божаю
Сыходзіць госцяю начы
З чарнява-бледных аблачын
І йдзе аблогаю.

Ля пасівелае ракі
Туманам сцелецца,
І рыфма тчэцца на вякі,
Пакуль не выспее блакіт
Па-над аселіцай...

Мне ў сонца бліску ў вышыні
І ў вечар бэзавы
Начныя мрояцца агні,
І рыфмы час, і цішыні,
І час паэзіі.

* * *

Жніўна. Амаль што восенна...
Хутка спадуць лісты.
Срэбна-халоднымі росамі
Прыйдзеш, далёкая, ты.

Згадкаю бела-туманнаю,
Нібы з нябёс і вады,
Яснавяльможнаю паннаю
І маладой, як тады…

Знікне малочнае мроіва,
Хустай нябачнай сплыве
Следам за лістабоем
Па ссірацелай траве…

* * *

Ты побач. Ты блізка.
Я твой ці не твой?
Ты мая?
Вачыма сваймі
Працінаеш наскрозь,
Напавал.
Ты хто: адаліска?
Ці, можа, князёўна?
Ці жарсці змяя?
Пяшчоту прымі,
Як шампанскага
Пенны бакал.

Не трэба
Ні правільных слоў,
Што халодзяць,
Як лёд,
Ні слоў спакушальных,
Бо здасца,
Што словы —
Гульня.
Давай памаўчым,
Покуль думкі
Свой высяць палёт.
Давай прывітаем
Народзіны
Новага
Дня.

Хай вусны ля вуснаў,
Як пчолкі над краскай,
Трымцяць да зары,
А рукі распусна
Натольваюць ласкай
Імгненні жыцця.
Хай толькі надзея
Над намі
Найяркаю зоркай
Гарыць
Да хвілі апошняе,
Хвілі расстайнае,
Да забыцця.

* * *

Ты сёння ў белым, як нявеста.
Цвіцеш рамонкам палявым,
А вочы дзіўнай сінявы
Завуць да шчасця Эверэста.

О, як магніціць твой пагляд!
Усмешка чыстая мадонны!
Мне без вачэй тваіх бяздонных
Пражыць удасца ўжо наўрад.

Ды толькі вусны, бы няўзнак,
Зноў прамаўляюць: «Да сустрэчы!»
...І ты знікаеш у далечы...
...І я — як колішні юнак,

Такі ж наіўны і шчаслівы,
І летуценны, хоць гады
Сваёй не сцішваюць хады —
Імчаць навыперад імкліва.

Ды на шляху да Эверэста
Згадаю вочы з сінявы,
Як ты ўся ў белым, бы нявеста,
Цвіла рамонкам палявым.

* * *

Без цябе не магу пахінуцца нікуды.
Нават гулкія вуліцы Мінска — пустыня.
Вобраз твой снегавей белізною захутаў
І на памяць адны успаміны пакінуў.

Кожны крок адмярае гадзіннік,
як сведка
Адзіноты маёй і самоты-настрою.
Завіруху цалую (а што этыкет мне!),
Захінуўшыся белых сняжынак роем.

Святлафор той, нібы на заставе варта,
Пазірае вачыма суровымі прадзеда.

Пастаю. Усё роўна ва ўсе тэатры
Білеты даўно прададзены.

Без цябе не магу пахінуцца нікуды…

* * *

Шчэ не пажоўклі краскі
Нашых з табой ваколіц.
Што ж ён такі нянаскі —
Спеў жаўрукоў над полем?

Некалі перастане
Сэрца шчымець наіўна.
Там, у густым тумане,
Росам было так жніўна.

Нашы з табою лаўкі
Помняць часы мілосці.
Дым ядавіта-даўкі
Восень пакліча ў госці.

Дзён лістабой датлее,
І замятуць сняжынкі
Нашы з табой алеі,
Нашы з табой сцяжынкі,

Дзе ў веснавым палоне
Гэтак было спакусна.
Чулася ў зор стазвоне
Споведзь салодкіх вуснаў.

Хіліцца ноч да рання,
Дзень загарыцца промнем.
Доўжацца хай спатканні
Да развітальнай поўні!

* * *

Так светла, як ад лірыкі Басё,
Адно што птушкі толькі не спяваюць.
Калі такія верасні бываюць,
То, бачыць Бог, загублена не ўсё.

Запалу шчэ — на многія гады,
Адно б паспець пачуццям даць разгону:
Бацькоўскаму куточку дарагому
У вернасці прызнацца назаўжды,

Пакінуць след, няхай сабе й слядок,
Адно б сумненні толькі не хінулі,
Што праляцелі вёсны, прамінулі,
А за спіной — пустэчы халадок…

Але пакуль шчыруе санцапас,
Хіба паверыш: хутка ўжо кастрычнік,
Хоць і не час яшчэ паставіць клічнік,
Ды і шматкроп’е быццам бы не час.



*Аляксандр ВАШЧАНКА*

# ROCK FOREVER, альбо ЧАТЫРЫ ПАДАРОЖЖЫ Ў МІНУЛАЕ

*Аповесць*



***Аляксандр Вашчанка нарадзіўся 2 студзеня 1951 года ў вёсцы Дварэц на Віцебшчыне. Аўтар кніг прозы «Свечка на дажджы», «Хлопчык Лёкса і купальскі дзядок», а таксама альбома бардаўскіх песень. Укладальнік і перакладчык кнігі П. М. Шпілеўскага «Беларусь у абрадах і казках», укладальнік кнігі: Адам Багдановіч «Я всю жизнь стремился к свету».***

***Сыну Аляксандру прысвячаю***

Кроплі халоднага восеньскага дажджу павольна паўзлі па шыбе. Я стаяў ля акна і назіраў за гэтым сумным відовішчам. Цікава, якая з дзвюх суседніх кропель першай дапаўзе да фінішу: вунь тая тоўстая, падобная да слімака, ці меншая, са срэбным адценнем? І хаця я хварэў за срэбную, слімак перамог. Вось так і ў жыцці: перамагаюць тоўстыя і важкія…

— Над чым задумаўся, Зміцер? — да маёй спіны прытуліліся пругкія грудзі сакратаркі Тамары. Былі моманты, калі падобнага дотыку было дастаткова для таго, каб схапіць гэта прыгожае і падатлівае жаночае цела і авалодаць ім прама на быццам бы спецыяльна створаным для гэтай мэты эратычнымі немцамі шырокім падаконніку шклопакета. Потым адключыць усе тэлефоны і перайсці на скураную канапу. Пасля разам паехаць у саўну, закаціць у рэстаран, цалавацца пад «Yesterday» і рэзаць твіст пад «Чорнага ката». Забурыцца ў маю халасяцкую аднапакаёўку і палохаць суседзяў нястрымнымі стогнамі ўзаемнай жарсці. Але зараз мне не хацелася. Нічога. І ў думках, і ў справах панаваў крызіс. Маё маленькае паліграфічнае прадпрыемства ледзьве зводзіла канцы з канцамі. Сур'ёзныя заказы на друкаванне падручнікаў і шматтыражных жаночых раманаў перахоплівалі салідныя фірмы з пэўнымі сувязямі, а мы перабіваліся выпускамі календароў і танных кніжак кшталту «Як зарабіць мільён». У беларускіх рублях.

— Нічога, даражэнькі, хутка зіма. Надрукуем прыгожых календароў, наладзяцца справы, — падбадзёрыла мяне Тома. — Ты не забыўся: сёння ж канцэрт «Скорпаў»?!

Вядома, я не забыўся. «Scorpions» — гэта сапраўдны рок, гэта мая маладосць! Білеты, хоць і дарагія, былі куплены за два месяцы, бо гурты такога ўзроўню прыязджаюць у Мінск даволі рэдка. Я не дараваў бы сабе, калі б прапусціў канцэрт. Ад думак пра прыемны вечар настрой у мяне ўзняўся, я павярнуў Тамару да сябе і пацалаваў. Перавёў пагляд ніжэй — два пругкія мячыкі апетытна выглядалі з-пад кофтачкі. Ну, жанчыны! Ну, д'ябаліцы!

Грудзі не больш другога памеру, а падбяруць такі бюсцік, што здаецца — перад табой Памэла Андэрсан. І чапляюць нас на кручок разумніцы жанчыны, і робяць з намі што заўгодна. Суцяшае адно: пакуль мы, нават ведаючы, што праблем будзе ў сто разоў болей, чым задавальнення, будзем імкнуцца да жанчыны, да тае пары будзем заставацца мужчынамі.

Я пачаў ужо расшпільваць верхні гузік Томінай кофтачкі, калі яна сказала:

— Пачакай, Зміцер, там табе нейкі дзіўны факс прыйшоў. Не хочаш паглядзець?

— Я лепш на твае грудзі пагляджу, спакусніца, — прашаптаў я.

— Яшчэ наглядзішся. Пайшлі ў прыёмную.

Прыйшлося паслухацца. Ля факса ляжаў ліст паперы з адным сказам: «Гурт “Мішка касалапы”» запрашаецца да ўдзелу ва ўрачыстым канцэрце, прысвечаным юбілею ўніверсітэта».

— Ты што-небудзь разумееш? — запыталася Тамара.

— Крыху…

— А што гэта за «Мішка касалапы»?

— Наш студэнцкі вакальна-інструментальны ансамбль. Я, дарэчы, іграў на сола-гітары!

— Ах ты мой Джордж Харысан! — засмяялася Тома. — Якіх толькі талентаў у цябе няма!

— Вядома, але не ўсе гэта разумеюць…

— Ад сціпласці ты не памрэш.

— Каб за талент яшчэ плацілі грошы… Добра, Томачка, я зараз прабягуся па выдавецтвах і а палове шостай заеду за табой. Помні — на канцэрце ты павінна быць самай прыгожай!

— Не баішся, што скрадуць?

— Хай толькі паспрабуюць — маргалы выкалю!

Мне хапіла дзвюх гадзін, каб праехацца па выдавецтвах і нават у адным з іх атрымаць нядрэнны заказ. Вядома, пад пэўны працэнт «адкату». Потым я заскочыў у «Макдональдс» і перакусіў чызбургерам з вялікай порцыяй бульбы-фры. Запіваючы гэту шкодную, але смачную ежу кавай, падумаў: «Амерыканцам не адмовіш у тым, што справу хуткага харчавання яны распрацавалі да дробязей. Вось мы — бульбашы, а такой доўгай і смачнай бульбы, якую падаюць у гэтых рэстаранах, яшчэ не ўмеем вырошчваць. Я аднойчы хацеў на кухні «Макдональдса» купіць некалькі клубняў, каб завесці матулі ў вёску, дык аказалася, што пачышчаную і замарожаную яе прывозяць прама з Польшчы, а ў нас яшчэ толькі робяцца спробы развесці падобныя гатункі. А вось каву яны варыць не ўмеюць. Не гурманы».

Я забег дамоў, пагаліўся, прыняў душ і ў меднай турцы на пяску зварыў сабе кубачак сапраўднай кавы, якую мне сябры рэгулярна прывозяць з Германіі. Па звычцы палез у кішэню па цыгарэты, але ўспомніў, што ўжо другі тыдзень як не палю. Ад шкодных звычак трэба час ад часу адмаўляцца, калі паважаеш сябе любімага. Потым апрануў блакітны джынсавы касцюм фірмы «Levi's», каўбойскія боцікі, такі ж брыль, пшыкнуўся арыфлэймаўскім «Soul» і паехаў да Тамары. Па дарозе купіў белую ружу і каробку цукерак «П'яная вішня». Праз пяць хвілін я ўжо званіў у дзверы кватэры, якую Тамара здымала разам з сяброўкай.

— Заходзь, каўбой, — сказала яна, цмокнуўшы мяне ў шчаку. — Дзякуй за ружу. І цукеркі такія смачныя! І водар ад цябе прыемны! Пачакай крышку, мне засталося некалькі штрыхоў.

Яна зноў з'явілася ў пакоі праз хвіліну.

— Як я табе?

На мяне глядзела шыкоўная дваццаціпяцігадовая бландзінка. Блакітныя джынсы, чорны з белым узорам світар. Што-што, а густ у Томы быў: яна ведала, што джынсы на рок-канцэрт — гэта тое ж, што вячэрняя сукенка ў філармонію.

— Няма слоў, мая рокерша. У такім выглядзе ты б спакусіла ўсіх паслушнікаў Жыровіцкага манастыра, а ў сярэднявеччы цябе б абавязкова спалілі на вогнішчы!

— Дзякуй, каханы, суцешыў!

— Што ўмею, то ўмею! Паімчалі!

Машыну ўдалося прыпаркаваць толькі метраў за сто ад Палаца спорту. Распрануўшыся і прайшоўшы два бар'еры аховы, мы размясціліся на сёмым радзе партэра. Месцы элітныя, і на кожным крэсле ляжала бірулька з ліхтарыкам. Дробязь, а прыемна. Я агледзеўся. Шмат моладзі, але хапала і старых рокераў з доўгімі, пасівелымі валасамі. Многіх я ведаў, мы абмяняліся кіўкамі і сяброўскімі ўзмахамі рукі. Rock forever!

— Ого, колькі ў цябе знаёмых! — усклікнула Тома.

— Старая рокерская гвардыя.

Але я ведаў, што няма ўжо з намі цудоўнага бас-гітарыста Рэда, якога, прыкаваўшы наручнікамі да батарэі паравога ацяплення, забіў насмерць садыст-санітар Чэсь з Навінак. Няма летуценнага, з дзіцячай усмешкай на твары Янэка. Яго застрэлілі ў падземным пераходзе скінхэды, калі ён спяваў свае меладычныя рок-балады і спрабаваў зарабіць хоць якія грошы, каб купіць лекі для хворай маці. Прыгажуня Наста, чый нізкі хрыплаваты голас разбіў не адно мужчынскае сэрца, прыняўшы дозу, спрабавала паляцець у вырай з даху дзевяціпавярхоўкі. Не даляцела… Каханне і рок зламалі Жалезную заслону Савецкага Саюза і Берлінскую сцяну. Засталіся яшчэ дзве самыя моцныя: Крамлёўская і Кітайская.

Канцэрт затрымліваўся. Асістэнты перасоўвалі калонкі, падключалі ўзмацняльную апаратуру, правяралі святло. Але вось на сцэну выбеглі музыкі, зайгралі ўступ, перад намі з'явіўся цыбаты юнак і заспяваў песню на рускай мове. І хоць музыкі рабілі рыфавыя хады і выціскалі са сваіх гітар усё магчымае, гэта быў не рок, а папса, замаскіраваная пад рок. Штампаванае дзіця расійскай «Фабрыкі зорак» спрабавала разагрэць публіку. Гэта было раўназначна спробе ўзбудзіць старога наркамана мятнымі цукеркамі. Спеўшы некалькі песень і адпрацаваўшы мізэрную частку ўкладзеных у яго грошай, фабрычны дзетдомавец пад рэдкія пляскання далоняў зліняў са сцэны.

— Зміцер, а якой ён арыентацыі? — шапнула мне на вуха Тома.

— Кіркораўскай.

Яна аж пырснула і ўткнулася тварам у маё плячо, каб адсмяяцца.

Цяпер за справу ўзяліся прафесіяналы. За пятнаццаць хвілін зладжанай працы яны стварылі дызайнерскі шэдэўр: пасярэдзіне сцэны на п'едэстале з'явілася шыкоўная ўдарная ўстаноўка, на задніку былі размешчаны мультымедыйныя экраны, а зверху зіхацеў неонам фірмовы надпіс «Scorpions». Рознакаляровыя пражэктары выхапілі постаці легендарнай пяцёркі, загучалі першыя акорды — і пачалося Свята. Хлопцы (некаторым з якіх было за 60) літаральна жылі рокам. Невысокі Клаус Майнэ ў фірмовай кепцы казырком назад сваім палётным металічным тэнарам прымушаў нервы вібрыраваць у адной з ім танальнасці. У перапынках паміж песнямі ён шпурляў у глядзельную залу барабанныя палачкі. Пад зайздрослівыя погляды суседзяў мне пашчасціла злавіць адну з іх. Вось гэта сувенір! Музыкі трымалі сябе абсалютна свабодна і раскавана, яны пілі піва, размаўлялі з гледачамі, жартавалі, распраналіся, абліваліся вадой.

Вось дзяўчына з кветкамі ў руцэ паспрабавала выбегчы на сцэну. Гарылападобны амапавец перахапіў кволае дзяўчо і, заламаўшы рукі, паспрабаваў вывесці. Што тут пачалося! Музыка спынілася. Клаус падышоў да мікрафона і пачаў нешта ўзбуджана гаварыць па-англійску. Перакладчык сказаў: «Музыкі заяўляюць, што, калі дзяўчыну не адпусцяць, канцэрт спыніцца». Аглушальны свіст пранёсся па зале. Гледачы танцполу пачалі тупаць нагамі і рассоўваць бар'еры, спрабуючы прыйсці на дапамогу дзяўчыне. Спалоханы амапавец выклікаў па рацыі падмогу. Ды што яны маглі зрабіць супраць раз'юшанага натоўпу? Прыйшлося адпусціць дзяўчыну, і тая пад крыкі «Брава!» выбегла на сцэну і трапіла ў абдымкі «Скорпаў». Рудольф Шэнкер вынес крэсла, і апошнюю частку канцэрта шчаслівая дзяўчына правяла побач з легендарнымі музыкамі. «Скорпы» не ідуць на кампраміс. Яны адмянілі канцэрт у Маскве, калі там не захацелі зняць першыя — алігархавыя — рады партэра і ўсталяваць танцпол для моладзі.

Канцэрт працягваўся: хард-баевікі змянялі рок-балады. І калі Клаус заспяваў свой мегахіт «Still loving you», які на дзесяцігоддзі падзення Берлінскай сцяны «Скорпы» выконвалі разам з сімфанічным аркестрам і легендарным Мсціславам Растраповічам, зала ўстала і, узняўшы запаленыя бірулькі-ліхтарыкі, пачала падпяваць:

— If we'd go again
All the way from the start
I would try to change
The things that killed our love.
Калі б было магчыма
Зноў прайсці гэты шлях,
Я б змяніў тое,
Што забіла нашае каханне.

Свабода і каханне! Каханне і свабода! Вось дзве рэчы, дзеля якіх варта жыць!

Пасля канцэрта я адчуваў адначасова і небывалую лёгкасць, і нейкае душэўнае спусташэнне, якое наступае, калі дамогся таго, чаго так доўга чакаў.

— Томачка, давай не пойдзем у рэстаран, а паедзем да мяне. Пасля людскога натоўпу так хочацца цішыні.

— Як скажаш, каханы.

Мы заехалі ў «начнік», купілі піцу, смажаную рыбу, мой любімы пармезан, масліны, якія так падабаліся Томе, велічынёй з перапяліныя яйкі, зяляніну, садавіну і пакунак «Сталічных» цукерак. Музычную страву найвышэйшай якасці хацелася дапоўніць ежай такога ж гатунку. Дома я дастаў з бара бутэльку сапраўднай хванчкары, якую мне прывезлі з Грузіі, і пакуль Тамара пераапраналася і прымала душ, накрыў на кухні стол, запаліў свечкі і ўключыў падсветку ў акварыуме. Сябар, фанат рыбак, уцягнуў і мяне ў гэтую справу. У вялізным насценным акварыуме жылі рыбкі памерам з далонь, на дне быў прыгожы грот, патануўшая брыганціна, грэчаскія амфары, куфар з залатымі дублонамі і нават чэрап пірата. Непрыстойна прыгожыя кобальтавыя і залатыя дыскусы — каралі акварыумаў з ручаёў і азёр далёкай Амазонкі — каштоўнымі поўнямі плавалі сярод раслін. Мой улюбёнец па мянушцы Золата Ацтэкаў заўважыў мяне і ўсплыў на паверхню, патрабуючы пачастунку. Прыйшлося даць яму сухую крэветку, якую ён далікатна ўзяў з маіх пальцаў. Апрануты ў цяльняшку сомік-панак, падобны да дагістарычнай істоты, сваім ротам прысмактаўся да сценкі акварыума і ў поўнай прастрацыі вісеў уніз галавой. Медытуе! Паласатая, з упартым бычыным

ілбом каралева афрыканскага возера Танганьіка корпалася ў грунце і спрабавала выдраць расліну. Вось зараза! Колькі раслін яна мне папсавала! Я ручкай сачка паспрабаваў адпіхнуць яе, але ўпёртая, як, пэўна, усе афрыканскія каралевы перыяду матрыярхату, рыбка імгненна схавалася за амфару. Вазьмі мяне цяпер за руп дваццаць! Жоўтыя цыхліды-калібры сонечнымі праменьчыкамі праносіліся сярод смарагдавай зеляніны і ўносілі ажыўленне ў памяркоўнае жыццё насельнікаў акварыума. Лепшай рэлаксацыі, чым, уключыўшы якасны запіс з гукамі жывой прыроды, паўгадзіны паназіраць за рыбкамі, я не ведаю. Вядома, калі побач няма каханай жанчыны.

Прыйшла Тома ў купальным халаціку, і адразу на кухні стала па-хатняму цёпла і ўтульна.

— Як прыгожа, Зміцер! — замілавана ўсклікнула яна.

— Ты тут самая прыгожая залатая рыбка!

Я адкаркаваў бутэльку і наліў у крыштальныя бакалы амаль чорнае, як кроў дракона, віно.

— За нас, Томачка!

— За наша каханне!

Паволі, каб адчуць непараўнальны смак любімага віна, я зрабіў першы глыток — лёгкі ветрык данёс водар горных лугоў Каўказа. Я запомніў гэты водар і «сцёр» яго маслінай. Другі глыток — і сіні арол у бяздонна-блакітным небе праляцеў над бясконцымі вінаграднікамі. Цяпер кавалачак сулугуні з кінзой. Трэці глыток — і вогненна-барвовы дыск сонца паволі патануў у фіялетавым моры. Ягада кардынала і апошні глыток — Ніко Пірасмані з рогам віна ў руцэ заспяваў на вяселлі. Спеў падхапілі — і непараўнальнае грузінскае шматгалоссе разнеслася над горным аулам. І калі маладое бажоле — гэта першы пацалунак, такі няўмелы і такі незабыўны, а бардо — тэмперамент і вытанчанасць француженкі, то хванчкара — гэта шматгалосы акапэльны канон.

— Зміцер, паспявай, калі ласка, — папрасіла Тома.

Я прынёс з залы сваю майстровую акустыку, якая была для мяне жывой істотай і з якой я вітаўся кожную раніцу і цалаваў нанач. Пачнём з «Yesterday». (Працуючы над гэтай песняй, Пол Макартні не ведаў, што стварае шэдэўр стагоддзя, які можа расчуліць любую жанчыну.) Цяпер «Купалінку» і «Ой, сівы конь бяжыць…». Яны не горшыя. Тома ціхенька падпявала. Мы пілі віно, пелі песні і цалаваліся. Што можа быць лепш?

Пасля, у ложку, Тома шапнула: «Зміцер, дзякуй за шчаслівы вечар! Ты сёння быў такі пяшчотны. Давай пажэнімся, я нараджу табе хлопчыка і дзяўчынку». Я хацеў адказаць: «Арлы ў няволі не размнажаюцца», але гэта было б занадта пошла… Таму я прашаптаў: «Добра, Томачка, вось зраблю адну справу і пажэнімся». Тома заснула. Пакуль жанчына будзе засынаць першай, у вас у ложку будзе поўная гармонія. Гэта аксіёма.

А мне не спалася. Я думаў пра загадкавы факс. Стужка памяці пачала адкручвацца назад. Першы курс універа. Мы з сябрамі, наслухаўшыся «Бітлоў» і пабываўшы на канцэртах «Чырвоных гітар» і «Трубадураў», захацелі стварыць уласны гурт. З адным з выкладчыкаў мы прыйшлі да паразумення, і ён, паабяцаўшы дэкану наш актыўны ўдзел у грамадскім жыцці факультэта і ўзяўшы на сябе незайздросную ролю кіраўніка нашага ВІА, дапамог прабіць сякую-такую апаратуру і музычныя інструменты. У большасці з нас за плячамі была музычная школа па класе баяна або фартэпіяна, але гітару асвойвалі самастойна. Вакалу і ансамблевым спевам нас вучылі, таму трохгалосныя акорды будавалі лёгка. Жаданне стаць рокерамі было настолькі вялікім, што ўжо праз два месяцы мы

выступалі на вечарынах. Назву «Мішка касалапы» ўзялі са слоў адной з дзіцячых песенек, якую перапрацавалі ў стылі рок. Хутка мы сталі лаўрэатамі конкурсу патрыятычнай песні і набылі вядомасць у студэнцкіх колах. «Мішак» пачалі запрашаць на вяселлі і ў рэстараны. З'явіліся першыя грошы і першыя спакусы. Пра наркотыкі мы тады яшчэ не ведалі, але алкаголь быў спадарожнікам амаль кожнага выступлення.

Развязка адбылася на навагодняй вечарыне, куды чорт прынёс камітэт камсамола амаль у поўным складзе. У нашага перкусініста Валеры ў вялікім барабане, як звычайна, стаяў саквояж з «чарнілам». Перад канцэртам мы зайшлі ў адну з аўдыторый і прынялі для разагрэву па бутэльцы «сонцадару». Было калісьці такое дваццаціградуснае пойла, пры адным успаміне пра якое мяне нават цяпер бяруць дрыжыкі. Пра яго нават склалі вершык: «Не губляйце часу дарам, пахмяляйцесь "сонцадарам"»! Карацей, на пачатку танцавальнай вечарыны мы, як, дарэчы, і большасць студэнтаў, былі на добрым уздыме. Перад намі спрабавалі іграць хлопцы з гістарычнага факультэта на сяміструнных гітарах, але іх абсвісталі і пачалі патрабаваць: ««Мішкі»! «Мішкі!» Мы, вядома, урэзалі! Бітлоўская «Back in the USSR» гімнам свабоды грымела ў фае. Адзін са студэнтаў у экстазе схапіў за нос гіпсавы бюст правадыра сусветнага пралетарыяту Леніна і пачаў танцаваць з ім твіст. Я бачыў, як ад падобнага нахабства вырачыў вочы нізка141рослы старшыня камітэта камсамола, як з'явіліся дружыннікі.

— Спыніце музыку! — закрычаў адзін з камітэтчыкаў.

— Адсасі! — выгукнуў Валера. Ён цішком паспеў засандаліць з горла другую бутэльку «чарніла» і цяпер быў гатовы змагацца нават з ордамі Чынгісхана.

Мы працягвалі іграць. Нас абступілі дзяўчаты з хлопцамі і, стварыўшы кола, абаранялі ад насядаўшых дружыннікаў. Пачалася бойка. Нехта з камітэтчыкаў выдзернуў з разеткі штэпсель ад узмацняльнікаў. Музыка змоўкла. Раптам раздаўся страшэнны грукат: бюст Леніна зваліўся з пастамента і разляцеўся на сотні кавалкаў. Моладзь аслупянела, а потым кінулася наўцёкі. Мы засталіся, бо трэба было ахоўваць апаратуру.

Расправа была суровай. Праз дзень нас выклікалі на пашыранае пасяджэнне камітэта камсамола ўнівера з удзелам прадстаўнікоў партыйнай арганізацыі. Чаго мы толькі ні выслухалі! Нас аб'явілі прадстаўнікамі буржуазнай ідэалогіі, п'яніцамі і чужароднымі элементамі, якія псуюць савецкую моладзь. Мы маўчалі і радаваліся, што зараз не трыццаць сёмы год. З універсітэта нас выключылі, праўда, з правам аднаўлення. Я пайшоў у войска, сябры зрабілі тое ж самае. Праз два гады я аднавіўся, перайшоў на завочнае, і з тае пары нашы шляхі-дарожкі разышліся…

Раніцай я прыняў кантрастны душ, зварыў каву, зрабіў тосты з вяндлінай і сырам і на століку падкаціў да ложка. Разбудзіўшы Тому пацалункам, прадэкламаваў:

— Вось і верас ужо зацвіў, мая каханая!

Пікты каву шлюць табе, мая жаданая!

— Ой, Зміцер, як прыемна! Вось бы так кожную раніцу! Пачакай, я на хвілінку ў душ…

Я адвёз Тому ў офіс, дaручыў займацца бягучымі справамі, а сам заехаў у прыёмную рэктара ўнівера. Сакратарка, спытаўшыся, па якой я справе, уручыла мне канверт. Я раскрыў яго, дастаў ліст і прачытаў наступнае: «Зміцер, у студэнцкія гады я была фанаткай вашага гурту (можа, успомніце рыжавалосую дзяўчыну, якая глядзела на Вас зачараванымі вачыма, але пазнаёміцца так і не набралася смеласці). Мне хочацца, каб вы прадоўжылі той навагодні канцэрт, пасля якога вас незаслужана разагналі. «Мішкі» маглі вырасці ў гурт высокага ўзроўню. Калі Вы збераце

сваіх сяброў і выступіце з канцэртам, я заплачу вам дзесяць тысяч долараў. Для рэпетыцый арандую залу з апаратурай. Ваша прыхільніца Наста. З усімі праблемамі і пытаннямі звяртайцеся да мяне па наступным тэлефоне…»

Та-ак, даволі нечаканы працяг. Дзяўчыну я ўспомніў. У любога гурту ёсць хаця б некалькі такіх адданых, калі не сказаць — фанатычных прыхільніц. Яны ходзяць на ўсе канцэрты, глядзяць замілаванымі вачыма і гатовы выканаць любое жаданне. Паўтараю — любое. Некаторыя з маіх сяброў гэтым карысталіся, але я ніколі не забываў слоў Экзюперы, што мы ў адказе за тых, каго прыручылі. Ад бацькоў-настаўнікаў я засвоіў некалькі табу, якіх не парушаў ніколі ў жыцці. Не крыўдзіць наіўных і даверлівых было адным з іх. А тая дзяўчынка Наста была светлым і эмацыянальным стварэннем. З такімі не спяць, на іх нават жаніцца страшна, бо кумірам лепш быць на адлегласці. А самае балючае ў жыцці — гэта разбітыя ілюзіі…

Што рабіць? Да канцэрта заставаўся месяц. Ці ў стане я за гэты час сабраць былых сяброў, кожны з якіх даўно жыве сваім жыццём, і аднавіць праграму? Пра грошы я не думаў, хаця і яны не будуць лішнімі. Проста Наста ўгадала маё патаемнае жаданне: выступіць перад былымі выкладчыкамі і даказаць, што і мы нечага вартыя. І яшчэ — мне падабаюцца складаныя задачы.

Вярнуўшыся ў офіс, я адкрыў ноўтбук і зайшоў на сайт «vKontakte». Праз некалькі хвілін адрасы сяброў былі занатаваныя. Барысаў, Лепель, Полацк і Віцебск — такім будзе маршрут майго падарожжа ў мінулае… Але яно пачнецца заўтра, а сёння мы з Томай ідзём у тэатр. Вядома, у Купалаўскі, бо толькі ў ім існуе тая непаўторная аўра, якая стваралася дзесяцігоддзямі геніяльнай акцёрскай ігры. Мне пашчасціла: ішлі «Страсці па Аўдзею» — адзін з любімых спектакляў. Ігра Генадзя Аўсянікава была на недасяжнай вышыні. Ён самы арганічны акцёр, якіх я ведаю, а ролі, дзе дзевяноста адсоткаў гумару, а дзесяць — трагізму, быццам спецыяльна напісаныя для яго. Па маёй скуры неаднаразова бегалі мурашкі, а Тома сціскала маю руку, каб не расплакацца. Я ўжо даўно вынайшаў для сябе лакмусавую паперу на вызначэнне якасці мастацкага твора: калі па скуры прабеглі мурашкі — гэта сапраўднае мастацтва, не — падробка.

Адзінае, што мне не падабаецца ў Купалаўскім — гэта буфет. Ён стандартны і безаблічны. Вось каб ён быў аформлены ў беларускім стылі, каб там смажылі дранікі, падавалі мачанку, верашчаку, поліўку з грыбамі і медавуху, тады б уражанне ад спектакля было больш поўным, бо нацыянальнае мастацтва павінна дапаўняцца нацыянальнай кухняй. Унутраны голас мяне ацвярэзіў: «Ты што, у тэатр жраць ідзеш? Для гэтага існуюць установы грамадскага харчавання. А ў тэатры ежа духоўная, таму глядзі дзейства, падсілкоўвай душу станоўчымі эмоцыямі і не вякай, гурман саматужны!»

## ПАДАРОЖЖА ПЕРШАЕ. ВАЛЕРА



Раніцай «Пежо» імчаў мяне на Барысаў да нашага барабаншчыка Валеры. Некалі мы разам з ім жылі на кватэры. За колькі месяцаў да таго, як наш гурт разагналі, ён пачаў прыводзіць да сябе студэнтку Люду з трэцяга курса. Я адварочваўся да сцяны і з галавой накрываўся коўдрай, каб не чуць скрыпу расхістанага ложка і стрыманых стогнаў. Потым Люда зацяжарала і, узяўшы акадэмічны адпачынак, паехала да Валеры ў Барысаў. У іх нарадзіўся сын, якога яны ў мой гонар назвалі Дзімам, патлумачыўшы, што я прысутнічаў пры зачацці. З тае пары прайшло больш

як дваццаць гадоў. Першы час мы яшчэ зрэдку сустракаліся, а потым віры жыцця засмакталі кожнага ў сваю варонку. Чаму так лёгка сябруецца ў юнацтве і так цяжка ў сталасці?

Я разважаў над гэтым, пакуль не даехаў да моста праз Бярэзіну, якая велічна несла свае свінцова-шэрыя хвалі. Недалёка ад гэтага месца, ля вёскі Сцюдзёнка, Напалеон страціў сваю армію. Загінуўшых было столькі, што сяляне ўсяго Барысаўскага павета, якіх сагналі на прымусовыя работы, амаль тыдзень хавалі целы. Малодзенькіх французскіх дзяўчат сяляне прадавалі па дзесяць злотых, а маленькіх дзяцей аддавалі задарма. Жонкі загінуўшых афіцэраў, каб не памерці з голаду, станавіліся прасталыткамі. А колькі кладаў хаваюць гэтыя берагі! Вось бы знайсці якую-небудзь старажытную карту, набыць добрую апаратуру і стаць кладашукальнікам. Але ўнутраны голас вярнуў мяне з аблокаў на зямлю : «Ты хацяб рубель у жыцці выйграў? Знайсці ты можаш, у лепшым выпадку, бляшанку, а ў горшым — іржавую міну Другой сусветнай, і гэта будзе тваёй апошняй знаходкай… Так што не з вашым шчасцем, сэр!»

Праз некаторы час я пад’ехаў да знаёмага дома на ціхай вулачцы Барысава. Будынак ужо даўно патрабаваў рамонту, а сад — абрэзкі. Ля тратуара было прыпаркавана некалькі машын. Я ўзышоў на ганак і націснуў на кнопку званка. Маўчанне. Націснуў клямку — дзверы паддаліся. Я зайшоў у калідор, адчыніў яшчэ адны дзверы, і першае, што ўбачыў, — гэта партрэт Валеры, перавязаны чорнай стужкай, запаленую свечку, агонь якой пасля майго ўваходу задрыжэў і ледзьве не згас, жалобны стол і змарнелую Люду ў чорнай хустцы. Яна падбегла да мяне, абняла і загаласіла: «Вось і сябра да цябе прыйшоў, Валерачак! А ты ж нікога не хацеў трывожыць сваімі праблемамі, хацеў усё вырашыць сам, ды не паспеў…»

— Калі гэта здарылася?

— Сёння сорак дзён.

— Чаму мне не паведаміла?

— Валера забараніў. Ён хацеў, каб сябры помнілі яго маладым і прыгожым. А на ім жывога месца не было, так яго збілі. Яшчэ двое сутак праляжаў у рэанімацыі. Дактары здзіўляліся, што ён яшчэ жыў. З сынам хацеў развітацца. Дачакаўся.

Да мяне падышоў юнак, з-пад расшпіленага каўняра якога віднелася блакітная цяльняшка.

— Добры дзень, дзядзька Зміцер. Я ваш цёзка і хроснік.

Мы абняліся.

— Пойдзем да стала, памянём тату. Усе пытынні потым.

Калі ўсе разышліся і мы засталіся ўтраіх, Люда сказала:

— Ты ж ведаеш, што характар у Валеры быў не з лепшых: любіў ён рэзаць праўду-матку ў вочы кіраўніцтву. З гарэлкай таксама былі праблемы, таму на працоўных месцах падоўгу не затрымліваўся, і часцяком мы жылі на маю настаўніцкую зарплату. Год таму ён вырашыў разбагацець і падаўся ў гандляры. Закупаў на аптовым рынку садавіну і гародніну і перапрадаваў. Справы ішлі нядрэнна. З гарэлкай «завязаў». За год сабраў грошы на патрыманае аўто, падарыў мне футра, Дзіму — камп’ютар. А потым адзін «добразычлівец» падбухторыў яго закупіць вялікую партыю курыных ножак Буша, абяцаючы небывалы навар. Валера пазычыў пад працэнты дзесяць тысяч долараў. Калі ножкі пачалі размарожвацца, аказалася, што яны тухлыя. Усю партыю прыйшлося закапаць. Ён прадаў усё, што мог, з маёмасці, але гэтага, вядома, не хапіла, каб разлічыцца. Гандляр, у якога Валера пазычыў грошы, наняў браткоў. Тыя наехалі раз, другі, а потым прызначылі яму апошні тэрмін. Валера мне пра гэта сказаў толькі на бальнічным ложку. Учора пасля работы

перанялі і мяне, патрабуюць, каб аформіла на аднаго з іх вось гэтую хату, інакш абяцаюць спаліць яе разам са мной.

— Я пазабіваю гэту свалоту! — заскрыгатаў зубамі Дзіма.

— Што ты, сыночак! — загаласіла Люда. — Цяпер ты адзін у мяне застаўся. З гэтымі бандытамі міліцыя не ў стане справіцца, а што ты можаш зрабіць?

— Пачакайце, — сказаў я. — Як завуць галоўнага тых, хто да цябе падыходзіў?

— Анзор, ён часта на базары круціцца.

— Колькі грошай яны патрабуюць?

— Дзесяць тысяч, бо Валера аддаваў толькі працэнты. Тэрміну далі два тыдні.

— Не хвалюйся, Людачка, мы нешта прыдумаем. Я вас не пакіну, пакуль мы не вырашым гэту праблему. А зараз давайце класціся спаць.

Перад сном я выйшаў на вуліцу, зрабіў званок старому сябру, аўтарытэтнаму ў крымінальных колах, і папрасіў дапамагчы разрулiць гэтую праблему. Ён абяцаў заўтра прыехаць. Вядома, не адзін.

На наступны дзень мы з Дзімам дапамагалі Людзе разабрацца з хатнімі справамі. Бліжэй да абеду патэлефанаваў Худзенькі (гэта было паганяла майго знаёмага) і прапанаваў сустрэцца. Я пад'ехаў на прызначанае месца і перасеў у шыкоўны «бумер». Худзенькі — двухметровы качок — пацiснуў мне руку і сказаў: «Нялёгка гаварыць з каўказцамі — занадта многа ў іх пыхі. Яны гатовы адкласці тэрмін на месяц, але грошы трэба аддаць. Такі закон».

— Дзякуй, сябра, грошы пастараемся знайсці. Як я з табой разлічуся?

— Праспяваеш «Гатэль Каліфорнія» на маім дні нараджэння.

— Дамовіліся!

Я вярнуўся ў дом на ціхай вулачцы. Дзверы гаража былі адкрытыя, я зайшоў туды. Дзіма корпаўся ля ўдарнай устаноўкі. Ого! Ды гэта ж наша студэнцкая Амаці! Нам удалося выкупіць яе пасля спісання. Вунь той маленькі том-том мы выкарыстоўвалі ў якасці шклянкі, і чырвоны колер таннага «чарніла» назаўсёды ўеўся ў пластык.

— Што, хроснік, разглядаеш антыкварыят?

— Ды яна яшчэ хоць куды! Я замяніў стары пластык на прыстойны, каб лягчэй было настройваць. Да дзвюх суперцынаўскіх талерак — крэш і райд — дадаў сплэш і чайну. Зрабіў варыянт з адным навясным і двума падлогавымі том-томамі, які выкарыстоўваў кумір майго таты Джон Бонэм з «Led Zeppelin». Каб не купляць другую «бочку», набыў кардан. Бацька недзе дастаў малы металічны прэм'ер. Карацей, поўны апгрэйт. Якасць Semi-Pro! Паслухайце, як гучыць.

Дзіма сеў за барабаны. Пачуццё рытму павінна быць у крыві, навучыць яму немагчыма. А яшчэ барабаншчыку трэба мець надзвычайную каардынацыю, бо адначасова працуюць дзве рукі і дзве нагі. Усе гэтыя якасці ў Дзімы прысутнічалі.

— Клёва, сынку, клёва! — пахваліў я яго. — І гук выдатны! А можа, ты заменіш бацьку на нашым канцэрце? Думаю, ён быў бы задаволены.

Я расказаў хлопцу пра будучы канцэрт. Той адразу загарэўся:

— Хросны, вазьміце мяне! Я вас не падвяду! Бацька навучыў мяне ўсяму, што сам умеў. У войску я іграў у гарнізонным гурце.

— А на каго мы пакінем маці?

— Сёння да яе прыязджае родная сястра з Мазыра, абяцала з месяц пажыць у нас. Думаю, разам ім будзе весялей.

— Што ж, добра. Тады збірай рэчы, заўтра мы едзем.

**ПАДАРОЖЖА ДРУГОЕ. АЛЕСЬ**

Дарога да Лепеля была нядоўгай. У галаве чамусьці круцілася мясцовая прыпеўка, якую некалі напяваў Алесь:

Адна баба аглохла,
Другая — аслепла,
І глухая на сляпой
Паехала ў Лепля.

Ужо апоўдні мы з Дзімам заходзілі ў пад'езд абшарпанай трохпавярхоўкі, дзе жыў наш басіст Алесь. Але дарэмна мы званілі ў дзверы яго кватэры — ніхто не адчыняў. Тады я націснуў кнопку званка суседзяў. Дзверы адчыніла жвавая бабуля.

— Прабачце, — сказаў я, — не падкажаце, дзе ваш сусед?

— Ды ў піўнушцы ён ля возера. Два тыдні п'е. Жонка з'ехала да маці, а ён залівае гора. Трэба неяк спыніць Алеся, бо дап'ецца да белых коней. Дапамажыце яму, добры ж хлопец…

— Не хвалюйцеся, бабуля, дапаможам.

Мы нетаропка паехалі ў кірунку аўтавакзала, звярнулі направа, па раздзяўбаным асфальце, з-пад якога дзе-нідзе прабівалася пасляваенная брукаванка, даехалі да рынку. Зноў направа, круг па цэнтральнай плошчы, сто метраў уніз — і мы ля возера. Вецер гнаў пеністы бурун, на якім велічна пагойдвалася пара лебедзяў. Лянуюцца яны ляцець у вырай, вырашылі перазімаваць дома, тым больш што адсюль не так далёка да Новалукомля, дзе ў цёплых водах ЦЭЦ можна сагрэцца ў самы люты мароз. А вунь і піўны шалман, які ведаў лепшыя часы і які, здаецца, забыліся закрыць на халодны сезон. Я піхнуў рыпучыя дзверы ў пракуранае памяшканне з некалькімі столікамі. За адным з іх «адцягвалася» кампанія, а за стойкай бара сумавала, шчоўкаючы семкі, тоўстая буфетчыца. Алеся я пазнаў адразу. Ён нешта даказваў, нервова размахваючы рукамі, але яго асабліва не слухалі. На стале стаяла некалькі пустых пляшак з-пад гарэлкі і напаўпустых куфляў піва. Баляванне было на той стадыі, калі патрабуецца дабаўка, але фінансы не дазваляюць.

Кампанія мне адразу не спадабалася: гэта былі не бяскрыўдныя алкашы, а чацвёра стрыжаных браткоў, па блакітных наколках на руках якіх можна было вывучаць геаграфію папраўчых устаноў не толькі Беларусі, але і былога Саюза. Такія ніколі не напіваюцца. Алкаголь для іх — сродак падтрымання нерваў у напружаным стане, каб развесці чарговага лоха. Такім лохам і выглядаў Алесь. Ён узбуджана гаварыў: «Зараз пойдзем да мяне, я знайду грошы, возьмем пойла. Шоу маст гоў он!» Я шапнуў Дзіму: «Трэба выцягваць яго адсюль. Браткі яўна пры нажах, таму страхуй мяне». Мы падышлі да століка. «Прывітанне цёплай кампаніі, — сказаў я. — Алесь, можна цябе на хвіліну?» Ён тупа ўтаропіўся ў мяне. Нязголены твар, вочы з чырвонымі прожылкамі і трэмар рук былі няўмольнымі сведкамі двухтыднёвага запою. Нарэшце здагадка прабіла алкагольную заслону, і на твары з'явілася знаёмая ўсмешка. Пачуўся крык: «Зміцер! Брат! Якім ветрам? Рады цябе бачыць!» Мы абняліся, і я адчуў амбрэ перагару, якім можна было б зашкаліць усе тэстары лепельскіх гаёвых.

— Пазнаеш? Гэта Дзіма, сын Валеры, — прадставіў я хлопца.

— Ну ты вырас, хлопча, — усклікнуў Алесь. — Я цябе бачыў апошні раз, калі ты быў вось тачэнькім. А дзе Валера?

— Памёр, учора было сорак дзён.

— Вы што?! Не жартуйце так, а то ў мяне сэрца…

— Праўда.
— Як гэта здарылася?
— Потым раскажам.
— Трэба памянуць сябра, але ў мяне…
— Не хвалюйся.

Я падышоў да буфетчыцы, узяў бутэльку гарэлкі, мінералку, некалькі бутэрбродаў з салам і аднаразовых кілішкаў. Разліў гарэлку, сабе і Дзіму — мінералку.

— Давайце памянём нашага сябра Валеру, хай зямля яму будзе пухам, — прапанаваў я.

Усе ўсталі і моўчкі выпілі. Алесь расчуліўся, на вачах заблішчэлі слёзы. Я ведаў, што за гэтым наступіць стадыя слоўнага паносу, таму сказаў: «Алесь, развітайся з хлопцамі, нас чакаюць!»

— Мы яго нікуды не адпускаем, — з ледзь замаскіраванай пагрозай вымавіў адзін з браткоў.

— Чаму? — я ўважліва паглядзеў яму ў вочы.

Ён вытрымаў мой позірк, толькі шрам пад левым вокам нервова таргануўся.

— Абяцаў ён шмат чаго… А па паняццях, за словы трэба адказваць.
— Ён вам вінен грошы?
— Не, справа не ў грашах.
— Алесь, ты хочаш застацца з імі або пойдзеш з намі?
— Я хачу быць з вамі, — прамямліў Алесь, які, здаецца, адчуў небяспеку.
— Тады мы пойдзем!
— Паспрабуйце, — кліент са шрамам падняўся, і разам з ім усталі трое яго сяброў.

Марудзіць далей было небяспечна, таму, непрыкметна кіўнуўшы Дзіму на бліжэйшага да яго зэка, я кінуў пластыкавую бутэльку з мінералкай высокаму амбалу справа ад мяне. Бутэлька ляцела на ўзроўні жывата, і калі ён інстынктыўна яе схапіў, я секануў рабром правай далоні па яго гусіным кадыку. Не вельмі моцна, каб не забіць, але дастаткова для таго, каб на паўгадзіны вывесці са строю. Пакуль ён, хапаючы паветра, нібы выкінуты на бераг шчупак, спаўзаў на падлогу, я краем вока заўважыў, як Дзіма «двоечкай» даволі прафесійна вырубіў свайго «падначаленага». На мяне кінуўся трэці зэк, я не паспеў адхіліцца, і мы счапіліся ў бліжнім баі. Не люблю я гэтай валтузні, ды што рабіць… Раптам хватка майго праціўніка аслабела, і ён споўз на свайго сябра — гэта Алесь прылажыў яго пластыкавым стулам. Зэк са шрамам адскочыў да сцяны і выхапіў фінку.

— Хросны, ён мой, — выгукнуў Дзіма.
— Справішся?
— А то!

Было бачна, што зэк са шрамам — вопытны баец. Ён прафесійна трымаў нож і заняў зручную пазіцыю, якая абараняла яго ад атакі ззаду. Няўжо ведае нажавы бой? Калі так, то ўзяць яго голымі рукамі будзе ох як нялёгка! Дзіма пачаў збліжэнне з праціўнікам. Краем вока я заўважыў, што буфетчыца, якая на імгненны пачатак бойкі не паспела адрэагаваць, цяпер дастала мабільнік і пачала набіраць нумар. Які, здагадацца было няцяжка.

— Алесь, забяры ў яе мабільнік, — папрасіў я. Сябар, якога сутычка, здавалася, ацвярэзіла, імгненна выканаў загад.

Тым часам Дзіма пачаў атаку: левабаковае *дзёнкутцу-дачы* і ўдар правай рукі *мігі-дзёданг'яку-цукі* ў галаву. Зэк адступіў у *хідары-дзёнкуцтцу-дачы* і нейтралізаваў атаку блокам *хідары-аге-уке.* Далей Дзіма адцягнуў увагу суперніка ўдарам левай

нагі *табікондэ-чуданмаё-геры*, развіў яе ўдарам правай рукі *мігі-дзёданг'яку-цукі* і завяршыў імклівым высталам правай нагі *мігі-дзёдан-мавашы-геры* ў галаву.

— Кія-а-а!

Ад грознага самурайскага поклічу сяміпудовая буфетчыца здрыганулася, нібы кволая сцяблінка пад парывам ветру, і выпусціла пакунак з семкамі на падлогу.

Але і зэк не плёў лапці. Ён адступіў у стойку *мігі-дзёнкутсу-дачы*, заблакіраваў удар левай нагі кароткім рубам левай рукі, паспрабаваў зрабіць блок *гёдан-барай,* але змог толькі аслабіць удар, які адкінуў яго на метр убок. Зэк зрабіў глыбокі ўздых, сагнуў голаў і з шумам пачаў выпускаць паветра, аднаўляючыся пасля ўдару:

— Гу-у-у-у-у! Нядрэнна, хлопец, цяпер мая чарга. Трымайся!

Ён некалькі разоў, збіваючы ўвагу Дзімы, перакінуў нож з адной рукі ў другую. Пры гэтым глядзеў не на нож, а ў вочы хлопцу. Я спалохаўся. А калі… Не дай бог!

— Дзімка, дапамагчы?

— Не трэба. Я сам.

Голас у хлопца быў спакойны. Ён гаварыў коратка, эканомячы дыханне, і я супакоіўся.

Тым часам зэк перакінуў нож у правую руку, для адцягнення ўвагі нанёс левай рукой удар *хідары-дзёдан-г'яку-цукі* ў галаву і імкліва выкінуў правую руку з нажом. Цэліў у сэрца.

Дзіма адступіў на крок, пад удар левай паставіў блок *дзёдан-хіджэ-уке,* зрабіў рэзкі выпад левай нагой назад, павярнуў корпус управа, прысеў, левым плячом адбіў руку з нажом і секанула па ёй рабрыной далоні. Як ні дзіўна, зэк нож утрымаў. Эх, на залом трэба было браць руку, на залом!

— Бачу, прапаршчык Мурашка яшчэ служыць, — выгукнуў зэк.

Дзіма ад разгубленасці ледзь не страціў увагу, за што быў пакараны нечаканым ударам нажа, які распаласаваў яму куртку.

— Ты забыў першае правіла прапаршчыка Мурашкі. Нагадаць табе яго або сам успомніш? — з'едліва спытаў зэк.

— Не губляй канцэнтрацыі ўвагі да канца паядынку, — адказаў Дзіма.

— І сачы за вачамі праціўніка, а не за рукамі. Правіла другое.

— Слава ПДВ! — крыкнуў Дзіма.

— Слава! — адказаў зэк.

Яны спынілі паядынак, зрабілі дэсантнае прывітанне і абняліся.

— Як ты аказаўся ў гэтай кампаніі? — спытаў Дзіма.

— Доўга расказваць. Афган. Нашу Віцебскую кінулі першай. Колькі хлопцаў палягло! Раненне, палон, пабег. Допыты асабістаў. Камісаванне. Немагчымасць знайсці працу. Ліхія дзевяностыя. І гэтак далей…

— І што, назад шляху няма? Ці няма жадання? — спытаў я.

— Чаму? Дома чакаюць жонка з дачкой, ды вось звязаўся з гэтымі пасля Оршы…

— А ты развяжыся, мы табе дапаможам.

— Было б добра, але як?

— Пачакай!

Я падышоў да буфетчыцы, дастаў з партаманэта сто баксаў і паклаў перад ёй на стойку.

— Давайце дамовімся: вы нас не бачылі, а гэта вам за хваляванне.

— А што я буду рабіць з гэтымі? — яна кіўнула галавой на трох зэкаў, якія «адпачывалі» на падлозе.

— Не хвалюйцеся, мы іх адсюль вынесем.

— Тады лады.

Яна спрытна схапіла сотню і схавала паміж сваіх неабсяжных грудзей.

— Мальцы, працуем! — загадаў я.

Мы схапілі першага зэка за рукі і ногі і вынеслі да возера. На двары ўжо сцямнела, і ніхто нас не бачыў.

— Аднясём яго вунь у тыя кусты, — прапанаваў я.

Тое ж мы зрабілі з астатнімі. Апошні зэк ачуняў і спытаўся: «Дзе я?»

— У Карагандзе, — адказаў Дзіма, вырубіўшы яго лёгкім ударам.

Калі мы садзіліся ў машыну, то ўбачылі, як буфетчыца хуценька зачыняла сваю піўнуху і вешала шыльду «Зачынена на перападлік». Малайчына, кумекае.

— Цябе як завуць? — спытаў я зэка са шрамам.

— Міколам.

— Мы абодва Дзімы, а гэта Алесь.

— Ды ўжо ведаю, — усміхнуўся Мікола. — Вы за ім прыгледзьце, а то яго зараз любы наркот кіне.

— Мяне? Ды нізавошта на свеце! — ускінуўся Алесь. — Я сам каго хочаш у лапці абую.

— Малайчына. Толькі зараз памаўчы.

— Адкуль ты родам? — спытаў я Мікалая.

— Ды з Новалукомля. Недалёка адсюль.

— Даведка ў цябе ёсць?

— Ёсць, з гэтым усё ў парадку — толькі ўчора адкінуўся.

— І ледзь не паспеў зноў заляцець… Вось што мы зробім: я зараз адвязу цябе на аршанку. Там сядзеш на папутку. Праз гадзіну-дзве будзеш дома. Крамы яшчэ працуюць. Я дам грошай на дарогу і на падарункі жонцы і дачцэ. Згодзен?

— Вядома, згодзен. Але як я з табой разлічуся?

— Арганізуеш для нас добрую рыбалку на Лукомскім возеры.

— Ды гэта раз плюнуць! — павесялеў Мікола. — Будзе і карп, і шчупак, і судак, а магчыма, і вугор. Прыязджайце!

— Абавязкова.

Праз дзесяць хвілін мы былі на трасе Лепель — Орша. Я высадзіў Міколу і падаў яму сваю візітоўку і грошы.

— Будуць праблемы з працай — звані: чым змагу дапамагу.

— І трымай гонар віцебскай дэсантуры! — дадаў Дзіма.

— Дзякуй, хлопцы! — расчулена адказаў Мікола.

— Не хлопцы, а мальцы, — паправіў яго я, — мы ж на Віцебшчыне. Бывай!

— Што ж нам з табой рабіць, Алесь? — услых падумаў я, калі мы, развярнуўшыся, зноў вярталіся ў Лепель.

— А што хочаце… Хоць забіце, ды рабіце!

— Малайчына, пачуцця гумару ты яшчэ не страціў, значыць, будзеш жыць. Усім сядзець на месцах — камандаваць парадам буду я!

Я пад'ехаў да трохпавярхоўкі, дзе жыў Алесь.

— Зойдзем на хвілінку да цябе, — прапанаваў я.

— Толькі ў мяне няма вас чым пачаставаць, — збянтэжана прамармытаў Алесь.

— Не хвалюйся, — супакоіў яго я, — я сам цябе буду частаваць. Затое потым адпрацуеш па поўнай.

— Згодны на ўсё.

Алесь дрыжачымі рукамі доўга не мог патрапіць ключом у замок. Нарэшце мы зайшлі ў двухпакаёўку, дзе стаяў горкі пах перагару.

— Сябра, у цябе ёсць чыстая бялізна?

— Знайду.

— Складзі яе вунь у тую сумку. А яшчэ захапі станок для галення, мыла, зубную пасту. І пашпарт.

— Слухаю, мой жэнераль!

— На выхад! — скамандаваў я.

Я ўзяў кірунак на льнозавод, потым звярнуў налева, заехаў на паўвостраў Лепельскага возера і спыніўся ля шыкоўнага пансіяната, пабудаванага вядомай медыцынскай фірмай. Мы ўзялі ручную паклажу, зайшлі ў памяшканне і падышлі да адміністратара.

— Можна ўзяць двухмесны нумар на траіх? — спытаўся я.

— Зараз не сезон, таму месцы ёсць. На які час будзеце браць?

— Для пачатку на двое сутак, а там будзе бачна. Яшчэ я хацеў бы заказаць саўну гадзіны на тры.

— Добра, праз гадзіну будзе гатова. Запоўніце бланкі і ідзіце ў свой нумар.

Праз дзесяць хвілін мы былі ў прасторным нумары.

— Зміцер, ну ты, блін, даеш — гэта вельмі дарагі пансіянат!

— І вы для мяне дарагія людзі. Таму пашыкуем. Калі вы не супраць, я лягу на канапе, а вы займайце ложкі. Распакоўвайце рэчы.

Калі рэчы былі распакаваны, мы сабраліся за сталом.

— Сябра, — звярнуўся я да Алеся, — праз тры тыдні мы павінны выступіць перад студэнтамі і выкладчыкамі ўнівера з той праграмай, якую ігралі на чацвёртым курсе.

— Навошта?

— Ты нічога не хочаш даказаць тым казлам, якія нас разагналі? Многія камсамольскія камітэтчыкі знайшлі цёплыя месцы на кафедрах і абавязкова будуць прысутнічаць на канцэрце. Да таго ж нам заплацяць нядрэнныя грошы.

— А я змагу сыграць ім до-рэ-мі-до-рэ-до? (Сыграць до-рэ-мі-до-рэ-до — на музычным слэнге значыць паслаць падалей.)

— Зможаш! Але для гэтага табе трэба выйсці з запою. Ты хочаш гэтага?

— Хачу завязаць да канца жыцця. Сябры, ведаеце, як мне ўсё абрыдла?! Іншы раз хочацца ў пятлю залезці… На працы мяне скарацілі. Сарваўся. Мая Люська махнула на мяне рукой і з’ехала да маці. Дзяцей нам Бог не даў, таму нікому я зараз не патрэбны…

— Ты нам патрэбны. Абяцаеш мяне слухацца?

— Абяцаю!

— Выпіць хочаш?

— Хачу!

— Крыху пачакай. Дарэчы, сваю знакамітую басуху ты збярог? Я ж памятаю, як старанна ты капіраваў Rickenbacker 4001 Крыса Сквайра з «Yes».

— Паміраць буду, а з ёй не расстануся, бо зроблена ж вось гэтымі рукамі!

— Рукі ў цябе залатыя, а галава…

— Срэбная! — прадоўжыў Алесь.

Мы рассмяяліся.

— Добра. Зараз ідзём у саўну.

Мы спусціліся ў фае. Я падышоў да прывабнай адміністратаршы.

— Вы не знойдзеце для нас бярозавы венічак?

— Але ж гэта саўна…

— Правільна, але мы не фіны, а бульбашы, таму мокрае п'ём і мокрым парымся. Да таго ж я тут не першы раз.

Я непрыкметна паклаў у яе журнал 20 баксаў.

— А яшчэ я буду вельмі вам удзячны, калі вы адчыніце дзверы, якія вядуць да возера, і ўключыце святло на пляжы.

— Вы што, будзеце купацца ў такую халадэчу? Ёсць жа басейн.

— Мы маржуем. А яшчэ, калі не цяжка, прышліце да нас афіцыянта з рэстарана.

— Добра.

Яна зацікаўлена паглядзела на мяне. Што ж, жанчынам падабаюцца не толькі прыгожыя, але і непрадказальныя ўчынкі.

Мы зайшлі ў саўну і пачалі распранацца ва ўтульным прылазніку з драўлянымі лавамі, сталом з посудам, халадзільнікам і плазменным тэлевізарам.

— Я першы раз у такой шыкоўнай саўне! — усклікнуў Дзіма.

— А я другі, — дадаў Алесь.

— А дзе быў першы раз?

— У марах…

— Гумарыст ты, Алесь, — сказаў я. — І гэта добра, бо нярэдка пачуццё гумару застаецца апошняй саломінкай, якая трымае нас на паверхні жыцця. Заходзьце, грэйцеся, а я пачакаю афіцыянта.

Хлопцы пайшлі ў парылку. Хутка пачуўся стук у дзверы, і ўвайшоў афіцыянт.

— Добры вечар.

— Добры.

— Вось вам перадалі венік. Што будзеце заказваць?

— Дзве бутэлькі «Абсалюту» — паставіце ў халадзільнік. Самаробны хлебны квас у вас ёсць?

— Для вас знойдзем. Я вас мінулы раз абслугоўваў, помніце?

— Вядома, Юра.

— Нават маё імя запомнілі! — здзівіўся афіцыянт.

— Харошых людзей я заўсёды запамінаю, як, дарэчы, і дрэнных. Беражы сяброў, ведай ворагаў — і дажывеш да ста год. Хто сказаў?

— Можа, Канфуцый?

— Не, гэта я сказаў. Закускі, Юра, на твой густ. Яшчэ чыгунок юшкі, вашай знакамітай з пяці гатункаў рыбы, але такой гарачай, каб слёзы з вачэй капалі. І асабістая просьба: праз гадзіну мне патрэбна шклянка сапраўднага лепельскага мёду. Зробіш? Я не пакрыўджу.

— Ды мой дзядуля пчол трымае. Зробім. Дарэчы, ён хвацкую медавуху робіць. Можа, прынесці?

— Прынясі глечык.

— Добра.

Я зайшоў у парылку. Глянуў на тэрмометр — 90 градусаў.

— Сябры, вы што, збіраецеся тут замярзаць?

— Я не ведаў, дзе рэгулятар, — адказаў Дзіма.

— А мне і гэтага зашмат, — прамармытаў Алесь, з якога ручаямі цёк пот. Хутчэй, не пот, а бражка.

— Алесь, схадзі ў душ, а потым паляжы на лаўцы ў прылазніку. Адпачні, я потым за табой прыйду.

Сябра з яўным задавальненнем выбег з парылкі. Я паставіў рэгулятар на 110 і ў ліпавым цэбры запарыў кіпенем венік. Потым залез на верхнюю паліцу.

— Вось зараз пачнём пакрысе грэцца. Ведаеш, Дзіма, як вызначыць, што цела ўжо сагрэлася і можна парыцца?

— Не.

— Слухай і запамінай. Як толькі з носа капне сем кропель поту — можна брацца за венік. Бачу, ты добра накачаўся ў войску, пастарайся падтрымліваць такую форму.

— Дзядзька Зміцер, а дзе вы засвоілі рукапашны?

— Я ж служыў у разведузводзе, яшчэ нешта помню. Зараз мы з табой павінны вывесці з запою Алеся. Басіст ён класны, некалі на пары вывучыў «Палёт чмяля» і хоць у сярэднім тэмпе, але сыграў. Чалавек ён добры, але слабахарактарны, як казаў Алібабаевіч. Колькі кропель сышло?

— Тры.

— Дабавім яшчэ 20 градусаў. Як?

— Як у парылцы.

— Добра. Зараз у душ. Толькі пад цёплы, каб поры цела не закрыліся.

Спаласнуўшыся, я сеў побач з Алесем.

— Як ты?

— Нешта ўсярэдзіне ўсё калоціцца… І млосна. Піва хачу.

— Піва табе — што мёртваму клізма. Дай руку.

Я праверыў пульс. Крыху паскораны, але роўны.

— У цябе з сэрцам праблем не было?

— Не.

— Будуць. Калі піць не кінеш. Пайшлі ў парылку.

— Можа, не трэба?

— Трэба, Федзя, трэба.

Мы зайшлі ў парылку.

— Гэта ж печ Асвенцыма, — усклікнуў Алесь. — Вушы ў трубачку скручваюцца. Я лепш пайду ў прылазнік.

— Не. Вось табе лямцавая шапка, каб вушы не смылелі. Кладзіся на сярэднюю паліцу фэйсам у тэйбл. Малайчына! Зараз крыху ліну бярозавага настою. Як?

— Пячэ! — усклікнуў Алесь.

— Не, сябра, ты не рамантык. Бярозкай жа пахне!

Я пачаў пакалыхваць венік над спінай Алеся. Потым прыклаў яго да шыі, лапатак, прайшоўся па пазваночніку і ягадзіцах. Пачаў злёгку хлопаць венікам па спіне і, нарэшце, захвастаў з усяе сілы. Сябар толькі ўскрыкваў і змучана стагнаў.

— Для пачатку хопіць. Дай руку!

Я дапамог Алесю падняцца і выйсці ў прылазнік.

— Сланцы на ногі — і на вольнае паветра!

Праз аварыйны выхад мы трапілі на пляж. Вецер гайдаў адзінокі ліхтар, а за дрыготкім кругам святла таямнічай прастуджанай начной пачварай хлюпала носам возера.

— Пакупаемся!

— Вы што, здурнелі! — закрычаў Алесь. — Я ў ваду не палезу!

— Дзіма, хапай яго за правую руку!

Я схапіў Алеся за левую руку, і мы правалаклі яго па пяску да возера і шпурнулі ў хвалі. З матам, які перарвала чарговая хваля, ён знік пад вадой. Я нырнуў услед. Вада халоднымі абцугамі сціснула цела і ненажэрнай чорнай п'яўкай пачала высмоктваць цяпло. Да нагі дакранулася нешта слізкае і халоднае. Б-р-р! Я вынырнуў — на беразе ратавальнай паходняй ірдзеў ліхтар. Побач, фыркаючы і выплёўваючы ваду, сярдзітым вадзяніком вынырнуў Алесь.

— Вяртаемся! — крыкнуў я.

Алесь ірвануў так, што мог бы паспрачацца з самім Усэмам Болтам у хуткасці. Ён першым ускараскаўся на верхнюю паліцу парылкі, распластаўся на гарачых дошках, спачатку ляскаў зубамі ад холаду, а потым, калі выратавальнае цяпло ласкавым подыхам сагрэла цела, аж застагнаў ад задавальнення. Я дадаў яшчэ 20 градусаў. Ніхто не пярэчыў, толькі Алесь пакрыўджана барматаў: «Садзюгі вы. Фашысты».

— Мы не фашысты, — запярэчыў я, — мы з цябе зялёнага змія выганяем. А фашысты ў сярэдзіне вайны, каб праверыць уздзеянне нізкіх тэмператур на арганізм чалавека, праводзілі ў канцлагерах эксперыметры над людзьмі. Яны саджалі зняволенага ў бочку з вадой, куды насыпалі лёд. Калі чалавек страчваў прытомнасць, яго спрабавалі адагрэць усімі магчымымі спосабамі. Як вы думаеце, які аказаўся самым дзейсным?

— Бутэлька гарэлкі, — адказаў Алесь.

— Не. Што рускаму кайф, то немцу смерць. Калі мужчыну, які страціў прытомнасць, адагравала аголеная жанчына, і ён, ачуняўшы, быў здольны ўступіць з ёй у палавыя зносіны, то хутка прыходзіў у норму.

— А для чаго гэта рабілася? — спытаўся Дзіма.

— Немцы вынайшлі бамбардзіроўшчык для палётаў на экстрэмальнай вышыні, таму трэба было праверыць уздзеянне холаду на арганізм пілотаў і разнастайныя спосабы адагравання.

— Вынік: пакуль магу, датуль жыву!

— Правільна. Я бачу, ты сагрэўся. Пайшлі ў прылазнік.

На лаўцы я разаслаў прасціну і загадаў Алесю легчы на яе. На сервіраваным стале знайшоў паўлітровы слоічак з мёдам. Адкрыў накрыўку і панюхаў — цудоўны водар, які ўвабраў у сябе ўсю духмянасць лепельскіх мурагоў. Зачэрпнуў чайную лыжку салодкага золата і паклаў пад язык. Мёд спачатку падаўся такім рэзкім, што аж засадніла ў горле, а потым растварыўся, не пакінуўшы ў роце аніводнай крупкі — значыць, дыястаза не меней сотні. Клас! Лыжкай стаў набіраць мёд і рукамі размазваць па целе Алеся. Потым пачаў хлопаць далонямі, з цяжкасцю адрываючы іх ад скуры. Мёд пабялеў, пачаў ператварацца ў брудна-шэрую масу і скручвацца ў камякі. Гэты від масажу вельмі працаёмкі, затое эфект ад яго непераўзыдзены, бо мёд выцягвае з арганізма процьму шлакаў і адначасова насычае яго каштоўнымі мікраэлементамі, асабліва каліем… Праз паўгадзіны з мяне градам цёк пот, а скура Алеся стала ружовай, быццам у немаўляці.

— У душ! — загадаў я. — Змывай рэшткі мёду. Потым да стала.

Калі мы селі за стол, я дастаў з халадзільніка бутэльку гарэлкі і наліў у чаркі.

— Мальцы, за нашу сустрэчу!

— За нас! — падтрымалі сябры.

Алесь дрыжачай рукой падняў чарку і з бачным намаганнем, падаўляючы прыступ млоснасці, выпіў. Потым, схіліўшы галаў і зморшчыўшыся, некалькі хвілін чакаў рэакцыі арганізма: прыме ці не? Прыняў.

— Сябры, — прапанаваў я, — спачатку па бутэру з ікрой, а потым імгненна — юшку.

Я наліў з чыгунка ў талеркі духмяны кіпень, сыпануў па жменьцы зяляніны: кропу, пятрушкі, цыбулькі. Асобна паклаў па кавалку рыбы.

— Смачна есці! Наваліся — не падавіся! Сёрбайце!

— Як? — спытаўся я праз пару хвілін, калі драўляныя лыжкі азбукай Морзэ пачалі пастукваць па дне талерак. У адказ пачуў толькі мыканне напоўненых іртоў, якія не хацелі адрывацца ад смакаты і траціць час на размовы.

— Тады яшчэ па талерачцы?

Алесь з Дзімам дружна заківалі галовамі.

— Ну і юшка! — нарэшце змог падаць голас Дзіма. — Грэе не горш, чым саўна, з мяне ўжо не сем, а сямнаццаць кропель капнула.

— Вунь сурвэтка, — падказаў я.

Калі талеркі зноў апусцелі і рыба была з'едзена, я наліў па другой чарцы.

— А зараз вып'ем за наша здароўе пад гэтыя саплістыя масьлякі. Заўважце: яны запраўлены самаробным алеем, які робіць адзін прадпрымальнік на дарэвалюцыйнай маслабойцы. Алей не горшы за аліўкавы, а пахне, як вусны каханай пасля шклянкі з'едзеных семак. Вось у гэтым чыгунку сопкая бульбачка. Тут — ружовае сала з часнаком і цыбулькай. Вунь квашаная капустачка з журавінамі. Няхай жыве беларуская гастранамія!

— Табе б лекцыі чытаць наведвальнікам рэстаранаў — смачна расказваеш, — пахваліў мяне Алесь. На гэты раз яго рука з чаркай не калацілася і твар не моршчыўся. Што ж: першая калом, другая сакалом.

— Як сябе адчуваеш? — запытаў я сябра.

— Нараджаюся на свет Божы.

— Ты піў два тыдні, таму, па ідэі, столькі ж часу павінен прыходзіць у норму. Але ў нас няма столькі часу, таму лячыцца будзем па паскоранай методыцы, якую прыдумаў нямецкі доктар для цара Аляксандра, не памятаю каторага.

— Што за методыка?

— Пабачыш. А зараз па трэцяй — за жанчын! Табе, Алесь, чыста сімвалічна трыццаць грам.

— Чаму?

— Каб не было новай п'янкі. І не глядзі так пакрыўджана — ты абяцаў мяне слухацца. А не будзеш слухацца — трапіш у лепельскі філіял Навінак. Якімі сродкамі там лечаць, ты, пэўна, ведаеш.

— Як не ведаць. Гарэлкі там не наліваюць. Сябры расказвалі.

— Вось-вось. І нягледзячы на жорсткую методу лячэння, большасць людзей зноў трапляе туды. Альбо ў магілу… Цяпер давайце пап'ём кваску і будзем збірацца на бакавую. Ці, можа, вы яшчэ хочаце паплаваць у возеры?

Сябры сціпла адмовіліся. Бутэльку гарэлкі, медавуху, квас і рэшткі мёду я забраў з сабой.

— З лёгкай парай! — сустрэла нас адміністратарша.

— Дзякуй, усё было цудоўна!

Перад сном я патэлефанаваў Томачцы і пажадаў ёй добрай ночы. Потым, аддаўшы арганізму загад прачнуцца праз дзве гадзіны і пажадаўшы сябрам добрай ночы, я правалiўся ў чорна-белую бездань сну. Пасля моцнай стомы каляровыя сны мне не сняцца.

Роўна праз дзве гадзіны я прачнуўся. Ведаў, што Алесь не спіць, таму адкрыў халадзільнік, наліў з бутэлькі чарку гарэлкі і падышоў да сябра.

— Выпі, Алесь, стане лягчэй. Вось так! Заеш мёдам. Добра, а цяпер пастарайся крыху паспаць.

Я прачынаўся праз кожныя дзве гадзіны і паўтараў працэдуру. Толькі пад раніцу змучаны сябар заснуў. Я таксама. Дрыхлі мы да дзесяці гадзін. На сняданак я заказаў нам з Дзімам ёгурт, яешню з беконам і каву, а Алесю курыны булён.

— Я таксама кавы хачу!

— Дусту табе, а не кавы! У цябе нервы як струны гітары, настроенай на два тоны вышэй, а ты хочаш падкруціць іх яшчэ? Я зараз паеду ў аптэку, куплю заспакойваючы збор і якога-небудзь гліцыну. Глушыць цябе моцнымі антыдэпрэсантамі не хочацца. Да таго ж ты добра папаліў кішкі, таму табе трэба нешта абвалакальнае.

— Адкуль ты, сябра, усё гэта ведаеш?

— З уласнага вопыту. Той не творца, хто не праходзіў выпрабавання запоем. А ён, часцей за ўсё, бывае ад нашай незапатрабаванасці… Твае мазгі за гэты час не атрымоўвалі станоўчага інфармацыйна-эмацыянальнага ўздзеяння, таму я куплю дыскаў з камедыямі і пазнавальнымі праграмамі. DVD тут ёсць — будзем выганяць негатыў з тваёй галавы станоўчымі эмоцыямі. Днём пагуляем па лесе, а пасля абеду я паспрабую арганізаваць рыбалку. Зараз жор у шчупакоў. Адпачывайце і чакайце мяне.

Я заехаў у аптэку, а потым з белай ружай зазірнуў у Дом рамёстваў да сваёй аднакурсніцы Раечкі, якая з моманту адкрыцця ўстановы працавала тут загадчыцай. Мы расцалаваліся, і я ўручыў ёй ружу.

— Дзякуй. Якія людзі! Раз у стагоддзе заглядваюць. Ты мяне зусім забыў, Дзімка!

— Прабач, Раечка! Буду выпраўляцца. А быў я ў цябе пяць гадоў таму.

— Хочаш сказаць, што гэта маленькі тэрмін? І што сто шэсцьдзясят чатыры кіламетры — вялікая адлегласць? Пасля саракоўніка кожны год у нас, жанчын, ідзе за пяць. Вы, мужыкі, не разумееце, як цяжка нам губляць прывабнасць…

— Ты цудоўна выглядаеш!

— Кінь ты свае ліслівыя кампліменты. Я кожны дзень гляджуся ў люстэрка і знаходжу на сваім адлюстраванні шмат непатрэбных дэталяў. А яшчэ іншы раз і ў пашпарт зазіраю…

— А ты глядзі на ўсё з іроніяй і гумарам.

— Толькі гэта і застаецца!

Мы рассмяяліся.

— Каб надаць табе аптымізму, скажу, што праз месяц юбілей універа, мы з «Мішкамі» будзем выступаць на канцэрце, куды я цябе і запрашаю.

— Цудоўна, дзякуй! Няўжо вы збераецеся? Нават не верыцца…

— Пастараемся. Толькі вось Валерку нашага забілі.

— Жах! Я нешта краем вуха чула… А хто ж яго заменіць?

— Сын. Мы з ім за Алесем прыехалі, але той пакуль што не ў лепшым стане.

— Ён жа ў мяне працаваў, вёў гурток разьбы па дрэве. Залатыя рукі ў чалавека. Якія скульптуры рабіў з высахлых дрэў! Але пачаліся запоі, прыйшлося звольніць па ўласным жаданні, бо магло быць горш…

— Калі не будзе піць, возьмеш яго на працу?

— Вядома, вазьму. Пойдзем, пакажу табе нашы багацці.

Яна правяла мяне па пакоях, паказала, як на старажытных кроснах ткуць палатно. Асабліва мяне ўразілі ручнікі.

— А можна ў вас набыць такую прыгажосць?

— Закажы. Дзяўчаты за тыдзень зробяць. Толькі ўзор падыходзячы трэба падабраць. Можа, шлюбны? Пара табе ўжо ачалавечыцца.

— А зараз я не чалавек?

— Не, зараз ты эгаіст. Ажэнішся — станеш чалавекам.

— Бадай, я хутка цябе паслухаю.

У калідоры былі развешаны карціны Жарнасека, чыім талентам я не перастаю захапляцца. Ён — лепельскі Пірасмані, які да канца свайго нялёгкага жыцця захаваў наіўны і дзіцячы погляд на свет. Яго прымітыў — гэта чароўныя лебедзі на чароўных лясных азёрах.

— Рая, вось бы нам зрабіць каталог работ Жарнасека! На айчынным паліграфічным абсталяванні альбом еўрапейскага ўзроўню не зробіш, трэба заказваць у Аўстрыі або ў Славеніі, а для гэтага патрэбны грошы.

— Колькі?

— Тысяч дваццаць еўра за найменшы тыраж.

— Адкуль браць такія грошы? У нас культура фінансуецца па астаткавым прынцыпе — з таго, што застаецца пасля асноўных артыкулаў расходу. І звычайна нічога не застаецца…

— Вось калі мы пачнём фінансаваць культуру і адукацыю ў першую чаргу, тады можам лічыць сябе культурнай краінай.

Мы развіталіся, і я вярнуўся ў пансіянат. Там мяне чакаў збянтэжаны Дзіма.

— Прабачце, не дагледзеў. Алесь прыснуў, а я літаральна на пяць хвілін спусціўся ў хол. За гэты час ён выпіў паўбутэлькі гарэлкі і глечык медавухі. Зараз спіць п'яны.

— Што ж, дарога да зорак бывае нялёгкай. Канешне, можна зараз і разбегчыся, але можна і пазмагацца. Што выберам?

— Дарогу да зорак!

— Згодзен! Тады сачы, каб Алесь больш нічога не піў, а я адлучуся гадзіны на тры. Калі не захацеў лячыцца па-царску, будзе па-татарску.

Я зайшоў у краму, купіў шакаладных цукерак, пакунак белага кітайскага чаю «Мао Фенг» і вязанку абаранкаў. Затым паехаў у бок вайсковага палігона. Пачало змяркацца. Я праехаў кіламетраў дзесяць, мінуў дзве пустыя вёскі, нежылыя дамы якіх разбітымі акулярамі вокнаў сумна глядзелі на свет, абагнуў возера, даехаў да ледзь прыкметнай сцяжынкі і заглушыў матор. Далей дарогі не было. Я захапіў падарункі, запаліў ліхтарык і асцярожна рушыў наперад. Сцяжынку пераразаў ручай. У кустах я знайшоў кладку і па ёй перайшоў цераз яго. Яшчэ праз сотні дзве метраў сярод магутных ліп стаяла хаціна. Прыгледзеўшыся, можна было заўважыць, што да яе не цягнуліся электрычныя правады. Загаўкаў сабака. Калі я падышоў да ганка, дзверы адчыніліся, і бабуля сказала: «Добры вечар, Зміцер! Заходзь, я цябе чакаю». Я павітаўся, прайшоў цёмны трысцен і трапіў у даволі вялікі пакой, які асвячаўся газніцай.

— Бабуля Зося, можа, дапамагчы табе правесці сюды электрычнасць?

— Навошта? Людзі амаль тры тысячагоддзі цудоўна абыходзіліся без электрычнасці, а зараз, калі вас, гарадскіх жыхароў, пакінуць без яе, вы праз тры дні вымраце, як маманты.

— Можа і так. Вось табе гасцінцы, бабуля.

— Дзякуй, толькі я для цябе хутчэй няня, а твая сапраўдная бабуля была маім Майстрам і Настаўнікам.

— Зараз ты сама Майстар.

— Так, але да ўзроўню тваёй бабулі мне яшчэ расці і расці… Хаця часу для росту засталося не так многа.

— Гэтага ніхто не ведае…

— Я ведаю. Кожны Майстар павінен ведаць час сваёй смерці, каб да гэтага дня падрыхтаваць сабе пераемніка, інакш таемныя веды знікнуць. Расказвай, з чым прыйшоў, хаця я і сама здагадваюся.

— Хачу выратаваць свайго сябра Алеся ад гарэлкі. Загібаецца хлопец.

— Зміцер, справа гэта нялёгкая. Ён зараз на такой стадыі залежнасці, што лячыць яго травамі трэба год, але ты хочаш хутка… Тут ёсць адзіны сродак — яд з калючак вожыка. Майстар мае права прыгатаваць яго толькі раз у жыцці. Трэба знайсці вожыка і ўгаварыць яго аддаць жыццё для выратавання чалавека. Перад смерцю звярок плача, і яго слёзы, змешаныя з вадкасцю з калючак, утвараюць яд. Вельмі моцны. Ад яго чалавек альбо памірае, альбо назаўсёды губляе цягу да гарэлкі. Ты чуў, як плача вожык?

— Не.

— Лепш не чуць… Я аднойчы зрабіла гэты адварот для свайго адзінага сына. У яго не вытрымала сэрца… Цяпер я кожны дзень хаджу на яго магілу і прашу прабачэнне, хаця ведаю, што ён мне даўно дараваў, бо тое існаванне, якое ён вёў, нельга назваць жыццём. У мяне засталіся гэтыя лекі. Ты возьмеш на сябе адказнасць за жыццё сябра?

— Вазьму!

Бабуля дастала з паліцы маленькую бутэлечку і падала мне.

— Вылі гэтую вадкасць у бутэльку з півам і пастарайся, каб сябар яе выпіў. Яго будзе ванітаваць так, што сярэдневяковыя катаванні здаліся б яму асалодай. Калі выжыве, праз суткі прыедзь да мяне.

— Добра, дзякуй.

— Дарэчы, ты ведаеш, што бабуля ў дзяцінстве перадала табе веды Майстра? Трэба толькі правесці абрад пасвячэння, каб адкрыць тое, што захоўваецца ў табе, як у шкатулцы са скарбам, ад якой згубілі ключ. Ты абавязкова прыйдзеш да мяне, проста яшчэ не прыйшоў час… Бывай!

Я на другой перадачы цягнуўся па ледзь бачнай дарозе. Фары выхоплівалі з цемры фрагменты сумнага восеньскага пейзажу, якія стваралі агульнае палатно пад назвай «Падрыхтоўка прыроды да зімы». Нарэшце выехаў на шашу і прыбавіў газу. У Лепелі купіў у краме бутэльку «Аліварыі». У машыне асцярожна адкаркаваў яе, выліў туды рэшткі настою з бутэлечкі і акуратна закрыў. У нумары Дзіма глядзеў нейкі баявік, а Алесь ляжаў тварам да сцяны і рабіў выгляд, што спіць. Яму было сорамна і не хацелася ні з кім размаўляць. Я адкрыў халадзільнік і гучна, каб пачуў сябар, паставіў туды бутэльку піва.

— Дзіма, пойдзем павячэраем, пакуль Алесь спіць, — прапанаваў я.

Мы спусціліся ў рэстаран і нетаропка павячэралі. Калі вярнуліся ў нумар, то ўбачылі пустую бутэльку з-пад «Аліварыі», а з прыбіральні пачулі стогны і плач Алеся. Ён стаяў на каленях ля ўнітаза, яго цела раз-пораз ахоплівалі канвульсіі, і яго ванітавала. Ды ванітаваць ужо не было чым…

— Хлопцы, — усхліпваючы, прашаптаў ён, — у мяне ў кішках сядзіць вожык. Ён плача, колецца і хоча вылезці на волю. Разрэжце мне жывот і выпусціце яго. Прашу вас, дапамажыце!!!

Я спалохаўся. Дзіма таксама.

— Я выклічу «Хуткую дапамогу»! — прапанаваў ён.

— Яны не дапамогуць. У народнай медыцыны і афіцыйнай розныя сродкі лячэння.

Жэстам я паклікаў Дзіму ў калідор.

— Пачалі дзейнічаць лекі. Трэба чакаць суткі.

— Але ён можа не вытрымаць. Як яму дапамагчы?

— Я ўзяў на сябе адказнасць, але мне самому страшна… Пачакаем хаця б гадзіны дзве, каб у Алеся выпрацаваўся адмоўны рэфлекс на алкаголь, інакш ён заўтра зноў можа сарвацца.

— Я не магу слухаць яго стогны — сэрца разрываецца…

— Ідзі ў хол, а роўна праз дзве гадзіны вернешся.

Гэтыя дзве гадзіны, якія я назіраў за пакутамі сябра, падаліся мне вечнасцю. У яго ўжо не хапала сіл трымацца за ўнітаз, ён споўз на падлогу і ляжаў там у позе эмбрыёна. Вельмі хворага эмбрыёна. Нарэшце прыйшоў Дзіма. Мы падхапілі Алеся пад пахі, абмылі яму твар вадой і занеслі ў ложак. Я сеў побач, паклаў рукі на галаву сябра, заплюшчыў вочы, і з мяне паліліся словы, якіх я раней не ведаў:

Духі анёлаў: Зафкіель, Цадкіель,
Самаель, Міхаель, Ханіель, Рафаель,
Габрыель; прыміце чатыры стыхіі:
Зямлю, Ваду, Агонь і Паветра.
Высушыце смагу піцця
Усялякага зелля і віна
У раба Божага Алеся. Амінь.
Вазьміце келіх на крылы свае,
Вазьміце закляцце на смагу віна.
Заклінаю і патрабую
Імем бога Маісея,
Бога Аўраама,
Бога Іакава:
Ачысціце яго цела
Ад згубнай звычкі віна.
Накладзіце сваю пячатку
На маю просьбу і на маю працу.
Пашліце яму адпачынак
У імя Бога жывога.
Амінь!

І Алесь заснуў.

Раніцай я зноў накіраваўся да бабулі Зосі. З-за хмар раз-пораз выглядвала скупое восеньскае сонейка, ажыўляючы сумны кастрычніцкі пейзаж. Рунь на фоне лесу здавалася уімблдонскім кортам, на якое вось-вось выйдуць Роджэр Федэрэр і Рафаэль Надаль, але адзінымі «тэнесістамі» зараз былі зайцы, якія ласаваліся сакавітымі парасткамі. На ўзлеску я заўважыў малады дуб, барвовае лісце якога каштоўнымі рубінамі рдзела на сонейку. Я заглушыў матор і падышоў да дрэўца. Дуб — сакральнае дрэва беларусаў. Ён волат нашых лясоў, пазней за ўсіх скідвае лісце і даўжэй за ўсіх прачынаецца пасля зімовага сну. А яшчэ ён лечыць. Я разуўся, скінуў шкарпэткі, куртку, кашулю, абняў дрэва, стаўшы тварам на ўсход, счапіў рукі ў замок, прыціснуўся шчакой да шурпатага ствала, заплюшчыў вочы і прашаптаў:

— Дуб-дубочак,
Валадар лясоў,
Дай мне тваю сілу, спакой і мудрасць.
Будзь мне ахоўнікам ад злой сілы!

І хоць пад восеньскім ветрам маё цела спачатку пакрылася гусінай скурай, я адчуў цяпло, якое ішло ад магутнага дрэва. Добра. Цяпер я гатовы дзейнічаць далей. Я пацалаваў дрэва, апрануўся і рушыў да аўтамабіля.

Бабуля Зося мяне чакала:

— Ты ўсё зрабіў правільна, Зміцер! — пахваліла яна мяне. — Пакрысе ў цябе актывізуюцца схаваныя веды. Завары вось гэтыя зёлкі і дай твайму сябру шклянку адвару з мёдам. Ён праспіць суткі, і за тры дні прыйдзе ў норму. Алкаголь ён ужываць больш не будзе.

— Дзякуй, Майстар! — я абняў і пацалаваў бабулю Зосю.

— Не забывай старую, ты цяпер у мяне замест сына…

Вярнуўшыся, я выканаў загад бабулі. Алесь прачнуўся, выпіў адвар і зноў заснуў.

— Дзіма, да змяркання яшчэ гадзіны чатыры. Можа, парыбачым?

— Я не супраць, але ж у нас няма ні вуд, ні рыбацкай вопраткі…

— Знойдзем!

Я дастаў мабільнік і знайшоў тэлефон дзядзькі Васіля. Ён адазваўся даволі хутка:

— Прывітанне, Зміцер! Адкуль тэлефануеш?

— Прывітанне, дзядзька Васіль! Ды я ў вашых мясцінах. Ці можам мы сёння з’ездзіць на шчупакоў?

— Хоць на шчупакоў, хоць на дыназаўраў! Ты што, не помніш, дзе я жыву? Прыязджай!

Праз чвэрць гадзіны мы ўжо адчынялі веснічкі хаты дзядзькі Васіля. Ён не хаваў сваёй радасці.

— Нарэшце ўспомніў пра старога! А то мне ўжо хутка прыйдзецца пераплыць тую рэчку, з-за якой не вяртаюцца… Рыбу ў ёй, пэўна, не ловяць. Дарэчы, як яна называецца?

— Сцікс. Але мы з табой парыбачым яшчэ на гэтым свеце. Ты нам з сябрам вопратку знойдзеш?

— Пайшлі, падбяром вам гардэробчык.

Вайсковая форма колеру хакі, бушлаты, гумавыя боты, вязаныя шапкі надалі нам выгляд сапраўдных рыбакоў. Праз пяць хвілін мы сядзелі ў лодцы дзядзькі Васіля.

— Мальцы, вось вам па спінінгу. Лавіць будзем на мае самаробныя блешні. Моладзь зараз часцяком ловіць на воблер, але мае самапалкі не горшыя. Зараз рыба рыхтуецца да зімоўкі, збіраецца ў глыбокіх ямінах, дзе яе і хапае шчупак. Таму лавіць будзем на глыбіні. Адзін з вас сядзе на левую частку кармы, другі — на правую. Паехалі!

Дзядзька Васіль запусціў матор сваёй «Ямахі», і мы паімчалі. Маторку пагойдвала на хвалях, вецер кідаў у твар пенныя пыркі, і ўсё гэта стварала непаўторнае для кожнага мужчыны пачуццё прадчування хуткай здабычы, якое прымушала біцца ў паскораным тэмпе сэрца і пячорнага чалавека, і сучаснага інтэлігента. Я закінуў блешню метраў на трыццаць, даў ёй апусціцца метры на тры-чатыры, і канцом вудзільна пачаў мяняць вугал праходжання, ствараючы імітацыю паводзін невялікай

рыбіны, напалоханай драпежнікам. Дзіма рабіў тое ж самае. Не прайшло і дзесяці хвілін, як у мяне «цюкнула». Дзеля страхоўкі я зрабіў падсечку, паставіў катушку на тормаз і пачаў намотваць лёску. Па сапраціўленні здавалася, што рыбіна вялікая, але, калі я падвёў яе да лодкі, аказалася, што гэта акунь грамаў на трыста. Не «гарбач», але і не «матрос». Дзіма хутка выцягнуў кілаграмовага шчупака, і яго твар ажно засвяціўся ад радасці.

Дзядзька Васіль змяніў курс і скіраваўся на востраў. Хутка я адчуў моцны ўдар, і з цяжкасцю пачаў выводзіць рыбіну, якая аказвала шалёнае супраціўленне. Гэта быў вельмі прыстойны судак. Я так спяшаўся дастаць яго з вады без сачка, што параніў сабе руку аб калючы спінны плаўнік. Пакуль я смактаў палец, спрабуючы спыніць кроў, Дзіма адчуў такі ўдар, які ледзь не выбіў спінінг з ягоных рук. Дзядзька Васіль заглушыў матор і пачаў назіраць за паядынкам, гатовы прыйсці на дапамогу. Я таксама зматаў лёску. Дзіма спрабаваў падняць рыбіну на паверхню, але яна ўпарта ішла на глыбіню. Змаганне доўжылася ўжо чвэрць гадзіны. Здавалася, рыбіна стамілася, і Дзіма пакрысе пачаў падматваць лёску. Раптам лёска правісла. Я заўважыў, як нешта падобнае да тарпеды пачало імкліва набліжацца да лодкі. Дзядзька Васіль перахрысціўся, імгненна запусціў матор, крыкнуў Дзіму: «Рэж лёску!» — і пачаў уцякаць. За лодкай гналася нейкая вялізная раз’юшаная істота. Дзіма адной рукой трымаў спінінг, а другой спрабаваў дастаць з кішэні нож. «Кідай спінінг за борт, хлопча»! — крыкнуў дзядзька Васіль. Дзіма не паспеў выканаць яго загад, таму што з вады выскачыла нейкае стварэнне, падобнае да кракадзіла даўжынёй метраў у пяць, зрабіла кульбіт у паветры і плюхнулася ў ваду з шумам Ніягарскага вадаспада. Ціўкнула парваная лёска, і Дзіма са збялелым тварам застаўся сядзець у поўнай прастрацыі. Рукі яго калаціліся. Дзядзька Васіль на максімальных абаротах нёсся да берага. Калі мы прышвартаваліся, ён сеўшым голасам выдыхнуў:

— Ну, можа, цяпер мне павераць, а то «брахун ды брахун»!

— А ты што, ужо сустракаўся раней з гэтай пачварай?

— Тут без чаркі не раскажаш… Пойдзем да мяне!

Пасля смерці жонкі дзядзька Васіль жыў адзін з катом ды сабакам. Яго роднай хатай было возера, на якім ён, здавалася, ведаў кожную затоку і водмель. Парыбачыць да яго прыязджалі і міністры, і сябры-пенсіянеры, і ніхто не заставаўся без улову. У дзядзькі было пасведчанне інспектара рыбнагляду, і з браканьерамі ён змагаўся, неаднойчы рызыкуючы жыццём. Гадоў пяць таму я выручыў адчайнага інспектара, калі на яго наваліліся тры бугаі, у якіх ён канфіскаваў электрычную вуду. З тае пары мы сябруем.

У хаце адчуваўся недахоп жаночай рукі, але адносную чысціню і парадак дзядзька Васіль падтрымліваў. Ён прынёс з кладоўкі кавалак сала і слоік з гуркамі, з халадзільніка дастаў бутэльку гарэлкі і талерку са смажанымі «ножыкамі» (так завуць у нас невялікіх шчупакоў). Наліў па чарцы сабе і Дзіму.

— Табе трэба выпіць, малец, каб супакоіцца. Зміцер, твая кава вунь на той палічцы.

— Я не ведаў, што адрэналін на Лепельшчыне можна чэрпаць салдацкімі кубкамі, — сказаў Дзіма.

— Можна нават вёдрамі, — дадаў я.

— А можна і лодкамі. Ну, мальцы, за запаведныя мясціны нашай радзімы! — падсумаваў дзядзька Васіль і зухавата кульнуў чарку гарэлкі.

Дзіма не адстаў. Дзядзька з’еў кавалак сала з хлебам, сказаў Дзіму: «Камшы, салдацік, бо лепшая рыба — сала!» — і пачаў аповед:

— На гэтым возеры я нарадзіўся, на ім і памру… Яшчэ бацька мне расказваў пра нейкую таямнічую істоту, якая хапае качак, гусей і нават дзяцей. Я гэтаму не верыў. Але аднойчы, калі рыбачыў ля вострава, непадалёку ад таго месца, дзе сёння схапіў блешню твой, Дзіма, «шчупачок», сам убачыў, як з-пад вады высунулася вялізная галава нейкай пачвары і схапіла лебедзя, які мірна плаваў тут. Лебедзь — птушка не маленькая, але ён знік у страшэннай пашчы, нібы сасіска ў роце ваўкадава. Бедная птушка нават ціўкнуць не паспела. Калі я расказваў пра гэтае здарэнне сябрам, з мяне толькі пасмейваліся і пыталіся, колькі я выпіў перад рыбалкай. Але прафесар з Мінска, які прыязджаў да мяне, сказаў, што ў адным са старажытных летапісаў згадваецца пра вялізнага змея або цмока, цела якога ў XII стагоддзі знайшлі на беразе Лепельскага возера. Магчыма, гэта быў іхтыязаўр. Паводле адной з гіпотэз, на востраве ёсць падводныя пячоры, дзе магла захавацца папуляцыя дыназаўраў. Лепельскае возера ўваходзіла ў склад Бярэзінскай воднай сістэмы, якая злучала басейны Балтыйскага і Чорнага мораў, таму прыплыць да нас магла любая істота.

— А можа, лепельская пачвара хутка заткне за пояс лахнэскую? — запытаўся Дзіма.

— Не трэба аніякага ажыятажу. У прыроды павінны заставацца свае таямніцы. Таму давайце дамовімся: пра сённяшні выпадак — нікому ні слова! — сказаў я.

— Згодзен з табой, — падтрымаў мяне дзядзька.

Мы пасядзелі яшчэ з гадзіну і развіталіся. Я аднёс рыбу на кухню рэстарана і папрасіў прыгатаваць на сняданак фаршыраванага шчупака, а судака падсмажыць у дарогу. У нумары Алесь спаў, зрэдку ўсхліпваючы і даючы храпака. Я адчыніў фортку, бо пах у нумары стаяў бамжацкі. Мы пераапрануліся і спусціліся ў рэстаран павячэраць. Я заказаў свае любімыя дранікі са смятанай, а Дзіма клёцкі з душамі.

— Бульбашы мы з табой, Дзіма, — сказаў я, — і нікуды ад гэтага не дзецца.

— Першымі бульбашамі былі амерыканскія індзейцы. Цікава, ці вырошчваюць яны цяпер бульбу?

— Думаю, што не. Яны паказваюць шоу для іншаземцаў і здымаюцца ў прыгодніцкіх фільмах, а бульбу вырошчваюць амерыканскія фермеры, колькасць якіх складае ўсяго тры адсоткі ад ліку амерыканцаў. І кормяць яны палову свету.

— Вось толькі жука яны нам падкінулі.

— Каларадскага?

— Так. Самі, пэўна, пра яго ўжо забыліся. Няхай бы ён вярнуўся на гістарычную радзіму.

— Ты што, Дзіма! Як жа нашы дачнікі без жука? Ім жа трэба накупіць «Каратэ» і апырскваць гэтай атрутай кожную расліну па тры разы на сезон. А потым есці атручаныя клубні і здзіўляцца, чаму выпадаюць зубы і валасы. Без жука мы не можам, ён стаў нашай нацыянальнай істотай. Добра, сынку, на сёння прыгод дастаткова. Пойдзем спаць.

Ранкам мяне разбудзіў бадзёры голас, які ў ванным пакоі напяваў «Мішку касалапага». Я прыслухаўся. Дык гэта ж Алесь! Дзверы адчыніліся, і ў ручніку вакол торса ўвайшоў мой сябра. Але гэта ўжо быў не ўчарашні напаўмёртвы Алесь, а паголены імпазантны мужчына з усмешкай на загарэлым твары.

— Уставайце, соні! — крыкнуў ён. — Досыць дрыхнуць!

— Як ты?

— Цудоўна, быццам нанова на свет нарадзіўся! Вось толькі есці вельмі хочацца.

— Што і не дзіўна! Праз твой страўнік зараз можна назіраць за сонцам. А можа, не будзем яго засмечваць рознай ежай?

— Будзем! Абавязкова будзем, бо, калі мой страўнік выпусціць на волю, ён нават траву будзе скубці ад голаду!

— А ад рыбы з Лепельскага возера ён не адмовіцца?

— Не здзеквайся, а то слінай захлынуся!

— Добра, тады будзім Дзіму і на сняданак.

У рэстаране нам прынеслі вялізнае блюда з фаршыраваным шчупаком, да якога я заказаў чыгунок сопкай бульбачкі, масліны і, вядома ж, хрэн. Заліўная рыба без хрэну што скварка без чаркі.

— Дзядзька Алесь, гэта мой учарашні трафей! — з гонарам зазначыў Дзіма, паказваючы на шчупака.

— Хвацкі драпежнік! Дык вы без мяне рыбачылі, вось гэта сябры…

— Ты даваў такога храпака, што фіранкі ў нумары паказвалі шторм у сем балаў. У мяне не хапіла нахабства перарваць гэткі сон, таму — прабач… Давай лепш зацэнім якасць прыгатавання.

Я паклаў сябрам і сабе рыбу, адрэзаў кавалачак, намазаў хрэнам і адправіў у рот. Спачатку хрэн лапай злой рысі дзербануў паднябенне, прабіў слязу, а потым, уступіўшы ў саюзныя адносіны са шчупаком, расквеціў яго смак новымі гарманічнымі адценнямі. Цяпер маслінку і гарачую бульбінку. Хлеба не трэба. Хлеба я і дома паем. Сма-ка-та! Мяса шчупака такога памеру сухаватае, але ў фаршыраваным выглядзе — самае то! Праз чвэрць гадзіны толькі галава шчупака сумавала на пустой талерцы.

— Малайцы, габрэі! — дажаваўшы апошні кавалак, выдаў Алесь. — Такую страву прыдумалі!

— Часу ж хапала, за пяць тысячагоддзяў можна нешта і прыдумаць, — выказаўся я. — Зараз мы з Дзімам вып'ем па кубачку кавы, а табе — кісель з журавін і дзве таблеткі «Фестала». Потым у дарогу. Спачатку заедзем за тваёй басухай — і на Полацк!

***Заканчэнне будзе.***



*Леанід ЛЕВАНОВІЧ*

# СЕМ МАЛЕНЬКІХ ЦУДАЎ
*Эсэ*



***Леанід Левановіч (Лявонаў) нарадзіўся 14 верасня 1938 года ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна. Скончыў Магілёўскае культпрасвет-вучылішча і факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аўтар шматлікіх кніг прозы і нарысаў.***

## I

Прызнаюся адразу: гэтае эсэ я збіраўся напісаць даўно, ды ўсё адкладваў. Але… дапамог наручны гадзіннік — спыніўся. Як цяпер кажуць, села батарэйка. Запасной не было, ісці ў майстэрню позна, а заўтра ранкам трэба ехаць. І тады я ўспомніў пра свой стары гадзіннік. Адшукаў, пакруціў колца заводкі. Гадзіннік ажывіўся. Весела, узрадавана зацікаў, маленькая секундная стрэлачка пачала намотваць свае малыя кругі.

Пазіраю на гадзіннік, як на дзіва: на ружаватым цыферблаце грозны сілуэт крэйсера, ваенна-марскі сцяг. Крыляе чайка, пеністыя хвалі… Гэта — Балтыйскі флот. Размаляваў сябра-мастак. А калі ж я набыў гадзіннік? Ой, даўно тое было!

Вясна 1956-га. Апошні, трэці, курс Магілёўскага культасветвучылішча. Ужо атрымаў размеркаванне ў Мінскую вобласць — папрасіўся бліжэй да сталіцы, бо марыў пра журфак.

Разумеў, што без гадзінніка далей абыходзіцца нельга. Даўно нагледзеў наручны «Победа». Але ён кусаўся — трыста дваццаць пяць рублёў. Гэта амаль дзве стыпендыі. А на што жыць? І тут прыйшоў ганарар! З аршанскай раённай газеты. Зімою быў я на практыцы ў клубе вёскі Пішчалава. Аднойчы праходзіў справаздачны калгасны сход. Я пасядзеў, паслухаў, сёе-тое занатаваў. Аказалася, што мясцовая гаспадарка імя Кірава адна з лепшых у раёне. Напісаў справаздачу і завейным, марозлівым днём панёс у Оршу. Адшукаў рэдакцыю раёнкі. Памятаю, як цяпер, прыняла мяне сталага веку жанчына. Уважліва прачытала мой допіс. А потым і кажа: «Ці маглі б вы дапоўніць трохі? Хто яшчэ выступаў?» — і дае мне аркуш паперы. Я назваў яшчэ некалькі прозвішчаў, адзначыў, пра што яны гаварылі. «Ну, выдатна. Вы малайчына». І па-мацярынску цёпла зірнула на мяне, зялёнага хлопца — мне яшчэ і васямнаццаці не было.

Праз тыдзень выйшла газета з маім вялікім артыкулам, і загаловак захавалі мой — «Да новых поспехаў!» А вось цяпер і ганарар прыслалі. Трохі падкінула грошай старэйшая сястра Параска. І набыў я першы ў жыцці

гадзіннік. І ўжо, чытаючы са сцэны гумарэску Марка Твэна «Мой гадзіннік», я адварочваў рукаў пінжака і дэманстраваў сапраўды мой, а не пазычаны, гадзіннік. Раней пазычаў у аднакурсніка, дзетдомаўца Сашкі Мацуры касцюм і гадзіннік. Дарэчы, неўзабаве набыў я і касцюм.

Дык вось, Марка Твэна і байку Кандрата Крапівы «Махальнік Іваноў» дэкламаваў са сцэны Дзяржынскага (так і хочацца напісаць Койданаўскага) раённага Дома культуры і вясковых клубаў, куды завітвала наша агітбрыгада. Так што, мой гадзіннік, выраблены Другім маскоўскім заводам, бачыла шмат людзей.

А размаляваў цыферблат у Таліне старшы матрос Пятро Шарапаў. Зямляк, выпускнік Віцебскага мастацкага вучылішча. Прапанаваў свае паслугі сам і грошы не ўзяў: «От, зірнеш на гадзіннік — і ўспомніш мяне». Насамрэч узгадваў таварыша часта, бо насіў гэты гадзіннік шмат гадоў, які служыў мне верна, адно я мяняў раменьчыкі — яны зношваліся.

Такія згадкі прамільгнулі ў галаве, пакуль ехаў у вёску і зрэдзьчас пазіраў на свой стары гадзіннік. Ён спраўна адлічваў хвіліны, нястомна кружляла секундная стрэлка. Адна мелася нязручнасць — быў ён таўставаты, цяжка вылузваўся з-пад манжэты кашулі, таму пазнейшыя гадзіннікі пачалі рабіць больш плоскімі.

Увогуле, пасля вайны наручныя дый кішэнныя гадзіннікі былі рэдкасцю. Уладальнікі ганарыліся імі. На старых фотаздымках хлопцы, маладыя мужчыны ўпіраліся левай рукой у бок. Ды так, каб быў відзён гадзіннік, расшпільвалі пінжакі, каб паказаць кішэнны гадзіннік на ланцужку. У штанах мелася адмысловая вузкая кішэня для такіх гадзіннікаў.

Цягам сваёй гісторыі чалавецтва навыдумляла шмат прыстасаванняў для вымярэння часу. Быў і сонечны гадзіннік, і пясочны, якія і зараз прымяняюцца пры розных працэдурах. Гадзіннікі ёсць вялізныя. Як лонданскі Біг Бэн, ці на вежы маскоўскага Крамля. На Прывакзальнай плошчы ў Мінску.

А насценныя ходзікі з куваннем зязюлі і без яе, якія і цяпер можна ўбачыць у вясковым доме. Цікалі яны і ў нашай новай пасляваеннай хаце — старую спалілі немцы. Ходзікі часам спыняліся, мусіць, гірка, падобная да яловай шышкі, слабавата нацягвала ланцужок. І тады я падвешваў у дадатак нямецкі кінжал. Ходзікі быццам палохаліся, гучна цікалі, а гірка з кінжалам памалу апускалася ўніз, і яе трэба было падцягваць угору. Мабыць, гэта было самае мірнае прымяненне некалі грознай зброі.

А гадзіннікі з меладычным боем! І насценныя, і настольныя. Гэта цэлая індустрыя. Іх любяць дарыць імянінцам, юбілярам. У мяне іх цэлая калекцыя.

Цяпер бальшыня гадзіннікаў працуе на батарэйках, нават маленькія жаночыя. Яны бываюць і круглыя, і эліпсавідныя. Гэта насамрэч маленькі цуд на прыгожых ланцужках, на браслетах. Мой новы гадзіннік, фарсісты, залачоны, на браслеце, які расцягваецца — гэта вельмі зручна. Падарыла яго малодшая дачка Вольга, якая жыве ў Амерыцы. Ну, вядома, і гадзіннік амерыканскі. Менавіта ён, так бы мовіць, і справакаваў нараджэнне эсэ.

## II

А дзясятай гадзіне я прыехаў у вёску. Увайшоў у хату, уключыў транзістар «Океан», каб паслухаць апошнія паведамленні, пачаў разбіраць торбу. І тут азваўся мабільнік: старэйшая дачка-мінчанка пыталася, як даехаў, як гаспадарка? Па тэлефоне, асабліва па сотавым, не люблю гаварыць доўга. Скончылі размову, трымаю на далоні мабільнік, і раптам мяне нібы апякае: а гэта хіба не маленькі цуд!

З прыёмніка гучала новая песня, дзявочы голас настойліва прасіў: затрымай мяне сонечнымі цёплымі промнямі… А транзістар хіба не цуд?

Дастаў з торбы флэшку. Гэтая малеча насамрэч — вялікі-маленькі цуд. Хай дарue чытач такую парадаксальную фразу, але гэта праўда. Услед за флэшкай вывудзіў з торбы рыдар, электронную чыталку-планшэт. А гэта самы новы цуд — кішэнная бібліятэка. Унук Янка напампаваў на яе некалькі дзясяткаў кніг. Нават двухтомны раман «Піраміда» рускага класіка Леаніда Лявонава, які ён пісаў сорак пяць гадоў. Я не мог нідзе знайсці гэтую кнігу — дапамог інтэрнэт, зараз магу чытаць яе ў трамваі. Рыдар-планшэт хіба не цуд! Я ўсё болей здзіўляўся — цуды вакол нас! На кожным кроку. І галоўнае — маленькія, кампактныя.

У вочы кінуўся нататнік і шарыкавая ручка побач. Бог ты мой! А шарыкавая ручка! Маленькі шарык зрабіў рэвалюцыю ў канцылярскіх справах.

Нарэшце я зразумеў, што не магу не напісаць пра маленькія цуды. І павінна іх быць менавіта сем — як і тых, вядомых усяму свету. І буду пісаць не на машынцы. І не шарыкаваю ручкай, а на камп'ютары.

Але спачатку ўзгадаю тыя сем цудаў, створаных чалавецтвам яшчэ ў старажытнасці: велічныя егіпецкія піраміды Хеопса, прыўкрасную статую Зеўса ў Алімпіі, вісячыя сады царыцы Семірамiды ў Вавілоне, храм Артэміды Эфескай, магутную медную статую Бога Геліёса ў гавані вострава Радос, Талікарнаскі маўзалей і маяк у Александрыі. Ёсць і сем цудаў Беларусі, здаецца, і сем цудаў Міншчыны...

А цяпер пра маленькія цуды нашага часу. Пра адзін цуд — наручны гадзіннік, я ўжо напісаў. На чарзе — шарыкавая ручка. Хто з пасляваенных вучняў не памятае чарнілкі-невылівайкі, з якімі хадзілі ў школу? У мяне ў першым класе і такой не было — насіў з сабой пузатую бутэлечку чарніла. Яго сам разводзіў з тоўстай таблеткі. Бывала, перапэцкаеш усе пальцы. А вымыць рукі — праблема. Мыла не было. А пёры, якімі пісалі ў сшытках! Дарэчы, у кожным сшытку мелася прамакашка — фіялетавая або сіняя. Пёры былі розныя. Найчасцей — зялёнае пад нумарам 86 для чыстапісання, або цвярдзейшае, металічнае белае, з тонкай шыйкай. Ім было зручна выконваць практыкаванні па арыфметыцы. А ручкі былі драўляныя.

Асобная тэма — чарнільныя прыборы. Якіх толькі не выраблялі! Шкляныя, пластмасавыя. У высокіх кабінетах — мармуровыя з прыгожымі металічнымі накрыўкамі. Масіўнасць чарнільнага прыбора і таўшчыня дывана на падлозе сведчылі пра вагу і значнасць гаспадара кабінета. Потым з'явіліся чарнільныя аўтаручкі. У пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя яны ўпрыгожвалі кішэнькі пінжакоў каля лацкана. Пазней гэта стала лічыцца дрэнным густам і аўтаручкі пачалі хаваць ва ўнутраныя кішэні.

Яшчэ адна згадка. Улетку 1959-га я першы раз ляцеў самалётам з Таліна ў Мінск на зкзаменацыйную сесію за другі курс журфака. У самалёце сцюардэса раздавала ўсім вузкія цэлафанавыя пакецікі — для аўтаручкі, бо на вышыні чарніла магло праліцца ў кішэню. Аднойчы такое здарылася і са мною, калі я ўжо працаваў у «Сельской газете». Пакецікі ўжо не выдавалі — маленькі шарык адмяніў іх. Як прымусіў выкінуць з кабінетаў і чарнільныя прыборы, і пап'е-машэ. А са школьных сшыткаў назаўсёды зніклі прамакашкі.

Дарэчы, шаракавая ручка мае цікавую, нават драматычную «біяграфію». 10 чэрвеня 1943 года лічыцца днём яе нараджэння. Вынаходнік шарыкавай ручкі венгерскі журналіст Ласла Біра, які ўцёк у 1938 годзе ад нацыстаў у Аргенціну. Разам з братам Георгіем, хімікам па прафесіі, ён высадзіўся ў Буэнас-Айрэсе з дзесяццю доларамі на дваіх. З дапамогай мясцовых улад браты адкрылі фабрыку шарыкавых ручак, але неўзабаве пацярпелі крах. Яны зрабілі тую ж памылку, што і ранейшыя вынаходнікі — паспадзяваліся на сілу цяжару, пад уздзеяннем якой чарніла трапляла на

шарык, але дзеля гэтага трэба было трымаць ручку строга вертыкальна. Неўзабаве браты прыдумалі новую канструкцыю — капілярную, дый гэтыя ручкі разыходзіліся кепска. У братоў скончыліся грошы, і вытворчасць давялося спыніць.

Дапамога прыйшла нечакана ад ваенных лётчыкаў ЗША. Падчас вайны лётчыкі залятаталі ў Аргенціну і зрабілі для сябе адкрыццё: аргенцінскімі ручкамі можна пісаць дагары нагамі на любой вышыні, іх не трэба часта запраўляць. Амерыканская кампанія «Эберхард Фабер» вырашыла манапалізаваць рынак і заплаціла 500 тысяч долараў за права на вытворчасць шарыкавых ручак. Браты ўпершыню атрымалі прыбытак за сваё вынаходства. Але ручкі працавалі не вельмі добра: падцякалі, загубілі нямала важных дакументаў і модных кашуль. Да таго ж у іх перасыхала чарніла. Продаж няўхільна скарачаўся.

Сітуацыю выратаваў Марсэль Біш — французскі фабрыкант пёравых ручак. Два гады ён скупляў усе мадэлі і настойліва іх выпрабоўваў. У 1952 годзе ён святкаваў перамогу: танная пластыкавая ручка пісала мякка, не падцякала і не высыхала. Біш вывучыў сусветны рынак і зразумеў, што са сваім імем яму ў Амерыцы не прабіцца. І, змяніў напісанне імя, каб яго лёгка маглі вымавіць паўсюль — Бік. Дарэчы, падобная гісторыя была з савецкімі «Жыгулямі» — экспартныя машыны называліся «Лада». Мадэль «Бік» адразу заваявала сусветнае прызнанне. Мільярды ручак прадаваліся, выкарыстоўваліся, губляліся. І хоць Бік вынаходзіў новыя мадэлі, стары надзейны «Бік» дае і цяпер яму прыбытак.

Помніцца, што першыя стрыжні можна было запраўляць занава, меліся спецыяльныя майстэрні. З цягам часу яны зніклі, бо стрыжняў выраблялі шмат і самых розных: доўгіх, кароткіх, пластыкавых, тоўстых металічных.

Цяпер шарыкавыя аўтаручкі вырабляюць самых розных відаў і колераў. Неяк будучы ў Амерыцы, я набыў прыгожы набор — цэлы тузін шарыкавых аўтаручак, розных па колеры: чырвоныя, сінія, фіялетавыя, жоўтыя, белыя. Але стрыжні ва ўсіх былі аднолькавыя — чорныя, так бы мовіць, афіцыйнага колеру.

## III

Амаль аднначасова з шарыкавай ручкай, у 60-я гады мінулага стагоддзя, у наша жыццё ўварваўся яшчэ адзін цуд — транзістарны радыёпрыёмнік. Самае дзіўнае было тое, што яго можна павесіць на плячо і крочыць з музыкай, збіраць грыбы па лесе. Асабліва ім захаплялася моладзь. Хлопцы, якія мелі транзістары, карысталіся асаблівай увагай дзяўчат.

У параўнанні з грувасткімі радыёпрыёмнікамі, радыёламі, яшчэ большымі магнітоламі транзістар выгадна адрозніваўся малым памерам і вагою. Ён быў лёгкі, зручны. Першыя транзістары былі на батарэйках. Потым сталі вырабляць іншыя, якія сілкаваліся ад батарэек і ад электрычнасці. Менавіта такімі з’яўляліся славутыя рыжскія «Акеаны».

Выплыў з памяці далёкі ўспамін. Улетку 1950-га, памятаю дакладна таму, што скончыў тады чатыры класы нашай пачатковай школкі. А ў пяты клас трэ было хадзіць у суседнюю Белую Дуброву за пяць кіламетраў. Дык вось, неяк адвячоркам завітаў да нас дзядзька Васіль, старэйшы матчын брат, пахваліўся, што купіў «радзіва», запрасіў мяне паслухаць. «Хадзі, Ганна, і ты. Пачуеш усе навіны», — звярнуўся ён да маці. «Ай, Васілёчак. Няма мне калі. Дый не пайму я нічога. Мне Лёнік раскажыць», — адмовілася маці. Дарэчы, была яна абсалютна непісьменная, не ўмела ні чытаць, ні пісаць.

І пайшоў я ў госці. І ўпершыню ўбачыў вялізную пафарбаваную скрынку з белымі клавішамі, з надпісам «Родина». Дзядзька націснуў на клавішу — і палілася гучная музыка, затым выразна пачуўся мужчынскі голас: «Передаём последние известия». Кажучы цяперашняй моваю, я проста абалдзеў. Падалося, што чалавек сядзіць у суседнім пакоі і гаворыць пра навіны. Дзядзька быў на сёмым небе ад радасці, што гэтак здзівіў пляменніка. Потым ён прыцішаным голасам спытаў: «А хочаш паслухаць, што пра нас капіталісты брэшуць?» Вядома, я не пярэчыў. Дзядзька доўга настройваўся, у «скрынцы» шумела, трашчала. Нарэшце невыразна пачулася, што гаворыць «Голас Амерыкі з Вашынгтона». «Во, дзе той Вашынгтон! За акіянам. А чуваць, хоць і праз трэск. «Голас» тым часам вяшчаў пра цяжкое жыццё савецкіх людзей, пра падаткі…

Так, пра гэта я ўжо добра ведаў, бо кожную вясну, ідучы ў школу, нёс малако ў двухлітровым графіне — выконваў план дзяржпастаўкі. Здаць трэ было 242 літры. Напамін пра падаткі дзядзьку не спадабаўся, бо ён быў харчовым агентам, збіраў у людзей мяса, яйкі, воўну. «Ат, брэшуць яны ўсё…» — член праўлення калгаса імя Варашылава, афіцэр-франтавік, дзядзька быў патрыётам, люта ненавідзеў капіталістаў.

Ён пераключыў, мабыць, на Мінск, бо з прыёмніка палілася шырокая і вольная мелодыя, жаночы галасок зацягнуў «Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты няпоўная?..» Вось так адбылося маё першае знаёмства з радыё. Я тады не мог і падумаць, што праз некалькі гадоў буду сам гаварыць па радыё. І здарылася гэта ў Магілёўскім культасветвучылішчы, куды паступіў пасля Беладуброўскай сямігодкі. Адкрылі ў нас свой радыёвузел, і я быў галоўным дыктарам. Мой здымак ля мікрафона змясціла абласная газета «За Радзіму». З таго часу радыё стала маёй трывалай любоўю.

Транзістар «Океан» я набыў гадоў трыццаць таму. Ён выдатна працуе і цяпер. Значыць, нездарма меў ён знак якасці. Пра гэты «знак» шмат хадзіла жартаў і анекдотаў: маўляў, савецкае і «т» мае знак якасці. Не, што б ні казалі нядобразычліўцы, а ўмелі зрабіць якасную, трывалую рэч і пры саветах! Два мае прыклады сведчаць пра гэта: наручны гадзіннік, які спраўна цікае больш паўстагоддзя, і транзістар, які ловіць радыёхвалі з усяго свету тры дзесяцігоддзі.

**IV**

Наша сучаснае жыццё цяжка ўявіць яшчэ без аднаго цуда — камп'ютара. Упершыню я сеў за яго ў сакавіку 1985-га ў Маскве ў выдавецтве «Художественная литература». Быў у Маскве на курсах — павышаў кваліфікацыю разам з Сяргеем Панізнікам. Ён — ад выдавецтва «Юнацтва», а я — ад «Мастацкай літаратуры». Дык вось, прывезлі нас — выдаўцоў з усіх саюзных рэспублік — у гэтую ўстанову на практычныя заняткі. Але пасядзець за камп'ютарам давялося некалькі хвілін, бо жадаючых было шмат, а цуд навукі і тэхнікі ўсяго адзін. Запомнілася, што вельмі лёгка можна выправіць памылку: дакрануўся да клавішы са стрэлачкай улева — і літары злева ад курсора як і не было, на яе месца лёгка паставіш патрэбную. А клавіша насупраць мяняе літары справа ад курсора.

Неўзабаве паявіліся камп'ютары і ў нашым выдавецтве, былыя машыністкі пераселі за іх. А рэдактары працавалі, як і раней — з алоўкам, з лязом і гумкай-сціркай. Свой «віндус» я займеў ужо на пачатку XXI стагоддзя. Ён, канечне, груваткі ў параўнанні з новымі, у якіх плоскія маніторы. Але, калі яго параўнаць з самым пер-

шым камп'ютарам, сканструяваным у 1944 годзе ў Бостане ў Гарвардскім універсітэце, дык мой можна назваць маленькім цудам. Той, першы, выстаўлены ў музеі, займае некалькі шафаў-паліц з безліччу лямпачак, дратоў. І займаюць гэтыя шафы метраў шэсць.Аграмадзіна!

А побач з ім — «віндус», падобны да невялікага тэлевізара. Ноўтбук, які нагадвае кнігу. У ім цэлы свет.

Вось менавіта пра ноўтбук мне і хочацца паразважць, бо ён бліжэй да тэмы — пра маленькія рукатворныя цуды. Я і падумаў пра яго, як пра цуд, калі ўпершыню пабачыў, так бы мовіць, у дзеянні. Было тое, здаецца, у 1995 годзе. Завітаў да нас у выдавецтва Язэп Янушкевіч — мы рыхтавалі кнігу «Памяць. Валожынскі раён». Ён быў яе ўкладальнікам, а я — рэдактарам. Наважыўся я выказаць Язэпу заўвагі і прапановы, даю аркуш паперы, каб ён занатаваў сёе-тое. «Чакайце, у мяне ёсць свой нататнік, — дастае з дыпламата цёмна-бліскучую кніжку, расчыняе і пачынае друкаваць. — Гэта я быў у Парыжы нядаўна. От і набыў ноўтбук. Вельмі зручная рэч». Я ціха пазайздросціў Язэпу. А болей парадаваўся, што чалавеку будзе зручней працаваць з гэткім памагатым.

Прыгадаўся мне Язэп з ноўтбукам мінулай восенню, калі ляцеў з Парыжа ў Бостан. У самалёце маё месца было з краю, ля прахода. Побач драмаў сталага веку француз, а за ім сядзеў малады мужчына ў акулярах, на галаве густая грыва цёмных валасоў. Як толькі вялізны, як гумно, «Боінг» набраў вышыню, ён дастаў ноўтбук і пачаў нешта набіраць. І працаваў увесь час, адно з перапынкам на абед. Дарэчы, віна ён не піў, папрасіў «орэнч джус» — апельсінавы сок. А сусед-француз замовіў сцюарду: «Рэд вайн энд уайт вайн». Не доўга думаючы, я паўтарыў заказ. Вось і на маім століку дзве маленькія пляшачкі віна — чырвонага і белага. Француз павесялеў, прапанаваў чокнуцца пляшачкамі — амерыканцы любяць чокацца бутэлькамі піва. Нешта сказаў суседу, мабыць, паўшчуваў, што не п'е віна, бо за яго заплачана. Па абедзе, калі сцюард забіраў посуд, сусед падміргнуў яму, ціха сказаў: «Каньяк, пліз». Я паўтарыў тое самае. Неўзабаве мы чокаліся з суседам маленечкімі пляшачкамі — грамаў на трыццаць — каньяку. Француз зноў нешта сказаў суседу з ноўтбукам, той трасянуў грываю валасоў — адкінуў іх назад, падзякаваў, усміхнуўся і мне. А тонкія доўгія пальцы нястомна бегалі па клавіятуры.

Вось тут я міжволі ўзгадаў Язэпа Янушкевіча з ноўтбукам. Ён карыстаецца цудам навукова-тэхнічнага прагрэсу ўжо каля дваццаці гадоў. А я ўсё ляпаю на дапатопнай машынцы-друкавалцы — некалі яна таксама здавалася мне цудам. Я і цяпер люблю друкаваць на ёй, бо потым так добра крэсліць напісанае.

Ад Парыжа да Бостана восем гадзін лёту. Сусед-француз са смакам пахрапваў. А мяне сон не браў. Не спаў і мужчына з ноўтбукам. Зрэдзьчас ён заплюшчваў вочы, мабыць, нешта абдумваў, рабіў перадышку, а потым зноў друкаваў. Каб у мяне быў ноўтбук, колькі б я напісаў за час пералёту! І так заманулася набыць сабе гэтакі цуд. Але ўнутраны голас нагадаў: «Э не, дзядуля, ты ж паабяцаў прывезці ноўтбук унуку Янку. Ды не абы-які, а самы новы. На два ці хопіць баксаў. Дый везці цяжка, і ці дазволяць. Два ноўтбукі — замнога. Як два баравікі ў капусту».

І слова я стрымаў — прытарабаніў ноўтбук. Трэслі мяне з ім і ў Бостане, і ў Парыжы. Але ж давёз. Янка вельмі задаволены. Ён і ў фірме працуе з камп'ютарам. І як студэнту-завочніку яму гэты цуд вельмі прыдатны. А я калі трэба нешта раздрукаваць, бо і прынтара не маю, дык скідваю на флэшку. А далей працуе ўнукаў ноўтбук.

V

Узгадаў флэшку і спахапіўся: самы час напісаць пра яе. Пра самы сапраўдны маленькі цуд. Мая флэшка — Кінгстан, мае ёмістасць два гігабайты, можна сказаць, — самая маленькая, але на ёй можна размясціць 386 копій «Вайны і міру» Льва Талстога. А далей ідуць флэшкі на чатыры, шэсць, восем гігабайт і г.д. Самая ёмістая ў нас — 256 гігабайт. А ў ЗША ёсць флэшкі фантастычнай ёмістасці — семсот гігабайт. На ёй, мусіць, зможа размясціцца увесь кніжны фонд нашай Нацыянальнай бібліятэкі.

Во, што такое флэшка! Праўда, супер'ёмістая флэшка і каштуе больш як тысячу долараў, але яна вартая гэткіх грошай.

Неяк сустрэў я нашага выдатнага крытыка Алеся Марціновіча, падзякаваў яму за рэцэнзію на мой раман «Бесядзь цячэ ў акіян». Ён сумна ўздыхнуў і кажа:

— Кепскія справы. Падкузьміў камп'ютар. Што з ім зрабілася — невядома. Але ўсе файлы, усе матэрыялы сцёрліся. Хацеў пашырыць рэцэнзію на твой раман для кнігі. А рэцэнзіі няма, як карова языком злізала. У «ЛіМе» надрукавалі скарочаны варыянт. А поўны тэкст з камп'ютара знік. Трэба пісаць занава, зноў чытаць кнігу. Цяпер усё, што напішу на камп'ютары, скідваю на флэшку. І нашу яе з сабой. — Алесь вывудзіў з кішэні флэшку і паказаў, каб я не сумняваўся. — Вось гэтая малеча і выручае.

Так, сапраўды, гэты маленькі цуд і мяне выручае. Вось закончу эсэ і скіну на флэшку. Бо і мой старэнькі віндус можа таксама падкузьміць. А флэшка не падвядзе. Шаную яе. Захоўваю ў адмысловым футаралчыку з мяккай матэрыі. Яго можна павесіць — ёсць пяцелька і замочак-маланка. Набыў футаральчык у Штатах.

Няхай жыве і верна служыць яе вялікасць Флэшка!

VI

Я сядзеў за камп'ютарам, калі азваўся мабільнік. Тэлефанавала Святлана Башылава — нястомная, самая ранняя радыёптушка, вядучая перадачы «Сельская раніца». Амаль кожную вясну мы запісваем сюжэт: як перазімавалі пчолы, якія гатункі ранняй бульбы буду садзіць, як збіраюся вырошчваць кабачкі, гарбузы. Вядома, цікавяць Святлану і творчыя справы: што новае напісалася. На заканчэнне запісваем невялікі фрагмент новага твора. Потым я атрымліваю пісьмы ад слухачоў. Нядаўна слухачка з Гродзеншчыны пыталася, як рабіць лекі з пчалінага падмору, тэлефануюць і на мабільнік.

Так, сотавы тэлефон азваўся вельмі своечасова, бо надышла чарга расказаць пра гэты маленькі цуд. Прыгадваецца мая першая вандроўка ў Штаты восенню 2000 года. Уражанняў было шмат, гэтая краіна нібы раскрытая кніга рэкордаў Гінэса. Пасля вяртання дамоў напісаў эсэ «Сем одаў Амерыцы». Былі ў гэтым творы оды хайвэю — хуткаснай шашы праз усю краіну — ад Канады да Мексікі, праспяваў я песню супермаркету. Нават — рэструму — прыбіральні, яны там дужа шыкоўныя і ўсюды бясплатныя.

Апошняй у тым эсэ была ода сотаваму тэлефону. Мяне ўразіла, што ў Бостане шмат людзей ідуць і гамоняць па мабільніку. Убачыць такое ў Мінску тады было немагчыма. Наколькі гэта зручная і патрэбная рэч я неўзабаве пераканаўся. Мы ехалі на сустрэчу са знакамітым беларусам Масеем Сяднёвым — паэтам, празаікам, публіцыстам, перакладчыкам. Жыў ён у гарадку Глен-Коў каля Нью-Ёрка. Пакуль

даехалі, сцямнелася. Не можам знайсці патрэбную вуліцу. Ніхто не ведаў, нават паліцыянт. Было позна ўжо, але давялося зяцю Алесю ўзяць у рукі мабільнік. Масей Ларывонавіч адразу адгукнуўся, удакладніў, дзе мы ёсць, сказаў, каб чакалі. Хвілін праз дзесяць пад'ехала «Хонда», стары ў капелюшы памахаў рукою, каб ехалі за ім. Дарэчы, Сяднёву было тады 88 гадоў. А ён ездзіў за рулём. Адбылася незабыўная сустрэча з таленавітым літаратарам-земляком

Дзякуючы мабільніку я пазнаёміўся з кампазітарам Зміцерам Яўтуховічам. Пасля тэлефоннай размовы ён прыслаў у Бостан кампакт-дыск і папрасіў перадаць яго Анатолю Ярмоленку. Просьбу я выканаў. Анатоль ужо садзіўся ў машыну, і тут у ягонай кішэні азваўся мабільнік. Пакуль Анатоль гаварыў, я міжволі падумаў: «І мы не лыкам шытыя. Не лапцем капусту сёрбаем».

Пасля вяртання з Амерыкі я забраўся ў сваю хату ў лясной вёсачцы. Ні ў кога з суседзяў тэлефона не было: ні сотавага, ні праваднога з чорнай слухаўкай. На ўсё наваколле адзін тэлефон у настаўніка-пенсіянера з суседняй вёскі. Але навукова-тэхнічны прагрэс не абмінуў мяне: неўзабаве і я займеў тоўсценькую трубку ў скураным футаральчыку з кароткай антэнкай. Першы мой мабільнік быў падобны да слімака. Але якая гэта была радасць: збіраю ў лесе грыбы — і раптам музыка, дастаю з кішэні «слімака». Націскаю зялёную клавішу і чую голас: «Здароў, бацька! Ну, як ты там?» На сувязі — Амерыка. За сем тысяч вёрст чую голас дачкі. Хіба гэта не цуд!

Гэты маленькі цуд — мабільнік — шмат чаго ўмее рабіць: пабудзіць у пэўны час, можа нагадаць пра дзень нараджэння сябра. Ім лёгка фатаграфаць, адаслаць эсэмэску, выйсці ў інтэрнэт, спампаваць музыку, цэлую кнігу. І што мяне асабліва здзівіла: мабільнік можа замяніць электроннага павадыра — джыпіэс. Мабільнік падкажа дарогу ў незнаёмай краіне, самы кароткі маршрут да патрэбнага месца ў чужым горадзе.

Вось такі маленькі цуд — сотавы тэлефон.

## VII

І нарэшце сёмы маленькі цуд — электронная чыталка, кніжка-планшэт. Я ўжо адзначаў — можна чытаць і з мабільніка. Але ягоны экран маленькі, таму і шрыфт дробны. І мне вельмі шкада маладых людзей, якія чытаюць у транспарце з сотавага тэлефона. Так і хочацца сказаць хлопцам ці дзяўчатам: «Што вы робіце? Чаму бязлітасна псуеце зрок?»

А вось у электроннай чыталцы шрыфт можна адрэгуляваць. У маёй ён буйнейшы, чым у папяровай кнізе. Экран гэтага маленькага цуда — дзевяць на дванаццаць см. Яе зручна трымаць, лёгка карыстацца, і адкрываецца яна на той старонцы, дзе ты спыніўся раней. Памяць у яе выключная.

Трымаю на далоні чыталку. На экране — барадаты антычны профіль вялікага Гамера. Потым можа з'явіцца прыгожы барадаты твар, пільны пагляд мудрых вачэй — гэта рэспектабельны джэнтльмен Уолт Уітмэн, потым выплывае таксама барадаты і таксама імпазантны Жуль Верн, або з'едліва-іранічны Курт Вонегут, сімпатычныя сёстры Брантэ, самавітая Вірджынія Вульф. Не стае мне ў гэтай галерэі Льва Талстога, Фёдара Дастаеўскага, рускага савецкага класіка Леаніда Лявонава. Затое ягоны магутны раман «Піраміда» — ёсць.

Пашкадаваў, што няма ў чыталцы і партрэта Роберта Фроста — у ЗША ён лічыцца паэтам нумар адзін XX стагоддзя. А ягоны двухтомнік маю. Магу чытаць у

трамваі. Цікавы факт: у трыццатыя гады мінулага стагоддзя ён прыязджаў у Маскву, з гонарам казаў: ваш герб — серп і молат. А я — фермер, мой герб — каса і сякера. Фермерствам Фрост займаўся да апошніх дзён свайго доўгага жыцця. Мне асбліва блізкая яго паэзія, бо яна вельмі моцна паяднаная з прыродай. Дый мой герб таксама — каса і сякера. Плюс пчаліны курэль, а па-руску кажучы, дымарь.

Няма ў галерэі злектроннай чыталкі нікога з нашых класікаў. О, як бы я радаваўся, калі б на экране з'явіўся партрэт Купалы ці Коласа!

Праўда, трохі парадавала інтэрнэт-бібліятэка «Флібуста». Тут я налічыў 53 творы Васіля Быкава, 19 — Уладзіміра Караткевіча, 9 — Івана Мележа. Ёсць творы іншых нашых пісьменнікаў. Дарэчы, асабліва магутна прадстаўлены Леў Талстой. Тут яго Поўны збор твораў у 90 тамах, ёсць і 22-х томны збор, а таксама — асобныя кнігі. Фёдар Дастаеўскі мае 61 кнігу. Неяк я прапусціў ягоны раман «Игрок», з асалодай чытаў у трамваі, у маршрутных таксі. Не, што ні кажыце, а электронная чыталка — гэта рэч. І каштуе нядужа дорага — 79,99 долараў. Але ж не восемдзесят! З большым экранам каштуюць даражэй. У амерыканскіх крамах цэтлік з нулямі амаль што не ўбачыш, звычайна — 4.99; 10.99. Вельмі папулярны кошт — 19.99. Столькі можа каштаваць тоўстая кніга, дзіцячая цацка і шмат што іншае.

Але вернемся да майго рыдара. Зараз чытаю « Піраміду» Л. Лявонава. Магутны твор! Вось адна вынятка. Аўтар піша, што нашы «беды диктуются переизбытком статического электричества, производимого все возрастающим в условиях крайней тесноты трением народов и особей друг о дружку, чем и объясняются частые самовозгорания человечины». Мацак, Леанід Максімавіч! Ёмка сказана.

…Гэтае эсэ — першы твор, напісаны ад пачатку і да канца на камп'ютары, чарнавіка — ні рукапіснага, ні машынапіснага, — ён не мае. Скончыў набіраць эсэ сакавіцкім адвячоркам. Надвор'е стаяла шэрае. З раніцы ляпіў мокры снег, па абедзе сыпаў дробны калючы дождж. Потым дождж ушчук, выбліснула зыркае сонца.

Выйшаў я на двор, каб даць перадых вачам, зірнуў на неба і аслупянеў: на фоне цёмна-фіялетавай хмары раскінулася шырачэзная сяміколерная дуга вясёлкі, побач слаба праглядвалася і другая дуга. Я доўга любаваўся гэтым цудам прыроды, вясёлка ўвачавідкі пачала бляднець. Дый спачатку яна была нейкая кволая, нерашучая, мо таму, што ранняя, першая ў сезоне — свайго роду разведчыца, а мо дождж занадта дробны ці сонца яшчэ нядужа яркае. Міжволі прыгадаліся вясёлкі майго дзяцінства, калі пасля магутнай летняй навальніцы мы, вясковыя хлапчукі, басанож тэпалі па цёплых лужах. А над намі зіхацела аграмадная, на ўвесь купал неба, дуга вясёлкі.

Мільганула думка: у маланкі і вясёлкі адна матка — навальніца. Але для вясёлкі яшчэ трэба дождж і сонца. І чалавек, які на яе пазіраў бы і радаваўся.

А яшчэ падумалася: можа, вясёлка-весялуха, векавечны сяміколерны цуд прыроды, хай ахінае і багаслаўляе сем маленькіх рукатворных цудаў, без якіх ужо немагчыма ўявіць нашае жыццё.

*Валерый НАЗАРАЎ*

# МРЫЙ — ПУБЛІЦЫСТ

Перыяд выступленняў Андрэя Мрыя ў якасці публіцыста ахоплівае ўсяго каля года: з лютага 1924-га па люты 1925-га. Аднак тыя допісы і нарысы, што з'явіліся на старонках «Савецкай Беларусі» разам з першымі апавяданнямі пісьменніка, дазваляюць крыху ярчэй асвятліць яго асобу.

Надзелены ад прыроды вачыма крытыка, Мрый не мог не заўважаць шматлікія недахопы маладой савецкай сістэмы. Тым не менш, убачыўшы першыя вынікі новай эканамічнай палітыкі, ён паверыў, што заганы так ці інакш будуць пераадолены, што абраны шлях у цэлым правільны, хаця і патрабуе важных карэктыровак. Адзін з апошніх допісаў, «Краснапольскі раённы з'езд саветаў», выразна ілюструе гэтую веру. У ім аўтар адзначыў: «Па дакладах, якія рабілі як прадстаўнікі з акругі, гэтак сама і мясцовыя працаўнікі, для кожнага стала зразумелай тая вялікая праца, якую зрабіла савецкая ўлада на працягу мінулага года. Народная гаспадарка, народная асвета, падаткі, ахова здароўя — усё гэта было высветлена з усіх бакоў, і кожны пабачыў, як шчыра дамагаецца савецкая ўлада адбудаваць разбураную нашу гаспадарку». Крыху пазней пісьменнік дадаў: «Абралі ў новы раённы савет 13 чалавек, з іх 3 кабеты, прычым не было ні жаднай спрэчкі адносна кандыдатаў»[1].

Пытанні даверу ўладзе на аснове яе гадавой дзейнасці (у справах асветы мас, аховы здароўя, аднаўлення гаспадаркі і нават падаткаабкладання) на той момант не выклікалі ў аўтара асаблівых пярэчанняў. У допісе «Краснапольскі раён Калінінскай акругі», паведамляючы пра ход настаўніцкай канферэнцыі і вырашаных за яе час праблемах, ён падкрэсліў: «Трэба было паслухаць, як абгаворваліся гэтыя пытанні, каб усім ворагам савецкай улады і партыі праканацца, што **сав. улада канчаткова перацягнула на свой бок настаўніцтва, што апошняе і цяпер не мысліць сваёй працы без сувязі, цеснай сувязі з партыяй і камсамолам**»[2].

Аднак прызнанне ўлады і абранага ёй напрамку дзейнасці яшчэ не было поўным прыманнем усёй унутранай палітыкі і закрываннем вачэй на яўныя хібы і пралікі. Андрэй Мрый відавочна заставаўся незадаволеным працэсам беларусізацыі. У адным з допісаў ён паведаміў, што адміністрацыя Калініншчыны нічколькі не ўзварухнулася і праз тры месяцы пасля далучэння да Беларусі; беларускую мову ў школах, як і раней, не выкладаюць і не рыхтуюцца да гэтага; нават і дзяржаўныя ўстановы не ведаюць добра, што робіцца ў цэнтры, не выпісваюць газеты «Савецкая Беларусь» і не думаюць рабіць тое ў далейшым.

Не мог не заўважыць пісьменнік і такую негатыўную рысу палітыкі новага ладу, як неадпаведнасць рэчаіснасці афіцыйных заяўленняў пра спрыянне развіццю культуры, навукі і асветы. Паказальныя ў гэтым плане яго допісы «Ненармальныя адносіны да справы асветы» і «Настаўніцтва пакрыўджана».

У першым паведамляецца пра спробу гвалтоўнага высялення краснапольскай школы… валасным выканаўчым камітэтам. Баронячы школу, Мрый прывёў найбольш важкія довады і як мага паўней абмаляваў агульную карціну сітуацыі, але нарэшце вымушаны быў прызнаць наяўнасць сістэ-

[1] Мрый, А. Краснапольскі раённы з'езд саветаў / А. Мрый // Савецкая Беларусь. — 1924. — № 290, 17 снежня. — С. 3.

[2] Мрый, А. Краснапольскі раён Калінінскай вакругі / А. Мрый // Савецкая Беларусь. — 1924. — № 232, 7 кастрычніка. — С. 3.

матычных парушэнняў правоў работнікаў адукацыі.

Не менш важны таксама допіс «Настаўніцтва пакрыўджана», дзе гаворыцца пра фактычны падман настаўнікаў. Задавальняючы патрэбы насельніцтва ў лугах, мясцовыя ўлады раздалі бліжэйшыя «каму трэба і каму не трэба», а настаўнікаў паслалі ажно за 40 вёрст, прычым далі ім луг, заарандаваны сялянамі яшчэ летась. Вынік аказаўся вартым пяра сатырыка. Настаўнікі, у якіх і коней не было, толькі дарэмна патраціліся на падарожжа, пасля каторага адразу ж былі абвінавачаны, што не паспелі скасіць луг да таго, як гэта зрабілі сяляне. Неўзабаве да абвінавачання дадалося суцяшэнне: недзе яшчэ, таксама за 40 вёрст, застаўся-такі няскошаны луг, на якім дакладна можна выйграць.

Год смерці Леніна, 1924-ы, стаў годам настойлівага ўмацавання культу савецкага лідара. Здаецца, артыкульчык «Пралетарскае мастацтва. Статуя Леніна» таксама павінен быў спрыяць гэтаму, а яшчэ засведчыць глыбокую зацікаўленасць Мрыя асобай першага правадыра савецкай дзяржавы. Аднак пасля азнаямлення са зместам твора становіцца зразумела, што напісаны ён зусім не з мэтай услаўлення новага куміра. У допісе адзначаецца толькі захопленасць грамадскай думкі Леніным як вучоным і чалавекам і асаблівая прыхільнасць да яго жыццёвай дактрыны мясцовага настаўніка і выдатнага мастака Аляксандра Грубэ.

Галоўная задача артыкула — акурат звярнуць увагу адпаведных чыноўнікаў на таленавітага маладога скульптара. Ствараецца ўражанне, што для гэтага Мрый і выкарыстаў надзвычай папулярны вобраз Леніна, для гэтага і звязаў з ім усе памкненні Грубэ… Але і самыя памкненні не асабліва спрыяюць развіццю культу асобы, яны скіраваны хутчэй на выхаванне мас з дапамогай мастацтва і прыгажосці: «Цяпер т. Грубэ не абмяжоўваецца школьнай працай, а вядзе шырокую грамадзянскую працу ў духу ленінізму. Так, дзякуючы яму ўсе мясцовыя клубы, хатачытальня, тэатр, кааператыў мастацкі абстаўлены. Нардом з сваім тэатрам ёсць у поўнай меры праца яго рук. Ва ўсім павеце няма такога пекнага тэатру, з такімі размаітымі дэкарацыямі, як у Краснаполлі, — і гэта ўсё зрабіў т. Грубэ». Ды нават і партрэты новых валадароў думак пачынаюць успрымацца толькі як прыкрыццё вядомай ідэі выхавання мастацтвам: «У клубах ёсць ленінскія куткі, вялізныя партрэты і статуі Леніна і Маркса, ды агульна сказаць, — куды ні пасунешся, у якую толькі ўстанову ні зойдзеш у Краснаполлі — усюды бачыш, якім чынам мастацтва дапамагае працоўнаму люду ў яго барацьбе з цемрай».

Распавядаючы пра велізарную статую Леніна, зробленую Грубэ, Андрэй Мрый практычна не засяроджваецца на яе апісанні. Пра тое, што яна вылеплена з белай гліны і мае вагу 12 пудоў, можна даведацца толькі з апошняга сказа, дзе тлумачыцца, чаму яе немагчыма прывезці і паказаць у сталіцы. З аднаго боку, у рэдакцыю газеты ў ілюстрацыйных мэтах былі пасланы тры фотаздымкі, але яны не былі апублікаваны, таму праблема адсутнасці апісання засталася. Да таго ж, аўтар выразна перанёс акцэнт са скульптуры на скульптара, не пакідаючы сумнення ў асноўнай мэце допісу: «Т. Грубэ так моцна захапіўся ленінізмам і асобай Леніна, што на працягу апошніх месяцаў працаваў над каласальнай статуяй Леніна… Мы павінны напісаць аб гэтым, бо мыслім, што праца т. Грубэ павінна звярнуць на сябе ўвагу вышэйшых устаноў. Мы ўпэўнены, што ў Беларусі такія карысныя, натхнёныя людзі ў галіне мастацтва павінны мець падтрыманне»[1].

Па іроніі лёсу, толькі гэты допіс Мрыя меў канкрэтны вынік, пра які цяпер вядома. Пасля тэксту артыкула ў газеце была змешчана прыпіска ад рэдакцыі: «Адказ будзе дадзены тав. Грубэ ў лісце». Праз некаторы час скульптара запрасілі ў Мінск, дзе пазней залічылі кіраўніком гуртка выяўленчага мастацтва ў Вышэйшай партыйнай школе, а статуя была перавезена ў сталіцу і ўстаноўлена ў клубе імя Карла Маркса.

Хаця Грубэ і быў мужам Настасеі Шашалевіч, роднай сястры Андрэя Мрыя, пісьменніка нельга на гэтай аснове западозрыць у непраўдзівасці ці крывадушнасці. Вядома, што ў час жыцця ў Краснаполлі Аляксандр Грубэ актыўна вывучаў народныя вырабы з дрэва, асабліва старыя ўніяцкія ўкрыжаванні, адкуль і вынікала сувязь яго работ з традыцыямі беларускай народнай пластыкі, якая неад-

[1] Мрый, А. Пралетарскае мастацтва. Статуя Леніна / А. Мрый // Савецкая Беларусь. — 1924. — № 168, 24 ліпеня. — С. 3.

наразова заўважалася даследчыкамі. Пазней таленавіты скульптар стаў адным з арганізатараў і старшынёй Усебеларускага аб'яднання мастакоў, а ў 1944 годзе атрымаў ганаровае званне народнага мастака БССР.

Мяркуючы па ранніх апавяданнях Мрыя, яго стаўленне да барацьбы дзяржавы з рэлігіяй не было адназначным ужо ў 1924 годзе. Пісьменнік-публіцыст пры знешнім спачуванні адпаведным захадам улад таксама не выяўляў асабістай агрэсіўнасці, а непрыманне адмоўных рыс прадстаўнікоў культу ніколі не пераносіў на сам культ. Можна нават казаць пра пэўную нейтральнасць аўтара ў гэтым пытанні. Выразна ілюструе такую яго пазіцыю і нататка «Асвета масаў у Краснапольскім раёне». У ёй пісьменнік, між іншым, адзначыў: «Вядзецца здавальняючая праца і ў антырэлігійным кірунку. Камсамол пры кожным вялікім свяце, хрысціянскім ці жыдоўскім, наладжвае антырэлігійныя вечарыны, лекцыі, а нядаўна шк. савет сямёхгодкі і камсамол зрабілі грандыёзны грамадзянска-палітычны суд над 59 вучнямі, якія ў свята "Ём Кіпур" не пайшлі ў школу. Нардом быў біткам набіты, прыйшлі бацькі вучняў. Былі выдзелены лепшыя сілы ў якасці пракурораў і абаронцаў»[1].

Тут трэба адзначыць, што Ём Кіпур — апошні дзень года ў яўрэйскім рэлігійным календары (прыпадае на 22 верасня), гэта Судны дзень, калі, паводле іўдзейскіх вераванняў, Бог вымярае грахі чалавека за год і вырашае яго далейшы лёс. Для верніка гэта Дзень даравання, які завяршае Дзесяць дзён пакаяння і ў які трэба трымаць пост і забараняецца працаваць. Не дзіўна, што дзеці з рэлігійных сем'яў не маглі пайсці ў такі час у школу. І не толькі з-за асабістага страху ці нават уласных перакананняў. У гэтым выпадку «віна», калі так можна сказаць, ляжала не на іх, а на бацьках, якія проста не пусцілі сыноў і дачок на заняткі. Нездарма ў допісе аўтар адзначыў, што на суд прыйшлі таксама бацькі вучняў.

Уражвае, што ў нататцы Андрэя Мрыя разам з абвінаваўцамі згаданы абаронцы, ды яшчэ як роўныя па сілах: усе яны былі выдзелены з лепшых, найбольш таленавітых вучняў. Не пакідае абыякавым і адсутнасць інфармацыі пра тое, хто перамог на судзе.

Вядома, права перамагаць тады мелі выключна атэісты, таму, магчыма, у тэксце і не ўдакладняецца, які бок выйграў справу. Але, калі так сапраўды адбылося, чаму праца ў антырэлігійным кірунку названа аўтарам *здавальняючай*, а не добрай ці выдатнай? І чыя ацэнка выказана аўтарам, афіцыйная ці свая?

Калі б выказаная ацэнка адпавядала пануючай ідэалогіі, то любую перамогу бязбожнікаў, незалежна ад выкарыстаных сродкаў і метадаў, трэба было прызнаць добрай ці выдатнай. Тое, што яна здавальняючая, сведчыць на карысць або фіксацыі ў тэксце асабістай аўтарскай думкі па гэтай справе, або… адсутнасці такой перамогі.

Аўтар апавяданняў «Пятрок», «Абстрыкаўся» і «На кірмашы» сам па сабе не прызнаў бы безумоўнай правільнасці перамогі пракурораў і не ўхваліў бы яе, паставіўшы «добра» ці «выдатна». Дык няўжо, назваўшы яе здавальняючай, Андрэй Мрый выказаў акурат сваю ўласную думку?

Аднак і ў асабістым характары прыведзенай ацэнкі таксама даводзіцца ўсумніцца. Аўтар допісу нават у сваіх мастацкіх творах ніколі прама і адкрыта не выказваўся ні за, ні супраць барацьбы з рэлігіяй. Тым больш ён не дазволіў бы сабе выказаць уласную думку ў нейтральным інфармацыйным артыкуле, дзе галоўнае — паведамленне, канстатацыя. Нельга забывацца таксама, што ў допісе гаворыцца пра здавальняючае правядзенне антырэлігійнай прапаганды, якая наогул ніколі б не здаволіла рэлігійнага аўтара. Іншымі словамі, у нейтральным тэксце канстатуецца, што антырэлігійная прапаганда вядзецца, але яе поспехі самыя невялікія, нават спрэчныя.

Міжволі прыходзіцца дапусціць «ерэтычную» думку пра перамогу абаронцаў. І тут можна ўбачыць, як усё становіцца на свае месцы, але толькі ў адным пэўным выпадку: калі абаронцы заявілі пра «віну» бацькоў, а не дзяцей. Сапраўды, у такім разе справа вырашалася афіцыйна здавальняюча: хаця вучняў і апраўдалі, але выключна ў якасці непаўналетніх. Дзеці, яны не маглі не паслухацца бацькоў, ад якіх цалкам залежалі. Старэйшыя-«цемрашалы» і іх перакананні, такім чынам, асуджаліся, але толькі

[1] Мрый, А. Асвета масаў у Краснапольскім раёне / А. Мрый // Савецкая Беларусь. — 1924. — № 259, 11 лістапада. — С. 3.

ўскосна і не ў рамках гэтай канкрэтнай судовай справы. Цікава, што і рэлігійны аўтар у падобным выпадку мог без ваганняў прыняць вынікі: дзяцей апраўдалі, а суда над бацькамі і іх рэлігійнымі перакананнямі як такога не адбылося.

Зразумела, адкрыта выказваць гэтыя свае думкі на старонках савецкіх выданняў пісьменнік не змог бы, яму заставалася падаваць дакладную нейтральную інфармацыю. У наступным назіранні, узятым з таго ж допісу, таксама няма відавочнага ўхвалення, хутчэй звычайная канстатацыя: «Антырэлігійная прапаганда на практыцы бачна яшчэ з таго, што ў Краснаполлі ўжо даўно не святкуюць нядзелю, а панядзелак. Нават кааператывы, не ў прыклад іншым мясцовасцям Калінінскай вакругі, гандлююць па суботах і нядзелях, і гэта ўжо гады 3»[1].

Прымаючы пад увагу імкненне Мрыя-публіцыста да аб'ектыўнасці ў адлюстраванні фактаў і да справядлівасці пры вырашэнні сур'ёзных праблем сучаснасці, а таксама некаторую недаказанасць, уласцівую яго пісьменніцкай манеры, і адсутнасць прамых антырэлігійных выказванняў у час, калі гэта патрабавалася, можна яшчэ больш упэўнена казаць пра разыходжанні яго асабістых перакананняў з атэістычнай ідэалогіяй.

Рэлігійная тэматыка ўскосна закранаецца Мрыем таксама ў нарысе «"Цар Максіміліян" у вёсцы», прысвечаным краснапольскай тэатральнай пастаноўцы. «Цар Максіміліян» — найбольш папулярная народная драма, якая шырока бытавала ў Беларусі, Расіі і ва Украіне ў 1850—1920-я гады, уяўляла сабой відовішча карнавальнага тыпу і была прывязана да заканчэння каляднага перыяду. У аснове яе сюжэту — канфлікт паміж царом Максіміліянам (прататыпам якога з'яўляецца цалкам гістарычны рымскі імператар Максіміліян) і яго сынам Адольфам з-за адмовы апошняга адрачыся ад хрысціянства і прызнаць язычніцкіх багоў. Часам канфлікт вырашаўся забойствам Адольфа, пры гэтым яго катам і непасрэдным выканаўцам волі цара быў рыцар Мамай. У дзеянне драмы шчодра ўпляталіся разнастайныя інтэрмедыі, звычайна камічныя пахаванні, бойкі і бітвы, рыцарскія штурмаванні, а таксама спевы і дэкламацыі. Напрыканцы адбывалася вясёлае развянчанне цара і пакаранне яго як увасабленне злога пачатку. Важная роля пры гэтым адводзілася такім героям, як «мужык», «дзед», «старыдалакоп», «смерць».

Амаль адначасова з краснапольцамі «Цара Максіміліяна» паставіла Беларуская драматычная студыя на чале з рэжысёрам Смышляевым у Маскве (1924). Народныя традыцыі выканання былі захаваны, але за аснову прынялі апрацаваны Рэмізавым і Міцкевічам фальклорны тэкст.

Краснапольская пастаноўка мела шмат адрозненняў як ад звычайных народных, так і ад маскоўскай. Яна адбылася крыху пазней — у дзень памяці святога Апанаса, які прыпадае на 18 (31) студзеня. Ажыццявілі яе мясцовыя інтэлігенты на чале з Васілём Шашалевічам. Апошняя асаблівасць гаворыць на карысць большай прыстойнасці дзеяння (звычайна рыхтавалі народную драму салдаты або «абазнаныя» ў гарадской культуры сяляне). Магчыма, было таксама больш зладжанасці ў кампазіцыі, хаця Андрэй Мрый і адзначыў «стракатасць» спектакля. У тэксце нарыса не ўказана першакрыніца, паводле якой была пастаўлена драма, няма таксама згадкі пра перапрацоўку яе тэксту, з чаго вынікае, што краснапольская пастаноўка, у адрозненне ад маскоўскай, у многіх дэталях магла захаваць свой традыцыйны хрысціянскі характар.

Спектакль настаўнікаў сімвалізаваў адраджэнне Беларусі да новага жыцця, вызваленне духу ад спрадвечнага ідэалагічнага прыгнёту. Антыманархічны выкрык акцёра і антыбуржуазныя выказванні гледачоў, а таксама адлюстраванне поспеху пастаноўкі гавораць пра веру пісьменніка ў магчымасць наладжвання новага жыцця і правядзення сацыялістычных пераўтварэнняў, але, улічваючы хрысціянскі характар драмы, выключна на аснове знаёмай народу традыцыйнай сістэмы каштоўнасцей: без адкідання духоўнага пачатку, без адмаўлення рэлігіі.

Гаворачы пра Мрыя як пра публіцыста, немагчыма абмінуць увагай адзін цікавы дакумент. У № 229 газеты «Савецкая Беларусь» за 3 кастрычніка 1924 года быў

[1] Мрый, А. Асвета масаў у Краснапольскім раёне / А. Мрый // Савецкая Беларусь. — 1924. — № 259, 11 лістапада. — С. 3.

апублікаваны калектыўны ліст настаўнікаў Калініншчыны з загалоўкам «Вандраванне ў Клімавічы». Ва ўступе між іншым паведамлялася: «Ніхто так часта не вандруе ў Клімавічы, як настаўніцтва, якога, як кажуць, у Калінінскім саюзе каля 1000. Настаўнікі часта прыходзяць аж за 70 вёрст, каб атрымаць пенсію, ці па іншай справе».

Назва матэрыялу і такое паведамленне не маглі не выклікаць асаблівую зацікаўленасць. На ўскрайку Калінінскай акругі ў той час жыў і працаваў сам Андрэй Мрый, менавіта з Клімавіч вяртаўся настаўнік з яго апавядання «Навалілі», што было апублікавана ў наступным, 1925 годзе. Далейшае азнаямленне з тэкстам, створаным калегамі пісьменніка і прысвечаным разгляду праблем настаўніцтва, абяцала найперш канкрэтную дапамогу ў асэнсаванні зместу названага апавядання. Абуджалася таксама надзея: ці не зможа гэты ліст праліць крыху святла і на саму асобу Мрыя?

Вельмі мала проста сказаць, што ліст настаўнікаў уразіў. Колькасць паралелей «Вандравання…» з творчасцю пісьменніка ў кампазіцыі, стылі, у вобразнай сістэме даволі значная.

Кампазіцыйна ліст арганізаваны гэтак жа, як і апавяданне «На кірмашы», некаторыя краязнаўчыя нарысы і артыкулы Андрэя Мрыя: у ім невялікі ўступ, часткі з загалоўкамі. Гэтыя невялікія часткі, «штрыхі настаўніцкага вандравання», — цікавыя замалёўкі-абразкі, шчодра аздобленыя іроніяй. Выкрывальны характар, сатырычная завостранасць дакумента нагадваюць стыль допісаў Андрэя Мрыя, асабліва «Ненармальныя адносіны да справы асветы» і «Настаўніцтва пакрыўджана», блізкія смеламу ўніверсальнаму смеху аўтара «Запісак Самсона Самасуя». Вельмі многа ў тэксце характэрных для мовы пісьменніка дыялектызмаў і дыялектных формаў, напрыклад: «даўжэнны», «пэўне», «гандзюліць». Сустракаюцца даволі частыя ў яго творах выразы. Словазлучэнне «хадзіць ходарам» можна знайсці ў апавяданнях «Працоўны дзень савецкага лекара» і «Гармонія ў ружовым», «з віроў» — у «Калектыве Яўмена». Выраз «ваўчаняты сыплюцца з яго натхнёных вуснаў» сэнсава вельмі блізкі выразу «брахаць па сабацы з роту» з «Прафесара акультных навук», у абодвух выпадках гэтак апісана імкненне расказчыка цалкам авалодаць увагай прысутных (якія пачнуць глядзець яму ў рот, быццам чакаючы, што адтуль вось-вось скочыць сабака). У тэксце ёсць і класічная алюзія «пракрустаў ложак», якая сустракаецца таксама ў краязнаўчых нататках «Па Гомельскай акрузе» і, як і там, высмейвае якасць мэблі, прызначанай для начлегу прыезджых. У абодвух творах апісваецца яшчэ і стан бялізны на ложках; гэтаму пытанню, у сваю чаргу, удзяляецца нямала месца ў апавяданні «Працоўны дзень савецкага лекара».

Некаторыя апісанні «Вандравання…» выклікаюць пэўныя асацыяцыі з творамі Андрэя Мрыя. Як не ўбачыць кірмашовага тлуму ў Горах і нават падмятання вуліц у Шапялёўцы ў наступных радках: «Хто быў раней у Клімавічах — цяпер не пазнае іх. Усё ходарам ходзіць. Вуліцы чысцяць, мятуць, каля ўстаноў і па вуліцах шуміць, гудзіць народ. Базар завален усякай усячынай, за бочкамі з мёдам нельга прайсці. Кааператывы шыбка гандлююць, тавараў шмат».

Аднак асаблівасці мастацкай формы, хаця яны і найбольш канкрэтныя, гэта толькі знешняя моўная абалонка ідэйнага зместу твора. Самым важным доказам удзелу пісьменніка ў стварэнні дакумента з'яўляецца адпаведнасць выкладзеных у лісце поглядаў асабістай пазіцыі аўтара.

Па мастацкіх творах Андрэя Мрыя лёгка прасочваецца, наколькі моцна хвалявала яго выніковасць праробленай працы, апраўданасць затрачаных высілкаў. Можна таксама ўспомніць, як негатыўна ацаніў ён няўдалае падарожжа краснапольскіх настаўнікаў да далёкага луга, ужо скошанага сялянамі, у допісе «Настаўніцтва пакрыўджана». У «Вандраванні ў Клімавічы» настаўнікі засталіся не менш пакрыўджанымі, бо, прыехаўшы ў далёкі акруговы цэнтр па пенсію, так і не змаглі яе атрымаць з-за бюракратычных правалочак. З імі здарылася, як у той прыказцы: «І дзень сцёр, і лапці здзёр, і не выспавядаваўся».

Ад самага пачатку творчай дзейнасці ў Андрэя Мрыя было негатыўнае стаўленне да зацягнутых пустых пасяджэнняў. Гэтая тэма абыграна, напрыклад, ў творах 1925 года. Швыдкі з апавядання «Навалілі» паведамляе: «вельмі мы любім гаварыць, вельмі любім жвакі разводзіць, а практычнага мала гаворым… А часта збяромся ды замест

справы толькі пагандзюлім, палаемся, дый кінем пытанне адчыненым»[1].

Здзіўлены ранні́м заканчэннем пасяджэння Базыль Перапечка з апавядання «Разбудзілі!»: «— Нешта дужа рана! У нас так рана не канчаецца! — падышоўшы да менскага таварыша, сказаў Базыль. — Гэта таму, што вы прыехалі, а то, як звычай, мы сядзім да паўночы!

— А чаго мы будзем марудзіць? Цяпер толькі ў гэткіх глухіх мясцох, як вашае, кісель разводзяць. Цяпер паўсюды справа, справа, толькі справа!

— А ў нас наадварот, — пачаў велягурыста, любуючыся на самога сябе, Базыль, — у нас нейкае захапленне грамадзянскай працай… Калі доўга не пасядзіш, не пагамоніш, дык неяк не па сабе…»[2].

А вось як апісвае аўтар «Вандравання ў Клімавічы» наведванне настаўнікам гарадскога вучонага савета: «Прыкладам пападае ён на пасяджэнне навукова-пэдалёгічнай камісіі. Пасяджэнне адбываецца ў Нарасветы. Скромна ідзе туды. Ціха тупае нагамі. Нерашуча садзіцца на зэдлік збоку. Паважліва слухае ўсё, аб чым кажуць. Дый ёсць на што паглядзець. 15 паважных педагогаў сядзяць за даўжэнным сталом. Шмат з іх з пасівеўшымі акладзістымі барадамі. Сядзяць таксама дзве заўсёды маўклівыя кабеты, каторыя толькі слухаюць, моўчкі ківаюць галавой, пахмыляюцца, калі ўсе рагочуць, робяць урачысты выраз твару, калі старшыня гэта робіць і г.д.

Абавязкова прысутнічае інструктар Д., без якога пасяджэнне не праходзіць жвава.

На павестцы два даклады: 1) аб арганізацыі дзіцячага асяродку, 2) аб сельскагаспадарчым ухіле ў школах.

У працягу дзвёх гадзін дакладчык па першаму пытанню малюе вабную рэчавітасць: піянеры, зорачкі, акцябраты, ваўчаняты сыплюцца з яго натхнёных вуснаў як гарох».

Некампетэнтнасць асоб, пастаўленых вырашаць праблемы школы, абыякавае і нават пагардлівае стаўленне іх да настаўніцтва выклікалі ў Мрыя асабліва вострую рэакцыю. У допісе «Ненармальныя адносіны да справы асветы» пісьменнік праілюстраваў самаўпраўства чыноўнікаў, якія фактычна выгналі школу з яе памяшканняў, не прызнаючы яе за важную і патрэбную ўстанову. У допісе «Краснапольскі раён Калінінскай вакругі» аўтар ужо асабліва акцэнтаваў увагу на тым, што савецкая ўлада канчаткова перацягнула на свой бок настаўніцтва і апошняе не мысліць сваёй працы без сувязі з партыяй і камсамолам: магчыма, гэтымі радкамі ён імкнуўся адказаць на якуюсьці крытыку зверху, крытыку настаўнікаў за іх неспачуванне ўнутранай палітыцы савецкай дзяржавы. Падобны адмысловы «адказ» на гіпатэтычнае несправядлівае абвінавачанне ў нелаяльнасці ўладзе або ў неразуменні яе маецца і ў тэксце «Вандравання…». Гаворачы пра Дом асветы, прызначаны для начлегу прыезджых, аўтар паведамляе: «Высокі, вялізны, прыгожы будынак. Уваходзіш — пакояў шмат, але для настаўніцтва толькі адна каморка…

У гэтым пакоі бачыш пастаўленыя, як папала, ложкі, ды ўсе кароценькія, дзіцячыя. Гэтыя «пракруставы» ложкі, як мы даведаліся, зроблены дзеля таго, што загадзя думалі аб тым, што настаўнік пэўне таксама не дарос і фізічна, як нібы не дарос палітычна.

Але як на зло з правінцыяльных віроў калі-некалі прывалачэцца такі даўжэнны настаўнік, што аж смешна робіцца, бо як ляжа ён на ложак, дык баўтаюцца не толькі ногі, але й тулава».

Як бачна, на гэты раз «адказ» дадзены ў сатырычным ключы, што абумоўлена ў першую чаргу жанрам твора.

Мрыя як настаўніка не маглі не хваляваць і іншыя праблемы: навучання і выхавання дзяцей, размеркавання іх вольнага часу, а таксама праблема ранняй палітызацыі школьнікаў. Якіх арыенціраў прытрымліваўся пісьменнік у пытанні абароны дзяцінства?

У апавяданні «Разбудзілі!» між Базылём і менскім таварышам узнікае палеміка:

«— …А піянеры! Усё роўна, як дарослыя, даклады робяць, спрачаюцца, рэзалюцыі выносяць!..

— Гэта дрэнна — як дарослыя! Дзеці — дзядочкі!.. Вы кажаце — школы папазанімалі. Дрэнна!»[3].

[1] Мрый, А. Навалілі / А. Мрый // Савецкая Беларусь. — 1925. — № 58, 12 сакавіка. — С. 2.

[2] Мрый, А. Разбудзілі! / А. Мрый // Савецкая Беларусь. — 1925. — № 76, 4 красавіка. — С. 2.

[3] Мрый, А. Разбудзілі! / А. Мрый // Савецкая Беларусь. — 1925. — № 76, 4 красавіка. — С. 2.

У «Калектыве Яўмена» сяляне непакояцца, што піянеры ды камсамольцы «паўсюды распладзіліся і гнуць сваю лінію!»[1]. Ненармальнасць іх цягі да штодзённых шматлікіх дакладаў і лекцый, пустата выступленняў тыпу «Бі буржуазею! Дарогу пралетарыяту!» высмейваюцца ў апавяданні «Моладзь»: «Так кожны можа!» — заяўляе сталы вясковец Сцяпан Клыга[2]. А ў «Запісках Самсона Самасуя» адна дзяўчынка-піянерка, якая натхняе Самасуя на ўступленне ў партыю, увогуле безапеляцыйна заяўляе сяброўцы: «Цяпер мне можна толькі з партыйкамі гуляць, а калі буду з табой, дык магу залезці ў балота і абрасці мяшчанствам!..»[3]. Чым жа закончыў сваё зацягнутае выступленне на пасяджэнні калінінскага вучонага савета дакладчык з «Вандравання…»? Сваю двухгадзінную прамову па першым пытанні павесткі дня (пра арганізацыю дзіцячага асяродку) ён завяршыў наступнай прапановай: «Настаўніцтву трэба напрэгчы ўсе сілы, каб вырваць дзяцей з капцюроў мяшчанскай абывательшчыны».

«Вандраванне ў Клімавічы» — дакумент, што гэтак жа, як і раннія творы Мрыя, сцвярджае вартасць патрэбнай працы, а не пустой гаварыльні, абараняе правы чалавека на нармальныя ўзаемаадносіны з іншымі, заклікае да ўзаемапавагі і спачування, ахоўвае правы дзяцей на дзяцінства з яго звычайнымі забавамі і прывязанасцямі. На аснове шматлікіх супадзенняў з творамі пісьменніка ў ідэях, стылі, мове, кампазіцыі, вобразах калектыўны ліст можа лічыцца часткай яго спадчыны, абавязковай для ўключэння ў адпаведны раздзел Збору твораў.

Калі прызнаць факт аўтарства пісьменніка, нельга ўсё ж не здзівіцца, што гэты ранні нарыс па адкрытасці і смеласці выкладзеных думак больш нагадвае творы мінскага перыяду, чым краснапольскага, хаця і знаходзіцца ў цеснай сувязі з допісамі «Ненармальныя адносіны да справы асветы» і «Настаўніцтва пакрыўджана», апавяданнямі «Навалілі» і «Разбудзілі!».

Магчыма, пры складанні ліста істотнай была дапамога Васіля Шашалевіча. Але вядома, што сатырычны талент быў уласцівы малодшаму брату ў меншай ступені, чым старэйшаму. Магчыма таксама, што разняволіла Мрыя калектыўнасць указанага аўтарства, якая дазволіла яму быць смелым і адкрытым. Аднак найбольш праўдападобным здаецца тое тлумачэнне, што праблемы настаўніцтва, у адрозненне ад праблем рэлігіі, гандлёвых адносін і іншых, пісьменнік адразу ставіў па-за межамі дыспутаў, дыскусій і судзілішчаў, яны адназначна павінны былі вырашацца на карысць «чорных валоў на ніве народнай асветы», самаадданых падзвіжнікаў у сваёй святой справе. Адначасова з гэтым аўтар не выказваў у лісце выключна асабістыя думкі, ён бачыў «калектыўнасць» закранутых праблем, бо пытанні ступені патрэбнасці розных відаў працы, чалавечых узаемаадносін, навучання і выхавання маладога пакалення ў роўнай ступені хвалявалі многіх і многіх яго супрацоўнікаў. Таму, відаць, падпісацца ўласным прозвішчам ці псеўданімам азначала для Мрыя зменшыць сілу голасу дакумента, аслабіць эфект яго ўздзеяння на чытачоў, знізіць яго грамадскую значнасць.

Публіцыстычная спадчына пісьменніка — безумоўна праўдзівы дакумент эпохі, гэта яшчэ адна крыніца ведаў пра яго перажыванні і мары, пра яго асабістае крэда. Па ёй можна меркаваць, што Андрэй Мрый, назіраючы змены першых гадоў новай эканамічнай палітыкі, шчыра паверыў у справядлівасць памкненняў дзяржавы і будучую перамогу лепшага, але не закрываў пры гэтым вачэй на недастатковасць некаторых тагачасных пераўтварэнняў. Яго абурала абыякавасць кіруючых колаў да працэсу беларусізацыі, адсутнасць рэальнай дапамогі школе і ўвагі да праблем настаўніцтва. Што не менш важна, малады пісьменнік імкнуўся паўплываць на ўнутраную палітыку дзяржавы, скарэктаваць яе праз стымуляванне абмеркавання вартасці непапулярных і адкінутых каштоўнасцей, сярод якіх: высокае мастацтва як сапраўдная выхаваўчая сіла, што можа вызваліць людзей ад зла; правы на дзяцінства, на працу, што апраўдвае затрачаныя на яе высілкі; нарэшце, правы на сапраўдную, а не дэклараваную свабоду сумлення. 

[1] Мрый, А. Калектыў Яўмена / А. Мрый // Узвышша. — 1927. — № 5. — С. 106.

[2] Мрый, А. Моладзь / А. Мрый // Чырвоны сейбіт. — 1928. — № 4—5. — С. 4.

[3] Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 6. — С. 38.

Зміцер ДАВІДОЎСКІ

# ПРА З'ЯЎЛЕННЕ АДНАГО ВЕРША... І НЕ ТОЛЬКІ

## *Штрыхі да сучаснага дубоўказнаўства*

Не так даўно выпадкова звярнуў увагу на кнігу Алеся Пашкевіча «Зваротныя дарогі. Проза беларускай эміграцыі XX ст.» (Беласток, 2001). У ёй маю ўвагу затрымаў артыкул «Таямніцы зазер'еўскага летапісца (Лёс і творчасць Міколы Цэлеша)».

Мікола Цэлеш пражыў вельмі цяжкое жыццё: ён вельмі рана застаўся без бацькі і таму з маленства вымушаны быў клапаціцца пра сваіх малодшых сясцёр і братоў. Усяго дзяцей было пяцёра. Атрымаў сярэднюю адукацыю ў 1919 годзе — спачатку ў сваей вёсцы, а потым прыйшлося хадзіць у школу аж за 15 км. За гэты час ён два разы хварэў на тыф (у той час амаль смяротная хвароба). Пасля гэтага быў прызваны ў армію на грамадзянскую вайну. Калі дэмабілізаваўся, паступіў у БДУ на факультэт грамадскіх навук, але хутка кінуў — не спадабалася. Казаў, што за сваё жыццё даведаўся больш, чым давалі выкладчыкі. Мікола Цэлеш працаваў на пошце (1916), у рэдакцыях выданняў «Паляўнічы Беларусі», «Беларуская вёска», «Піянер Беларусі», «Звязда». У 1930-х гадах выдаў пяць невялічкіх зборнікаў апавяданняў. Але ніхто не ведае і па сённяшні дзень, дзе ён памёр і пахаваны.

У сваёй кніжцы Алесь Пашкевіч прыводзіць словы Міколы Цэлеша з яго успамінаў, якія датычацца верша Уладзіміра Дубоўкі «О, Беларусь, мая шыпшына». Але перад імі я прывяду словы аўтара і толькі потым ужо словы самога Міколы Цэлеша: «Яшчэ ў пятнаццацігадовым узросце былі ў М. Цэлеша подступы да паэзіі — аднак подступамі і засталіся. "Вершы я <...> нікому <...> не паказваў, нават тым дзяўчатам, якім яны былі прысвечаны, — згадваў пазней. — Толькі адзін верш "О, Беларусь, мая шыпшына" адважыўся аднесці ў рэдакцыю "Звязды", але не будучы пэўным, што ён дастаткова ўдалы, папрасіў рэдакцыю аддаць яго на кансультацыю У. Дубоўку, вершы якога я люблю, і калі ён нойдзе ў ім што-небудзь паправіць, хай надрукуе яго пад сваім імем. Так і было зроблена — верш з'явіўся ў святочным нумары 1 мая за подпісам Дубоўкі"»[1]. І вось тут трэба аддаць належнае Алесю Пашкевічу, які ў дужках удакладніў тое, што верш «О, Беларусь, мая шыпшына» ўпершыню быў надрукаваны ў часопісе «Малады араты», 1926, № 17—18.

Вось тут затрымаемся падрабязней. Узнікае вялікае пытанне, як верш «О, Беларусь, мая шыпшына» мог быць надрукаваны ў газеце «Звязда» за 1 мая, калі ён быў напісаны 3.05.1925 г. Поўнасцю гэты верш быў надрукаваны ў часопісе «Аршанскі маладняк», 1926, № 2 у нізцы вершаў «Шыпшыны», і толькі ў зборніку вершаў У. Дубоўкі «Наля» з'явілася дата — 3.05.1925. А ў «Маладым аратым» быў надрукаваны толькі чарнавы накід гэтага верша (тры страфы з чатырох). Гэта было зроблена паэтам дзеля таго, каб глянуць на свой твор старонні вокам і такім чынам знайсці і выправіць зробленыя ў момант працы памылкі. Паўтару яшчэ раз пытанне: як было магчыма надрукаваць верш на два дні раней яго напісання?

Па ўсім відаць, што Мікола Цэлеш проста хацеў прымазацца да знакамітага паэта — Уладзіміра Дубоўкі. Бо калі б сапраўды было так, як напісаў пісьменнік у сваіх успамінах, то ён ведаў бы дакладную дату напісання верша, і навошта было б Уладзіміру Дубоўку друкаваць чарнавы накід верша «О, Беларусь, мая шыпшына», калі, па словах Міколы

[1] Пашкевіч А. Зваротныя дарогі. Беласток, 2001, С.166—167.

Цэлеша, паэт ужо меў поўны тэкст? Ды і не такі чалавек быў Уладзімір Мікалаевіч, каб карыстацца чужымі творамі, ды яшчэ друкаваць іх пад сваім прозвішчам.

Узнікае пытанне, ці пісаў Мікола Цэлеш вершы наогул? Канечне, пісаў, але верша «О, Беларусь, мая шыпшына» — не.

Магчыма, пытанне пра аўтарства гэтага верша вельмі непакоіла самога Уладзіміра Дубоўку (калі ён у той момант пра гэта ведаў) і ён бы даў адказ значна раней, але не дазволілі яму гэта зрабіць арышт і выгнанне. І толькі пасля вяртання з ГУЛАГа і поўнай рэабілітацыі паэт змог вярнуцца да творчасці і напісаць артыкул «Пра з'яўленне аднаго верша».

Не магу сказаць дакладна, ці ўбачыў свет гэты артыкул, але машынапіс яго захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. У ім Уладзімір Дубоўка распавядае, што менавіта ён напісаў верш «О, Беларусь, мая шыпшына», і прыводзіць яго першапачатковы тэкст поўнасцю. Далей паэт піша, што пад націскам А. Кучара і іншых ён вымушаны быў напісаць зусім новы верш, але па сваёй структуры вельмі падобны да верша «О, Беларусь, мая шыпшына».

Уладзімір Дубоўка ўводзіць чытача ў сваю «майстэрню». Распавядае пра тое, як замена аднаго слова пацягнула за сабой замену іншых слоў, строк, строф. І такім чынам атрымаўся зусім іншы твор пад назвай «О, Беларусь, мая айчына».

Нямала пытанняў выклікае і кніга Вячаслава Рагойшы «Мой трыглаў» (Мінск, 2012).

Невядома адкуль былі ўзяты звесткі пра патаемную сустрэчу Уладзіміра Дубоўкі з Якубам Коласам у вёсцы Палачанка, што пад Ракавам, у 1955 годзе. У якіх дакументах гэта зафіксавана? У тым годзе ў Якуба Коласа была толькі адна патаемная сустрэча — з Радзівонам Астроўскім на пероне чыгуначнага вакзала ў Віцебску, і гэты факт пацверджаны дакументальна. Што датычыцца так званай сустрэчы Коласа з Дубоўкам — гэта поўны вымысел. І вось чаму.

Уладзімір Дубоўка ў гэты час не мог сустракацца ні з Якубам Коласам, ні з кім-небудзь яшчэ, бо ён адбываў чацвёрты тэрмін зняволення — 25 год — у пасёлку Пачот Абаканскага раёна Краснаярскага края. Ніжэй пералічваю ўсе прысуды асобай нарады розных НКУС Уладзіміру Дубоўку:

1. 10.04.1931 года прысуд ДПУ БССР на 5 год вольнага пасялення ў Яранску (адлік вядзецца з моманту арышту — 20.07.1930 г.) амаль пасля дзесяцімесячнага зняволення.

2. 14.07.1935 г. працяг высылкі яшчэ на два гады. На гэты раз у г. Кіраў (былая Вятка).

3. 16.11.1937 г. — 10 год папраўча-працоўных лагераў НКУС Чувашскай АССР (г. Чабаксары). Адтуль У. Дубоўка разам з іншымі зняволенымі цягніком быў перапраўлены на Далёкі Усход, дзе ўсіх прыбыўшых (120 чалавек) замуравалі ў нейкай шахце і ўзарвалі. У выніку загінулі ўсе, а У. Дубоўку выкінула на двор выбуховай хваляй з лёгкай кантузіяй і раненнем нагі. Так паэт стаў на ўсё жыццё кульгавым. Пасля заканчэння тэрміну (лістапад 1947 г.) паэт пераехаў у Грузію, дзе прабыў да свайго апошняга (чацвёртага) арышту.

4. 16.02.1949 г. — новы арышт, і ў красавіку У. Дубоўку абвясцілі прысуд — 25 год у Краснаярскім краі (сама назва гучыць, як здзек). Відаць вельмі баялася тагачасная ўлада гэтага вельмі таленавітага і мужнага чалавека, калі імкнулася назаўсёды выкрасліць з гісторыі беларускай літаратуры прозвішча У. Дубоўкі. Агульны тэрмін выгнання паэта — 42 гады.

Па ўсіх правілах паэт павінен быў вярнуцца ў 1974 годзе, а памёр — у 1976-м. Так што гэта было сапраўднае пажыццёвае зняволенне. І калі б не смерць «бацькі народаў» Іосіфа Сталіна 5 сакавіка 1953 года і не лісты Якуба Коласа ў Вярхоўны суд СССР, то так бы яно і здарылася. Уладзімір Дубоўка вельмі шкадаваў, што яму не давялося сустрэцца з нашым Песняром пасля вяртання з выгнання. Але на магіле Коласа ён пабываў. Можа, В. Рагойша мае на ўвазе менавіта гэту сустрэчу.

У Дубоўкі было дзве рэабілітацыі: 26 мая 1956 года ВС ЧАССР (Вярхоўны суд Чувашскай АССР) і 15 лістапада 1957 года ВС БССР — за адсутнасцю складу злачынства.

Якуб Колас памёр 13 жніўня 1956 года, а гэта на два месяцы раней, чым Уладзімір Дубоўка змог выехаць з лагера (лістапад 1956-га — гэта самы крайні тэрмін). А калі накінуць час на ўсе чыноўніцкія правалочкі,

то значыць, у Беларусь Дубоўка змог прыехаць не раней канца снежня 1956-га ці пачатку студзеня 1957-га, амаль праз чатыры месяцы пасля пахавання Якуба Коласа.

Дык як Уладзімір Дубоўка мог выехаць з лагера, не маючы агульнаграмадзянскага пашпарта, у 1955 годзе? Канечне, пасля смерці Сталіна было зроблена паслабленне для палітвязняў і ім дазволілі вандраваць у радыусе 150-200 км па-за межамі лагера. Паўтараю — 150—200, а не 8—9 тысяч!

Цяпер звернем увагу на 253 старонку кнігі В. Рагойшы «Мой трыглаў». На ёй мы чытаем наступныя «ўспаміны» старога млынара Фёдара Юрынка. Вось гэты ўрывак: «Стала ў Палачанцы не жыў (маецца на ўвазе Якуб Колас. — **заўвага Зм. Д.**), часцей на некалькі дзён завітваў. Да яго сюды прыязджалі пісьменнікі. Помню Лужаніна, Калачынскага... Аднойчы застаўся на тыдні два (падкрэслена мною. — **Зм. Д.**). Тады яго тут наведаў Уладзімір Дубоўка — высокі шыракаплечы, з доўгай барадой. Папрасіў у канцы майго агарода, каля рэчкі, паставіць палатку, атабарыўся ў ёй на весь час, пакуль тут быў Колас. З Коласам яны хадзілі і гаварылі цэлымі днямі, пра што — не скажу, не чуў. А мне Дубоўка расказваў, што сын яго на вайне загінуў, што сам быў рэпрэсаваны, вывезены ў Сібір больш чым на дваццаць гадоў...». Лічу неабходным сказаць — Уладзімір Дубоўка быў чалавек вельмі асцярожны і весці размову пра незаконныя рэпрэсіі ён не мог, бо ў тыя часы такія размовы былі надзвычай небяспечныя.

Вельмі хочацца напомніць паважанаму Вячаславу Пятровічу, што па ўспамінах нашчадкаў народнага песняра, сам Якуб Колас Палачанку не любіў, а здымаў там лецішча толькі для сваіх унукаў (не для сябе). І менавіта па гэтай прычыне ён не мог знаходзіцца у ёй два тыдні. Самае большае, на што яго хапала, — 2—3 ночы. І навошта тады мемарыяльная дошка?

Рыхтуючы гэты артыкул, я праглядаў розныя матэрыялы, якія маглі мне дапамагчы ў працы. І выпадкова натыкнуўся на партрэты Міхайлы Грамыкі і Уладзіміра Дубоўкі — вельмі шмат падабенства: рост, барада, каржакаватасць і... тая ж справа СВБ (Саюз Вызвалення Беларусі), нават супадае дата канчатковай рэабілітацыі — 15 лістапада 1957 года. Вось гэтае падабенства мяне падштурхнула да думкі, што, можа гэта быў не Уладзімір Дубоўка, а Міхайла Грамыка. Працуючы далей, высветліў наступнае. Наш народны пясняр Якуб Колас і Міхайла Грамыка былі сябрамі, але і апошні ў 50-х гадах мінулага стагоддзя да Якуба Коласа не прыязджаў. Ёсць пэўныя звесткі пра перапіску Якуба Коласа са сваякамі пісьменніка, а перапіскі з самім Міхайлам Грамыкам — няма. У сваёй аўтабіяграфіі («Вытокі песні», Мінск, 1973) Грамыка згадвае і пра дзяцей (але не называе іх імёнаў). Сын у яго нарадзіўся ў 1936 годзе, так што і ён не мог загінуць на вайне. На пачатак вайны яму было ўсяго 5 год, а дачка нарадзілася значна пазней.

У выніку працы над гэтым артыкулам у мяне з'явіўся яшчэ адзін напрамак дзейнасці — адшукаць перапіску двух вельмі цікавых людзей і лёс дзяцей Міхайлы Грамыкі.

І вось я ў аддзеле рэдкай кнігі Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі і трымаю ў руках дакументы фонда № 14 — гэта рукапісны фонд Уладзіміра Дубоўкі. Па вопісе знаходжу пасведчанне аб нараджэнні сына Уладзіміра Дубоўкі — Альгерда (Аліка). Крыху пазней я працытую гэтае пасведчанне і даведку, што была дадзена Альгерду Дубоўку дырэктарам школы, у якой ён навучаўся. З тых дакументаў, якія захоўваюцца ў аддзеле рэдкай кнігі ЦНБ НАН Беларусі, вынікае, што Альгерд прызывацца не мог — на пачатак вайны яму было ўсяго 12 поўных год.

**СВИДЕТЕЛЬСТВО О РОЖДЕНИИ**

№ 0382425

Гр _________ *Дубовко*

*Ольгерд Владимирович*

Родился(лась) *двадцать четвёртого октября тысяча девятсот двадцать восьмого года 24/X—28*

о чём в книге записей актов гражданского состояния о рождении за 1928 г. «*14*» числа *ноября* месяца произведена следующая запись.

Отец *Дубовко Владимир Николаевич*
РОДИТЕЛИ
Мать *Дубовко Мария Петровна*

Место город, район *г. Москва* республика, край
рождения ______________________________
ребёнка селение область

место
регистрации *Н. Прес. Бюро ЗАГС*

*Зав. Бюро ЗАГС* *подпіс неразборлівы*
Делопроизводитель *подпісу няма*[1]

Р.С.Ф.С.Р. *Справка*
Н.К.П.

Запрудненская
СРЕДНЯЯ ШКОЛА
Талдомского района
Московской обл.
*28 декабря 1940* г.
ст. Вербилки
Сав.ж.д.
Шт.шк.

*Дана Дубовко Ольгерду в том, что он действительно является учеником пятого класса Запрудненской средней школы. Что и удостоверяю*

*Директор школы Аксёнов*[2].

Прыкладна праз год пасля пачатку вайны (калі немцаў пагналі ад Масквы), Альгерд трагічна загінуў. Ён знайшоў з сябрамі бомбу і паспрачаўся: калі яе кінуць у вогнішча, узарвецца яна ці не? У выніку Альгерд і некалькі ягоных сяброў загінулі на месцы, а яшчэ колькі хлопцаў засталіся калекамі на ўсё жыццё (на вялікі жаль, няма дакладных звестак пра іх колькасць). Пасля гэтага здарэння, як апавядаюць відавочцы, Уладзімір Мікалаевіч і Марыля Пятроўна проста фізічна не маглі гаварыць пра дзяцей. Яны страцілі адзінага і любімага сына. І калі хто-небудзь пры іх пачынаў размову пра дзяцей, то яны ці пераводзілі на іншую тэму, ці пераходзілі ў іншы пакой — залежна ад іх псіхалагічнага стану на той момант. Так што папросту распавядаць малазнаёмаму млынару пра «гібель свайго сына на вайне» Дубоўка не мог не толькі фізічна, але і псіхалагічна.

Проста дзіву даешся, як такі паважаны чалавек, як В. Рагойша, мог карыстацца неправеранымі фактамі. Потым на яго публікацыі будуць спасылацца іншыя даследчыкі і ўся гэта недаравальная памылковасць будзе расці ў геаметрычнай прагрэсіі. Тым больш, што «ўспаміны» млынара выходзілі і ў газеце «Літаратура і мастацтва», перадрукоўваліся ў інтэрнэце.

Перад заключнай часткай гэтага артыкула звяртаю ўвагу на іншае. Для мяне самае дзіўнае ў біяграфіі Уладзіміра Дубоўкі не тое, што ён застаўся жывы пасля смяротнага пакарання (хоць і не было прысуду), а той факт, што паэт пасля такіх цяжкіх выпрабаванняў застаўся чалавекам. Калі да яго па дапамогу прыходзілі людзі, то ён

[1] АРКР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 14, воп. 1, спр. 899, л. 1.
[2] АРКР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 14, воп. 1, спр. 900, л. 1.

звяртаўся ва ўсе магчымыя і немагчымыя інстацыі, каб толькі вырашыць пытанне. Зламаць яго не змаглі, хоць Дубоўка вярнуўся з ГУЛАГа вельмі напалоханым. Даходзіла да таго, што ў свой дзень нараджэння паэт падымаў тост за «родную камуністычную партыю».

У паслялагерны час Дубоўка піша ў стол два буйных творы. Першы — «Solus populi» — драматызаванае апавяданне, якое было надрукавана Георгіем Юрчанкам (з цікавым пасляслоўем В. Рагойшы) у часопісе «Полымя», 1994, № 5, с. 96—130. Другі — паэма «Свінцовы век». Апавяданне «Solus populi» напісана 23 кастрычніка 1963 года, паэма «Свінцовы век» — 29 верасня 1964 года.

Спынюся на вельмі цікавай паэме «Свінцовы век». Некаторыя даследчыкі лічаць гэты твор пародыяй на паэму Байрана «Бронзавы век», спасылаючыся на тое, што Дубоўка ўзяў эпіграфам словы Байрана пра магчымае напісанне другой часткі гэтай паэмы — «Бронзавы век». Але гэта не так. Уладзімір Дубоўка напісаў яе ў жанры адказу Байрану (творы якога вельмі любіў і перакладаў на беларускую мову), але ў паэме размова ідзе пра тагачаснае (1960-я) становішча ў свеце. З аднаго боку, паэма носіць навукова-фантастычны характар, а з другога — палітычны.

У гэтым творы ёсць сапраўды мары пра гарады ў космасе і на акіянскім дне, пра тое, як планета Зямля стане дзіўным садам, але следам за гэтым ідзе вельмі моцны палітычны раздзел. Які дае адказ не толькі замежным фюрэрам, але і сваім катам. Гэта першая публікацыя тэксту паэмы:

## СВІНЦОВЫ ВЕК
***(урывак з паэмы)***

***Цяпер, чытач, спытаць не шкадзіць нам.***
***Да першай часткі, мо', другую дам.***
Дж. Г. Байран «Бронзавы век»

Вы абяцалі, Байран, даць працяг
аб тых падзеях, часе і людзях,

якія навальніцаю ішлі
па вечна юнай і старой зямлі.

Ды не судзіў вам, як гавораць, бог
прайсці цяжэйшую з усіх дарог,

якую выбіраў сабе паэт
любіўшы свет і знелюбіўшы свет.

За ўсіх сваіх сучаснікаў найлепш —
і перш за іх — далі вы гэта ў верш,

што і дагэтуль местачковы сноб
у гнеўным абурэнні моршчыць лоб,

і пырскае, і сыкае, як гад:
«Ат! Байран слова добрага не варт!»

Для вас было паўстанне не мяцеж,
яно ішло, не ведаючы меж,

праз акіян, горы і лясы
ў зіхценні неўміручае красы:

...«За справу ўсеагульную на бой
Злучаюцца мільёны грамадой
Рабы Усходу, Захаду рабы.
Адзіны сцяг адзінай барацьбы
ўзнімаюць Анды і узняў Афон.
Так светы два ў адзін яднае ён»...

Для вас былі цары і каралі
не гонарам, а ганьбаю зямлі.

І, безумоўна, ў полі хлебны злак
вы не назвалі б «каралём» ніяк,

бо збожжа, хлеб — вышэй усіх цароў,
яно завецца Ж Ы Т А М з прадвякоў.

Не шкадавалі сакавітых слоў
вы для «каранаваных парсюкоў»,

не прыпадалі вы ніколі ніц
да аксамітных падалоў царыц...

Рассыпаўся «свяшчэнны» іх «хаўрус»,
які зганяў народы пад прымус!

Але, на жаль, прыйшла за тымі ўслед
яшчэ гнуснейшая капэля ў свет. —

Той ваш кумір, «свабодны каганец»,
каму звілі найлепшы вы вянец,

народ Франкліна, Вашынгтонаў край —
цяпер такі стварае ў свеце «рай»,

перад якім каранаваны зброд
раскрыў бы ад здзіўлення рот.

Святым не зробіць чорта арэол,
драпежнікам, як быў, і ёсць арол.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Існуе ўсё на свеце для людзей,
задум вялікіх і вялікіх дзей:

пяць сухазем'яў, безліч высп
і акіянаў шырыня і глыб.

Чакае рук зямлі бязмежны гмах.
Ім забяспечаны такі размах,

які не сніўся нашым прадзедам,
які пад сілу здзейсніць толькі нам.

Над акіянскай, морскай глыбінёй
паўстане гарадоў плывучых строй.

І пад вадой паўстануць гарады,
каб здабываць падводныя плады

з дасюль небачаных людзьмі раслін,
з дасюль небачаных людзьмі глыбінь...

Не будзе шкодзіць нівам пад вадой
ні дождж, ні снег, ні вецер-градабой.

А на зямлі суцэльны будзе сад.
Дзівос у гэтым садзе будзе шмат.

Дзясяткі, сотні, тысячы раслін
з лясоў, з лугоў, з узвышшаў і далін,

цяпер што нават невядомы нам,
дадуць найлепшае сваё людзям,

ва ўсёй красе устануць каля нас,
аздобяць хараством наступны час.

Пра што Мічурын або Бэрбанк сніў,
мы будзем мець з садоў сваіх і ніў.

Увойдуць новыя дзівосы ў строй
ад нашай творчай змены маладой,

бо колькі здольных дочак і сыноў
ва ўсіх на свеце матак і бацькоў!

Працуй, стварай сабе сапраўдны рай,
жыццё шчаслівае для ўсіх стварай!

А як не стане месца на зямлі, —
у космас пойдуць нашы караблі,

каб заснаваць другі, не горшы свет
першай — лепшай у сям'і планет...

Калі ж ён прыйдзе, гэны рай, да нас?
Калі наблізіцца ён, светлы час?

Ніяк не знойдзе шчасця чалавек,
хоць да канца ідзе дваццаты век. —

Не баючыся смертнага граха,
пачаўся ён ад кулі, ад штыха.

Крываваю ахоплены сяўбой,
Адну вайну вядзе ён за другой.

Што б ні стварылі людзі на зямлі,
злачынцы фюрэры ў агонь мялі.

Мільёны сэрцаў юных і старых
прабіў свінец або халодны штых.

Каго ж яны мінулі, дапамог
скрышыць жыццё концлагер і астрог.

Жуда ідзе з пачатку у канец,
Праз цэлы век —
свінец,
свінец,
свінец...

29.09.64 г.[1]

Уладзімір Дубоўка лічыў паэму «Свінцовы век» няскончанай, але яна гучыць як лагічна завершаны твор. Пісалася паэма, як кажуць, у стол — чакаць лепшых часоў. І дачакалася. Праўда, урывак з яе быў надрукаваны ў паэтычным зборніку «Дзень паэзіі-66» і складае менавіта тую фантастычную частку. А сам рукапіс зроблены адразу на дзвюх мовах — беларускай і англійскай. Але чытаць магчыма толькі машынапіс.

На заканчэнне хачу выказаць спадзяванне, што шаноўны Вячаслаў Рагойша не пакрыўдзіцца за гэты крытычны матэрыял. Я яму жадаю толькі поспехаў на ніве літаратуразнаўства. Іначай бы я не браўся, як кажуць, за пяро. Прачытанае мною ў ягонай кнізе і газетным артыкуле падштурхнула на пошукі новых дакументаў і новых архіўных матэрыялаў. Буду спадзявацца, што ўдасца знайсці цікавую інфармацыю, якая стане новым артыкулам.

Вельмі хочацца, каб не толькі В. Рагойша (а для мяне ён застаецца навукоўцам з вялікай літары), але і маладыя даследчыкі вынеслі ўрок з гэтага матэрыялу. І былі вельмі ўважлівымі пры напісанні каментарыяў, укладанні кніг ці іх напісанні. А самае галоўнае, каб усе ўзялі за правіла — без належнай праверкі і тлумачэння ні адзін факт не павінен быць выкарыстаны ў навуковай працы. 

[1] АРКР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 14, воп. 1, спр. 10, л. 22—27.

*Рубрыка кафедры*
*літаратурна-мастацкай крытыкі*
*Інстытута журналістыкі БДУ*

# ДРУГАЯ НАЦЭНАЧНАЯ КАТЭГОРЫЯ



**В**ось калі было проста: усё можна было растлумачыць. У журналісцкай практыцы гэта параўнальна з момантам, калі матэрыял «на руках» — значна прасцей усё зразумець, тыкаючы пальцам у карэктурныя знакі на радках справаздачы пра чарговую практыку. А тут — скрыжалі з часам забіваюцца пяском, і паверхня, калісьці прарэзаная святымі знакамі, становіцца аднастайнай, пустой, нерухомай...

Менавіта такім стала наша каханне: страшны сон, паралельны свет, у які складана ўвайсці, з якога яшчэ больш складана выйсці. Дакладней, немагчыма выйсці.

Ніколі ніхто не выходзіў адтуль. Усе, хто там быў, назаўсёды застаюцца вечнымі вандроўнікамі свету шклянкі і пярсцёнка. Заходзіш у халодны бяздонны пакой, які закаркаваны, як бочка, тоўстым коркам, які даўка пахне сінім ажынавым віном. Ідзеш басанож мокрымі ступнямі

Віялета РЫЧАГА

# СПРОБА МЕТАФІЗІЧНАСЦІ

***Паралельная існасць, «другі Цыцынат» займае адметнае месца ў жыцці чалавека. Прывіды герояў прыходзяць да асобы нечакана, нібы ў трызненні, часцей за ўсё ў «дэкадансных» сітуацыях — становішчах голаду, спёкі, ліхаманкі. Гэтай памежнасцю, пазарэальнасцю, пазанармалёвасцю і абумоўлена самае важнае.***

**Простыя рэалістычныя з'явы часам уздзейнічаюць на розум чалавека неяк наркатычна: стан вострага недахопу, хваробы вымушаюць чалавечую падсвядомасць змяняць сваю звыклую форму: канцэнтравацца і распыляцца, засяроджвацца на пэўным элеменце існавання. Чалавек ўсёй пяцярнёй пачуццяў імкнецца да яго, як да апошняга іканастаса, — моліць пра ратунак. Мае празаічныя нарысы — гэтая малітва і ёсць.**

У жыцці кожнага, напэўна, гэты дзень здараецца нечакана. Дзень, калі пасля душнага памяшкання міжнародных кас вакзала выходзіш на навальнічнае паветра і цябе глынае труба падземнага перахода да платформаў паяздоў. Гэта неверагодная адхлань таго, што ўтойваецца на тым канцы тунэля. Яна захоплівае мяне. Але я не называю гэта натхненнем. Тунэль — гэта

Гэткія неверагодныя метамарфозы могуць натуральна адбывацца ў майстэрні, бо часам выкладчык, так бы мовіць, сам становіцца на месца студэнта

па вільготнай падлозе — і яна становіцца тваімі нагамі, а ногі — ёй. І ты ўжо не ідзеш, ты проста гоніш бетонную вільготную хвалю па ніжняй паверхні. А потым гэтая хваля пераходзіць на сцены і столь, і ты разумееш, што пакой — цыліндрычны, а хвалі, якія ты штурхаеш каленкамі, агортваюць цябе, халодную і вадкую, з усіх бакоў. Дыяметр пакоя вузкі, і піжама ўжо часткова гразне ў цэменце, нацягваючыся на плячах. Але ты ўсё адно ідзеш па бяздонным пакоі, з кожным рухам ўсё больш паглыбляючыся ў бетон і, калі набліжаешся да стала, які немаведама адкуль ўзяўся (накшталт тых, што ты бачыў у музеі якога-небудзь пісьменніка; стала цяжкага, з цёмнага груваcткага дрэва з трыма шуфлядамі і стальніцай, на якую можна апусціць крышку і павярнуць пацямнелы медны ключ у знарочыста вялікай замочнай шчыліне)… калі ты набліжаешся да яго, ты ўжо ў падлозе па самыя сцёгнавыя косткі, і ўсё, што табе застаецца, — гэта ўперціся ў паверхню стала і, падцягнуўшыся на руках, выцягнуць цела з той жыжы, якая здымае з цябе скуру. Ты ўжо амаль цалкам аддзяліўся ад падлогі. Скура, разтузаная і крывацёчная на нагах, шчыміць і пахне мускусным і гаркавым Версачэ. Ты міжволі прымружваеш вочы ад гэтага дарагога паху, на секунды забываючыся, што менавіта так пахне твая плоць, а не сабалінае футра дзяўчыны ў прыбіральні клуба. Ты сядаеш у крэсла перад сталом і чакаеш хвіліны з дзве шклянку з малаком, якую табе прыносіць лёкай-афіцыянт, трымаючы сабачку пад пахай. Шклянка амаль пустая, малака ў ёй — глыток, на самым дне. Твая рука, гарачая, распрацаваная, абдымае любоўна чатыры вострыя грані і пачынае пульсаваць ад крыві, што выступіла на чатырох парэзах. Рабіць няма чаго. Ты, перажываючы асалоду ад гарачага жывога болю, падносіш шклянку да вуснаў і робіш адзіны глыток малака, які адразу ж змешваецца з тваёй крывёю з вуснаў.

**Калі ты захочаш, ты можаш узяць атрамант неалагізмаў і абаротаў — і дапісаць тут нешта. Тут пісалі і Галубок, і Дастаеўскі, і Гарун, і Набокаў, і Уэлс, і Джойс, нават Сафокал пакінуў тут частку сябе**

ўпарадкаваны класічны шлях майстэрства прыручэння мовы.

Ты нясеш паходню ў руках, і кожны твой крок у тунэлі — гэта асвятленне святых клінапісаў на сценах перахода — жывой мовы. Калі ты захочаш, ты можаш узяць атрамант неалагізмаў і абаротаў — і дапісаць тут нешта. Тут пісалі і Галубок, і Дастаеўскі, і Гарун, і Набокаў, і Уэлс, і Джойс, нават Сафокал пакінуў тут частку сябе. З галоўнага тунэлю праз кожныя трыста крокаў — выйсце, то ў правы, то ў левы бок. Там рэалістычная проза, там — лірычная, тут — паэзія футурызму, з іншага боку — платформа акмеізму. Але я іду далей. Цяжка і прыемна даецца кожны крок — ён і намаганне, і асалода. Дзе-небудзь далей я ўсё роўна збочу, але гэта пакуль. Прыйдзе час, і я прайду гэты тунэль зноў, ад самага пачатку — і да канца. У канцы тунэля сафіты нефітаў амаль што не зіхацяць. Туды даходзяць ужо сталымі. Там, у канцы тунэля, прастора, якая не мае і не можа мець цэтлікаў часовых ці стылявых. Туды мой шлях.

Найбольш інтэнсіўная праца над станаўленнем паэтычнай прамовы і пісьменніцкага разумення быцця адбываецца ў творчай майстэрні нашай кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі. Дакладней, на занятках па прафесійным майстэрстве і тэорыі літаратуры. Што ў іх такога практычна-важнага? — спытаеце вы. Усё. Працэс абмену творчымі перажываннямі, накідамі і нават сфарміраванымі «опусамі» ў дынаміцы заняткаў — гэта нічым не замяняльныя гадзіны для пісьменніка-пачаткоўца.

**Нават самы вялікі раман — гэта толькі таленавіта падабраныя камбінацыі з 32-х літар**

I калі б ты бачыў гэта збоку, то заўважыў бы, што вадкасць, якую ты глынуў — ружовая, а не белая, — пасля змешвання з цёмна-пунсовай крывёю. Ах, які колер! Ні адзін у свеце захад сонца, ні адно ў свеце зарыва і распаленыя краткі каміна не паўторацць гэтага адважнага каляровага рашэння. Па-д'ябальску добры — не далікатны і не востры, а густы і каламутны, такі, які можа быць толькі ў крыві, змяшанай з кіслым малаком. А? Які? Не адчуваеш смаку сапсаванага малака, якое табе падаюць? І ніхто не скажа дзякуй за тое, што ты не просіш кнігу скаргаў. У пакоі становіцца горача, і турэцкія дываны на падлозе і сценах пачынаюць расплаўляцца ад багацця кандэлябраў, развешаных на кожным кроку ці нават паўкроку. Ты разумееш, што каўнер твайго смокінга пачынае плавіцца і сцякаць па тваёй халоднай спіне. Ты крычыш у пустэчу над сталом «Рахунак, калі ласка!» — і ўсе наведвальнікі раптам заціхаюць і глядзяць на цябе асуджальна праз твой грубы і халодны для такога гарачага лета бас. Ты збянтэжана пачынаеш корпацца ў кішэнях і партманэ ў пошуках хоць якога-небудзь грашовага эквіваленту кошту шклянкі малака. Усё, што ты знаходзіш, — гэта пярсцёнак ў цябе на пальцы — бязглуздая біжутэрыя, якая ў чарговы раз цябе ратуе. Табе вельмі страшна. Страшна, што сабакі, якія мірна спяць у куце залы, ужо чуюць, што табе няма чым плаціць, і толькі чакаюць, каб расплюшчыць вільготныя карыя вочы, падняўшы слізкую заслону стагоддзяў, і стурзаць цябе перасохлымі ад віна пашчамі. Ты кідаеш пярсцёнак акурат у шклянку. Ён бязгучна апускаецца на дно. Ты ўстаеш, кранаючы цыліндрам махры ложка з азіяцкай прынцэсай, якая сонна спявае, і магутнай упэўненай хадой выходзіш з залы, дапамагаючы сабе тонкім кіем з булавешкай ў выглядзе грознага льва.

Ты хутка памрэш. Але ж афіцыянт так і не прапанаваў табе бінтоў і ёду для парэзанага ледзяным крышталем цела.

Яшчэ і паркет заляпаў, ідыёт.

**У канцы тунэля сафіты нефітаў амаль што не зіхацяць. Туды даходзяць ужо сталымі. Там, у канцы тунэля, прастора, якая не мае і не можа мець цэтлікаў часовых ці стылявых. Туды мой шлях**

Мы, студэнты па спецыяльнасці «Літаратурная работа (творчасць)», прыходзім у аўдыторыю, маючы за плячамі вопыт юнацтва і несучы ў нататніках і на планшэтах гэты вопыт, увасоблены ў парарэчаіснасць нашых літаратурных твораў. Катарсіс майстэрні ў тым, што агучванне твораў адбываецца ў атмасферы поўнага разумення і скрупулёзнай увагі. Менавіта на занятках з такімі паважанымі выкладчыкамі, як Арцём Кавалеўскі, Галіна Багданава, Галіна Тычко адбываецца ўкараненне ў тканіну маладога «літаратарства» разбору асноватворных літаратурных паняццяў і святое асэнсаванне кожнага.

Натуральна, што сталыя літаратары, практыкуючыя крытыкі і журналісты — нашы выкладчыкі — праводзяць аналіз разам са сваімі «падмайстрамі» вельмі тонка і далікатна. Кожны з такіх заняткаў прыносіць свой плён. Бо насычэнне пладамі мастацкай майстэрні прыходзіць не толькі праз літаратуразнаўчы разбор слоўнай творчасці студэнтаў, але і праз выхаванне іх творамі класікаў, прызнаных майстроў пяра, і творамі саміх выкладчыкаў, якія з'яўляюцца прадстаўнікамі сучаснай беларускай літаратуры (напрыклад, Арцём Кавалеўскі). Гэткія неверагодныя метамарфозы могуць натуральна адбывацца ў майстэрні, бо часам выкладчык, так бы мовіць, сам становіцца на месца студэнта, уважліва ўслухоўваючыся ў радкі, прамоўленыя сваімі вучнямі.

Нідзе і ніколі звычайны студэнт не становіцца такім блізкім да класікаў, усведамляючы, што нават самы вялікі раман — гэта толькі таленавіта падабраныя камбінацыі з 32-х літар.

**Я не называю гэта натхненнем. Тунэль — гэта ўпарадкаваны класічны шлях майстэрства прыручэння мовы**

# «ЭНЕРГЕТЫК». ХРОНІКА ШМАТКРОП'ЯЎ

*4 ліпеня на будаўнічай пляцоўцы АЭС, ля памятнага каменя, на месцы, дзе нашым прэзідэнтам было пакінута пасланне нашчадкам, прайшла ўрачыстая «лінейка». Такім традыцыйна шчымлівым чынам быў дадзены прыгожы старт пачатку працы зводнага беларуска-расійскага атрада «Энергетык». Падрабязнасці — ад намесніка галоўнага рэдактара «Астравецкай праўды» Алены Ярашэвіч.*

## КАЛІ АФІЦЫЙНА, ТО...

...арганізацыя такога атрада стала магчымай дзякуючы падпісанню дакумента аб супрацоўніцтве паміж нашай грамадскай арганізацыяй БРСМ і маладзёжнай агульнарасійскай грамадскай арганізацыяй «Расійскія студэнцкія атрады». Партнёрамі сталі таксама Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі і навукі Расійскай Федэрацыі, Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы і, канечне ж, «Дырэкцыя будоўлі АЭС» і ААТ «НІАЭП» (Ніжагародская інжынірынгавая кампанія «Атамэнергапраект»).




*Галоўнымі героямі ўрачыстасці сталі навучэнцы і студэнты Гродзенскага дзяржаўнага прафтэхкаледжа лёгкай прамысловасці, Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і Обнінскага інстытута атамнай энергетыкі — філіяла Нацыянальнага даследчыцкага ядзернага ўніверсітэта Маскоўскага інжынерна-фізічнага інстытута.*







*Першы сакратар ЦК ГА БРСМ Ігар Бузоўскі ўручае камандзірам атрадаў пуцёўкі і стылізаваны сімвал трэцяга працоўнага семестра 2013 года — кельні.*

**УРАЧЫСТАЯ ЛІНЕЙКА**…

…пачалася, як і павінна быць у такіх выпадках, з гучання гімнаў краін. Дзяржаўныя сцягі ўзнялі Алег Сірыца і Антон Акончанка — камандзіры беларускага і расійскага атрадаў. З пачаткам важнай і адказнай справы юнакоў павіншавалі намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама Ігар Жук, старшыня Астравецкага райвыканкама, член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Адам Кавалько, першы сакратар ЦК ГА БРСМ, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу па навуцы, культуры і сацыяльным развіцці Ігар Бузоўскі, намеснік генеральнага дырэктара будаўнічага трэста № 8 Брэста Павел Сацута.

**АТРЫМАЎШЫ ПУЦЁЎКІ І КЕЛЬНІ…**

…камандзіры атрадаў Алег Сірыца і Антон Акончанка, у сваю чаргу, рапартуюць пра гатоўнасць пачаць працу. Хоць гэту гатоўнасць яны ўжо паспелі прадэманстраваць справай, бо на будоўлі працуюць з першага дня знаходжання ў Астраўцы. Беларускія студэнты прыехалі сюды 30 чэрвеня, расійскія — 1 ліпеня.

Хлопцаў адразу ж засялілі ва ўтульныя кватэры з новай мэбляй і замацавалі за субпадраднымі арганізацыямі. Сёння яны працуюць у ААТ «Гроднапрамбуд», ААТ «Гомельпрамбуд», ААТ «Будаўнічы трэст № 8 горада Брэста» і ААТ «Белэлектрамантаж».

Між іншым, сярод будатрадаўцаў няма-ла і дзяўчат: яны займаюцца аддзелачнымі работамі. Для хлопцаў знаходзяцца больш складаныя справы — азеляненне і дарожныя работы.

* * *

— Я скончыў чацвёрты курс інжынерна-будаўнічага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, — расказвае камандзір беларускага студэнцкага будатрада Алег Сірыца. — Вучуся па спецыяльнасці «прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва». Як і ў любой справе, спачатку ўзнікла ідэя, і толькі потым пачалося яе ўвасабленне. Па першым часе ставіўся да гэтага проста як да праходжання вытворчай практыкі. Але калі трапіў на будаўнічую пляцоўку Беларускай АЭС — а гэта адбылося некалькі тыдняў таму, калі мы прыехалі заключаць дамову з арганізацыямі, якія нас прынялі, і ўбачыў маштаб будоўлі, — то зразумеў, што гэта справа сур'ёзная і адказная. Цяпер бачу, што мы будзем тут не толькі працаваць і зарабляць грошы, але і атрымаем вялікі жыццёвы досвед. У будучыні, магчыма, давядзецца кіраваць будаўнічымі аб'ектамі розных узроўняў, і навыкі, атрыманыя тут, вельмі спатрэбяцца.

* * *

— Па выніках мінулага года студэнцкія атрады Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта сталі лепшымі ў краіне. Кожны год для студэнтаў мы адшукваем новыя кірункі. Вось і сёлета нехта паехаў у якасці праваднікоў працаваць на Расійскай чыгунцы, нехта — на агульнарасійскую будоўлю на Ямал, а сорак навучэнцаў і студэнтаў з нашай вобласці на паўтара месяца сталі будаўнікамі галоўнай будоўлі краіны — Беларускай АЭС, — не без гонару расказвае начальнік упраўлення выхаваўчай працы з моладдзю Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Святлана Астрэйка.

## ДЛЯ РАСІЙСКІХ СТУДЭНТАЎ…

…шлях на гэту будаўнічую пляцоўку быў доўгім, але не цяжкім. Хутчэй за ўсё, ён нагадваў захапляльнае падарожжа. Расійскім байцам — менавіта так называюць членаў студатрадаў — досведу не пазычаць. І на будаўніцтве атамнай электрастанцыі яны не ўпершыню.

— Шэсць гадоў Обнінскі інстытут атамнай энергетыкі супрацоўнічае з атамнымі электрастанцыямі, — расказвае Іван Альховікаў, адзін з байцоў. — Мінулыя працоўныя семестры студэнты інстытута ядзернай энергетыкі праводзілі на будоўлях аб'ектаў Калінінскай і Нав静варонежскай АЭС. Да прыкладу, я ў мінулым годзе працаваў у Нававаронежы. А наш прыезд у Беларусь — гэта першы міжнародны вопыт. Сюды прыехалі студэнты розных курсаў і спецыяльнасцей, але будучая прафесія большыні звязана менавіта з атамнай энергетыкай. І ўсім нам будзе карысна прайсці шлях, пачынаючы ад падсобных рабочых, займаючыся падрыхтоўкай пляцовак пад азеляненне і іншымі гаспадарчымі, але тым не менш вельмі важнымі справамі. Гэта пойдзе толькі на карысць. Пакуль што нас усё задавальняе: і камфартабельныя кватэры, што даволі-такі нечакана, бо на некаторых будоўлях даводзілася жыць у вагончыках, і стаўленне да нас нашых наймальнікаў — выдалі нам форму, неабходны посуд, забяспечылі дабрабыт… Нашы байцы працуюць у «Гроднапрамбуд-Атам» і «Белэлектрамантаж». Спадзяёмся, што і надалей усё будзе добра. І што ў наступным годзе мы тут абавязкова сустрэнемся!

За добрасумленную працу абяцалі заработную плату, якую яны атрымаюць у залежнасці ад руплівасці і выканання планаў-заданняў.

— Мяркуючы па тым, як яны працуюць першыя тыдні, заробак у іх будзе неблагі, — падкрэслівае галоўны інжынер БУ-210 ААТ «Гроднапрамбуд» Сяргей Ляўко. — Бывае, што за дзень паспяваюць выканаць трайную норму. Вельмі старанныя! Іншымі словамі, прыехалі сюды не адпачываць, а працаваць. Хоць, шчыра кажучы, будатрадаўцы ва ўсе часы былі такімі. Я і цяпер з радасцю і гонарам успамінаю сваю будатрадаўскую маладосць і ўдзячны жыццю за той вопыт.

— Сапраўды, тое, што пачынаюць яны свой шлях у прафесіі з лапаты, вельмі важна, — працягвае намеснік генеральнага дырэктара будтрэста № 8 Брэста Павел Сацута. — Бо вельмі часта маладыя людзі, скончыўшы ўніверсітэт, адразу ж хочуць




*Наталля Куцейка займаецца фугоўкай пліткі.*



*Байцы расійскага атрада.*

атрымаць добрую пасаду, стаць «начальнікамі», не ведаючы, па сутнасці, кім і чым яны будуць кіраваць. Гэтыя ж хлопцы будуць ведаць усе падрабязнасці працы на будоўлі ад самага яе пачатку. І гэта вельмі добрая падмога ў самастойным працоўным жыцці.

**НЕ ТОЛЬКІ ПРАЦОЎНЫМ…**

…абяцаў быць трэці семестр. Верылася, што за гэты час студэнты з Расіі пасябруюць з беларускімі аднагодкамі, атрымаюць новыя незабыўныя ўражанні ад знаёмства з нашай краінай і набудуць жыццёвы досвед.

— У нас, як і ў кожнага рабочага, павінны быць два выхадныя дні ў тыдзень. Дык ад аднаго з іх мы вырашылі адмовіцца — па суботах мы працуем. Да таго ж, у нашым будатрадзе існуе даўнішняя традыцыя: у гарадах і пасёлках, дзе працуем, праводзім суботнікі. Ваш горад вельмі прыгожы, дагледжаны, але мы ўсё роўна вырашылі зрабіць свой унёсак у яго добраўладкаванне і прыбралі тэрыторыю ля дамоў, у якіх жывём, — расказвае Іван Альховікаў. — І рады, што зладзілі добрую справу.

**БЕЛАРУСКІЯ БУДАТРАДАЎЦЫ…**

…таксама задаволены і працай, і бытам. Яны штогод выязджаюць на розныя будаўнічыя аб'екты роднай краіны, і праца на будоўлях для іх таксама не новая.

— У аддзелачным упраўленні ААТ «Будтрэст № 8» працуюць дзесяць студэнтаў і навучэнцаў, — расказвае майстар філіяла БУ № 33 ААТ «Будаўнічы трэст № 8» Андрэй Сухоч. — На нашым прадпрыемстве ў асноўным заняты дзяўчаты, яны займаюцца атынкоўкай сцен, афарбоўкай радыятарных труб, падтрыманнем чысціні на аб'ектах. Усе руплівыя і дысцыплінаваныя.

— Стараемся! — падтрымлівае нашу размову камандзір будатрада Яўгенія Волік. — Бо прыехалі ж сюды працаваць. І на агульным сходзе вырашылі працягнуць працоўны дзень да сямі вечара. На адпачынак час таксама застаецца: ужо асвоілі футбольную і валейбольную пляцоўкі, нашы наймальнікі арганізавалі для нас выезд на Яноўскае вадасховішча, мы самі з'ездзілі на Нарач. Думаю, наперадзе яшчэ не адна экскурсія па раёне і Беларусі, таму спадзяёмся не толькі добра папрацаваць і зарабіць, але і добра адпачыць.

**ТЫМ ЧАСАМ…**

…на дапамогу будаўнікам будтрэста № 8 прыехаў яшчэ і будатрад Брэсцкага дзяржаўнага політэхнічнага ўніверсітэта — яшчэ 21 студэнт будфака прымае ўдзел ва ўзвядзенні аб'ектаў вытворчай базы Беларускай АЭС.

— Са студэнтамі брэсцкіх навучальных устаноў мы супрацоўнічаем ужо дзесяць гадоў, — кажа Павел Сацута.

**ІНШЫМІ СЛОВАМІ…**

…назву сваю — «Энергетык» — будатрад апраўдаў: і працуюць тут, і адпачываюць з неўтаймоўнай энергіяй! 

***Фота Алены ЯРАШЭВІЧ***

# ВЫХАВАЦЬ НОВАГА ЧАЛАВЕКА

*Інтэрв'ю з намеснікам міністра*

***Часопіс «Маладосць», як цяпер вядома, стварыўся не толькі для таго, каб было дзе друкавацца пісьменнікам, а і з мэтай выхаваць пры дапамозе літаратуры цалкам новага чалавека. Цікава, ці ставяцца такія мэты перад работнікамі выхаваўчай сферы з боку міністэрства адукацыі? І ці магчыма гэта ўвогуле — стварыць чалавека новай генерацыі? І наколькі вялікі ўплыў на гэты працэс можа аказаць сучасная мастацкая літаратура, айчынная і сусветная?***

***Як гэта на думку намесніка міністра адукацыі Віктара ЯКЖЫКА?***

***Зараз даведаемся.***



— Спачатку дазвольце павіншаваць «Маладосць» з юбілеем! На яе старонках за гэтыя шэсць дзясяткаў гадоў друкавалася шмат выдатных пісьменнікаў беларускай літаратуры — Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Янка Маўр, Іван Мележ, Іван Шамякін, Уладзімір Караткевіч, Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Васіль Вітка… Безумоўна, іх творчасць уплывала і сёння ўплывае на выхаванне нашай моладзі. Многія з твораў гэтых пісьменнікаў увайшлі ў школьную праграму. А што датычыцца выхавання сродкамі мастацкай літаратуры, то гэта канстанта. Мне, як філолагу, гэта абсалютна зразумела. Больш таго, выхаваўчы працэс — гэта важная частка адукацыйнага працэсу, непарыўна з ім звязаная. У школе ён ідзе пастаянна, урок па любым прадмеце ставіць перад сабой і выхаваўчыя задачы таксама. Але найбольш наглядна гэта можна зрабіць, канечне, на ўроку літаратуры — калі перад вучнямі-чытачамі паўстаюць героі твораў са сваімі характарамі, рознымі варыянтамі стаўлення да жыцця, у сітуацыях маральнага выбару…

У сучасным беларускім грамадстве выхаванне накіравана на фарміраванне грамадзяніна Беларусі — незалежнай, свядомай, духоўна багатай асобы, здольнай будаваць самастойную дзяржаву і захоўваць яе суверэнітэт. Літаратура, безумоўна, можа ўнесці значны ўклад у выхаванне грамадзянскіх і духоўна-маральных якасцей асобы. Што да «чалавека новай генерацыі», то заўважу, што сённяшнія маладыя людзі — гэта якраз і ёсць новае пакаленне беларусаў, якое нарадзілася ў незалежнай дзяржаве і якому неабходна зрабіць усё магчымае, каб наша Беларусь заняла «свой пачэсны пасад між народамі».

**«Прыярытэтнымі кірункамі дзяржаўнай моладзевай палітыкі на бліжэйшыя гады» з'яўляецца, гаворачы вашымі словамі, «развіццё сацыяльнай актыўнасці юнакоў і дзяўчат, выхаванне грамадзянскай самасвядомасці». Праз якія практычныя крокі гэта ажыццяўляецца? Што азначае, напрыклад, тэрмін «студэнцкае самакіраванне» на практыцы?**

— Калі гаварыць пра сацыяльную актыўнасць, то ў нас развіваюцца студатрадаў-

## Я не супраць прыватных выдавецтваў, калі яны будуць прапаноўваць якасны, у тым ліку і па змесце, прадукт

скі і валанцёрскі рухі, праектная дзейнасць, моладзевае прадпрымальніцтва. У апошнія гады пашыраецца маладзёжны парламенцкі рух, мэта якога — далучэнне моладзі да актыўнага ўдзелу ў жыцці дзяржавы, рэалізацыі асноўных кірункаў дзяржаўнай моладзевай палітыкі.

У кожнай установе вышэйшай адукацыі ёсць органы самакіравання, створаны Моладзевыя парламенты, палаты, саветы — органы вучнёўскага ці моладзевага самакіравання пры мясцовых органах улады. Гэта рэальная магчымасць для маладых людзей праявіць сябе, рэалізаваць шматлікія сацыяльныя праекты, набыць важны жыццёвы вопыт, сацыялізіравацца. Для нас гэта пляцоўка для выяўлення лідараў, магчымасць пачуць моладзь, гаварыць з ёй на адной мове, разумець адзін аднаго. Менавіта гэтыя маладыя людзі прыйдуць у хуткім часе на нашы прадпрыемствы, у органы дзяржаўнага кіравання, ва ўладу.

**Як вы ставіцеся да жадання моладзі ў што б ні стала атрымаць вышэйшую адукацыю? І супрацьлеглае пытанне: як вы ставіцеся да адсутнасці вышэйшай адукацыі ў сучаснага маладога грамадзяніна?**

— У нашай краіне 54 установы вышэйшай адукацыі. Гэта больш, чым дастаткова. За гады сваёй незалежнасці мы прайшлі этап ад абсалютнага зніжэння статусу вышэйшай адукацыі ў 1990-я гады — маўляў, «грошы я і так зараблю, нашто мне вучыцца» — да ўсеагульнай вышэйшай адукацыі — «куды ж я без дыплома». І першы, і другі шляхі, на маю думку, няправільныя. Дзякуючы таму, што мы ў самыя цяжкія гады змаглі, у адрозненне ад многіх іншых краін постсавецкай прасторы, захаваць сістэму прафесійнай адукацыі, выпускнікі нашых школ маюць магчымасць атрымаць рабочую прафесію, запатрабаваную на рынку працы. Бо сёння краіне якраз і не хапае працоўных рук. За апошнія гады гэта стала непрыстыжным. Але ж усе не могуць быць юрыстамі, эканамістамі і менеджарамі. Інакш хто будзе будаваць дамы? І што ў гэтым дрэннага — будаваць дамы? Лічу, што малады чалавек павінен рэальна ўзважыць свае сілы. Можа быць, не трэба з апошніх намаганняў за бацькавы грошы вучыцца ў ВНУ і так і не знайсці потым сябе ў жыцці, калі можна атрымаць рэальную прафесію, зрабіцца майстрам сваёй справы, сапраўдным спецыялістам і паважаным чалавекам.

**Нейкі час таму вы выказваліся за якасна новае напаўненне школьных бібліятэк пазавучэбнай літаратурай. Як ацэньваеце стан сённяшніх школьных бібліятэк і ці вялікая ўвага надаецца ў іх перыядычным выданням для школьнікаў?**

— Сучасныя школьныя бібліятэкі — гэта даўно ўжо не шафы з кнігамі. Гэта медыятэкі, цэнтры метадычнай і выхаваўчай работы, якія карыстаюцца сучаснымі інфармацыйнымі рэсурсамі, дзе і настаўнік, і вучань маюць магчымасць выйсці ў інтэрнэт і знайсці неабходныя вучэбныя матэрыялы. Не скажу, што 100% бібліятэк падключаны да інтэрнэту, але гэты працэс ужо не спыніць, і бібліятэка паступова са сховішча кніг ператвараецца ў інфармацыйны цэнтр школы.

Што да напаўнення школьных бібліятэк пазавучэбнай літаратурай, то лічу, што насычаць яе жаночымі раманамі, няякаснымі дэтэктывамі, рознымі жахамі і вампірамі — няправільна. Гэта літаратурны «фастфуд». Усё гэта, на жаль, вучні знойдуць і дома. Школьная бібліятэка прызвана фарміраваць чытацкі і эстэтычны густ школьніка. Сусветная і беларуская класіка, навукова-папулярная, энцыклапедычная, дзіцячая літаратура, сучасная беларуская проза, паэзія і драматургія, перыядычныя выданні, якіх сёння дастаткова, у тым ліку і часопісы «Маладосць», «Нёман» — такой я бачу бібліятэку ўстановы адукацыі.

**Які шлях развіцця «дзіцячай» і «падлеткавай» прэсы здаецца вам больш правільным: стаўка на прадукцыю прыватных выдавецтваў — на добрай паперы, яркую, якасную, ці фінансаванне выданняў такой самай якасці з боку дзяржавы? Чаму, на вашу прафесійную думку,**

**дзіцячая перыёдыка часам друкуецца на шэрай паперы без колеру?**

— Добры прыклад дзіцячай перыёдыкі «дзяржаўнага гатунку» — часопіс «Вясёлка», сучасны, яркі, займальны — сапраўдны дзіцячы часопіс! А яшчэ «Переходный возраст», «Зорька» і многія іншыя. Я не супраць прыватных выдавецтваў, калі яны будуць прапаноўваць якасны, у тым ліку і па змесце, прадукт. Калі мы гаворым пра выхаваўчую ролю літаратуры, то перыядычныя выданні таксама ўплываюць на фарміраванне светапогляду маленькага чалавека. Калі прыватнае выдавецтва гатова заваяваць свайго чытача не толькі добрай паперай і яркімі фарбамі, што таксама важна, але і добрым зместам, яно мае права на існаванне.

**Як вы асабіста ставіцеся да таго, што ў пачатковай школе на тыдзень выпадае больш урокаў замежнай мовы, чым беларускай? Ці плануецца разглядаць гэта як сур'ёзную праблему, як хіб у выхаванні нацыянальнай самасвядомасці?**

— Нацыянальная самасвядомасць выхоўваецца не толькі на ўроках беларускай мовы і літаратуры. Гэта складаны працэс, які закранае многія сферы жыцця. Пачынаецца ён з сям'і, з адчування сябе яе часткаю, часткаю дзіцячага і прафесійнага калектыву, часткаю свайго горада, краіны, нацыі. Гэта павага да гісторыі сваёй краіны, гонар за яе поспехі, жаданне ўнесці асабісты ўклад у яе росквіт.

Бацькі маюць права аддаць свайго сына або дачку ў беларускамоўны клас або беларускамоўную школу ці гімназію. Па заяве бацькоў школы гатовы адкрываць такія класы нават на невялікую колькасць вучняў. Для гэтага створаны ўсе ўмовы — падрыхтаваны кадры, распрацаваны вучэбна-метадычныя комплексы, праграмы факультатыўных заняткаў, выдадзены падручнікі. Мы чакаем крокаў насустрач, ад бацькоў.

**Некаторым асабліва мэтанакіраваным прадстаўнікам нашай моладзі і чытачам часопіса будзе карысна прачытаць адказы на такія пытанні: як стаць міністрам? Як праходзіць звычайны працоўны дзень хай сабе не міністра, але яго намесніка? Што дапамагае вам спраўляцца з задачамі і што вы робіце ў выпадку няўдач?**

— Міністр — гэта пасада, а не прафесія. Спачатку трэба абраць прафесію — педагога, медыцынскага работніка, эканаміста ці іншую. Шлях няпросты — трэба быць лепшым у прафесіі, валодаць якасцямі кіраўніка і лідара, несці адказнасць за прынятыя рашэнні і бачыць перспектыву. Што да мяне, то звычайна я дэтальна планую свой дзень, без гэтага немагчыма. Работа з дакументамі, шэраг запланаваных сустрэч, нарады, пасяджэнні, канферэнцыі, іншыя мерапрыемствы. Праўда, часта прыходзіцца ўносіць у свой план карэктывы, але гэта застаўляе правільна размяркоўваць сілы. Заўсёды пакідаю час, каб азнаёміцца з прэсай. Спраўляцца з пастаўленымі задачамі дапамагае каманда, а няўдачы — гэта нагода прааналізаваць сітуацыю, зрабіць вывад, намеціць іншыя шляхі, а значыць, зрабіць якасны крок наперад.

**Ці ёсць у вас хобі і як яно ўплывае на вашу прафесійную дзейнасць?**

— Паважаю добрую музыку і якаснае кіно. Не так часта атрымліваецца, але люблю пасядзець з вудаю на беразе роднага Нёмана. Гэта дазваляе не толькі расслабіцца, але і сканцэнтравацца.

**У чым, як вы думаеце, сэнс жыцця асобнага чалавека і сэнс існавання чалавецтва?**

— Філасофскае пытанне. Сэнс жыцця ў самім жыцці. Стварыць сям'ю, выхаваць дзяцей, рэалізавацца ў прафесіі, прынесці карысць гораду, краіне, людзям. Быць шчаслівым ад гэтага… Чалавецтва ж павінна захаваць свае каштоўнасці і перадаць іх будучым пакаленням — каб бег жыцця не спыняўся ніколі…

**Ці ёсць у вас дзеці, якія яны, чым займаюцца? Што, з вашага пункта гледжання, самае цяжкае ў выхаванні дзіцяці?**

— Мой сын закончыў трэці клас, займаецца спортам, любіць гуляць у шахматы, цікавіцца літаратурай і, як усе сучасныя дзеці, кампьютарам. Галоўнае і самае цяжкае, мне здаецца, навучыць дзяцей думаць і рабіць правільны выбар. Каб у любой жыццёвай сітуацыі заставацца Чалавекам. Каб спакойна перадаць ім сваю старасць, новаму пакаленню беларусаў — нашу краіну, а чалавецтву — нашу прыгожую планету.

*Падрыхтавала Святлана ДЗЯНІСАВА*

# А ВЫ КАЖАЦЕ, ГЭТА НЕ ІНДЫЯНА ДЖОНС...



***Пытанне, якое перш за якія іншыя хочацца задаць гісторыку, калі гаворка ідзе пра чорных капальнікаў: як эвалюцыяніруе гэта праблема і з’ява? Задаём яго ў ліку іншых загадчыку музея гістфака БДУ, старшаму выкладчыку кафедры археалогіі названай установы Віталю Сідаровічу, — і ў выніку не проста размова, а пачатак «Тэмы».***

— Цяжка сказаць, калі дакладна з’явіліся ў нас скарбашукальнікі ўвогуле, а вось эпоха металадэтэктарыстаў пачалася ў 1970—1980-я гады. Праўда, тады яе прадстаўлялі адзінкі, якія карысталіся армейскімі мінашукальнікамі. Вялікай шкоды яны не прыносілі, і таму асаблівых цяжкасцей для археалогіі не стваралі. Праблема пачынае праяўляцца ў 1990-х, сёння ж яна толькі нарастае. Папершае, гэтаму спрыяе міф пра казачныя багацці ў археалагічных помніках, па-другое, магчымасць набыць металадэтэктар без вялікіх перашкод і за не надта вялікія грошы — гэта спарадзіла фактычна армію шукальнікаў-капальнікаў. Цяжка сказаць, колькі іх дакладна, але я ацэньваю гэту колькасць у Беларусі дзясяткамі тысяч. Цяпер ужо яны ствараюць сапраўдную праблему.

**— Парадокс у тым, што цікаўнасць да капальніцтва, сама па сабе з’ява адмоўнага кшталту, па сутнасці, народжана акалічнасцю цалкам высакароднай — ростам інтарэсу да гісторыі роднай краіны... А ўвогуле, вам добра знаёмы партрэт чорнага капальніка? Наколькі ён любіць Беларусь і наколькі ведае яе гісторыю?**

— Стварыць партрэт, напэўна, немагчыма — настолькі розныя гэтыя людзі. Ёсць сапраўды зацікаўленыя гісторыяй, але гэта, па большасці, калекцыянеры. Значную ж частку складаюць тыя, хто займаецца капальніцтвам час ад часу: хтосьці едзе на рыбалку, хтосьці ў грыбы ці куды яшчэ, а хтосьці — «пашукаць».

**— І гэта больш дзеля драйву знайсці ці ад прагі нажыцца?**

— Ну, наколькі я ведаю, большасць капальнікаў заўсёды цікавіцца тым, колькі каштуе рэч, якую яны знайшлі. Не абавязкова яны яе адразу прадаюць, але грашовае пытанне заўсёды паўстае, выключэнні тут вельмі рэдкія. Ёсць жа яшчэ «праслойка», для якой гэта хобі ператварылася ўжо ў спосаб зарабляць на жыццё. Такіх няшмат, але гэта самыя падрыхтаваныя і таму самыя ўдалыя, самыя паспяховыя. Наўрад ці яны алігархі, але грошы маюць менавіта з гэтага занятку. Ёсць сярод іх і такія, што не працуюць нідзе — аддаюць усе дні, уключаючы выхадныя, гэтай справе. Гэта як праца для працаголіка. Апошнія, магчыма, ствараюць найбольшую праблему.

**— Ці варта тут па пунктах пералічыць, якая канкрэтна шкода наносіцца**

**чорнымі капальнікамі? Ці можна яе, гэту шкоду, сістэматызаваць?**

— Галоўная шкода — гэта тое, што шмат хто з чорных капальнікаў «працуе» на археалагічных помніках. Хоць яны і закранаюць «толькі верхні слой» і разбураюць тое, што «недаразбурана сельскай гаспадаркай», але ж, бывае, укопваюцца глыбока, знішчаючы вялікі культурны пласт. Як малое дзіця, убачыўшы кніжку з прыгожымі карцінкамі, выдзірае з яе старонкі з гэтымі самымі карцінкамі, так і чорныя капальнікі — выдзіраюць старонкі! Бо кожны археалагічны помнік — гэта сапраўды кніга, якую яшчэ трэба ўмець прачытаць. Умее гэта рабіць толькі археолаг — чалавек «у тэме», якому кожная старонка даспадобы. Бывае, што гэтыя вырваныя старонкі, рэчы — манеты, скарбы, упрыгожванні і іншае — трапляюцца нам на вочы, але, не маючы археалагічнага падтэксту, яны амаль што не ўяўляюць для нас як для навукоўцаў каштоўнасці. Напэўна, вось гэта — самая вялікая шкода.

* * *

— У першую чаргу церпяць ад капальнікаў такія помнікі, як селішчы. Асноўны ўдар прыпадае на старажытныя вёскі жалезнага веку і сярэднявечча. Менш падвяргаюцца «нападам» гарадзішчы — бо гэта больш заўважна, па-першае, а па-другое, значная частка капальнікаў асцерагаецца такіх учынкаў, як разбурэнне гарадзішчаў, па чыста ідэалагічных прычынах. Тым не менш, і гарадзішчы, і старажытныя замкі ад капальнікаў таксама церпяць. На курганах працуюць зрэдку і самыя «адмарожаныя». Бывалі выпадкі, калі кургановыя насыпы зрывалі бульдозерамі.

## ВОГНІШЧА, ВЕЧАР, ГІТАРА…

**— Уявіце такую сітуацыю: чалавек па адукацыі не гісторык, ну і, натуральна ж, не археолаг, але яму вельмі карціць капаць, і пры гэтым ён не толькі не хоча наносіць шкоду, а і імкнецца быць карысным — сваёй цікаўнасцю да гісторыі і сваіх рук працай. Што яму рабіць?**

— Ёсць археалагічныя экспедыцыі, якія запрашаюць да сябе валанцёраў. Інфармацыя пра гэта, можа быць, і не публікуецца ў цэнтральных СМІ, але пры жаданні яе лёгка можна атрымаць: за*googl*іўшы «археалагічны летнік» і прайшоўшыся па спасылках. Экспедыцый, якія будуць рады валанцёрам, у нас шмат: з-за слабага фінансавання гэтай справы кіраўнікі набіраюць фактычна ўсіх жадаючых.

**— Проста так, без папярэдняй працы? І як, цікава, не стварыць праблем, не зрабіцца абузай?**

— Калі чалавек робіцца абузай, яго, канечне, выключаюць з экспедыцыі. А каб гэтага не адбылося, трэба выконваць усе распаражэнні кіраўніка. Усё як у арміі: як ён скажа, так і павінна быць. Кіраўнік і працаваць навучыць, і сачыць будзе — за тым, каб усё атрымлівалася. Бо сапраўды ж, зусім неабавязкова быць гісторыкам, каб навучыцца добра працаваць на раскопках. Мы, дарэчы, ужо шмат разоў назіралі, як пад канец экспедыцыі працуе які-небудзь медык ці хімік — на парадак вышэй, чым студэнт-гісторык. У каго як рукі прымацаваны… Праца гэта ў асноўным фізічная і даволі карпатлівая. Знаходжанне ў любой нашай археалагічнай экспедыцыі зусім не падобна да прыгод Індыяны Джонса: доўга можна капаць, але нічога цікавага не знаходзіць. То бок, асалода расцягваецца па часе і ад таго як быццам разбаўляецца. Мала каго не чакае тут расчараванне выкопваць увесь час адно толькі смецце. Знаходкі ў суправаджэнні «ахаў» здараюцца рэдка, асабліва зараз, калі на кожным помніку верхнія 30 сантыметраў амаль нічога не ўтрымліваюць — «дзякуючы» якраз тым, пра каго мы гаворым. Ну, але рамантыка ў такіх экспедыцыях ёсць заўсёды: вогнішча, вечар, гітара… Непаразуменні… бываюць. На жаль, не заўсёды ў экспедыцыі трапляюць добрыя людзі. Часам нехта спрабуе пакласці якуюсь знаходку ў кішэню.

**— Ну вось, а вы кажаце, гэта не Індыяна Джонс…**

— …Звычайная праца. У мяне як у кіраўніка няма ніякага жадання сачыць за працаўнікамі ў гэтым сэнсе: стаяць над імі з пугай — не мая задача. Мае абавязкі — арганізаваць працэс так, каб ён меў як мага большыя вынікі.

## УСЕ КАЛЕКЦЫЯНЕРЫ ХВОРЫЯ. НА ГАЛАВУ. ЯК І АРХЕОЛАГІ

**— Як вы ставіцеся да прывантых калекцыянераў? Ці можна быць збіральнікам старых каштоўных рэчаў і сумленным чалавекам адначасова?**

— Чаму ж не? Ведаю шмат сумленных калекцыянераў. Ну, маеце вы, канечне, рацыю: сапраўды, шлях паступлення некаторых рэчаў у прыватныя калекцыі не зусім законны — гэта зноў тыя самыя нелегальныя знаходкі з археалагічных помнікаў або разрабаваных скарбаў. Ды калі ёсць нейкія грашовыя адносіны, то гэта заўсёды ўсё псуе — і чалавека, які як быццам бы працуе на навуку, і саму навуку. Сумленнымі, напэўна, у дадзеным выпадку, могуць лічыцца тыя, для каго прынцыпова, каб прадмет не выйшаў за межы Беларусі. Яны калі і прададуць нешта са сваёй калекцыі, дык толькі беларускаму калекцыянеру. Але ёсць і такія, у якіх, калі прапануюцца грошы, сумленне нават не варушыцца.

**— Тое, што захоўвае музей, бачаць людзі, яны гэтым уражваюцца, натхняюцца, захапляюцца. А які сэнс у існаванні прыватнай калекцыі, ды яшчэ з экспанатаў, якія з-за сваёй сакрэтнасці і эксклюзіўнасці бачыць можа толькі сам гаспадар?**

— Ох, тут цяжка сказаць. Гэта як усялякае іншае хобі. Ёсць калекцыянеры-інвестары: укладаюць грошы ў рэчы, якія каштуюць вельмі шмат і каштаваць з цягам часу будуць больш. Калекцыянеру-аматару застаецца на гэтым фоне ўсяго толькі выбраць кірунак дзейнасці. Збірае ён, напрыклад, манеты Жыгімонта Аўгуста і крочыць па шляху да сваёй мэты, нават калі ад гэтага церпіць сямейны бюджэт. Усе калекцыянеры людзі так ці інакш хворыя. На галаву. У прынцыпе, як і археолагі, бо гэта не прафесія, а хутчэй за ўсё проста дыягназ. Што ж датычыцца даступнасці калекцый… Так, сапраўды, хацелася б, каб з цягам часу ў нас адбылася іх легалізацыя. Бо зараз, здаецца, нават па законах іх цяжка легалізаваць. А галоўнае, што людзі гэтага баяцца.

**— А гэта б азначала, што кожны трымальнік прыватнай калекцыі мог бы аб'явіць усім, што дакладна ў яго ёсць, і не баяцца, што гэта будзе адабрана?**

— Ёсць у нас упраўленне па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. На жаль, вельмі малое, павінна быць большым — каб выконваць больш функцый і мець больш правоў. Дык прыватныя калекцыі маглі б фіксавацца ім. Можа, не цалкам, а хаця б самыя выбітныя прадметы — як гісторыка-культурныя каштоўнасці. Тады чалавек будзе мець ужо афіцыйнае права валодаць гэтымі прадметамі і выкарыстоўваць іх для навуковых публікацый і выставачных музейных праектаў.

**— І калекцыянеру тады не будуць задавацца пытанні, якім чынам тая ці іншая каштоўнасць да яго трапіла? Такім спосабам мы знойдзем крыж Еўфрасінні Полацкай. Але ці застанецца ён у прыватнага калекцыянера…**

— Такія рэчы, як крыж Еўфрасінні, у прыватных калекцыях прысутнічаць не могуць. Прынамсі, гэта была б калекцыя, якой не ўбачыў бы ніхто.

## НЕХТА ПРАПАНУЕ ЛЕДЗЬ НЕ ЗНІШЧАЦЬ ІХ

**— У беларускіх навукоўцаў ёсць варыянты, як можна змагацца з чорнымі капальнікамі? Хто не падтрымлівае вашы спадзяванні і мары? Па якіх прычынах вы не можаце дзейнічаць сабе на карысць, чорным капальнікам на шкоду?**

— Няма тут ніякай адзінай думкі. Нехта прапануе іх ледзь не, умоўна кажучы, знішчаць. Але ёсць гатоўнасць да кантакту ў той ці іншай ступені. Я праз форумы падтрымліваю сувязі з гэтымі людзьмі, і калі яны маюць прадметы, цікавыя для археалогіі, то вяду перамовы: распытваю пра месца знаходкі, прашу, па магчымасці, перадаць у музей, неяк імкнуся пераканаць… Людзі розныя. Нехта не адгукаецца зусім, нехта толькі дае інфармацыю, а нехта і сапраўды перадае рэч без усялякіх пытанняў, калі тлумачыш яму, што гэта патрэбна навуцы.

* * *

— Калі агулам браць усе тыя «археалагічныя» прадметы, што абарачаюцца сярод «нелегалаў», то яны называюцца «прадметы, здабытыя рабаўніцтвам». Іншымі словамі, гэта рэчы, не зусім здатныя для выкарыстання ў навуцы. Вось якая яшчэ шкода ад чорных капальнікаў, калі вяртацца да пытання, што гучала раней. Але галоўнае — не ў гэтым. А ў тым, што археолагі ў прынцыпе не павінны змагацца з чорнымі капальнікамі. Гэта павінны рабіць іншыя арганізацыі і ўстановы.

**КАЛІ Б БЫЛІ ПАТРУЛІ...**

**— Ну вось будзе ехаць, скажам, краем вёскі міліцэйская машына, і ўбачаць, што нехта нешта за ваколіцай капае. Міліцыянер не спыніцца і не папытаецца, хто капае і навошта, так?**

— А няма ж практычна ніякай падставы такое рабіць, калі толькі не відавочна, што гэта тэрыторыя археалагічнага помніка. А міліцыянеры ў нас рэдка ведаюць пра такія помнікі — хіба толькі калі там стаіць ахоўная дошка: тады гэтага будзе дастаткова, каб чалавека з маталадэтэктарам затрымаць. Калі ж гэта проста разаранае поле, то хоць яно і фігуруе ў археалагічных спісах як селішча, міліцыянер не мае ніякіх правоў на затрыманне.

**— А калі б гэта былі спецыяльныя патрулі?**

— Нават не патрулі. Гэта можа быць інспекцыя, але не ў тым фармаце, пры дапамозе якога ловяць браканьераў, гэта павінна быць інспекцыя, якая навядзе нарэшце парадак з улікам помнікаў, каб мясцовыя органы — раённыя аддзелы міліцыі — ведалі пра гэтыя помнікі і мелі дакладную мапу. Прычым, няхай бы гэта датычылася аб'ектаў не толькі археалогіі, але і архітэктуры, безліч якіх разбураецца недаравальнаым чынам. І гэта інспекцыя павінна змагацца не толькі з чорнымі капальнікамі, але і з некаторымі канторамі — будтрэстамі і выканкамамі, якія, лічу, з'яўляюцца галоўнымі шкоднікамі, бо тады як чорны капальнік калупае помнікі па кавалачках, то яны нішчаць цалкам. Правільна было б пры будаўніцтве кожнага аб'екта спачатку звяртацца да археолага. Ёсць нават адпаведная пастанова, але яна вельмі паспяхова парушаецца. Бо правядзенне раскопак на месцы будучай будоўлі — гэта вельмі вялікая — не на адзін год — затрымка для будаўнікоў. Да таго ж, на такія экспедыцыі трэба выдаткоўваць грошы, не надта вялікія грошы ў параўнанні з коштам будаўніцтва, але тым не менш…

**ЧОРНЫЯ КАПАЛЬНІКІ ІСНУЮЦЬ ПАЎСЮЛЬ**

**— А як праблемы з чорнымі капальнікамі вырашаюцца за мяжой? Ці такія ж яны, як і ў нас?**

— Чорныя капальнікі існуюць паўсюль. Але, да прыкладу, у Польшчы ёсць спецыяльная служба. Яна сочыць, але не ловіць, бо лавіць — гэта справа паліцыі. Служба гэта, маючы свой транспарт, упаўнаважана назіраць за тэрыторыяй, наколькі магчыма. Ёсць краіны, якія пайшлі далей. Напрыклад, у Ізраілі існуе спецыяльная археалагічная паліцыя — фактычна, спецназ, які выязджае па сігнале на затрыманне. І гэта цалкам нармальная аперацыя. Нядаўна ў Грэцыі двум чорным капальнікам прысудзілі досыць вялікі тэрмін зняволення за тое, што тыя трапілі на багатае захаванне і свае знаходкі распрадалі.

* * *

— У Расіі закон вельмі абмяжоўвае металапошук. Калі ён будзе там забаронены, то ёсць небяспека, што значная колькасць расійскіх капальнікаў перакінецца на Беларусь. Для аматараў гэтай справы вялікай розніцы, чыя гісторыя, няма, тым больш што вялікі яе прамежак у нас агульны. Дарэчы, простае насельніцтва сур'ёзным пошукам не займаюцца. Гэта звычайна сярэдняе звяно, могуць быць бізнесмены, прадстаўнікі ўлады і сілавых структур. Як у Расіі, так і ў нас.

*Гутарыла*
*Святлана ДЗЯНІСАВА*

# А ГУЗІКІ — КАМУ ШУКАЦЬ?



***Віктар Какарэка, старшыня праўлення грамадскага аб'яднання «Беларускае нумізматычнае таварыства», у працяг тэмы прапануе як след вызначыцца з тым, хто такі «чорны капальнік». Справа ў тым, кажа ён, што большасць людзей, якія бяруць у рукі металашукальнік, робяць гэта не з мэтай знайсці скарб, раскапаць курган, разрабаваць грабніцу…***

— Яны шукаюць вострых адчуванняў. Уявіце сабе: вы ідзяце з прыборам па зямлі і ён выдае вам гук, які сведчыць, што там ёсць прадмет з металу. Згадзіцеся, гэта дадае крыві адрэналіну. Грыбнікі, дарэчы, таксама ідуць у лес па грыбы не столькі таму, што апошнія патрэбны ім як ежа, колькі для таго, каб адчуць радасць знаходкі. А рыбакі? Закінулі вуды — і сядзяць, чакаюць: а раптам? Тыя, што трымаюць у руках прыбор, — не прафесіяналы, яны не зарабляюць вялікіх грошай тым, што нешта выкопваюць і разбураюць ледзь не ўсю гісторыю краіны. Яны проста атрымліваюць сваю порцыю задавальнення.

**— Вы вось так рамантызуеце гэты занятак, а тым не менш многія спецыялісты іншых галін — гісторыкі, археолагі — ужо стаміліся біць у званы. Расце бо колькасць такіх непрафесіяналаў, і шкода ад іх захаплення таксама нарастае.**

— Я магу адказаць на гэта вельмі проста. Шкода, якая наносіцца нашай культуры ўвогуле і археалогіі ў прыватнасці, сапраўды, вельмі вялікая, і ў апошні час яна, напраўду, нарастае. Але ж не адно толькі высілкамі чорных капальнікаў! Апошнія даюць пяцьдзесяць працэнтаў, усё астатняе — тэхнагеннага паходжання: новыя будоўлі, пракладванне дарог і газаправодаў, а таксама іншае, ад чаго шкоды нашмат болей, чым ад невялікай кучкі чорных капальнікаў. Проста на капальнікаў прасцей спісваць.

**— А ці дадалі б вы ў гэты спіс яшчэ і нерастаропнасць гісторыкаў-навукоўцаў і чыноўнікаў ад гісторыі і культуры?**

— Не столькі б дадаў, колькі сказаў бы наступнае. Зрэшты, што такое археалогія? Якім перыядам часу яна займаецца? Класічная — гэта не пазней за XIV стагоддзе. А пазней… Ведаеце, першакрыніц тыпу пісьмовых, не схаваных у зямлю, — нашмат болей, чым тых, што ў яе схаваны. І тое, што ляжыць у зямлі з больш позняга перыяду, не мае для археолагаў вялікага значэння. Але знойдзеныя манеты з задавальненнем атрымаў бы і выставіў любы правінцыйны краязнаўчы ці школьны музей. Трэба разумець іншае: дзяржава страціла манаполію на права захавання і збірання гістарычных рэліквій. Згодна з нашай канстытуцыяй прыватная калекцыя і прыватны музей —

цалкам нармальныя з'явы. Адпаведна, калі прадмет трапіў у калекцыю ці музей больш-менш законным шляхам, то захоўваць яго — дазваляецца. Ну, а ў археолагаў праблем нашмат больш, калі збоку паназіраць. Калі ў цэнтры маёй Гародні пачынаюць нешта будаваць, мне заўсёды хочацца задаць пытанне: а ці пабывалі на месцы будоўлі археолагі? А раптам нешта ёсць там? Ну, але грошай няма, людзей няма, студэнтаў няма… Будзем шумець.

**— Наколькі праўда, што большасць чорных капальнікаў цікавіцца пошукамі, звязанымі з перыядам Вялікай айчыннай вайны? Ці ўсё ж «лідзіруе» сярэднявечча?**

— Капальнікі — кола разнастайнае. Як, зноў жа, рыбакі, сярод якіх ёсць тыя, што прыходзяць на рэчку палавіць нейкай драбязы — толькі каб збіць ахвоту, ёсць такія, якія метадычна вышукваюць спосабы адлова больш прыстойнай рыбы, а ёсць браканьеры. Вы прасілі прывесці класіфікацыю капальнікаў? Калі ласка. Калі браць структуру і хто чым займаецца, то ёсць капальнікі, якія ідуць у поле, перааранае шмат-шмат разоў, у перыяд, калі няма на ім нічога пасеянага, і шукаюць у сваё задавальненне. Больш мэтанакіраваныя глядзяць у карты — каб ведаць, дзе стаяў маёнтак, панскі двор — з мэтай прывязацца гістарычна і для большай верагоднасці нешта знайсці. А капальнікі ўзроўню браканьераў могуць па замове капаць спрэс, што заўгодна, нават курганы, калі на прадметы, што там захоўваюцца, існуе попыт. Ёсць попыт на ваенныя здабыткі — ідуць па месцах баявых дзеянняў. І косці іх не так цікавяць, як значкі і зброя. Прыкладна так. Дык навошта ўсіх у кучу — як чорных капальнікаў? Гэта пункт гледжання «хто не з намі, той супраць нас». Археолагі лічаць, што яны белыя, а астатнія, маўляў, чорныя. На самай справе ўсе з адценнямі…

**— Я ўжо нават гатова задаць вам пытанне пра карысць ад чорнага капальніцтва. Яна таксама, прадбачу, ёсць.**

— Справа ў тым, што занятак простым пошукам, калі ён вядзецца там, дзе ўжо ўсталяваны сельгасугоддзі, дзе культурныя слаі даўно перамяшаны і археолагам рабіць няма чаго, таксама прыводзіць да знаходак. І ў апошні час з'явілася шмат прадметаў, якія раней сустракаліся вельмі рэдка. Напрыклад, дробныя наміналы манет: літоўскі абол (паўдынарыя) — яны ў кладах звычайна не сустракаюцца, бо занадта дробныя. А гузікі? Французскія, расійскія… Ёсць ужо цэлая галіна калекцыяніравання, прысвечаная гэтым прадметам. І трэба яшчэ разумець, што кожны рэдкі прадмет, які трапляе ў рукі капальніка ці калекцыянера, дае ім падставу для вывучэння гісторыі нашага краю. Матывацыя да вывучэння гісторыі краіны — гэта хіба не станоўча?

**— Як па вашым меркаванні — ці шмат скарбаў яшчэ ў зямлі? І, па ідэі, ці ўсё яна павінна нам аддаць?**

— За апошнія дваццаць гадоў у павярхневым слоі зямлі было знойдзена нашмат больш прадметаў, чым у папярэднія стодзвесце. У асноўным, гэта згубленыя дробязі, якія не прадстаўляюць ніякай гістарычнай або калекцыйнай значнасці. Ёсць і вельмі цікавыя рэчы, але для таго, каб іх знайсці, трэба або ведаць дзе шукаць, або мець вязенне. Ужо абследаваны найбольш цікавыя, «салодкія» кавалачкі зямлі, размешчаныя бліжэй да буйных гарадоў, на якіх калісьці знаходзіліся маёнткі ці хутары, заезныя двары ці корчмы. Застаецца так, сёетое з таго, што не адзначана на карце, там, дзе людзі з металашукальнікам не хадзілі. Выкапаць усё — немагчыма. Вы ведаеце, што нават калі клад ужо быў калісьці выкапаны, то адна, дзве або болей манет абавязкова будуць заставацца ў зямлі? Таму па старых месцах знаходак людзі і шукаюць… Трэба яшчэ разумець, што, як правіла, тыя, хто закопваў свае скарбы ў зямлю, не былі багатымі. Багатыя мелі каменныя дамы з сутарэннямі, якія добра закрываліся, і слуг, якія іх ахоўвалі. Да таго ж, яны ведалі, навошта на самай справе патрэбны грошы, — пускалі ў абарот, не давалі ім заляжацца. А вось скарб небагатага яўрэя, які за грошы кагала ўзяў карчму ў арэнду, сабе нешта паціху назбіраў і ў зямлю закапаў, але не змог забраць, — верагодна, ляжыць недзе да нашага часу. Яго небагаты скарб з вельмі дробных манет, калі пералічыць іх на талеры, будзе складаць прыкладна пяць-сем,

можа, дзесяць талераў, не болей. Але ў кожнага правіла ёсць выключэнне, і знаходкі на Гродзеншчыне ў апошнія гады вельмі багатых скарбаў з манетамі з каштоўнага металу могуць служыць таму пацвярджэннем.

**— Так вось плаўна наша «Тэма» з «наезду» на капальнікаў ператвараецца ў майстар-клас. І вы навучыце чытачоў шукаць скарбы…**

— Трэба ім спачатку зразумець, што гэта такое — скарбы, і калі яны з'явіліся. Пераважная колькасць знойдзеных на беларускіх землях манетных скарбаў датаваныя XVI—XVIII стагоддзямі. Хто хаваў гэтыя скарбы? Амаль усё насельніцтва краіны пражывала ў сельскай мясцовасці, але толькі з правядзеннем аграрнай рэформы на валокі ў сярэдзіне XVI стагоддзя актывізаваўся грашовы абарот паміж сельскімі жыхарамі. Краіне патрэбны былі грошы, атрымаць іх можна было за кошт інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, шляхам арганізацыі вытворчасці таварнага збожжа на панскіх землях. Таварнае збожжа можна было вельмі выгадна прадаць у Заходняй Еўропе, якая галадала, бо аддала свае ворныя зямлі пад вінаграднікі. У іх, заходніх еўрапейцаў, было таннае срэбра, прывезенае з Амерыкі, вінаград і віно, а збожжа — ні зернейка, таму яны слімакоў і елі. І зерне везлі адсюль. Срэбра — у адзін бок, зерне — у другі. Віно добрае — да нас, ад нас — пшаніцу, лён і драўніну. Каб гэтыя працэсы забяспечыць, трэба было перасяліць людзей, што жылі паасобна, кожны на сваім участку, у вёскі. Практычна ўсе вёскі, якія ў нас сягоння існуюць, з’явіліся ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Вялікіх грашовых запасаў людзі не мелі, і самае простае, што маглі зрабіць, каб «багацце» сваё захаваць, — пакласці пад печ. Бо калі маланка ў пабудову лясне і яна згарыць, то печ жа тоўстая, грошы ў ёй не спякуцца, не пераплавяцца. У наш час прынята бухгалтарскія дакументы захоўваць у сейфе па той самай прычыне: не столькі для таго, каб хто не ўлез, колькі для таго, каб паперы не згарэлі. Хто багацейшы, шляхта ці яўрэі, што ўзялі ў арэнду карчму, млынок ці хоць бы пераправу, дык тыя павінны былі хаваць свае «левыя» даходы. І наколькі паказваюць месцы ўжо знойдзеных кладаў, рэдка хто хаваў іх на тэрыторыі вёскі, бо шляхта і габрэі-іншаверцы жылі на хутарах і засценках, гэта значыць, за «сцяной», за мяжой сялянскіх зямель. Капальнікі так і шукаюць — разважаючы: вось тут была вёска, а вось на старой карце адзначаны дробны квадрацік, тут нехта жыў асобна ад астатніх, і сюды, значыць, трэба ісці ў першую чаргу. І не ўсё ж у адным месцы хавалася. Пад печчу ў хаце — гэта на бягучыя расходы. А калі трэба на кірмашы нешта прыдбаць, то імкнуліся схаваць запасы падалей. Можна ў двары пад вокнамі, але суседзі падгледзяць. Ішлі тады ў хлеў, да жывёлы. Самае добрае месца! Бо жывёлы — коні, гусі — гаспадара добра ведаюць, а калі чужы хто прыйдзе, то наробяць шуму. Улічвайце яшчэ абставіны, што скаціну трэба было паіць, асабліва цяжка было насіць ваду для жывёлы ў зімовы час. Таму калі дом стаяў на ўзвышэнні, то хлеў размяшчаўся бліжэй да вады, да крыніцы. Капальнікі гэта ўлічваюць: яны шукаюць не толькі на самым версе, дзе прыгожы камень ляжыць, а і бліжэй да якога-небудзь балота або крынічкі.

**— А ці верыце вы ў праклятыя клады? Цікава, увогуле, ці думае капальнік пра энергію рэчаў, якія выкопвае?**

— Калі ў капальніку прачынаецца азарт замест проста працы на ўдачу, то ён пачынае верыць у што заўгодна. І Бог яму, маўляў, дапаможа, і... Я сутыкаўся з такімі рэчамі: едуць капальнікі недзе, у нейкае поле, на машыне, і глядзяць на дарогу. Убачаць задушанага вожыка — і ўпэўнены: не пашчасціць. Нават надвор’е, як аказалася, мае значэнне: чым больш складаныя ўмовы для выкопвання, тым верагодней, што можна знайсці нешта «гэткае». А наконт праклятасці… Людзям заўсёды цікава там, дзе сустракаюцца верагоднасць і выпадковасць. Ёсць і такое павер’е: знайшоў клад — ахвяруй частку, на царкву ці яшчэ куды. І ні ў якім разе нельга клад адразу хапаць, трэба падрыць яго збоку — каб сам рассыпаўся. Бо раптам ён загавораны? У большасці выпадкаў, праўда, імкнуцца пра прыкметы асабліва не распаўсюджвацца — каб не ўсе іх ведалі… 

*Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА*

## ПЫТАННІ І АДКАЗЫ

***Ці правільна, што археолагі ў прынцыпе не павінны змагацца з чорнымі капальнікамі, бо гэта справа іншых установаў і арганізацый? Хто павінен змагацца з чорнымі капальнікамі?***

**Алена Калечыц, гісторык, археолаг:**
— Чорныя капальнікі наносяць велізарную шкоду. Яны не толькі выкопваюць каштоўныя артэфакты, але і псуюць тое, што не ўяўляе для іх цікавасці. Фактычна, цяпер засталося вельмі мала неразрытых курганоў.

Археолагаў у Беларусі няшмат: у Мінску каля трыццаці і па адным-два на абласныя цэнтры. Мы выязджаем толькі летам, праводзім раскопкі і з'язджаем. У нашай краіне існуе Дэпартамент па ахове гістарычнай спадчыны, дейнічае закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», якога павінен прытрымлівацца кожны законапаслухмяны грамадзянін. А калі закон парушаецца, дзяржава павінна прыцягваць да адказнасці. Археолагі могуць нешта рабіць, але толькі ў парадку добраахвотнай дапамогі.



***Ці бывалі ў нас выпадкі зняволення чорных капальнікаў? Магчыма, варта правесці такі паказальны працэс? Ці было б карысна захапіць чорных капальнікаў рамантычнымі пошукавымі гульнямі?***

**Яўгеній Зайцаў, кандыдат тэхнічных навук, выкладчык БДАТУ:**
— Думаю, што не. У адрозненні ад рамантыкаў ад навукі «чорныя» хлопцы дакладна ведаюць, што і дзе ляжыць. Яны не лічаць верагоднасці, а працуюць пад заказ, і вераць не ў рамантыку, а ў партрэты нябожчыкаў-прэзідэнтаў ў зялёных танах. Думаю, што падрабязнае асвятленне працэсу ў СМІ прывядзе да дэталёвай раскруткі, практычна публікацыі інструкцый працэсу. А вось серыя рэпартажаў пра тое, як моладзевыя патрыятычныя аб'яднання перашкодзілі дзейнасці чорных капальнікаў або зладзілі над імі самасуд і зараз іх трэба выратаваць ад улады, — самае тое.



***Можа быць, варта ўзбудзіць магутны рух-гульню? Толькі не з падстаўнымі кладамі, а з сапраўднымі…***

**Таццяна Сакалоўская, сакратар арганізацыі ГА «БРСМ» з правамі раённага камітэта ўстановы адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў»:**
— Я лічу, што ў гэтым сапраўды ёсць пэўная цікавасць для людзей, якія гэтым захапляюцца, таму можна паспрабаваць арганізаваць. Але не ведаю, ці зацікавяцца менавіта чорныя капальнкі — на продажы артэфактаў яны зарабляюць значна больш, чым зможа заплаціць дзяржава.

**Раман Урбановіч, студэнт 4-га курса гістарычнага факультэта БДУ:**
— Чорныя капальнікі — гэта сапраўдная бяда. Яны, на жаль, маюць больш матэрыяльных рэсурсаў, чым «легальныя» навукоўцы, і праз гэта могуць дабірацца да месцаў раскопак больш аператыўна. Пры гэтым выкапаныя імі рэчы, часам вельмі каштоўныя і цікавыя, ужо нельга ўводзіць у навуковы зварот, таму што падчас такіх раскопак не выконваюцца правілы навуковай атрыбуцыі артэфактаў, з-за чаго не можа існаваць гарантыі дакладнасці дадзеных. Зацікавіць капальнікаў нейкімі рухамі-акцыямі наўрад ці атрымаецца, бо гэта аўтаматычна пазбаўляе іх працу матывацыі. 

*Падрыхтавала Ганна ЛІСІЦА*

Андрэй КУВАЕЎ
www.radziwill.by

# НЕШТА НЕПЕРАДАВАЛЬНАЕ



***Колькі б ні падарожнічаў па замежжы ды ні захапляўся прыгажосцю помнікаў тамтэйшай матэрыяльнай і духоўнай культуры, а ў сябе на радзіме адчуваю нешта яшчэ больш асаблівае — прыцягальнае, заманлівае і роднае. Няма тут палацавай раскошы Пецярбурга, казачных замкаў Францыі і таемных пірамід Егіпта, але ж і тут адчуваеш нешта неперадавальнае.***

Я люблю гэтыя невялікія важы, асабліва калі яны праходзяць па жывапісных берагах імклівых альбо разважліва-павольных рэчак, ускрайкамі лясоў, пакрытых сакавітай зелянінай, па яркіх ад кветак пагорках. Асабліва, калі сярод тых абразкоў мільгне дзе-недзе старажытны касцёл з напаўразбураным кляштарам, вежа адвечнага замка альбо руіны панскай сядзібы. Гэтак глядзіш — і нават дзіўна: як чароўна і выдатна ўпісваюцца тыя даўнія сляды працы рук чалавечых ў прыроднае хараство. Так таямніча і загадкава выглядаюць тыя палацыкі і каплічкі здалёк, што хочацца зведаць іх бліжэй — увайсці пад векавыя скляпенні, акунуцца ў прахалоду старажытных сцен пасля спякоты летняга дня… І сапраўды, неўзабаве ўжо падыходзіш да гэтых муроў з нейкай прыхаванай надзеяй на нешта неверагоднае, нават містычнае.

Рэчаіснасць сустракае ўжо на ганку — смуродам чалавечых адкідаў арганічнага і неарганічнага паходжання. Тое, што ацалела ў часе, часткова разабрана на будаўнічы матэрыял — цэглу і проста дровы. Але ж продкі будавалі на вякі, таму шмат яшчэ што застаецца — жывым напамінам пра слаўную гісторыю. Так і стаяць гэтыя вялізныя пакоі — без падлогі, без столі, абадраныя, спаганеныя надпісамі і смеццем, са здзекліва прыляпанай недзе збоку дошчачкай «Ахоўваецца дзяржавай». Здаецца, у нейкім застылым адчаі, у скрусе, адвярнуўшыся ад сёняшняга, у марах пра былое.

Шмат гадоў прамільгнула у тых старажытных сценах, не раз мяняліся іх гаспадары, але ж і па сёння некаторыя ахвотнікі таннага заробку мараць знайсці «золата партыі» ў чарговым шляхецкім палацыку, нават не здагадваючыся, што і ў самыя славутыя свае часы былыя яго гаспадары не мелі тут тон золата. Хутчэй за ўсе, наяўныя сродкі ішлі на падтрыманне гаспадаркі. Так, шмат якія сем'і мелі капітал. Але што гэта было за багацце? Палі, сенажаці, вёскі, лясы, запасы збожжа, сяляне, корчмы, млыны, бровары, рэчкі і ставы. Адным словам — гаспадарка. У звычайным маёнтку заўжды месціліся партрэтная галерэя, старажытная зброя, невялікая бібліятэка, некалькі добрых сервізаў, сталовае срэбра, багатая вопратка — вось і ўсе. У большасці ж дробных шляхецкіх сядзіб і гэтыя «багацці» былі прадстаўлены толькі сімвалічна. І калі шлях-

та пакідала нашу зямлю пасля падзей 1917-га і 1939-га, то найбольш каштоўнае брала з сабой. Астатняе, што было цяжка вывезці, проста расцягнулі сяляне ў самыя першыя дні. Лагічна дапусціць, што яны ж пераварушылі ўсе магчымыя сховы і сутарэнні, якія маглі там быць, абапіраючыся на сведкі тых, хто непасрэдна працавалі ў сядзібе. Так што, знайсці нешта ў гэтых капліčках і палацыках праз стагоддзе розных рамонтаў, перебудоў і аматараў пошукаў скарбаў у савецкі час бачыца вельмі малаверагодным. Ды на жаль, гістарычная праўда невядомая тым, хто, узяўшы ламы ды рыдлёўкі, спяшаецца ў былую школу ці шпіталь, каб «першым паспець знайсці багацце». Часцей за ўсё, праламаўшы падлогу ў некалькіх месцах, аблазіўшы гарышча ды разбіўшы старажытную печ, скарбашукальнікі вяртаюцца ні з чым. Што лагічна вынікае з вышэйсказанага. Памятаю, як добра падпітыя дзядзькі, бачачы, што я фатаграфую панскі палац, прапаноўвалі пайсці па скарбы і нават абяцалі правесці ў падземныя хады…

Асабліва непрыемна бачыць адзнакі чорных капацеляў у старажытных храмах альбо на каталіцкіх могілках. Раскапаныя магілы, разбураныя каплічкі, перакапаныя крыпты з сям-там раскіданымі кавалкамі труны ды касцей ствараюць вельмі непрыемнае ўражанне. Думаецца: што шукалі тут гэтыя нелюдзі? У лепшым выпадку — срэбны крыжык, залаты заручальны пярсцёнак ці пагнуты падсвечнік. Тое, што пойдзе на продаж за бутэльку-другую.

Іншыя чорныя капацелі дзейнічаюць больш мэтанакіравана. Гэта ў асноўным людзі матэрыяльна забяспечаныя, і займаюца скарбашукальніцтвам дзеля азарту ды экстрыму. Звычайна яны ездзяць на запланаванае месца камандай, дзе гідамі-кіраўнікамі пошукавых работ выступаюць студэнты гістфака, былыя і нават сённяшнія супрацоўнікі музеяў — карацей, усе тыя, хто мае вялікае або малое дачыненне да вывучэння гісторыі. Такія «каманды» зазвычай разам з традыцыйнымі прыладамі працы маюць металашукальнікі па тых коштах, якія могуць сабе дазволіць. А выбар іх дастаткова вялікі: ад ста да дзесяці тысяч долараў. Высілкамі такой каманды могуць быць знойдзены ў лепшым выпадку маталічныя гузікі, спражкі, клямкі, цвікі... Хутка тыя «рарытэты» з'яўляюцца на інтэрнэт-аўкцыёнах і на розных «рыцарскіх і сярэднявечных» фэстах, дзе дужа падобныя да архітэктараў і гісторыкаў барадатыя інтэлігентныя дзядзькі-прадаўцы апавядаюць казкі для замежных пакупнікоў, збываючы свой тавар ў дзесяць разоў даражэй за натуральную вартасць. Што ж да больш буйных знаходак...

Нейкі час я займаўся зборам старажытных радзівілаўскіх рэчаў для будучага музея ў Нясвіжскім замку, таму некалькі разоў мне давялося прысутнічаць на дэманстрацыі знаходак, што праляжалі ў зямлі каля стагоддзя. Скажу па праўдзе, я далека не быў уражаны тым, што пабачыў. Час жорста абыходзіцца з рэчамі, нягледзячы нават на тое, якую каштоўнасць яны прадстаўляюць. Драўляныя прадметы амаль поўнасцю трухлеюць або згніваюць, калі ляжаць ў вільгаці, рэчы з жалеза — іржавеюць так, што губляюць сваю першасную форму, і, бачачы сёння ружжо XVIII стагоддзя некалі вытанчанай і адмысловай работы з разьбой і філігранню, зусім не пазнаеш яго ў рудой і грубай іржавай жалязяцы, разваленай, са згубленымі назаўсёды драўлянымі часткамі. Крыху лепш, але не нашмат, зберагаюцца кнігі. Але ж старажытныя кнігі можна ў выдатным стане набыць і ў сталічных букіністаў, і калі з-за нейкіх падгнілых і паедзеных мышамі «сінадальных ведамасцей за 1907 год», якім грош цана, разбураецца частка сцяны старажытнай капліцы, пасля чаго сама капліца за некалькі год ператвараецца ў руіны, то гэта не проста глупства — гэта варварства.

Я спадзяюся, што, можа быць, хтосці з тых скарбашукальнікаў прачытае гэтыя радкі і задумаецца: а ці варта ламаць падлогу, дах, печ, якія пакуль ніхто не збіраецца рамантаваць? Варта зразумець нарэшце: сапраўдныя скарбы — не тыя, што ляжаць недзе прыхаваныя ў зямлі, гэта — відавочныя нашы помнікі, наша матэрыяльная культура, якой у выніку наносяцца непапраўныя страты, і якую мы самі ж разбураем і прадаём. Можа, калісьці знойдуцца сродкі, каб узнавіць у былой велічы хаця б некаторыя з тых выдатных палацаў, храмаў і замкаў, але ж і цяпер варта ставіцца да іх па-гаспадарску — беражліва і ахайна, зберагаючы для нашчадкаў.



Ян МЯЛЬНІЦКІ



# КАПАЦЬ МОЖА ДАЛЁКА НЕ КОЖНЫ

***Можна пра «чорнакапальніцтва» весці бясконцыя спрэчкі ў адпаведнасці з тым, чый бок прымае асоба — дзяржавы ці чорнага капальніка. І кожны з бакоў будзе прыводзіць важкія аргументы, абгрунтоўваючы ўласнае стаўленне і адносіны да вышэйзгаданай з'явы. Вытокі яе, на мой погляд, паходзяць з няздольнасці дзяржавы на дадзены момант наладзіць кантроль за тым, што адбываецца на тэрыторыі краіны, перш за ўсё па-за межамі населеных пунктаў.***

Хто будзе расшукваць асобу, што блукае на самоце ў далечыні ад дарог і цывілізацыі, і высвятляць, што дакладна яе туды пацягнула і чым яна там займаецца? «Адпачываю», — можна было б пачуць у адказ. «Чаму з металашукальнікам?» — «Дык ці вы не чулі пра вынікі навуковых даследаванняў, што найбольшую карысць для здароўя прыносяць вадроўкі пешкі менавіта з металашукальнікам?» — «Не». — «Ну дык накіроўвайцеся тэрмінова набываць яго». Сітуацыя, безумоўна, камічная, але смех яшчэ і ў яе неверагоднасці. «А хто павінен наладжваць і ажыццяўляць кантроль за тым, што ўвогуле адбываецца навокал?» Адпаведныя дзяржаўныя ўстановы. Уся зямля ў нашай краіне мае прыналежнасць, і таму чорнакапальніцтва — гэта доказ няздольнасці ўпаўнаважаных установаў наладзіць кантроль за тым, што абываецца на падпарадкаванай ім тэрыторыі. У іншым выпадку чорнакапальніцтва не існавала б як з'явы. А калі яно існуе і перамагчы яго дзяржава на дадзены момант не можа, то трэба шукаць шляхі паразумення і супрацоўніцтва. Каб не вывозіліся археалагічныя каштоўнасці за межы Беларусі, трэба стварыць на мяжы належны кантроль, якога з пэўнага часу на ўсходзе Беларусі фактычна не існуе. Трэба дзяржаве паклапаціцца пра вызначэнне пэўных грашовых сум, накіраваных на набыццё археалагічных знаходак у прыватных асоб. Безумоўна, гэта павінны быць сапраўдныя, а не сімвалічныя кошты. Тут зноў пытанне: «Як можна казаць у дадзеным выпадку пра грошы?! Гэта ж гістарычная каштоўнасць! Вы як сапраўдны патрыёт павінны перадаць дзяржаве яе гістарычныя здабыткі». Калі дзяржаве весці размову з тымі, каго завуць чорнакапальнікамі, такім вось чынам, то ўвогуле можна нічога не атрымаць з іх знаходак. Шмат хто з чорных капальнікаў лічыць, што менавіта яны і займаюцца выратаваннем і далейшым захоўваннем выкапаных з зямлі гістарычных прадметаў. Калі дзяржава не ў стане набываць знойдзеныя рэчы, трэба шукаць іншыя шляхі. Напрыклад, даваць магчымасць прымаць удзел у сапраўдных археалагічных даследаваннях ці наведваць на працягу вызначанага тэрміну без набыцця квіткоў розныя канцэрты, іпрэзы, выставкі і фэсты. Хтосьці можа падумаць, што гэта памножыць шэрагі чорнакапальнікаў. Але так падаецца толькі на першы погляд. Бо капаць можа далёка не кожны. Кожны наўрад ці паедзе куды вочы глядзяць, улічваючы час, надвор'е, грашовыя выдаткі на падарожжа і верагоднасць ўвогуле нічога не знайсці.

# Бярозка

№ 8/2013(1023)








**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



# «Зубронак»!!!

***Хто ж не чуў пра легендарны дзіцячы летнік «Зубронак»?! Пуцёўкі на летнюю змену раскупляюцца за першы тыдзень студзеня! А некалькі соцень жадаючых абавязкова не паспеюць і застануцца ні з чым... Вось што такое «Зубронак»! А таксама казачная Нарач — самае вялікае возера Беларусі. І сасновы бор з пяшчотным аздараўляльным паветрам! Цэлых 76 гектараў — тэрыторыя гэтай напраўду шчаслівай краіны. «Бярозка» проста не магла не наведаць легендарны дзіцячы летнік, заснаваны ажно ў 1969 годзе.***

## Збудуем вежу з нарачанскіх шышак!

Свой дзень у «Зубронку» я правяла з Таццянай Чыжык — намеснікам дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце. Таццяна Аркадзьеўна жыве за 11 кіламетраў ад «Зубронка», а дырэктар Надзея Ануфрыева — увогуле на тэрыторыі летніка. Дарослыя прадстаўнікі гэтай дзіцячай краіны аддаюцца сваёй працы цалкам.

Паўдня мы шпацыравалі па «Зубронку» — і, ну, вядома, усё пабачыць не паспелі. Упэўнена, што вас таксама, як і мяне, зачаравалі б мілыя дрэўцы з гірлянд, замест звычайных ліхтароў. Яно і цікава, і энергію эканоміць. Дарэчы, дзеці-«зубраняты», як правіла, такія разумненькія і дасціпныя, што самі змарнаваную электраэнергію з інтарэсам вылічваюць.

У летніку, кожным яго куточку, вельмі чыста, вельмі ахайна. На тэрыторыі цэнтра ёсць... Велізарны спіс усяго! Бо «Зубронак» — гэта 41 — так, 41!!! — будынак у водарным сасновым лесе. Крама, карчма, кафэ, хутар, стадыён... Заапарк — з дзіцячымі агародамі. У «Зубронку» ёсць дзве выдатныя спартыўныя залы з новенькім каштоўным пакрыццём як на Алімпійскіх гульнях. Басейн, саўна, кінаканцэртная зала, актавая зала, відэасалон, більярдная, камп’ютарны клуб, баскетбольная і гандбольная пляцоўкі, тэнісны корт, а таксама пляцоўка для пляжнага валейбола.

Мінаем батут, на якім тры радасныя падлеткі.

— Але скакаць на ім — доўга не паскачаш. Бо ў нас тут цэлы дзень распісаны. Зранку, зразумела, зарадкай, а потым разнастайнымі гурткамі, хобі-цэнтрамі, клубамі, усемагчымымі мерапрыемствамі.

Карацей, «Зубронак» не для тых, хто прагне вольніцы. Тут — дысцыпліна. Але ж і цікава, столькі нечаканых заняткаў!

Напрыклад, у дзень майго гасцявання ладзіўся конкурс на будаванне вежы з шышак. У кожнага атрада яна атрымалася па-свойму непаўторнай! Пры жаданні тут можна навучыцца рабіць рамку з макаронаў альбо кошык з папяровых трубачак, бранзалет ці футарал са скуры, скрынку з паперы ў тэхніцы «квілінг» для захоўвання каштоўных рэчаў. А яшчэ ёсць мерапрыемства, што называец-





ца «Роўны вучыць роўнага»: дзелішся якім-небудзь сваім умельствам з раўналеткамі (іграць на гітары, вывучаць замежную мову, заплятаць прыгожыя косы, займацца графікай, вырабляць сувеніры і многае іншае).

Шаснаццацігадовая Воля Скалянкова з Мінска распавядае: «Я пяты раз прыехала сюды. Падабаецца! За ўсе гады ні разу не было такога атрада, каб мы не сябравалі. Кожны раз раз'язджаемся са слязьмі! І мерапрыемствы тут вельмі падабаюцца. "Міс і містэр Зубронак", скажам. А зараз у нас адбываецца фестываль культур. Кожны атрад разыгрывае нейкую краіну і прадстаўляе потым яе. Краіна нашага атрада — Куба».

А вось у адзінаццацігадовага Даніка Вішнеўскага з Магілёва такія ўражанні: «Я прыехаў сюды другі раз. Весела! Добрыя сябры! Добрыя забавы! Асабліва запомнілася Купалле, з вялікім вогнішчам. Яго і дзеці, і дарослыя падрыхтавалі. Папараць-кветку шукалі, але наш атрад не знайшоў. З сябрамі, якіх я спаткаў у "Зубронку", сустракаемся, калі яны з Магілёва. А калі з іншага горада, дык перапісваемся».

Размаўляючы з дзецьмі, адзначыла: сябры — самы вялікі скарб, які знаходзіш у "Зубронку". Некаторыя дамаўляюцца сустрэцца ў адной і той жа змене. А сувязь на працягу восені-зімы-вясны абавязкова падтрымліваецца.

## Найлепшы ва ўсёй Беларусі?..

Таццяна Аркадзьеўна паказвае мне школу, звонку ўпрыгожаную рэпрадукцыямі беларускіх мастакоў. Прыехаць жа ў «Зубронак» можна нават сярод года, наведваючы і тут урокі. Школа ў гэтай шчаслівай нарачанскай краіне працягвае функцыянаваць нават на вакацыях, ператвараючыся, аднак, у штось небанальнае. «Таямнічы пакой» — чытаю на адных дзвярах. «Чароўная школа Хогвардса» — чытаю на наступных дзвярах. Завітваем у гэты пакойчык: дзевяцігадовыя хлопчыкі і дзяўчынкі, з непадробным інтарэсам, назіраюць за эксперыментамі па фізіцы і хіміі.

А Нарач? Распавядаючы пра «Зубронак», нельга забыцца на Нарач: яна тут Самая Галоўная. Часам нават і гурткі адмяняюць, каб больш часу «зубраняты» на пляжы бавілі. Кацер, катамараны, гідрацыкл, «банан», лодкі...

— Было б несправядліва, каб самае вялікае возера Беларусі мы не скарыстоўвалі напоўніцу, — надзвычай слушна заўважыла Таццяна Аркадзьеўна.

У «Зубронку» я пазнаёмілася і з дарослымі. Яны, як і дзеці, таксама ўлюбёныя ў гэтую чароўную нарачанскую краіну. Ігар Чэб — цікавы важаты. Увесь у феньках... Гэта яго 21-е лета ў «Зубронку»! Ёсць тут і тыя, хто ні адзін год правёў у цэнтры маленькім «зубранём», падпарадкоўваючыся ўсім яго законам і традыцыям, а цяпер, паступіўшы ў педагагічную ўстанову, з задавальненнем выхоўвае новае пакаленне «зубранят».

— Ад важатага вельмі залежыць камфорт дзіцяці, — каментуе Таццяна Аркадзьеўна. — На 21 дзень ён становіцца і матуляй, і татам, і сябрам, і дарадцам, і арганізатарам усяго самага цікавага, што адбываецца ў атрадзе.

Таццяна Венска, кіраўнік харэаграфічнага ансамбля «Карусель», бесклапотна загарала на пляжы. Разам з групай дзяцей яна трапіла ў «Зубронак» за перамогу ў конкурсе.

— Добра тут! Пазнаёміліся з харэаграфічным ансамблем з Масквы «Школьныя гады». Увогуле, мы толькі што вярнуліся з фестывалю з Балгарыі. Але тут, напэўна, яшчэ больш, чым у Балгарыі, падабаецца.

«Зубронак» — элітны летнік! Кажуць, што арганізацыя мерапрыемстваў і чысціня тут проста непараўнальныя! Не пабаюся казачную нарачанскую краіну акрэсліць так: «самы лепшы ў Беларусі летнік!». Паразмаўляйце з дзецьмі: большасць з іх прыязджае сюды ўжо не першы, а пяты, сёмы раз.

У якасці падарунка сюды накіроўваюць асабліва паспяховых. Але ж за поўны кошт пуцёўку можа атрымаць кожны. Тут шмат падлеткаў з Масквы, Санкт-Пецярбурга. Ёсць дзеці з Казахстана, Латвіі, Украіны. А вось дзевяцігадовы Філіп нарадзіўся ў беларускіх эмігрантаў у Амерыцы. А ўлетку — Беларусь і «Зубронак».

З захапленнем у Доме дзіцячай творчасці я разглядала самаробныя падарункі падлеткаў летніка. Дзіцячая рука, але як прафесійна, як моцна зроблена! Калі ў «Зубронку» такія падарункі пакідаюць, дык значыць гэта зусім не перабольшанне, што адсюль са слязьмі ў вачах ад'язджаюць.

Па ўзнёслым сасновым лесе з Таццянай Аркадзьеўнай блукалі да позняга надвячорка. Уражанні, уражанні!.. Колькі ж іх сёння было! Яшчэ крыху — і я лопну, сённяшнімі ўражаннямі перапоўненая. «Зубронак» — гэта штосьці АГРОМНІСТАЕ!» — такая мая галоўная выснова напрыканцы дня.

## Міжнародны

Штогод у «Зубронку» ладзяцца фестывалі і конкурсы. Напрыклад, конкурс-фестываль дзіцячых сродкаў масавай інфармацыі «Свежы вецер». Конкурс «Юныя таленты Беларусі»: галіна «фальклорныя калектывы», паэзія, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, харэаграфія, вакал, харавое мастацтва, тэатральнае мастацтва.

Летнік сапраўды міжнародны. Напрыклад, тут ёсць кадэцкая змена Саюзнай дзяржавы: 240 рускіх кадэтаў плюс 240 беларускіх. Вяртаючыся ў Мінск у машыне дырэктара Надзеі Генадзьеўны, якая здзяйсняла камандзіроўку ў сталіцу, пачула па радыё навіну: сёлета «Зубронак» прымае 25 японскіх падлеткаў.

Такая вось шчаслівая краіна — і масквічамі, і іншымі замежнікамі ўпадабаная — ёсць на нашай Нарачы...

***Гаючым сасновым паветрам дыхала Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***

# У цябе ўсё атрымаецца!



Сёння табе не надта пашанцавала? Ранішняя кава пралілася на новыя джынсы, у аўтобусе аддавілі нагу, а потым лепшы сябар пайшоў гуляць без цябе? Або нешта іншае, яшчэ больш жахлівае і крыўднае? Напрыклад, ты не ведаеш, як да заўтра зрабіць рэферат на пятнаццаць старонак, як паступіць ва ўніверсітэт? Адчай падступае з усіх бакоў, і рукі апускаюцца долу…

Тут і з'яўляюцца такія жорсткія думкі: «Ды я ж наогул нешчаслівы! Нічога не атрымаецца, я нікому не патрэбны, што ж за жыццё такое? Вось у іншых!..» Было такое?

Непрыемнасці не лепшым чынам уплываюць на наш настрой. І вось напрыканцы такога цяжкага дня з'яўляецца жаданне зашыцца ў куточак і пацешыць сваю душу слязьмі. Здаецца, што потым стане лягчэй: з'явіцца ўпэўненнасць, жаданне працаваць, разуменне іншых. «Кідай дурное, браце вожык! — любіць казаць мая матуля, пры гэтым выцягваючы мяне, жыццём пакрыўджаную, з аблюбаванага закутка. — Гэта не справа!» — упэўнена паведамляе яна.

Чаго ты дасягнеш, аплакваючы свой гаротны лёс? Шкадавання! Але ці патрэбна яно моцным людзям? Ці патрэбна яно табе, маладой і перспектыўнай асобе? Не!

Дзейнічай! Пачынай з меншага, рабі хоць што-небудзь. Зруш сябе з мёртвай кропкі. Любіш памарыць? Таксама цудоўна, бо нашыя думкі матэрыяльныя. І гэта не пустыя словы. Калі ты сапраўды нечага хочаш, гэта будзе ў тваім жыцці. Няхай недасягальная на першы погляд вяршыня матывуе цябе. Цягніся да яе, імкніся ў думках і дзеяннях, і неба будзе на тваім баку. Бо што такое мара? Гэта мэта, сэнс жыцця. Пройдзе час, нешта зменіцца, нешта падзабудзецца, але галоўнае застанецца: звычка імкнуцца вышэй, далей.

Ты можаш болей, чым здаецца. Унутры — неабсяжны акіян і бяскрайняе неба. Так. Там цэлая нязведаная галактыка. Там моц. Не бойся марыць! Тады зоркі над тваім дахам пачуюць голас зорак, што ў тваёй душы. І працуй. Шукай сябе, прасі парады і дапамогі ў мудрэйшых. Глядзі наперад, глядзі вышэй. У цябе атрымаецца. Калі нечага моцна жадаеш і спрабуеш гэта атрымаць, то ідзеш, набліжаешся да мэты. А ў дарозе — не сумнявайся ў сабе, не збочвай!

І будзе гонар за самога сябе. Адчуванне палёту: атрымалася! Хіба адчуванне ўласнай перамогі не вартае таго, каб распачаць шлях?

***Анастасія ХУРСЕВІЧ,***
***Інстытут журналістыкі БДУ,***
***фота Кацярыны БЕЗМАЦЕРНЫХ***

# Шпацыр з філасофскім настроем






***Сёлета Маладзечна, мой родны, мой любімы горад, адзначае 625-годдзе.***

Вельмі люблю прайсціся па дарагіх сэрцу мясцінках маёй малой Радзімы: і цёплымі святочнымі днямі, і халоднымі зімовымі вечарамі, калі людзі так нагадваюць гаротных змерзлых вераб'ёў і хутчэй спяшаюцца ў цёплыя ўтульныя кватэры.

Звычайна моладзь нашага горада тусіць ля Цэнтральнай плошчы ды на мясцовым Брадвеі — вуліцы Прытыцкага. Тут размясціліся некалькі кафэ, піцэрыя, кінатэатр «Радзіма». Я ж, наадварот, упадабала тыя куточкі нашага горада, што захавалі сваю натуральную прыгажосць і свежасць, далей ад цэнтральных вуліц і праспектаў.

Адным з такіх прыемных месцаў я лічу невялікі пагорак, які можна ўбачыць, калі ісці ўздоўж вуліцы Машэрава амаль да самай чыгункі. Пагорак гэты мне чамусьці нагадвае ляніваe медзведзяня. Раней, калі вучылася ў мастацкай школе, сюды хадзіла маляваць. Вось тады і адзначыла для себя гэты куточак.





Яшчэ адным маім любімым месцам з’яўляецца маленечкі парк побач з тэатрам лялек «Батлейка». Кроны дрэў там настолькі густыя, што могуць схаваць ад дажджу, а ў гарачыя летнія дзянькі — ад невыноснай спякоты. Гэта яшчэ і памятнае месца. Таполі ахоўваюць спакой герояў Вялікай Айчыннай вайны, пахаванных у брацкай магіле.

Калі ісці ўніз па вуліцы Драздовіча, дык можна выйсці на Лібава-Роменскую, а па ёй рухацца далей на гук цягнікоў. Люблю нетаропка крочыць па няроўнай дарозе пад грукат колаў і разважаць. Прагулка адразу набывае філасофскі настрой. Напэўна, таму мяне і захапляе гэтая вуліца.

Наступны прыпынак — мост, які накрывае сваёй выгінастай спінай адразу некалькі вуліц. Нібы каменны рэгуліроўшчык, накіроўвае ён плыні машын па розных напрамках. Часам даволі цікава назіраць за ўсім гэтым рухам, абапёршыся на жалезныя парэнчы моста. А яшчэ тут можна любавацца яркімі фарбамі захаду.

Але ж вось... Сутонее... Хутка ў гарадскіх парках запаляць ліхтары, святло якіх будзе плямамі адлюстроўвацца ў вадаёмах. У парках заўсёды шмат людзей, але і зацішны куток можна знайсці. Зімой прыйдзеш — сядзеш на абледзянелую лавачку і глядзіш, як маці з сынам кормяць згаладалых птушак. А летам уладкуешся на гэтую ж самую лаўку, пакладзеш кнігу на калені і атрымліваеш асалоду ўжо толькі ад таго, што вакол цябе моўчкі стаяць дрэвы, пакрытыя свежым зялёным лісцем, а паветра прапітанае атмасферай летняга спакою і радасці. А потым, у філасофскім настроі, разважаючы, не заўважыш, як да свайго пад’езда дайшоў. Азірнешся: пачынаецца дожджык, вакол ліхтары-агні гараць, людзі спяшаюцца дадому.

Роднае, роднае Маладзечна!

*Аліна ЛІТВІНЕНКА, 16 гадоў,*
*школа журналістыкі «Маладзік», г. Маладзечна*
*фота Наталлі Скарынка*

# Мой улюбёны Дзядзя Сцёпа



З дзяцінства мне казалі, што я маю вялікі рост. Наколькі ўсе памыляліся я зразумела, калі аднойчы ў чаканні зялёнага сігналу святлафора пабычыла ля сябе Дзядзю Сцёпу XIX стагоддзя. Вышэйшы за мяне амаль што на тры галавы! З вялікімі ад здзіўлення вачыма я ішла па вуліцы, назіраючы, як ён, не спяшаючыся, крочыць. Пазней у той самы дзень я даведалася пра станоўчыя вынікі абавязковай кантрольнай. Радасці не было канца. Дзень прайшоў на пазітыве.

...Букет рамонкаў. Проста так! Ад незнаёмца Дзядзі Сцёпы. Прыемна. Настрой быў паганы, але ўмомант узняўся!

...Раніца. Пешаходны пераход. Чаканне. Ад неспадзявання я ледзь утрымалася на нагах. Двухметровы юнак зноў побач. Нават усміхнуўся, калі я са здзіўленнем на яго паглядзела. У той дзень на занятках я толькі тым і займалася, што думала пра Дзядзю Сцёпу.

...Выходны дзень. Спяшаюся ў бібліятэку. Думкі паглынулі цалкам, нікога не заўважаю побач. Перад маім тварам дзверы адчыняюцца, я нават не паспела працягнуць руку сама. Праз некалькі хвілін да мяне даходзіць тое, што адбылося: дзверы мне па-джэнтльменцку адчыніў ужо знаёмы незнаёмец... Дзядзя Сцёпа!

...Панядзелак. Пешаходны пераход. Не ведаю чаму, але юнака я сёння не ўбачыла, хаця і чакала. Пасля заняткаў даведалася, што мая бабуля захварэла. Сэрца — у пятккі. Настрой зусім сапсаваўся. Вечарам было цяжка заснуць, як ні старалася.

...Раніца аўторка. Без усмешкі. Няма і майго незнаёмца. Перажываю, як ні дзіўна. Ды раптам... Водар кветак! І зноў, проста як з-пад зямлі, вырас юнак. Мне стала спакайней на душы. Працягвае букет:

— Усміхніся! Гэта табе да твару!

Ніколі раней мне не прыходзілася сустракаць хлопцаў, якія мовяць па-беларуску. І гэта здзівіла не менш, чым букет рамонкаў — проста так, ад знаёмага незнаёмца, прыемна.

...Гэты хлопец мне прыносіць поспех. Калі пераходзім вуліцу разам, дык дзень будзе выдатным, калі не — штосьці пойдзе не так. Ён стаў часткай майго жыцця. Штодзень, чакаючы зялёнага святла на пераходзе, я ў думках варажу на рамонках: «Прыйдзе-не прыйдзе? Прыйдзе-прыйдзе?..»

*Кацярына ЛЯСУН*



# Яго трагедыя



— А ці ведаеш, Волечка, якая мая ўлюблёная кніга?

— Дакладна не, але здагадваюся... Нешта з амерыканскай прозы.

— Так, — Дзяніс пацалаваў руку каханай.

— І якая ж?

— «Амерыканская трагедыя» Тэадора Драйзера.

— Цікава!

Волечка, дзяўчына з блакітнымі вачыма, прывабіла хлопца гадоў 5 таму. І з таго часу яны разам. Шчырасць у адносінах, цеплыня сустрэч — усё даволі сур'ёзна. Яна — мастак, ён — індывідуальны прадпрымальнік. Вольга стварае ўтульнасць, Дзяніс — фінансава забяспечвае. Усё як і трэба. Сябры здзіўляюцца, чаму да гэтага часу яны яшчэ не пашлюбіліся. Але ж павінна быць якая-небудзь прычына для шлюбу! А можа, у іх каханні шлюб увогуле не галоўнае. Ці адзін з іх яшчэ не гатовы да такага сур'ёзнага кроку. Альбо той самы час не прыйшоў.

Сустрэча ў рэстаране: свечкі, сервіроўка, келіх віна і шклянка мінералкі. Нейкія салаты. Дзяніс сёння, менавіта сёння, вырашыў распавесці ўсё. Ды і Волечцы таксама трэба нешта сказаць.

— Хачу сказаць нешта істотнае... — пасля доўгага маўчання вымавіў Дзяніс.

— І я таксама! — вымавіла Волечка. — Давай ты першы!

— Я... здрадзіў табе!..

Злосць і крыўда пачалі раздзіраць дзяўчыну на кавалачкі. Мужчыны — такія: калі ідэальна і без прыгод, тады ім сумна. Новыя ўражанні патрэбныя!..

Яна не змагла выслухаць да канца. Падарваўшыся з крэсла, Вольга выбегла з рэстарана. Не заўважаючы нічога вакол, ляцела. Падалей ад яго, здрадніка!

На яго вачах яе збіў аўтамабіль...

Спалоханы кіроўца. Людзі. Калі прыехала «Хуткая», было ўжо позна. Удар быў моцны. Насмерць.

Пасля Дзяніс даведаўся, што хацела Волечка яму паведаміць... Разам з ёй загінула і дзіця, якому не лёс быў нарадзіцца... У такія моманты разумееш, што ніякія грошы не вернуць назад час. І навошта ён ёй гэта паведаміў? Ніхто не заменіць каханага чалавека!

Кватэра. Дзверы. Ключы. Тэлефон аб сцяну. Вільготныя вочы.

...Без Волечкі...

*Кацярына ЛЯСУН*

# Шчаслівая пятніца

Раніца гэтай пятніцы была халоднай і дажджлівай. У перадсвітальных прыцемках, каля шасці раніцы, маладая жанчына спяшалася на працу.

Яе звалі Таня. Зусім хутка ёй споўніцца трыццаць пяць гадоў. З дзяцінства яна прывыкла выконваць усё ў прызначаны час, была таленавітай і дысцыплінаванай. Школу скончыла з залатым медалём, ва ўніверсітэце, адным з вядучых у краіне, на эканамічным факультэце была лепшай у сваім выпуску. Уладкавалася на працу ў адзін са сталічных банкаў на пасаду старэйшага бухгалтара і працуе там дагэтуль. Жыве адна. Таня не знайшла чалавека, з якім ёй хацелася б праводзіць увесь вольны час і, вяртаючыся дадому штовечар, бачыць яго твар. Аднапакаёвую кватэру непадалёк ад цэнтра прыдбала за свае грошы, без дапамогі родных. Але ж Таня — самотная! І аблягчае яе адзіноту хіба што Шакаладнік — тоўсты і дагледжаны персідскі кацяра. Вечарамі чытае ўлюбёныя раманы, а па выходных выбіраецца ў госці да сяброўак, купляючы прысмакі іх дзецям.

Гэтая пятніца для яе была асаблівай. Сёння яна нарэшце здасць квартальную справаздачу за гэты месяц, магчыма, атрымае прэмію, а ўвечары яе чакае сустрэча з былым аднакурснікам, які, як высветлілася, учора прыляцеў з Галандыі і чамусьці ўзгадаў менавіта яе. Патэлефанаваў і прапанаваў сустрэцца. Таму настрой у Таццяны быў выдатным. Бадзёра перакрочваючы лужыны, яна рухалася да аўтобуснага прыпынку. Машыну яна купляць баялася, бо пастаянныя зводкі навін пра страшныя ДТЗ для яе былі падказкай: ніякіх аўтамабіляў.

Пад'ехаў аўтобус, які ішоў да самай працы. Таня ціха ўсміхнулася: гэты дзень проста абавязаны быць удалым. Не гледзячы на тое, што людзей на прыпынку была шмат і практычна ўсе паспрабавалі залезці ў аўтобус, Таццяне пашанцавала прабрацца ў салон адной з першых і заняць адзіночнае месца насупраць выхаду, каля акенца. Паставіўшы мокры парасон-кіёк каля сядзення, яна пачала глядзець у акно на аўтамабілі, якія праязджалі міма. Праз некалькі прыпынкаў у салоне аўтобуса стала прасторней, але ўсе месцы паранейшаму заставаліся занятымі. Дождж мацнеў, буйныя кроплі з грукатам білі па шкле. Таня драмала.

На прыпынку «Уманская» стаялі досыць доўга, і халодны вецер, падзьмуўшы з дзвярэй, прымусіў Таню канчаткова прачнуцца і зірнуць у бок выхаду. У аўтобус спрабаваў залезці мужчына гадоў сарака пяці—пяцідзесяці. Ён абапіраўся на мыліцы, ростам быў не больш за паўтара метра, сівыя валасы былі ўскудлачаныя, а апрануты ён быў у старую і не надта ахайную куртку. Узлезшы на першую прыступку, ён пахіснуўся і не утрымаў раўнавагу, пачаў падаць уніз. Але хтосьці з маладых людзей, якія стаялі на вуліцы, падхапіў





яго і дапамог забрацца ў транспарт. Дзверы нарэшце зачыніліся, аўтобус рушыў з месца.

Таня імгненна падхапіла свае рэчы і ўстала:

— Сядайце, калі ласка, — усміхнулася яна, звяртаючыся да мужчыны.

Той з пагардай у голасе адказаў:

— Ды сядзі ты, я ў сваім жыцці насядзеўся ўжо, — у яго голасе адчувалася злосць.

— Ды не, нічога! Сядайце, мне зусім хутка выходзіць, — схітрыла Таня.

— Не буду я садзіцца! Дзе твая павага? Я не мужчына ці як? Што табе не зразумела? — прагыркаў незнаёмец. — І хто вас такіх выхоўвае! Цуд! З глузду з'ехалі ўсе, адныя дурніцы навокал!

Тані раптам стала вельмі няёмка. Людзі навокал проста моўчкі назіралі гэтую сцэну, і яна адчувала на сабе іх зацікаўленыя погляды, пры гэтым у салоне павісла мёртвая цішыня.

Таццяна працягвала стаяць. Выходзіць ёй было яшчэ не хутка, у транспарце па-ранейшаму людна. Яна стаяла побач з крыўдзіцелем. Ніхто вольнага месца не займаў. Але на адным з прыпынкаў зайшоў малады хлопец гадоў дваццаці пяці. Убачыўшы вольнае месца, ён, не задумваючыся, усеўся. Малады чалавек пачаў даставаць з кішэні плэер з навушнікамі, але раптам за плячо яго схапіў ганарысты мужык:

— Ты, шчанюк паскудны, не табе месца саступалі, вунь тая жанчына ўстала і стаіць цяпер, — трасучы за плячо маладога чалавека, лютаваў мужчына.

— Сядайце, сядайце! — ціха сказаў хлопец, хутка саскочыўшы з месца і адышоўшы ад яго падалей.

— Ды не патрэбна мне ваша месца, дурні! — зароў мужык.

Праз хвіліну аўтобус пад'ехаў да банка, у якім працавала Таня. Яна як мага хутчэй выскачыла з аўтобуса і, не раскрываючы парасон, накіравалася на працу.

Здавалася, што яе аблілі чымсьці агідным і брыдкім. Жанчына заўсёды лічыла сябе чалавекам культурным і ветлівым. І не думала ніколі, што хтосьці мог бы так адрэагаваць на яе простую ветлівасць. Яна ішла і думала, ці правільна зрабіла, што саступіла месца, а потым стаяла…

Дзіўна, але праз гэтую быццам бы драбязу настрой Тані быў сапсаваны на ўвесь дзень. Працаваць не хацелася. Здаўшы справаздачу, яна стала чакаць завяршэння дня. Калі ёй патэлефанаваў былы аднакурснік, яна, спаслаўшыся на неадкладныя справы, адмовілася ад сустрэчы. А шостай вечара выйшла з банка і накіравалася да прыпынку. Але дадому паехала не на аўтобусе — на маршрутцы. І калі апынулася ў сваёй кватэры, узяла на рукі Шакаладніка, накрылася пледам і, цяжка ўздыхнуўшы, заснула. З неадступным пытаннем: ці магчыма жыць адначасова правільна і шчасліва?

*Паліна БУЧЭЛЬ*

# Акіян




Мы прызвычаіліся да таго, што рок — гэта нешта англамоўнае, з Захаду, нешта не зусім зразумелае і не зусім роднае для нашых вушэй. Але існуе яшчэ і славянскі рок. Безумоўна, ён вельмі адрозніваецца ад класічных Led Zeppelin ці Deep Purple. І, тым не менш, ён мае поўнае права займаць сваё пачэснае месца на арэне сапраўднай сур'ёзнай музыкі.

Канчаткова я пераканалася ў гэтым, калі сябар з Кіева паказаў мне відэакліп на новы спеў «Обійми» ўкраінскага гурта «Океан Ельзи». Першае, што я адчула, гэта пераварот недзе ўсярэдзіне. Пачуцці былі незвычайныя. Настойліва раю ўсім паглядзець гэты кліп. Нягледзячы на тое, што спеў гучаў на ўкраінскай мове, мне ўсё было зразумела да апошняга слова: іх мова падобная да нашай. Пасля прагляду я яшчэ доўга асэнсоўвала пачутае і ўбачанае... А ўбачыла-пачула я нішто іншае, як часцінку сапраўднага ўкраінскага высокага мастацтва!

Потым я пачала слухаць гэты гурт усё больш і больш... І тады зразумела, што палю-



біла яго. Кранальная музыка, змястоўныя тэксты, надзвычай запамінальны вакал саліста Вячаслава Вакарчука прымусілі мяне змяніць погляд на жыццё. Я не перабольшваю! Як быццам бы доўгі час ты насіў цёмныя акуляры, каб не даць сонцу асляпіць цябе. Але ж я зняла акуляры пад уздзеяннем гэтай таленавітай музыкі — і не аслепла, а наадварот, стала бачыць лепш!




Гурт «Океан Ельзи» вылучаецца сярод іншых сучасных выканаўцаў. Ён мае сваю яскравую індывідуальнасць! Менавіта таму гурт і пакінуў велізарны адбітак як на маёй творчасці, так і на маім жыцці. Пачаўшы цікавіцца ім, адчула, што маю цягу да ўкраінскай мовы гэтак жа, як і да роднай беларускай. Гэта і падштурхнула мяне заняцца яе вывучэннем, паспрабаваць напісаць на ёй свой першы «аповід».

Шматлікія гурты сёння ўжо не ствараюць такіх хітоў, як рабілі гэта некалькі гадоў таму. Але «ОЕ» як ствараў калісьці хіты, так і працягвае ствараць. Дарэчы, не так даўно ў Лондане вялася дапрацоўка іх новага альбома пад назвай «Земля». Асобна ўжо былі выпушчаны два сінглы («Обійми» і «Стріляй»), таксама адбыліся прэм’еры іх відэакліпаў. Зараз новыя (і старыя таксама!) спевы «Океана Ельзи» з’яўляюцца сапраўднымі хітамі на музычных тэлеканалах. Сам жа альбом «Земля» выйшаў у продаж 15 мая. Варта адзначыць і тое, што новы альбом стаў сапраўдным падарункам на дзень нараджэння вакаліста Вячаслава Вакарчука, які 14 мая адзначыў сваё 38-годдзе. На днях у сеціве я заўважыла фотаздымкі вуліц Нью-Ёрка, па якіх былі развешаныя ўлёткі з выявай Вакарчука, яго датай «народження» і подпісамі: «І нехай знає весь світ!» і «Твій голос знайде мене завжди». Такое віншаванне падаравалі свайму куміру ўкраінскія жыхары мегаполіса.

У падтрымку свайго новага альбома гурт праводзіць турнэ спачатку па Украіне, а потым — па странах СНД і гарадах Паўночнай Амерыкі.

Для мяне «Океан Ельзи» і талент Вячаслава Вакарчука сталі сапраўдным адкрыццём! Зараз цяжка ўявіць сябе, сваю душу і жыццё без іх лірычных спеваў. Мая самая запаветная мара — патрапіць на іх жывое выступленне. Не ведаю, што зможа зрабіць мяне больш шчаслівай...

*Наталля ЛЕНСКАЯ, 16 гадоў,*
*школа журналістыкі «Маладзік», г. Маладзечна*

# Прыгоды над Волгай

***Выправіцца аўтастопам на музычны фестываль — выдатнае ўпрыгожванне для чарговага лета. Таму і вырашыла «Бярозка»: замест таго, каб сядзець у душнай рэдакцыі, лепш ужо з'ездзіць куды-небудзь ды распавесці пра гэта шаноўнаму чытачу. Напрыклад, павандраваць на пяты фестываль «Рок над Волгай» у Самарскай вобласці, што адбыўся сёлета ў чэрвені ў пяты раз.***

## Нашы незабывальныя кіроўцы

Ад Мінска да Самарскай вобласці — цэлых 1800 кіламетраў. Дарога наша на фестываль, аўтастопам, працягвалася два з паловай дні. Аўтастоп — гэта заўжды змястоўна. Гутаркі на самыя нечаканыя тэмы, спазнанне ўсё новых чалавекаў-сусветаў. Ты — выпадковы спадарожнік у чужой машыне — раптоўна з'явіўся ў жыцці кіроўцы і гэтак жа раптоўна знікнеш з яго назаўсёды, таму раскрыцца, зладзіць шчыры дыялог, падарожнічаючы стопам, — зусім няцяжка. Цэлы дзень у фуры з дальнабойшчыкам Дзмітрыем. Дзёрзкі, упэўнены ў сабе дзядзька, умее атрымліць асалоду ад жыцця. Аднак ежа і бясконцыя сексуальныя прыгоды — вось увесь сусвет гэтай асобы! Яшчэ адзін кіроўца, маскоўскі настаўнік Аляксандр, не такі, ён сапраўдны інтэлігент, любіць цішыню свайго лецішча і чытаць там кніжкі па гісторыі. Аляксандр выкладае геаграфію ў прыватнай маскоўскай школе, навучанне ў якой каштуе... 2000 долараў за месяц!

— Пашанцавала вам, — кажу, — у такой школе працаваць!

— Ну, як сказаць... Затое і выкладаць нам трэба сур'ёзна.

Чатырнаццаць чалавек у класе, падыход да кожнага, індывідуальны.

— А дзеці? Якія яны — з такіх забяспечаных сем'яў?

— Амбіцыйныя вельмі. Мы ўсё ж больш сціплымі былі... Кожны імкнецца быць індывідуальнасцю са сваім уласным меркаваннем. Тую смеласць, якую яны сабе дазваляюць, наўрад ці можа праявіць вучань у звычайнай школе. Апранаюцца так, каб вопратка абавязкова ад славутага брэнда. І гэты славуты брэнд — больш істотны, чым неспалучэнне колераў, напрыклад, альбо тое, што кофтачка да нагавіц не падыходзіць. І я таксама вымушаны добра апранацца, абноўкі мець рэгулярна, інакш заўважна горш будуць да мяне ставіцца.

— А якія прафесіі сярод гэтых загадкавых дзетак папулярныя?

— Вельмі стандартныя: юрысты, эканамісты розныя, банкаўская справа. Вельмі прывязаныя да статусу сям'і! Хлопчык, які любіць корпацца ў машынах, ніколі не дазволіць сабе гэтым займацца прафесійна...



Яшчэ нам запомніўся грузін армянскага паходжання. Грузіны і армяне — шляхетная, дарагая ўсходняя кроў! Працаваў гэты дзядзька-грузін у Расіі, але ж дзяцей сюды перавозіць не збіраўся: «У Грузіі больш спакойна! У нас там да дзяцей, згодна з апошнім заканадаўствам, трэба вельмі ўважліва ставіцца. А ў Расіі — наркотыкі ўжо ў школах, беспарадак...»

Былі і яшчэ незабывальныя кіроўцы: вельмі артадаксальны барадаты святар з цэлым фургонам свечак, і яшчэ адзін вельмі артадаксальны суб'ект — саентолаг, а потым сталая аматарка рок-музыкі і легендарнага Грушанскага фестывалю.

Падарожжа аўтастопам — бясконцая галерэя чалавечых сусветаў, гутаркі, гутаркі, гутаркі... Хтосьці жыве на Зямлі, каб вучыцца плесці капы з ветру, ну, а хтосьці нарадзіўся, каб спажываць, за асалодай ганяцца.

## Канстанцін Кінчаў — навальніца!

Удзельнікі сёлетняга «Рока над Волгай» — гэта «Би-2», «Пикник», «Чиж и Со», «Аквариум»... Пяты фестываль сабраў 692 тысячы чалавек! У той час як у мінулым годзе фестывальны натоўп складаў 307 тысяч. Доўгая чарга машын, сапраўднае мора народу. Бліжэй да сцэны шчыльнасць такая, што паміж людзьмі яблыку, можа, і ёсць дзе ўпасці, але ж не больш, чым яблыку. Сцэна вышынёю ў дзевяціпавярховы дом! Даўжынёю — 60 метраў. Уся магчымая рокерская і панкаўская моладзь — вось хто збольшага наведвае фестываль.

Гурт «Алиса» стаў адным з хэдлайнераў. Легендарны рускі рок-гурт не састарыўся: якая магутная энергія, якая харызма! Назіраеш за пяцідзесяцічатырохгадовым Канстанцінам Кінчавым: ён — маг! Чараўнік! Рок-музыканта так шмат, ён як магутная божая навальніца! Трымаць велізарны натоўп сваім талентам, заварожваць яго — гэта настолькі моцна і незвычайна, што проста ў галаве не ўкладваецца. Такая яна, якасная рок-музыка ўжывую.

«Rammstein» на чале з вакалістам Цілем Ліндэманам у ружовым футры завяршалі фестываль ужо ў цемры. Музыканты са сваёй «мармуровай» выразнасцю нямецкай мовы таксама невытлумачальная плынь, неабдымнасць. Нават калі ты не аматар цяжкой музыкі, «Rammstein» ужывую ўсё адно цябе ўразяць, захопяць. «Сусветны ўзровень», — непазбежна зробіш выснову. Найшаноўныя еўрапейскія госці адыгралі паўнацэны канцэртны сэт, які ўваходзіць у іх падарожнае турнэ WirHaltenDasTempo — «Мы трымаем тэмп».

У розныя гады на фестывалі «Рок над Волгай» выступалі «Ленинград», «Океан Ельзи», «Король и Шут», Андрэй Макарэвіч, Пётр Мамонаў, «Алиса», «Сплин», «Агата Кристи», «ЧайФ», «Ночные снайперы». А таксама замежныя госці: Limp Bizkit і Garbage!

Насамрэч магутны рок-фестываль! Які пакідае пасля сябе агромністыя горы смецця...



## Беларусь фестывальная

«Бярозка» склала спіс некаторых найбольш заўважных музычных фестываляў Беларусі, Расіі і Украіны, якія адбываліся сёлета і, спадзяёмся, працягнуць сваё існаванне. Не наведалі ў гэтым годзе? Запісвайце ў нататнічак і на наступнае лецейка плануйце!

«Пікнік.by», фестываль ладзіцца напрыканцы чэрвеня — у пачатку ліпеня. Арганізатары — клуб «Графіці» і агенцтва IBAD. Гэтае музычнае свята нарадзілася не так даўно: першы «Пікнік.by» адбыўся ў 2009 годзе. Імя фестывалю зрабілі такія беларускія гурты, як «Рэха», «Нагуаль», «Гаротніца», «Разбітае Сэрца Пацана», «Дай Дарогу», «ТТ-34», спявачка Паліна Рэспубліка і шмат хто яшчэ. Уваход — платны: гэтым летам складаў 180-200 тысяч рублёў. Сайт: picnic.by

«Вольнае паветра», ліпень альбо жнівень. Іграецца-адбываецца з 2006 года. Фестываль мае статус «міжнародны», бо за гэтыя гады тут паспелі выступіць не толькі такія беларускія гурты, як «Яр», «Троіца», AppleTea, «ДетиДетей», але і замежныя госці — немцы DiGrineKuzine, сербы Shazalakazoo. У 2007 годзе фестываль наведаў славуты рускі журналіст і музычны крытык Арцемій Троіцкі. «Вольнае паветра» спецыялізуецца на напрамку «worldmusic». Паўстаў фэст дзякуючы бровару «Сябар» і яго кіраўніку Сяргею Левіну. Непасрэдна арганізацыяй мерапрыемства займаюцца прадзюсары Аляксандар Багданаў і Яўген Калмыкаў. Уваход на фестываль платны.

«Басовішча» — самы алдовы ў Беларусі і самы легендарны рок-фестываль! Праводзіцца ў другой палове ліпеня Беларускім аб’яднаннем студэнтаў у Польшчы. «Фестываль Музыкі Маладой Беларусі» — вось як акрэсліваецца мерапрыемства. Адбываецца ажно з 1990 года. Праўда, на тэрыторыі Польшчы — на Беласточчыне, што зусім ля нашай Беларусі. Спіс выканаўцаў за ўсе гады — проста гісторыя беларускага року: «Уліс», «Мроя», «Новае неба», Zet, «Ляпіс Трубяцкой», Deviation, Gurzuf, Kriwi, палякі PidzamaPorno і шматлікія, шматлікія іншыя. Фестываль некамерцыйны, уваход вольны.

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

# Шукаючы — знойдзеш!*

***Аповесць***

За дзвярамі зазваніў званочак, і дзеці пачулі вясёлы голас Піцірыма Уладзіслававіча:

— Перапынак! Перапынак! Усім апранацца і крочыць на сняданак! Перапынак!

Косця пайшоў апранацца, а яго аднакласнікі нешта імкліва дапісвалі ў сшытках. Затым устаў з-за стала Антоній Костка, потым Хіхштэйн, а затым і дзед Сяргей. Косцік выйшаў з класа ўслед за ўсімі на вуліцу. Ён быў тут усяго раз і не паспеў разгледзець падрабязнасцей. Справа ў тым, што школа ў яго часе была сучасная — са сталоўкай і спартыўнай залай унутры. Дзе ж размяшчалася сталоўка тут, пакуль было невядома.

Неўзабаве ўсё стала зразумела. Вучні хутка выходзілі з будынка і, шумна размаўляючы, накіроўваліся за яго. Школа была васьмігадовая, так што класаў налічвалася столькі ж — прыкладна па трынаццаць—пятнаццаць вучняў у кожным.

За школай знаходзіўся такі ж аднапавярховы драўляны будынак, толькі з двума ўваходамі. Вучні ўпэўнена накіроўваліся ў далёкія дзверы. На ганку стаяў дырэктар і з усмешкай званіў у званочак.

— Хутчэй-хутчэй, а то ўсё ваўкі з'ядуць!

Вучні, асабліва са старэйшых класаў, калі праходзілі міма, усміхаліся дырэктару, а як толькі хаваліся з вачэй — смешна крывілі твары.

Перад залай сталоўкі быў вялікі калідор з вешалкамі. Вучні свабодна вешалі паліто і праходзілі далей. Абедзенная зала аказалася вельмі вялікім пакоем з расстаўленымі сталамі і лаўкамі. Кожны клас упэўнена накіроўваўся да свайго месца. Вось тут Косцю чакалі цяжкасці. Яго аднакласнікі спазняліся.

Нечакана з-за спіны пачуўся знаёмы голас:

— Шосты клас есць за тым крайнім сталом. Колькасць порцый заўсёды заказвае дырэктар, так што пачынай спакойна.

Косцік павярнуўся. За ім стаяў Андрэй Праўдаў. Ён скончыў школу два гады таму і цяпер дапамагаў у сталоўцы, дзе працавала яго маці.

— Дзякуй, — толькі і паспеў сказаць хлопчык, як збоку пачулася:

— Наш разумнік усюды першы! Усё рашыў і прыйшоў падсілкавацца!

Грышын голас, які не выгаворваў «р», можна было пазнаць і не паварочваючыся. Але Косця ўсё-ткі павярнуўся, памаўчаў, а потым сказаў:

---

* Працяг. Пачатак у № 2, 3, 4, 5, 6, 7 за 2013 г.

— А ты, я бачу, усё робіш апошнім, толькі есці прыходзіш хутчэй за ўсіх. Вядома, з такім ростам і плячамі есці хочацца. Дарэчы, колькі табе гадоў?

Адказу не пачуў, толькі той самы кулак, які так не спадабаўся Косцю, ужо ляцеў яму ў лоб і нішто, здавалася, не магло яго спыніць. Акрамя голасу дырэктара, канешне.

— А ну-ка, руку апусці ўздоўж цела. Ты ведаеш, Рыгор, я боек у сябе ў школе не пацярплю.

Страшны кулак бязвольна апусціўся, нібы з яго выпала костка. А Косці было прыкра, што за яго ўступіўся цукровагалосы Піцірым Уладзіслававіч. Лепш бы ён атрымаў у вока, чым абарона ад дырэктара.

У сталоўцы стаяла незвычайная цішыня. Дзеці пачалі ўжо есці, але спыніліся і моўчкі назіралі карціну: каля ўвахода стаіць здаравяк і злосна глядзіць на невялікага хлопца, а побач дырэктар і ўсім вядомы разумнік і спявак Андрэй Правадаў.

Косця вельмі ціха, не гледзячы на дырэктара, сказаў «дзякуй» і пайшоў да стала, на які за хвіліну да гэтага паказваў Андрэй Правадаў.

Пасля заняткаў у школе Косцік адправіўся дадому. Па дарозе яго дагнаў Сяргей.

— Ты так добра рашаеш матэматыку. У нас ніхто гэтак не можа.

Маўчаць было няветліва, але Косця не ведаў, што адказаць, таму проста паціснуў плячамі.

— Выбачай, калі я табе штосьці дрэннае сказаў, мне проста падалося, што ты на Машу глядзеў.

«І правільна падалося», — падумаў Косця.

Толькі цяпер яму было не да каханай Сяргея. З галавы не выходзілі прыгожыя вочы Алены Правадавай. На ўсіх уроках яна паварочвалася і ўпотай пазірала на Кастуся. Калі ж сядзела спінай, то ён улюбёна разглядаў яе валасы.

— Нічога, я бачыў, што ты не са зла, — адказаў Косцік і ўсміхнуўся.

Усю дарогу яны ажыўлена абмяркоўвалі настаўнікаў і дырэктара. Сяргей распавядаў, адкуль яго бацькі і бабуля з дзядулем, а Косця слухаў, і ўсё тое, што адбываецца, перастала здавацца яму нерэальнасцю і чараўніцтвам. У яго з’явіўся блізкі сябар. Каб жа ў яго быў такі ў дзевяностых, ён абавязкова параіўся б з ім, ці лезці ў той дуб альбо не. Ён праводзіў Сяргея дадому, а сам накіраваўся па дарожцы да касцёла. Вельмі ўжо хацелася падзяліцца ўражаннямі з ксяндзом Паўлам. Косцік згадаў, што пакуль дзед быў жывы, то заўсёды любіў, каб унук сядзеў каля ягонага ложка. Распавядаў дзядуля пра вайну і пра партызан, гладзіў па галаве. Часам расказваў пра бабулю — якой яна была. І заўсёды казаў, што ніколі не адмаўляўся ад веры ў Бога, што яна яму заўсёды дапамагала. І памёр ён добра, калі так можна сказаць пра смерць. Перахрысціўся дрыжачай рукой, заплюшчыў вочы і больш не адкрываў. Як добра, што цяпер Косцік пазнаёміўся са сваім дзедам аднагодкам...

Касцёл быў зачынены, і Косцік вырашыў, што ксёндз дома. Ён пайшоў па дарожцы да дому, але потым, не заходзячы ў яго, вырашыў паглядзець на дуб. Ішоў ён з заміраннем сэрца. З аднаго боку хацелася, каб дуб рос на месцы, з другога — у яго тут з’явіліся два сябры, якіх ён назаўсёды страціць, як толькі

пройдзе скрозь адтуліну. А з трэцяга боку — там бацькі. І ўсіх шкада, і ўсіх хочацца любіць. І сябе шкада, таму што кімсьці ўсё роўна давядзецца ахвяраваць, а хочацца ж, каб і бацькі, і сябры знаходзіліся побач.

Дуба на месцы не аказалася. І Косцік нечакана для сябе з палёгкай уздыхнуў.

У доме ксяндза Паўла Косцік заўважыў, што нешта не так. Ці здарылася штосьці нядобрае? Заўсёды адчыненыя дзверы з кухні ў астатнія пакоі былі зачынены. За сталом, абапіраючыся на руку, драмала Косціна прабабуля. Калі хлопчык увайшоў, яна прачнулася, паглядзела на яго і сказала:

— Прыйшоў, унучак? А ў нас тут бяда. Зноў да ксяндза Паўла прыходзілі. Прымушаюць касцёл аддаць. Пагражаюць...

Косцік прысеў на лаўку, таму што ногі ў яго падкасіліся ад страху. Няўжо гэты страшны момант настане раней? Возьмуць і заб'юць яго, і нікога ўгаворваць не трэба... Косця прыслухаўся. З-за дзвярэй даносіліся галасы некалькіх мужчын.

Мінула некалькі доўгіх хвілін. Прабабуля зноў задрамала. Косця акуратна ўстаў, прыслухаўся. Усё яшчэ гавораць, але, здаецца, не крычаць, настойваюць. Толькі вось хто? Чакаць больш не было моцы. Косця ўзяў у рукі палатняны мяшэчак, з сілай, нібы ні пра што не ведае, штурхнуў дзверы. Калі яны расхінуліся, здзіўлена расшырыў вочы і прамовіў:

— Здрасце.

А сам тым часам разглядаў, што робіцца ў пакоі. За сталом сядзіць ксёндз Павел, твар, здаецца, спакойны. Спінай да дзвярэй — толькі зараз на хлопчыка азірнуліся — стаяць мужчыны ў чорных скураных плашчах, чорных штанах, зялёных кашулях і высокіх ботах. Жудасць нейкая. І твары такія злыя.

— Ідзі хлопчык, няма чаго тут табе рабіць, — выгукнуў адзін з мужчын. Косцік не зрушыўся з месца, паглядзеў на ксяндза і мацней сціснуў рукамі палатняны мяшэчак, гатовы ў любы момант ударыць каго-небудзь ім па галаве.

— Ідзі, Кастусь, паабедай пакуль, а мы тут вырашым свае пытанні.

Голас роўны, позірк спакойны, мяккі. Толькі твар белы. Можа быць, і праўда, няма пакуль ніякай вялікай небяспекі.

«Што ж, — вырашыў Косця, — павартую пад дзвярамі».

Выйшаў, зачыніў іх шчыльна, але сам прыклаў вуха, а раптам што-небудзь пачуе. І пачуў. Той жа голас, што загадаў Косцю выйсці, сказаў:

— Мы вас у апошні раз папярэджваем, вам тут рабіць няма чаго. Вашу царкву...

— Касцёл, — пачуў Косцік ціхі голас ксяндза.

— ...усё роўна забяруць. Лепш пакіньце яго нам самі.

— Не, — прамовіў ксёндз цвёрда. — Гэта Божы Дом, і я не дам вам яго апаганьваць, пакуль жыву на гэтым свеце.

— Мы вас папярэджвалі...

Ледзь-ледзь хлопчык паспеў адскочыць і сесці на лаўку, як дзверы расчыніліся і выйшлі мужчыны ў чорным. Ксёндз Павел не пайшоў іх праводзіць. Яны моўчкі прайшлі да выхада, і толькі апошні, той самы ўладальнік голасу,

павярнуўся і паглядзеў на Косціка. Доўга глядзеў. Але нічога не сказаў, выйшаў. Як толькі дзверы зачыніліся, прабабуля і Косцік зайшлі ў пакой. Ксёндз Павел так і сядзеў на тым жа месцы, перабіраючы ў руках ружанец, і глядзеў перад сабою. Такі ж бледны і маўклівы. Калі бабуля і хлопчык увайшлі, ён не адразу звярнуў на іх увагу. Толькі праз хвіліну зірнуў на хлопчыка, а потым і бабулю. Памаўчаў. Затым рэзка ўстаў і пайшоў да сябе ў пакой. Косцік пачуў, як у дзвярах пстрыкнуў замок.

## 4

Праз тыдзень Косціку ў школе стала вучыцца значна цікавей. Вядома, на яго па-ранейшаму нападалі то Грыша, то Валодзя Хіхштэйн, а то і Юзік Мельжыч. Але былі ў яго і сябры — дзед Сяргей ды Антоній Костка, Маша. Але самае прыемнае тое, што ў школе яго заўсёды чакала прыгажуня Алена.

І вось праз тыдзень Косцік ішоў са школы шчаслівым. Калі з раніцы яны вешалі вопратку на вешалкі, яна знарок стала побач з ім і дакранулася да яго сваёй рукой. Косціка як кіпенем апаліла. Ён пільна паглядзеў на Алену, але яна проста пайшла садзіцца. Косцік жа адчуваў, што не знарок яна вешала вопратку менавіта тады ж, калі і ён. І на другім уроку дачакаўся яшчэ аднаго сюрпрызу. У чарговы раз, разглядваючы Аленіну патыліцу, Косцік раптам убачыў, што дзяўчына падняла левую руку, а ў яе далоні люстэрка, у якім — накіраваны на яго погляд. Ён усміхнуўся ў адказ — рука апусцілася, люстэрка знікла.

Калі Косцік прыйшоў дадому, ксёндз Павел чакаў яго, седзячы за сталом у пакоі, як тады, калі прыходзілі тыя мужчыны. Прабабуля паспела шапнуць, што яны зноў наведваліся, і што ксёндз Павел хоча з ім пагаварыць.

Косцік зайшоў і зачыніў за сабой дзверы, хаця можна было і не хвалявацца — бабуля ўсё роўна не падслухоўвала.

— Сядзь, — прапанаваў ксёндз ціха, гледзячы ў падлогу.

Косцік прысеў. Радасную ўсмешку на твары змяніла здзіўленне.

— Яны зноў прыходзілі і прыгразілі, што калі я не аддам касцёл, пасадзяць у турму, абвінаваціўшы ў шпіянажы на карысць Польшчы. Як думаеш, што я ім сказаў?

— Не ведаю, напэўна, што не аддамо касцёл?

— Дакладна. — Ён, нарэшце, адарваў вочы ад падлогі і паглядзеў на Кастуся. Твар у святара быў белым, вусны шчыльна сціснутыя. — Я вырашыў, што вакол касцёла трэба выставіць ахову і пабудаваць плот.

— Каго? У сэнсе, хто пагодзіцца? — запытаў Косцік.

— Будзем начаваць у касцёле, па чарзе. І я таксама буду.

— Тады можна, калі вы пачнеце пільнаваць — і я з вамі, — папрасіў Косцік.

— Не, табе нельга, ты пойдзеш дадому.

Больш да гэтай гутаркі ніхто не вяртаўся. Ксёндз Павел практычна перастаў усміхацца, усё больш глядзеў у падлогу і думаў. А Косцік з таго дня кожны

 

раз, калі прыходзіў са школы, накіроўваўся да дуба і не знаходзіў там нічога. І зноў у ім змагалася некалькі пачуццяў, да якіх далучылася яшчэ і каханне.

Косцік ўсё хадзіў і хадзіў па полі, глядзеў на снег і разважаў. Кожны раз, калі ён заходзіць у клас, то шукае вачыма Алену. Калі яе няма — смуткуе і чакае. Калі дзяўчынка раптам спазняецца і прыходзіць пазней за ўсіх, ён адразу чырванее, не глядзіць на яе, змагаючыся з сабою. А вось учора, напрыклад, яна зноў вешала паліто разам з Косцікам, і зноў яе мяккая далонь слізганула па яго руцэ. І ён — о, жах — уздрыгнуў!

У пачатку снежня ксёндз Павел сапраўды дамовіўся з некалькімі моцнымі мужчынамі з Кавальчукоў. Яны па чарзе начавалі ў касцёле. Некалькі разоў за ноч рабілі абыход з ліхтаром і, што таіцца, са стрэльбай, пагрозліва цямнеючай за спінай. Але ніякай небяспекі пакуль не назіралася.

Праз месяц пасля цудоўнага з'яўлення Косціка у ранейшай вёсцы Кавальчукі, ён упершыню застаўся з Аленай сам-насам. Настаўніца пакінула іх прыбіраць клас, нібы адчуваючы, што патрэбны вырашальны паварот у іх адносінах. Алена старанна, аж пачырванела, падмятала падлогу, а Косцік вадзіў па дошцы мокрай анучай. Ён раз-пораз паўтараў ў галаве адну і тую ж фразу, нават варушыў вуснамі, але так і не наважыўся што-небудзь сказаць. Алена таксама маўчала, а час няўмольна ішоў. Вось ужо і падлога працёрта, і дошка чыстая. Можна ісці. Але яны ўсё знаходзяць прычыну застацца. І маўчаць. Нарэшце, Косцік зрабіў першы рашучы крок.

— Калі хочаш, я правяду цябе дадому, — прамовіў ён, гледзячы ў пад-логу.

— Хачу, — ледзь чутна адказала Лена.

Яны пачалі апранацца. Косцік узяў яе паліто, расхінуў і пачакаў, пакуль дзяўчынка прасуне рукі ў рукавы, а затым дапамог накінуць на плечы. Сам жа хутка апрануўся, закруціў шалік, і разам выйшлі з класа.

На вуліцы было вельмі холадна. Пасля цёплай школы ў твар пацягнула халодным ветрам, што ў дадзенай сітуацыі было дарэчы, таму што твары ў абаіх расчырваненеліся. Косцік ўзяў Аленін мяшэчак і цяпер нёс два. І хлопчык, і дзяўчынка па-ранейшаму маўчалі. Вось ужо і з вёскі выйшлі, і шашу перайшлі, і ўсё моўчкі. І часу зусім мала застаецца да дома, а яны не размаўляюць. Так і дайшлі моўчкі да брамкі. Толькі Алена мяшэчак не забрала, а пайшла ў дом. Косця імгненне вагаўся, а потым рушыў следам. Чакаючы, што ў пярэднім пакоі гарыць святло, ён зачыніў дзверы, і тут натыкнуўся на Алену. Было цёмна. З маленькіх акенцаў прабівалася шэрае святло, але не даходзіла да дзяцей, рассейвалася. Косцік стаяў, трымаючы ў адной руцэ свой мяшэчак, а ў другой Аленін, і не мог нічога прамовіць. І зрабіць таксама. Што ў такіх сітуацыях робяць у кіно? Здаецца, абдымаюць дзяўчынку? Але Алена ўсё зрабіла сама. Яна стала блізка-блізка, пацалавала знямелага Косцю ў вусны, затым выхапіла свае рэчы, штурхнула дзверы, і хлопчык апынуўся на вуліцы.

***Ганна СТАРЫКОВІЧ***

***Аповесць цалкам размешчана на сайце www.maladost.lim.by у рубрыцы «Поўная версія»***



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 36 000 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 15 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 45 600 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 11200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 12.08.2013. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,76. Тыраж 2322 экз. Заказ 2544. Кошт нумара ў розніцу 16 600 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**